# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**12**

**(697) СНЕЖАНЬ, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**

Намеснік галоўнага рэдактара

**Віктар Рыгоравіч КАВАЛЁЎ**





**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 21 880 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 12030 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 27 680 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 8470 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся Дробава*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.12.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 13,44.
Ул.-выд. арк. 11,69. Тыраж 2351 экз. Заказ 3462. Кошт нумара ў розніцу 11 000 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь; грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»; рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# Госці часопіса «Маладосць» — маладыя творцы з розных краін, удзельнікі Першай міжнароднай нарады маладых пісьменнікаў, якія дзеляцца сваімі развагамі пра літаратуру і літаратараў



***Галіна СКВАРЦОВА — крымская паэтка, якая сама сябе называе «паэтка, што спявае».***

«Музыку я пачала пісаць значна раней, чым вершы. Музычнасць радкоў, іх рытміка — гэта тое, без чаго я не бачу для сябе паэзіі. У мяне зараз рыхтуецца кніга, у якую я збіраюся ўключыць і свае малюнкі (я яшчэ і малюю ад няма чаго рабіць!), а наогул мяне вельмі цікавіць само прызначэнне паэта і яго сутнасць... Самае галоўнае для паэта — быць пачутым! Я, калі працавала ў бібліятэцы, бачыла тамы не тое што сучасных творцаў — класікаў, якія пакрываюцца пылам ад незапатрабаванасці. Гэта выклікае і здзіўленне, і нават раздражненне ад таго, што ты ірвеш сваю душу, а ў выніку — нуль — кніжка твая стаіць на паліцы... Каб мяне пачулі? Я спяваю — на набярэжнай у Ялце...»



***Алена ХАРУК — прадстаўніца пісьменніцкай дэлегацыі ад Беларусі.***

«Я прыехала сюды, каб параўнаць сваю творчасць з творчасцю іншых, знайсці сяброў і, канечне ж, прадставіць нашу літаратуру! Калі б гэты фестываль адбываўся ў Беларусі, то ўсё было крыху іначай, зразумела. Тут вельмі шмат гаворыцца пра ролю "вялікай рускай літаратуры". А я ўпэўнена, што ў нас таксама ёсць патэнцыял — і творцы з вопытам, і маладыя людзі, якія ствараюць новую беларускую літаратуру. Калі мы хочам, каб нашы творы перакладаліся на іншыя мовы, то трэба ўдзельнічаць у падобных імпрэзах і праводзіць іх у сябе! Бо ў сучасных маладых пісьменнікаў ёсць нейкая ўнутраная еднасць — пачуцці, тэмы, якія проста па-рознаму адлюстроўваюцца ў іх творчасці...»



***Аляксандра БАРАВЕЦКАЯ — г. Смаленск, дзіцячая пісьменніца.***

«Сёння няма казак, якія можна было б пачытаць дзецям. Для дзяцей ствараецца тая ж самая "жоўтая" літаратура, як і для дарослых. Туды ўстаўляюцца прыгожанькія малюнкі, робяцца казкі з амерыканскіх мульцікаў — і прадаюцца! Добра прадаюцца, таму што дзеці пазнаюць гэтых герояў, любяць іх. А бацькі радуюцца, што дзеці чытаюць хоць што-небудзь. І гэтае "што-небудзь" уплывае пасля і на густы, і на схільнасці малых. Хаця, можа быць,

варта і такім “наесціся”», каб потым адрозніваць добрую літаратуру ад “шыр-спажыву”. Мне пашанцавала: у маім дзяцінстве былі пласцінкі з вельмі добрымі запісамі, бацькі чыталі мне пра Віні-Пуха і Карлсана, пра Нільса і Пітэра Пэна... Мне зараз здаецца часам, што мае тэксты — гэта ў пэўным сэнсе “злепак” з гэтых гісторый. Я б сваім дзецям чытала менавіта такія казкі, а не “бульварнае чытво” для маленькіх!»



***Дзмітрый ХАНІН — малады творца, г. Растоў-на-Доне.***

«Мне 21 год. Я рыфмаваць пачаў з пяці гадоў, але лічу, што паэтам чалавека можа назваць толькі чытач. Калі ж навокал зашмат калялітаратурных размоў і абмеркаванняў, то губляецца існасць творчасці. Галоўнае на такіх нарадах, як мне падаецца, — слухаць адно аднаго. Мяне не палохае крытыка — наадварот, калі я нешта напісаў, то адразу адпраўляю гэта праз інтэрнэт некалькім сябрам, каб пачуць справядлівае і ў той жа час канструктыўнае меркаванне. Вось, да прыкладу, у мяне выйшла кніга пад рэдакцыяй растоўскага паэта Ігара Кудраўцава — да яго парад я прыслухоўваюся заўсёды! Я, дарэчы, больш маю зносіны менавіта з паэтамі старэйшага пакалення, і мне гэта вельмі дапамагае».



***Дзмітрый БЯЛЯЛАЎ-УШЭНІН — пісьменнік, прадстаўнік Берлінскага літаратурнага таварыства.***

«Вялікага ажыятажу вакол літаратуры сёння ў Германіі няма, калі не казаць пра выхад новых раманаў вядомых аўтараў. А рускамоўная літаратура ў Берліне развіваецца вельмі павольна: існуе некалькі раскіданых суполак, але большасць з іх занадта палітызаваны. Я, шчыра кажучы, мару выдаць кніжку ў Расіі. Бо на нямецкую мову сёння перакладаюцца толькі расійскія класікі. Я чуў пра тое, што перакладаюць і беларусаў, і ўкраінцаў, але ў большасці выпадкаў — тых, з кім працаваць палітычна мэтазгодна! Перакладаць жа, я ўпэўнены, трэба зыходзячы з якасці, а не з палітычных поглядаў!.. Розніца ж паміж пакаленнямі творцаў сёння адчуваецца як ніколі: для моладзі ўласцівы ўхіл да асэнсавання ўнутранага свету, меншы зварот да сацыяльнага, больш метафізікі... Ды я і сам так пішу!..»



***Алена ЛЯВОНАВА — г. Гаджыева Мурманскай вобласці, пісьменніца і журналістка на мясцовым тэлебачанні.***

«Сродкі масавай інфармацыі, канечне, могуць дапамагчы “раскруціць” маладога аўтара, але талент усё роўна неабходны, бо калі чытач возьме кнігу ці альманах і прачытае твор, то тут уся “раскрутка” сыдзе на нішто. Мы павінны глядзець шырэй і падтрымліваць літаратуру наогул, прапагандаваць чытанне. Раней у нас на тэлебачанні былі

адпаведныя літаратурныя праграмы, публікацыі ў перыёдыцы, а сёння пісьменнікі жывуць у нейкім адасобленым свеце. І тут СМІ павінны перагледзець сваю пазіцыю, я лічу. Усе творчыя суполкі сёння змагаюцца з праблемамі — я адчуваю гэта і па сваім рэгіёне, — але калі за савецкім часам была магчымасць маладому аўтару выдаць кніжку не за ўласны кошт, то цяпер творцу трэба самому шукаць сродкі. А кніга — рэч вельмі патрэбная, і добра, што нашае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Расіі клапоціцца, каб першыя кніжкі маладых — хай маленькімі накладамі, але выходзілі! На падобных жа сустрэчах мы перамагаем уласную "геніяльнасць", атрасаем з сябе "зорны пылок", каб выслухаць крытыку і пачаць пісаць лепш! Альбо вырашыць, ці варта наогул займацца творчасцю!»



***Святлана ГІЁ — празаік, перакладчыца, член Асацыяцыі рускіх пісьменнікаў у Парыжы.***

«Я пакуль не друкавалася ў Расіі — тут свае цяжкасці. Як і ў Францыі, дарэчы, дзе кожную хвіліну выпускаецца 30 кніг, а чытаюць мала. Кажуць нават, што кніга жыве 15 дзён, калі няма імя вядомага рэдактара ці аўтара на вокладцы... Я лічу, што, дзе б ні працаваў пісьменнік, ён не павінен арыентавацца на "сярэдняга чытача". Трэба імкнуцца, каб твая кніга жыла калі не стагоддзе, то хаця б больш за гэтыя 15 дзён. А праблема сучасных французскіх літаратараў у тым, напэўна, што яны так завастраюць свой стыль, так імкнуцца да захавання музыкі радка — пры тым, што французская мова сама па сабе надзвычай спеўная, — што ўрэшце атрымліваецца, што ты слухаеш урывак з нейкай прозы і пасля ловіш сябе на думцы: «А што ж я пачула?» — настолькі сэнс згубіўся за музыкай слоў... Гэта маё ўласнае меркаванне, але я лічу, што пісаць кнігі і прадаваць іх — гэта абсалютна розныя прафесіі! Кожны павінен займацца тым, што ў яго лепш атрымліваецца, а не марнаваць час!»

*Гутарыла Таццяна СІВЕЦ*

*Ганна ЧУМАКОВА*

# АНЁЛЫ СПЯШАЮЦЬ НА ПРАЦУ

*Ганна Чумакова нарадзілася ў 1984 годзе ў горадзе Рагачове Гомельскай вобласці. Скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны (спецыяльнасць «Настаўнік беларускай мовы і літаратуры»). З 2007 года жыве і працуе ў Мінску.*



**Птушкі, анёлы, крылы і ветразі — частыя вобразы ў вершах Ганны Чумаковай. Яны падказваюць як самой аўтарцы, так і чытачам, што шлях да святла і дасканаласці бясконцы. Многія творы, па класічнай традыцыі дзявочай паэзіі, прысвечаны першаму каханню, сустрэчам і расстанням, расчараванням і набыткам. Некаторыя вершы могуць падацца дзіцяча-наіўнымі, нібыта напісанымі ў вучнёўскім сшытку падчас урока, цішком ад настаўніка і суседкі па парце. Гэта прываблівае і абяззбройвае ўважлівага крытыка, які, замест таго, каб звяртаць увагу на нейкія моўныя хібы, цёпла ўсміхнецца, прыгадваючы пару свайго юнацтва.**

*Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»*

## АДКАЗ ВЕРАНІКІ

***«Помніш, калі я спаткаўся з табою,<br>Зорка Венера ўзышла…»***

М. БАГДАНОВІЧ

Ты мне казаў пра зоркі,
Клікаў адну Венерай.
Я не давала веры,
Быццам узыдзе толькі,
Як у душы збалелай
Горка каханне стыне.
Словы твае, Максіме,
Я разумець не ўмела.
Толькі смяялася звонка,
Ты ж адыходзіў моўчкі…

Ціха казаў пра зоркі,
Гледзячы мне — у вочы.

* * *

Рву рамонкі
каля чыгункі
падарунка
лепшага не трэба

у рамонкаў
сэрца — жоўтае
жыццё — кароткае
пялёсткі бы крылы
ці ёсць на небе
рамонкавы вырай?

## ТРЫ СЛОВЫ

Першае слова было ад Бога,
Першае слова было «ЛЮБОЎ».
Мы згубілі яго ў дарогах,
Пасярод іншых заблыталі слоў.

Першае слова было кароткім,
Быццам уздых, крылаў узмах…
Чула: спяваў яго адвячоркам
Жораў — мой шэры птах…

Слова другое было «НАДЗЕЯ»,
Слова другое было, як шчыт
Супраць нягодаў, супраць завеяў,
Супраць халоднае помсты ў начы,
Супраць ілжывай ліслівай гаворкі.
Супраць пакутлівых здрадлівых слёз —
Самая светлая сіняя зорка
Ў цёмным бяздонні нябёс…

Трэцяе слова — «ШЧЫРАЯ ВЕРА»
Ў Бога, што гневам сваім праміне.
Слова, што ззяе ў прыцемках шэрых
Далёкім святлом у родным акне.
Вера, што добрае перамагае
Ці яшчэ здолее перамагчы…
Слова, якое мяне саграваае
Полымем тонкай свячы…

Блізкія словы,
Боскія словы —
Шэпча іх сэрца маё зноў і зноў —
Тры ахоўнікі, тры анёлы —
ВЕРА, НАДЗЕЯ, ЛЮБОЎ.

* * *

Калі нават не прачынаюцца
Птушкі самыя раннія,
Анёлы спяшаюць на працу,
Пад футра крылы схаваўшы.

Прыціхлыя, задуменныя,
У сутонні азябла сутуляцца,
І святлее ад іх праменнасці
У цёмных завулках і вуліцах.

Нібыта за стол працоўны,
На плячо свайму абранніку
Сядаюць…
Як ён, паўсонныя:
— Добрага ранку!

**СУСТРЭЧА**

Мы сустрэліся ў пятніцу, каб развітацца ў суботу:
Ціха рушыў цягнік,
чорна-белыя цені плылі,
Я сядзела ля Вас,
І мяне ахінала журбота,
Вы ж глядзелі ў акно і спакойна гарбату пілі…

Мне хацелася Вам прачытаць свае лепшыя вершы,
Можа, нават спяваць аб нязбытным каханні сваім.
Мне раптоўна здалося:
мужчын я не бачыла лепшых…
Вы ж глядзелі ў акно і спакойна гарбату пілі…
Невядома чаму мне прыснілася ўсё гэта потым:
Ноч,
заспаны вагон —
Быццам кадры нямога кіно —
Я сядзела ля Вас ноччу з пятніцы на суботу,
Мне карцела спяваць,
і мяне ахінала журбота, —
Вы ж гарбату пілі
і спакойна глядзелі ў акно…

*Ліна КОТ*

# СОМ

## *Апавяданне*

*Ліна Чарняўская (Кот) нарадзілася 1985 г. у Вільнюсе. З 1992 года жыве ў Мінску. Скончыла ў 2008 г. БДПУ імя Максіма Танка, факультэт пачатковай адукацыі. Цяпер навучаецца ў Інстытуце журналістыкі БДУ (факультэт перападрыхтоўкі). Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва».*



**Спазнаючы сябе, мы спазнаём сусвет. Здаецца, гэта фраза вельмі ж банальная і зацяганая, але мяняюцца пакаленні, прыходзяць маладыя суграмадзяне на вечную зямлю, і ўсё пачынаецца наноў: ад першага кроку да першага пацалунка. І ў гэтым няма нічыёй віны, бо кожны паасобку і ўсе разам, мы сусвет спазнаём праз сябе. Так было і так будзе…**

**Дэбютантка дванаццатага нумара часопіса «Маладосць» Ліна Кот пацвярджае вышэйзгаданую тэзу ў чарговы раз. Яна таленавіта і адметна ў апавяданні «Сом» даводзіць, што ў паўсядзённай рэальнасці не ўсё можна ўбачыць вокам, а ў сёе-тое трэба ўслухацца, шмат да чаго прыгледзецца, каб разгадаць таямніцу людскога кахання і здрады, зразумець, адчуць мяжу паміж рэальным і містычна-ірэальным…**

**Ён і Яна нараджаюцца, каб быць разам, але як асобныя ніткі лёсаў звяжуцца ў агульны вузельчык? Што ці хто паспрыяе гэтаму альбо наадварот — учыніць перашкоду?.. Пытанняў шмат, адказ адзін: каханне перамагае.**

**Зачын Лінай Кот зроблены добры, застаецца чакаць працягу, які, думаецца, будзе яшчэ больш важкім і адмысловым.**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

Ветру не было. Зусім не было. Нібы празрыстае покрыва ахінала зялёнае ўзбярэжжа.

Бераг ракі быў засланы пяшчотнай смарагдавай траўкай. Яе хацелася памацаць, праверыць, ці сапраўдная яна.

Але самым дзіўным было неба: светлае, празрыстае, як у лагодны чэрвеньскі дзень. І без сонца. Святло аднекуль сыходзіла само па сабе і разлівалася паўсюль. Вачам адкрываўся прастор незвычайнай прыгажосці: чысты, светлы, спакойны пад небам без сонца.

Яны стаялі на беразе сярод дзіўных дрэў. Ён і Яна былі ўбраны ў простае белае адзенне, чамусьці мокрае, нібы толькі з вады. Яе ясны позірк застыў на Ягоных вачах.

— Дарагі мой, што з намі здарылася, — спытала Яна.

Дагэтуль Ён глядзеў на дзяўчыну і не пазнаваў Яе, і сам дзівіўся з самога сябе. Але, як толькі Яна загаварыла, то нібы ачуняў, здрыгануўся ўсім целам.

— Каханая мая! — усклікнуў Ён. — Няўжо я столькі часу правёў без цябе? Я нічога не памятаю…

— Мы нарэшце разам, — дзяўчына ўзяла хлопца за руку. — Адзінае, што памятаю, нашу апошнюю сустрэчу. Гэта было, здаецца, так даўно... Усё астатняе сцерлася з маёй памяці. І я… шчаслівая побач з табою.

Раптам хлопец заплюшчыў вочы. Ён пачаў нешта прыгадваць, але пакуль няўпэўнена. Ён засяродзіўся на ўспамінах і нечакана гучна ўздыхнуў.

— Што здарылася? — занепакоена запытала дзяўчына.

— Здаецца, — вымавіў хлопец, сціснуўшы Яе руку, — я пачаў успамінаць…

* * *

Ён адчуваў, што паміж Ім ды Яго каханай нешта здарылася.

Але ў той вечар не думаў пра Яе. Моцна сціснуўшы стрэльбу, Ён прыцемкам ішоў праз пушчу. Яшчэ гадзіну таму зразумеў, што заблукаў, адарваўся ад бацькі. Стрэліў у паветра, пачуў стрэл у адказ, але такі далёкі, што не разабраў, у які бок трэба рухацца. Праз некалькі хвілін пачуўся яшчэ адзін стрэл, потым яшчэ. Бацька шукаў сына. Хлопец апошні раз пальнуў у неба. Адказу ўжо не пачуў.

Малады паляўнічы трохі пахадзіў па лесе, агледзеў мох на дрэвах і, нарэшце, выбраў напрамак.

Ён упершыню заблукаў на паляванні. І гэтае адчуванне бездапаможнасці і адзіноты непакоіла. Вельмі небяспечна было заставацца на ноч у гэтым бясконцым гушчары. Нібы ўвесь свет, пакуль хлопец блукаў, аказаўся згорнуты ў адну суцэльную пушчу. Небарака пільна ўглядаўся наперад, ці не набліжаецца да балота. Ведаў, што зваротнага шляху адтуль можа і не быць.

Цямнела. Ён ішоў усё хутчэй, азіраўся ўсё больш насцярожана. Роспач ахапіла Яго ад думкі, што мог памыліцца з напрамкам, што можа блукаць кругамі.

Зусім пачарнелі хвоі. Хлопец амаль бег, не разбіраючы дарогі, прадзіраўся праз густыя хмызы. Страх гнаў наперад, за надзеяй, у пошуку падказкі. Якую Ён павінен быў хутчэй адшукаць.

Ён мярцвеў ад кожнага ляснога гуку, не заўважаючы ціхага, містычнага падвывання ветру.

Паступова плаўныя гукі ўзмацніліся. Хлопец застыг на месцы. Нічога падобнага Ён раней не чуў. У якія жарты з Ім гуляе пушча? Раптам усвядоміў: гэта не вецер. Аднекуль з цемры чуўся павольны жаночы спеў. Хлопец міжволі падаўся ў той бок. Кожная трэснутая пад ботамі галінка прымушала валасы ўздымацца на галаве. Ён нават не асцерагаўся ступаць у дрыгвяністую глебу, што пачала хлюпаць пад нагамі.

Наперадзе дрэвы трохі расхінуліся, і хлопец апынуўся на беразе ракі, больш падобнай да балота. Спеў грамчэў. Рукі абмяклі, і стрэльба ўпала ў ваду. Наперадзе, сярод лазняковых купін, то з’яўляліся, то знікалі абрысы жаночай постаці з доўгімі густымі валасамі. Спеў вабіў, прыцягваў, зачароўваў. Цудоўны голас абяцаў адпачынак і супакой.

Нібы не сваімі нагамі Ён зрабіў яшчэ крок наперад. Вада дабралася да верху ботаў і лінулася ўсярэдзіну, астудзіўшы стомленыя ногі.

Толькі цяпер Ён заўважыў на купіне за чаротам нейкага мужчыну, які быў значна бліжэй да прывабнай постаці. Рэўнасць праціяла хлопца.

Мужчына павярнуўся. Прыкладна такі ж ростам і станам, як і Ён сам, толькі выраз твару ў незнаёмца быў дзікунскі. Хлопец раз’юшана кінуўся на саперніка, распырскваючы ботамі чорную густую ваду.

«Гэты спеў, гэтая жанчына павінны належаць толькі Мне аднаму! Ніхто не можа стаць на Маім шляху!»

Сапернік аказаўся мацнейшым. Хлопец пачуў яго звярыны рык, пабачыў лютыя вар’яцкія вочы, але нават не адчуў удару. Ён проста сутыкнуўся са сцюдзёнай багнай, якая здавалася вадой. У нос убіўся балотны смурод. Брыдкая вільгаць пацалавала ў вусны.

Спеў быў цяпер зусім побач. Хлопец узняў галаву і пабачыў проста над сабою жаданае жаночае цела. Яно было абвіта доўгімі мокрымі валасамі. Жанчына спявала, цягнула да сябе разам з багнай. Паміж імі не было саперніка. Хлопец ужо і

забыўся пра яго. Бо самая вялікая прыгажосць знаходзілася зусім побач. Здавалася, ужо можна дакрануцца да яе...

І ў гэты момант спеў перарваўся стрэлам.

Болю не адчуў. Проста ў твар ударыла вада. На імгненне хлопец узняў галаву. Над Ім моўчкі стаяла звычайная маладая дзяўчына, абсалютна голая, прыкрытая толькі цёмнымі пасмамі доўгіх валасоў, і задаволена глядзела ў бок берага. Яна кінула апошні позірк на хлопца, павярнулася і знікла ў цемры. Ён паспрабаваў прыўзняцца ды зразумеў, што не падымецца больш ніколі.

Тваністае дно прытуліла цела. Перад тым, як назаўжды заплюшчыць вочы, хлопец паглядзеў праз мутную ваду ў твар забойцы. Цяпер той не быў падобны да дзікуна. Гэта быў Ягоны бацька…

Апошні цень мільгануў воддаль — гэта вялізны сом стаіўся ў чароце і чакаў спажывы.

* * *

Цалюткі дзень людзі хадзілі па лесе з сабакамі, стралялі ў паветра, гукалі. Толькі адзін раз ім сустрэўся дзіўны дзядок, што збіраў грыбы. Мясцовы сказаў, што хутчэй за ўсё заблукалі бацька з сынам ля д’яблавай рэчкі, утульным прыстанішчы русалак. Глухі лес шырокай надзейнай сцяной хавае балоты, што чорным сокам заліваюць гэтую раку.

«Ходзяць чуткі ды і сведкі знойдуцца, якія бачылі русалак, вялізных драпежных самоў. Але балоты — загадкавае месца. Шмат хто адмаўляе існаванне той ракі, бо не знайшоў яе ў пушчы. А я бачыў. Напраўду, русалак, вадзянікоў ды іншых містычных пачвар не ўгледзеў. Але скажу шчыра: злавеснае месца. Усё там патыхае д’ябальскай сілай.

І калі хто загінуў у тым балоце, цела не знойдзеце, бо самы́ тамтэйшыя жывяцца ўсім, што трапляе. Нічым не грэбуюць. Само́ такога я бачыў. Ледзь не большы за чалавека. Кажуць, самы́ бароняць душы тых, хто патануў, ад вадзяніка, ды пераносяць у Божае валадарства», — ціхім голасам распавёў людзям дзядок.

Кожнае яго слова быццам шклом рэзала сэрца дзяўчыне з пошукавай групы. Яна спадзявалася ісці да канца, які б ён ні быў, але зараз першыя сумненні падступілі да Яе.

Чым бліжэй падыходзілі людзі да балота, тым больш нерваваліся сабакі. Калі ўжо заблішчэлі за хмызамі чорныя плямы прадонняў, сабак ледзь трымалі: яны ірваліся назад, у пушчу.

На ўскрайку лесу ў кустах ляжаў мужчына ў паляўнічай вопратцы, але без стрэльбы. У паўсвядомым стане ён шаптаў, што забіў сына.

Людзі мацней прывязалі сабак, паслалі па дапамогу ў лясніцтва, расклалі вогнішча.

Дзяўчына бяздумна хадзіла ад дрэва да дрэва. Роспач дасягнула той мяжы, калі губляецца ўвага да ўсяго.

Людзі чакалі. Дапамога з лясніцтва пакуль не прыйшла. Калі ж з ланцугоў сарваліся і ўцяклі сабакі, якія ўвесь час скавыталі, нават бывалыя мужчыны адчулі нядобрае. Успомнілі змрочны аповед дзеда-грыбніка. Усе згуртаваліся ля вогнішча, але сядзець і чакаць не хапала вытрымкі. Два мужчыны пайшлі па дровы. Ля вогнішча засталіся толькі вопытны егер, звар’яцелы бацька ды маладая дзяўчына.

Усе маўчалі.

Раптам напружаную цішыню разарваў крык, жахлівы, шалёны, адчайны. Здалося, што нават дрэвы ўздрыгнулі ў цемры.

Дзяўчына падскочыла, нібы апаленая. Егер-вартаўнік, збялелы ад жаху, сціснуў стрэльбу. Яны не заўважылі, як бацька-паляўнічы пайшоў ад вогнішча на балота.

Крык даносіўся ад вады. Дзяўчына, пераскокваючы з купіны на купіну, пабегла ў змрок на пошукі небаракі.

Яна не адразу ўбачыла чалавека, які ліхаманкава чапляўся за трухлявы корч.

Хмызняк абступіў іх шчыльней. Дзяўчына зірнула на водбліск вогнішча ў лесе, упала на халодны слізкі край купіны і працягнула руку. Але не разлічыла сілы, звар'яцелая жорсткая рука паляўнічага пацягнула дзяўчыну за сабою з купіны ў багну.

Халодная жыжка ўмомант сціснула дзявочыя плечы. Яна паспрабавала ўзняцца на ногі, але адчула, што правальваецца, нібы сама зямля ўцягвала дзяўчыну, злучала з сабою.

Раптам Яна пабачыла ў цемры светлякі запаленых ліхтароў, пачула крыкі, стрэлы ў паветра. Відаць, дапамога ўсё ж прыйшла.

— Дапамажыце! — адчайна закрычала дзяўчына.

Паляўнічы, нарэшце, здолеў схапіцца за корч. Азірнуўся на дзяўчыну і другую руку працягнуў да Яе, але не дацягнуўся.

Дзяўчына інстынктыўна спрабавала ўзняцца, білася здубянелымі нагамі ў багне, вязнучы ўсё глыбей. Чорная вільгаць пачала ўжо лізаць ейны твар.

Мужчыны падбеглі, працягвалі стрэльбы, нешта крычалі, але Яе вушы былі ўжо пад вадой. Апошні раз прагна схапіла ротам паветра...

Яна так і не пабачыла перад смерцю хаця б Ягонага цела.

Вада запоўніла лёгкія. Сведкам Яе апошняга імгнення быў толькі шэры драпежны сом. Ягоная другая вячэра апошні раз глядзела з-пад вады на зорнае неба.

* * *

...Яны стаялі на сакавітай зялёнай траве, падобнай да штучнай, закахана глядзелі адно на аднаго, трымаліся за рукі і слухалі цурчанне прамяністай рачулкі. Простае белае адзенне амаль высахла ў бязветранай прасторы пад небам без сонца.

Тут ім не пагражала нічога... Вялікі шэры сом, махнуўшы на развітанне доўгімі вусамі, павярнуўся і паплыў назад.

*Вольга БЛАЖЭВІЧ*

# КАЛЯНДАР



*Вольга Блажэвіч нарадзілася ў 1983 годзе ў Мінску. Дзяцінства і школьныя гады правяла ў Полацку, які і лічыць родным горадам. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. З 2004 года — журналіст радыё «Беларусь».*

**Творы Вольгі Блажэвіч — паэтэсы, перакладчыцы, барда — заўсёды знаходзяцца ў своеасаблівым атачэнні часу і прасторы. Секунды, хвіліны, гады набываюць у яе мастацкім свеце адрозны ад рэальнасці сэнс, што падкрэслівае каштоўнасць кожнага моманту. Назіральнасць, увага да жыццёвых драбніц, да побытавых дэталяў, за якімі аўтар бачыць іншае, схаванае, сутнаснае, гаворыць пра творчую сталасць Вольгі. Прыемна, калі адзін малады аўтар можа нечаму навучыць другога. Аказваецца, сакрэты літаратурнага майстэрства могуць перадаць не толькі жывыя класікі, але і прадстаўнікі новага пакалення.**

*Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»*

* * *

Час можна ўбачыць,
калі ён паспешліва рушыць
за далягляд
незагойнай усмешкаю сонца.
Час можна ўбачыць тады,
калі кожнае слова —
гэта намёк на жаданне займець карані
і ўпіцца ў бетон, каб пазбегнуць чарговай
дарогі.

І каб загінуць пад коламі
календароў,
досыць маўчання
і потым — няпэўнага кроку
з даху —
па лесвіцы ўніз.
З абяцаннем забыць.

## НЕБА НАД БЕРЛІНАМ

снілася
я прабіраюся зноў
асцярожна ступаючы
праз твой зімовы ампір —
манументальны цытатнік —
на скрыжаванні эпох
рэха змаўкае
і я
чую: замольваюць грэх
твае безыменныя душы
сёння ты сніў
як тады…
імплантацыя межаў
і брук твой рабіўся
потным
халодным

і слізкім
збірала тут пыл свабоды —
на боты і кончыкі пальцаў —
дзіўная соль
для наступных
колападобных развагаў
вачыма глытаю соль!
тады не відаць
наколькі лягчэй дакранацца
сёння да шнараў тваіх
і прызначаць сустрэчу
ў прадсэрдзі
(з усходняга боку)
і драпаць іголкай зоркі
ў тваім захмараным небе

* * *

Вера ў сны, дзе надыдзе
новае —
Вены-змеі ў букеты
скласці —
Гэта смерць
недарэчна
лёгкая
Ў небе, скуль
немагчыма
ўпасці.

Сонца-сэрца на дні
пакроена,
Трыццаць колаў у пекле
чэрвеня,
Абаронена,
за-
баронена
Ананімнымі прысвячэннямі.

Шэры здзек, як папера
мокрая:
Верш апошні
ліловай
плямаю,
Сёння неба
на пошасць
хворае,
Заўтра неба —
такое
самае.

Дотык піць,
бараніцца
словамі,
Пляміць памяць —
нібы —
падзеямі —
Смерць у пошуку
супраць
дзеяння —
Вера ў сны, дзе надыдзе
новае.

* * *

Спакуслiва-яблычны жнівень
Заззяе і ўдарыцца ў сонца
Чароўнаю спелаю песняй.

Шчодры бурштын у далоні
Вывільецца дымным світаннем
З дазволу маўклівага Спаса.

Хмарная квецень нябёсаў
Зблытае срэбным дажджом
Сны пераспелага жыта.

Святам загоіцца сэрца.
І птушкай заб'ецца ў акно,
У якім адбіваецца неба...

**ДЗЕНЬ**
**У СТЫЛІ БАРОКА**

Калі сонца ўжо села,
ізноў зазвінела неба,
я абняла і ўдыхнула стому тваю
на цёмнай-цёмнай вуліцы
і паглядзела
праз плячо
на наш дзень
і горад у стылі барока.

Агульнае ў нашым маўчанні —
залатыя яблыкі
й шэры граніт,
і думкі мае,
як лебедзяняты на возеры ўвосень,
як чатырыста год спакою,
чатырыста год
у стылі барока.

Праз паўгадзіны пад гарачым душам
здарыцца неверагоднае,
зрасцецца дзень, на дваіх падзелены —
маю сціплую мару заручыўшы з тваімі вачыма,
цэльны і ясны,
пamрэ
дзень у стылі барока.

* * *

Сустрэнем вечар.
За ім сустрэнем зіму.
На захадзе сонца сусвет зазірае ў вокны.
Хтосьці скажа сабе: «Рана».
Хтосьці скажа сабе: «Позна».
Ды насамрэч усе гэтым часам чакаюць спакою.
А таму — сустракайма вечар.
У вокнах — туман і дрэвы.
У вокнах — зямля і сонца.
І водар забытых мелодый.
Увосень так лёгка дзяліцца снамі,
Што, нават калі ты на кухні адзін,
Чабаровай гарбаты
Заўсёды гатуй на дваіх.

## КАЛЫХАНКА

Пераступіўшы праз рысу ў вечар —
Час, калі можна запальваць свечку,
Ён разабраў сны,
Ён патушыў дзень.
І калі заўтра надыдзе шчасце,
Гэтая песня апошняй будзе
Тут, дзе жыве ён.
Тут, дзе застыг час.

Словы ўцякаюць адсюль праз вокны,
Словы ўцякаюць адсюль насустрач
Небу, дзе ёсць снег,
Дзе не жыве страх.
Неба працёртае аж да зорак,
Трэснула неба па Млечным Шляху,
Горад ідзе ўверх,
Горад нясе ў вір…

Пераступіў праз парог у цемру,
Вецер адтуль прывітаў фіранкі.
Сходам аддаў крок.
Дзверы замкнуў ключ.
Люстра старое адбіла ўсмешку,
Вочы у люстры адбілі цішу.
Тут не чужы дом.
Гэта ужо
Сон…

## ДЗЯДЫ

Гэтую музыку першымі ўбачаць дрэвы.
Сціплым і сінім наконадні здасца свята.
Нам неістотны адказ на пытанне: «Дзе вы?»
Мы вас паклічам, але гэта будзе заўтра.

Нам не збракуе сябе, каб ісці па коле.
Ваша жытло — гэта месяц ў апошняй квадры.
Ўлонне зямлі, узараўшы, назвалі полем...
Мы вас пачуем, але гэта будзе заўтра.

Неба прыціхла, а значыць, забыцца можна.
Вецер пад дахам на ноч сачыняе мантры.
Мы не баімся, на здзіў сабе, слова «позна».
Мы вас успомнім. Але гэта будзе заўтра.

*Янка ГАЛУБОВІЧ*

# У РОДНЫМ КРАІ

***Апавяданне***



*Янка Галубовіч нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Пранчэйкава Маладзечанскага раёна. Скончыў Мінскі эканамічны тэхнікум і БДУ. Выдаў чатырнаццаць кніг прозы для дзяцей і дарослых. Сярод іх «Пастарайся стаць чалавекам», «Гронка каліны», «Зязюля дзетак шукала», «Янотавы абяцанкі», «Гром на світанку» і інш.*

**Янка Галубовіч ведае шмат каго з тых, хто сёння з’яўляецца гонарам беларускай літаратуры. Неаднойчы ў прыватных гутарках даводзілася чуць ад яго пра сустрэчы з драматургам Іванам Козелам, празаікам Аркадзем Чарнышэвічам, пісьменнікам і краязнаўцам Генадзем Каханоўскім. Ён заўсёды з відавочнай радасцю зазначае, што рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў яму даваў вядомы гісторык і літаратуразнаўца Мікола Ермаловіч. А гэта, згадзіцеся, — да многага абавязвае. У прыватнасці да таго, каб заўсёды і ва ўсім заставацца самім сабой: быць натуральным як у жыцці, так і ў літаратуры. І хоць гэта не вельмі проста, тым не менш, мяркуючы па напісанаму, ён з гэтай місіяй даволі ўпэўнена спраўляецца. Ягонай прозе, настоенай на праўдзе вясковага жыцця, уласціва шчырасць, дабрыня, імкненне разабрацца ва ўсіх нюансах нашага такога шматколернага свету, добрае разуменне рэалій акаляючай прыроды. У яго адметны стыль, пазнавальная манера пісьма, раз і назаўсёды ўпадабаная тэма. І ён ім не здраджвае. Нягледзячы нават на тое, што гэтым самым можа камусьці здасца залішне традыцыйным, а таму архаічным. Але такое меркаванне занадта катэгарычнае, а таму — памылковае, бо пазнавальнасць і вернасць абранай тэме, думаецца мне, сведчыць пра тое, што творца адбыўся: і як пісьменнік, і як асоба.**

*Міхась* КАЗЛОЎСКІ

1

Каля станцыі Уша паравоз выпусціў ірваныя кудлы дыму і пачаў збаўляць ходу. Хутка ён заскавытаў тармазамі і спыніўся.

Сярэдняга росту юнак у светлым касцюме, са схуднелым, амаль без загару тварам, з раннімі зморшчынкамі каля вуснаў і прыгожа зачэсанымі назад валасамі падхапіў з паліцы валізу, праціснуўся ў вузкі тамбур і выйшаў з вагона.

Высока ў небе раскашавала сонца. Яно няшчадна пякло. Максім зняў пінжак і, выціраючы з твару пот, зірнуў на стромкую таполю, якая расла каля будынка станцыі. Дрэва стаяла нерухома, на ім не варушыўся аніводзін лісцік. Блішчэлі на сонцы, ажно сляпілі вочы, сталёвыя рэйкі.

У Вільні ноччу шумеў лівень, а тут надвор’е добрае. Каля царквы, у засені вішняку, Максім трохі перадыхнуў і па вузкай сцяжынцы пайшоў на пагорак.

Паабапал сцяжыны цвілі кветкі, над імі гудзелі пчолы, ляталі матылі. «Цюрлі, цюрлі, цюрлі...» — пачуўся ўгары срэбны галасок птушкі. Максім узняў галаву, убачыў у сінім небе жаўрука, і спеў яго адгукнуўся ў душы юнака цёплай, нястрыманай радасцю.

Праз паўвярсты ля адзінокай бярозкі Максім убачыў двух мужчын. Аднаго — старога, худога, быццам з крыжа знятага, з выцвілымі слязлівымі вачыма, і другога — чорнага, як цыган, чалавека, у якога да цела прыліпла палатняная кашуля і праз яе можна было палічыць рэбры. Побач з імі калупаўся ў зямлі, дастаючы з яе камяні, высокі бялявы юнак.

Максім параўняўся з імі, павітаўся і прамовіў:

— Памагай Божа!

Стары разагнуў плечы, змахнуў далонню з твару пот.

— Калі сам не зробіш, то й Бог не дапаможа. Хай яно прэе. Б’ёмся, як рыба аб лёд, а даўгі, як ланцугі, ступіць не даюць. Камяніца адна дый пясок. Угнойваць такую зямлю — што напарсткам ваду з рэчкі вычэрпваць. Але ж на небе булкі не растуць. Як не пасееш, то й не пажнеш...

Выслухаўшы старога, Максім памкнуўся ісці, але той паклаў да кучы камень, пацікавіўся:

— Нешта не пазнаю я цябе, чалавек. Чый ты будзеш?

— Багдановіч я, Максім.

— А... і куды ідзеш?

— У Ракуцёўшчыну...

— Тады вунь яна, вярста ўсяго засталася...

Максім зірнуў у той бок, куды паказаў рукой стары, і ўбачыў адсюль, з пагорка, замшэлыя стрэхі хат.

## 2

На дварэ неўпрыкмет пачало вечарэць, а хутка і ў пакой упаўзла цемра.

Неба, нібы аўсом, было ўсыпана зоркамі. Свяціла вялікая, матава-белая поўня. Пас яе святла ляжаў на стале, белым ручніком спадаў на падлогу. І нідзе ні гуку. Было ціха, як пасля навальніцы. Адно недзе пад страхою спрасонку цілікнуў верабей, а ў хаце пад печчу адазваўся цвыркун.

Максіму не спалася. Ён борздзенька падняўся з канапы, падышоў да расчыненага акна і прысеў на лаўку, каля якой у драўлянай кадцы рос вялікі і лапушысты, ажно да самай столі, фікус.

Раскашавалі каля плота ў садку парэчкі і вішні, кучаравіліся асветленыя месяцам яблыні. Пахла канюшынаю, кропам і палявымі кветкамі.

Максім любіў гэтую вечаровую прахалоду і цішыню. Ды раптам заспакоенасць парушыла чароўнае суладдзе гукаў. Ён пачуў песню. Адзін голас цягнуў мякка, вольна, другі быў высокім і звонкім.

— Дзе ты, каліна, расла,
Што ты такая вырасла —
Тонкая, высокая,
Лісточкам шырокая?
— Ой, я расла, вырасла
У лузе пры крыніцы,
У лузе пры крыніцы,
Пры халоднай вадзіцы,
Там дзеўкі ваду бралі
Ды мяне палівалі...

Песні роднага краю, зямлі, дзе нарадзіўся і вырас... Любоў і пяшчота расчулілі Максімаву душу, і ён застаўся сядзець каля акна, хоць ужо даўно пайшлі спаць дзяўчаты, не было чуваць іхняй песні, адно — з-за лесу час ад часу даносілася вуркатанне грому.

Ноччу ішоў дождж, такі густы і шчодры, што па вуліцы імкліва пабеглі ручаіны.

Прачнуўся Максім, калі ўжо на прастор выкацілася сонца. У садку яшчэ не высахла трава. Сонца падымалася ўсё вышэй і вышэй, на траве і каля плоту нізка шэрымі таўбункамі клубілася пара.

— Дзядзька Максім, гляньце, якія зіхоткія расінкі на ружы! — звонкім галаском звярнулася да маладзёна Янінка. Вочы ў яе — нібы валошкі ў ніве, светлыя кудзеркі валасоў на галаве. Дзяўчынка перагінаецца цераз падаконнік, дакранаецца рукой да бледна-ружовых пялёсткаў кветкі, і расінкі, апякаючы пальцы дзяўчынкі ледзь улоўным халадком, зрываюцца, коцяцца долу бліскучастымі зорачкамі.

Гаспадыня, Эмілія Іванаўна Шабуня, высокая, мажная, з прыемнымі рысамі твару і вялікімі белымі зубамі, унесла пляшку вішнёвай настойкі. Паставіла яе каля талеркі з кіслым малаком, падобным да бялюткага снегу, парэзала цэлае колца каўбасы. Былі тут і квашаная капуста з яркімі кроплямі журавінак, агуркі, стаяла ў сподачках featured рознае сочыва: з трускалак, малін, брусніц.

Максім захваляваўся, калі ўбачыў на стале пляшку і столькі яды, сюды-туды захадзіў па хаце.

— Эмілія Іванаўна, навошта вы столькі ўсяго на стол панаставілі? Я чалавек спартанскага крою. Магу і крынічнай вадою абысціся.

— Не кажы так, Максім, і ведаць нічога не хачу.

Яна наліла дзве чарачкі.

— Будзь здароў, Максім! Як кажуць, дай Божа, каб усё было гожа. А што не гожа, таго не дай Божа.

Максім таксама выпіў і адчуў, як па целе рызыходзіцца цеплыня, узяў агурок і хуценька захрумстаў.

Янінка, як маладзенькая вавёрачка, увесь час круцілася на лаве за сталом, не зводзіла з Максіма вачэй.

— Дзядзька Максім! — нарэшце не вытрымала. — Сёння я вам крынічку пакажу...

— Крынічку! А дзе яна?

— Тутака... — махнула кудысьці ў акно рукой дзяўчынка. — Блізенька зусім...

— Пакажы, Янінка, пакажы, мілая...

## 3

Каля плоту кураняткі, нібы камячкі жоўтага пуху, дзяўблі тварог, мітусіліся каля Янінкі, як сонечныя зайчыкі. А як толькі Максім сышоў з ганка, Янінка пра куранятак забылася, куляю кінулася насустрач і павісла ў яго на шыі.

— І я з вамі, дзядзька Максім...

— Добра, Янінка, добра, харошая... Без цябе я нікуды не пайду...

Ужо калі апынуліся зусім блізка каля крынічкі, з-за вярбы выскачыў вялізны шэры заяц, паварушыў вушамі, а потым маланкаю сігануў у кусты.

— Зайцоў ля крыніцы — як авечак бывае, — заўсміхалася Янінка.

Дзяўчынка назбірала кветак, пачала плясці вянок. Максім стаяў на беражку і ўсё глядзеў на крынічку, а яна, ціхая і спакойная, срэбным кутасікам шылася між кустоў вербалозу. Потым ён зняў кубачак з калка, зачэрпнуў з крыніцы вады і напіўся. Вада была смачная, сцюдзёная, ажно зубы зводзіла.

Далёка не адыходзячы, тут жа, ля крынічкі, Максім прысеў на невялікі пянёк. Адно за адным, як у ланцужок, пачалі класціся на паперу словы:

У родным краі ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я магу пазбыцца
Сваёй нуды...

— Дзядзька Максім! — падбегла да яго з вяночкам на галаве, засакатала Янінка. — Хопіць вам тут сядзець. Хадзем у бор, на палянку, суніц пакаштуем. Там яны саспелі ўжо, такія чырванабокія... Ужо і лісічкі дзе-нідзе пайшлі расці.

І, не чакаючы адказу, смела ўзяла яго за руку.

Максім засмяяўся і падняўся з пянька, схаваў у кішэню лісток паперы.

**4**

Ужо цэлы тыдзень над Ракуцёўшчынай стаялі пагодныя дні.

Максім і Янінка паціху ішлі вузкай сцяжынкаю. Янінка наперадзе, а Максім следам за ёю.

Раптам ля самай сцяжынкі свіснуў рабчык, пырхнуў і схаваўся ў вялікай дзялцы аўса, па якой цёплы ветрык ганяў хвалі.

Максім дакрануўся рукой да каласоў. Было бачна: яны хутка набрыняюць зярнятамі, схіляцца да зямлі залатымі пацеркамі.

Не заўважылі, як апынуліся ў сасновым бары. Недзе ўгары на сасне загрукаў дзяцел, скокнула з галінкі на галінку вавёрка, зацокала на Янінку, ажно шышку з зубак выпусціла.

— Янінка, хадзі сюды! — паклікаў Максім дзяўчынку. — Нясі збаночак, жменьку суніц усыплю...

Янінка падставіла пад яго далонь збанок, спытала:

— Дзядзька Максім, вам тут добра ў нас, у Ракуцёўшчыне?

— Добра, Янінка...

— А то я гляджу, што ў вас сонца ў шчоках зачырванелася...

Калі ўжо сонца амаль схавалася за небасхіл і пачало вечарэць, Янінка папрасілася:

— Дзядзька Максім, хадзем дадому.

Яны выбраліся з лесу і пайшлі той самай сцяжынкаю, якой ішлі сюды. Янінка наперадзе, а Максім следам. На траву ўжо ўпала вячэрняя раса — першая прыкмета яснага надвор'я на заўтрашні дзень.

...Думкі прагналі сон. У хаце было душна і да звону ў вушах ціха. Таму ён падняўся з канапы, выйшаў на ганак, і ў твар яму дыхнула цёплае, ласкавае паветра. На дварэ стаяла цудоўная чэрвеньская ноч.

Высока ў небе мітусіліся, зіхацелі малюпасенькія жаўтлявыя зоркі. У хляве храпануў конь, падала голас авечка. Лёгкі ветрык даносіў з лугу водар палявых кветак. Хацелася жыць...

# У ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ МАКСІМА



Аксана
СПРЫНЧАН

## ЗГАДКА БАГДАНОВІЧА

***Да і пасля 9 снежня***

Як толькі вакол цябе цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог, — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

Як толькі прызначыш спатканне на вуліцы ў ціхую сінюю ноч, — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

Як толькі бачыш — Зорка Венера ўзышла над зямлёю, — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

Як толькі чуеш, што пекна спяваюць жабы, — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

Як толькі сустракаеш кветку Радзімы васілёк, — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

Як толькі ў сэрцы трывожным пачуеш за краіну радзімую жах, — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

Як толькі вітаешся «Здароў, марозны, звонкі вечар!» — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

Як толькі знаходзіш між страніц старых пажоўклых кнігі, ўжо даўно забытай, сухую кветку, — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

Як толькі пляцеш, і пускаеш, і чытаеш вянок, — нараджаецца светлая згадка — Максім Багдановіч.

З Днём народзінаў!

* * *

Васілёк у жыце,
Максім у жыцці.
Краса і сіла.

Юлія
НОВІК



## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Яго прымаю сэрцам трапяткім,
Яго чытаю — голасу не чую,
Па казачным сусвеце разам з ім
У песні зачарованай вандрую.

Ягоны верш спатоліць прагу слоў,
Адзіным хараством саўе вякі.

Тварыў ён золатам напрыгажэйшай
з моў,
Ён быў Пясняр,
Красой жывіў радкі,
І зорачка яго — Душа Эпохі.



Мікола
КАНДРАТАЎ

## ЗОРКІ І ВЕРШЫ

*Максіму Багдановічу*

Свет наш узнік з зерня вечнасці,
нібы мука паміж жорнамі.
Зоркі малітвай засвечаны,
людзі асветлены зоркамі.

Пэўна, каб лёсы палепшалі,
што пачуваюцца хворымі,
людзі ратуюцца вершамі,
як ратаваліся зоркамі.

Варта ў партэры быць першымі,
ці называцца «галёркаю»?..
Век завяршаецца вершамі,
дзень завяршаецца зоркамі.

Зноў застаюцца — у меншасці —
крытыкі недальназоркія…
Зоркі становяцца вершамі,
вершы становяцца зоркамі.

* * *

У дзень народзінаў Максіма
здымае сонца капялюш —
з-за хмар, нібы з палонкі сіняй,
імкнецца глянуць на зямлю.

Але ці знойдзецца той вецер,
які б завалы з неба знёс?..
І дзень — перацякае ў вечар —
кароткі, як Максімаў лёс.

Зямля, што нарадзіла сына,
святлом па Свіслачы плыве.
Святая максіма Максіма
у сэрцах водбліскам жыве.

З ёй нам не цёмна і не зімна,
хай нават снег на сэрца лёг…
У час народзінаў Максіма
заўсёды радуецца Бог.

Аліна
АГРЭНІЧ



## АКРАВЕРШ

**М**ай знойдзеш у кожным сэрцы,
**А** часцей у сэрцы паэта:
**К**вітнее ў душы ён дрэўцам,
**С**алютуючы ўсяму свету,
**І**мглу забівае ў думках
**М**аляўнічай безліччу фарбаў,
**Б**ароніць ад жахаў гулкіх,
**А**д адчаю, роспачы храбра…
…**Г**лядзіць па-травеньску творца
**Д**ы іначай ніяк не можа.
**А**значыла, пэўна, сонца,
**Н**а каго спасылаць дар Божы.
**О** май! Матылёк імклівы!
**В**есялосць паэта і горыч.
**І** песняй цябе шчаслівай
**Ч**арадзей зрабіў, Багдановіч.

*Жанна КАПУСТА*

# РАСЧАРАВАННЕ, АЛЬБО КАХАННЕ, ЯКОГА НЕ БЫЛО

***Апавяданне***

Калі б ты хоць раз у жыцці мог пагутарыць са мною шчыра, мне не давялося б гэта пісаць. Я вельмі доўга выпрошвала ў цябе шчырасць. І толькі цяпер, праз дзесяць год пасля нашай першай сустрэчы, нарэшце зразумела, што гэтай адзіна-важнай размовы між намі ніколі не адбудзецца.

Раней, калі я назірала за табою на літаратруных вечарынах, калі слухала плёткі пра цябе ад іншых людзей, мне думалася, што ты ўвогуле няздатны на шчырасць, што ні з кім не гаворыш адкрыта і ніхто не ведае пра цябе праўды. Але цяпер я магу сабе прызнацца, што ты больш звычайны, чым мне заўсёды здавалася. Не такі загадкавы і таямнічы.

Вядома, у цябе, як і ва ўсіх, ёсць блізкія сябры, якім ты давяраеш. Проста я ніколі не была для цябе па-сапраўднаму блізкім чалавекам. Ды й людзей, якім ты давяраеш, мала, бо ты цудоўна ведаеш, што людзям нявартa давяраць *табе*. Ты здатны на падман і здраду. Цяпер я магу сабе ў гэтым прызнацца, але цяпер мяне гэта не бянтэжыць.

За прамінулыя дзесяць год маё жыццё не адзін раз змянялася, але твая віртуальная прысутнасць у ім заўсёды заставалася нязменнай. Я вельмі часта думала пра цябе і бясконца задавала сабе адно і тое ж пытанне: чаму я не заслужыла тваёй шчырасці? Не заслужыла нават сваім каханнем? Чаму ты аніводнага разу не пагутарыў са мною проста па-чалавечы — без крывадушша, роляў і масак? Я то расчароўвалася ў табе і вырашала, што ты дрэнь чалавек, то апраўдвала цябе тым, што ты так і не паверыў у маё каханне.

Так было некалі. Цяпер я магу сабе прызнацца, што ўсё нашмат прасцей. У



*Жанна Капуста нарадзілася ў 1983 годзе на Браслаўшчыне. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Кандыдат філалагічных навук. Працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, а таксама рэдактарам ў Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестры Беларусі. Друкавалася ў рэспубліканскай перыёдыцы.*

**Большасць абазнаных у айчыннай літаратуры чытачоў Жанну Капусту ведаюць як крытыка. Прытым, удумлівага, прынцыповага і бескампраміснага крытыка. Працуючы ў свой час у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», яна разглядала творчасць шматлікіх паэтаў і празаікаў, аналізавала набыткі і пралікі майстроў прыгожага пісьменства. Хочацца падкрэсліць, што Жанна ніколі не займалася галаслоўнай прэпарацыяй, а выбудоўвала канцэпцыю кожнага артыкула на яскравых прыкладах, уводзіла творы беларускамоўнай літаратуры ў агульнаеўрапейскі кантэкст.**

**Сёння Ж. Капуста выносіць на суд чытачоў сваё апавяданне: твор шматгранны і глыбокі, хоць і з дамешкам жаночай сентыментальнасці. А як жа без гэтага? Жанчына заўсёды застаецца жанчынай, нават будучы ўедлівым крытыкам. І, як гаворыцца, дзякуй Богу.**

**Адметнай, непаўторнай і толькі сваёй табе, Жанна, сцяжынкі на нялёгкай празаічнай дарозе.**

***Аддзел прозы часопіса «Маладосць»***

каханне маё ты верыў, але яно цябе ніколі не кранала. У лепшым выпадку — цешыла самалюбства, а зрэшты, заўсёды пакідала абыякавым. Вось і ўся разгадка!..

Я не арыгінальная ў сваім жаданні адпомсціць мужчыне (ты ж разумееш, што насамрэч гэта помста). Табе будзе прыемна, як любому нармальнаму мужчыне прыемна жаночая ўвага. І ты будзеш раздражнёны, як любы нармальны чалавек, якому даводзіцца чуць праўду. А праўды пра цябе я ведаю нават болей, чым ты думаеш.

* * *

Упершыню я ўбачыла цябе на літаратурнай вечарыне, прысвечанай юбілею Залётнікава. Вечарына, праўда, была даволі нудная, ды і ўвогуле, такія імпрэзы рэдка бываюць цікавымі, відаць, таму, што робяцца не для чытачоў, а для аўтараў. Улюбёныя ў сябе паэты чытаюць бясконцыя вершы і распавядаюць нейкія смешныя на іх погляд гісторыі… Карацей, я ўжо збіралася сыходзіць, калі раптам з’явіўся ты і распавёў сапраўды смешную гісторыю пра тое, як аднойчы адбывалася сустрэча юбіляра з маскоўскімі чытачамі.

У Маскве ў Залётнікава была даўняя прыяцелька, з якой яны ўжо некалькі год не бачыліся. Ён вырашыў скарыстаць выпадак і наведаць яе. Праўда, да пачатку вечарыны заставалася ўсяго пара гадзін, і сябры пачалі яго адгаворваць. Але Залётнікаў застаўся непахісны, сказаў, што тут усяго два прыпынкі на метро ды пяць хвілін пешшу, і знік.

Натуральна, на вечарыну ён спазніўся. Бо ў Маскве «два прыпынкі на метро» гэта зусім не тое ж самае, што ў Мінску. Пакуль калегі-пісьменнікі «стараліся» перад публікай за юбіляра па прынцыпе «хто на што варты», герой вечара спрабаваў вызваліцца з цянётаў гасціннасці сваёй сяброўкі. І калі праз гадзіны паўтары ён аб’явіўся, усім карцела надаваць яму кухталёў за дурную самаўпэўненасць. А Залётнікаў толькі вінавата ўздыхнуў і прамовіў: «А вапшчэт-ткі, хлопцы, Масква — вялікі горад».

Пасля ты таксама чытаў вершы, але адрозніваўся ад папярэдніх тым, што рабіў гэта добра — так, што верш слухаўся, уражваў і запамінаўся. Ды ўсё-ткі ў тваіх словах і манерах я адразу заўважыла фальш, і менавіта гэта мяне перш за ўсё зацікавіла. Я адчувала, што нешта не так, але зразумела ўсё толькі тады, калі вечарына скончылася. Усе жылі падзеяй, а ты яе іграў. Як акцёр у тэатры.

Ля выхаду з залы, як гэта часта бывае, прадавалі кнігі. Я набыла тваю і паспяшалася папрасіць аўтограф, баючыся, што ты можаш неўзабаве сысці.

— Прыемна, што такія прыгожыя дзяўчаты цікавяцца беларускай літаратурай, — сказаў ты і палез у кішэню за ручкай.

— Не хацелася б вас расчароўваць, але мяне зацікавілі вы, а не беларуская літаратура.

Ты здзіўлена ўзняў бровы.

— Чым жа?

— Тым, як вы сябе паводзілі падчас вечарыны. Вы выглядалі не як паэт, які чытае свае вершы, а як акцёр, які іграе ролю паэта.

Магчыма, табе было не вельмі прыемна гэта пачуць, але ва ўсякім разе я цябе зацікавіла. Ты сказаў, што такой праніклівай дзяўчыне нельга пісаць дзяжурныя аўтографы і прапанаваў зайсці ў кавярню, якая месцілася ў тым жа будынку, дзе адбывалася вечарына.

Мы сядзелі за невялічкім столікам на скураной канапе, вельмі блізка адно ад аднаго. Пакуль ты замаўляў віно, я разглядала інтэр’ер кавярні. У ім не было нічога

асабліва арыгінальнага, але лёгкі паўзмрок і прыцішаная музыка, змешаная з людскім гоманам, стваралі ўтульную атмасферу. Здавалася, што мы знаёмы вельмі даўно і прыйшлі сюды не ў першы раз.

Зрэшты, ты сапраўды бываў тут часта. Гэта я зразумела па тым, як з табой віталіся афіцыянткі. Некаторы час мы маўчалі. Я піла віно і назірала за тым, як ты паліш. Усё было настолькі прыгожа (кавярня, прыцемак, цыгарэтны дым, твой задуменны твар і маё хваляванне), што не закахацца ў цябе было проста немагчыма.

Раптам ты запытаўся:

— Вы пішаце вершы?

— Я… пісала некалі. Даўно. Цяпер не пішу.

— Чаму?

— Бо лічу, што чалавек павінен займацца толькі тым, што ў яго добра атрымліваецца.

— А чаму вырашылі, што ў вас атрымлівалася дрэнна?

— Таму што я ўмею чытаць вершы іншых людзей.

Гэта была бясконцая размова. Ты спрабаваў угаварыць мяне прачытаць які-небудзь верш, я адмаўлялася. Ты пераконваў мяне, што я занадта самакрытычная і нельга лічыць свае вершы дрэннымі, не пачуўшы меркаванне староннята чалавека, а я з табою спрачалася. Паміж гэтым мы шмат пілі, жартавалі і смяяліся. У выніку я ўсё ж абяцала наступным разам паказаць табе свае вершы. Праўда, для мяне было важна толькі тое, што «наступны раз» адбудзецца.

Не ведаю, як ты, але я ў той вечар добра напілася. Спачатку праехала сваю станцыю ў метро, пасля прапусціла прыпынак на аўтобусе і вельмі доўга не магла патрапіць ключом у замок, калі нарэшце дабралася да кватэры.

Адчыніла дзверы мая суседка Алеся. Мы прыехалі ў сталіцу з аднаго горада і разам здымалі кватэру. А яшчэ да гэтага пяць год жылі ў адным пакоі ў студэнцкім інтэрнаце. А да гэтага чатыры гады сядзелі за адной партай у школе. Карацей, ведалі адна адную вельмі даўно і добра.

Алеся была поўнай маёй супрацьлегласцю: ніколі не мела ніякіх ілюзій, не верыла ў каханне, нікому не давярала і заўсёды разлічвала толькі на сябе. Яна працавала бармэншай у казіно і зарабляла, натуральна, значна болей, чым я ў сваім выдавецтве, а таму пастаянна кпіла з таго, чым я займаюся. Нават калі я вучылася ў аспірантуры і пісала дысертацыю, яна ледзь не кожнага дня ўгаворвала мяне «кінуць дурную справу і заняцца нечым сур'ёзным». І калі нарэшце мне пашчасціла атрымаць дыплом кандыдата навук, замест віншаванняў Алеся скептычна прамовіла:

— Ну, і што ты будзеш рабіць са сваімі дыпломамі? Есці іх ці накрывацца імі?

Нягледзячы на тое, што мы былі абсалютна рознымі людзьмі і не падзялялі поглядаў адна адной амаль ні ў чым, мы ніколі не сварыліся і вельмі камфортна жылі разам.

— О, прыгажуня мая, з кім жа гэта табе было так весела? — запытала Алеся і пайшла на кухню ставіць гарбатнік. Яна ведала, што цяпер мне трэба выпіць моцнай кавы.

— Алеся, я закахалася, — сур'ёзна заявіла я і ікнула.

— Гэта зразумела. А напілася ты навошта?

— Ад хвалявання. І дарэчы, я піла толькі віно.

— Ясна, — Алеся ніколі не задавала лішніх пытанняў. Яе заўсёды цікавіла толькі сутнасць. — І хто ён?

— Паэт.

— Ну-ну, нармальныя, значыць, мужыкі, нас ужо не задавальняюць. Нам экзотыку падавай.

— Алесечка, ну чаму паэт не можа аказацца нармальным мужыком?

— Таму, што нармальныя вершаў не пішуць, а грошы зарабляюць і сям'ю забяспечваюць. Ты што, з ім гэта так нацумборылася?

Алеся паставіла перада мною кубак з гарачай кавай, і я падрабязна пра ўсё распавяла. Крыху падумаўшы, яна вынесла свой вердыкт:

— Нічога ў вас не атрымаецца.

— Чаму? — спалохалася я, бо ў такіх рэчах Алеся звычайна не памылялася.

— Вы занадта падобныя. Мужыкі не любяць, калі каханкі бачаць іх наскрозь. Тым больш такія — паэты: ім хочацца заставацца загадкавымі і незразумелымі.

— Як ты можаш рабіць высновы, калі нават ні разу яго не бачыла і нічога пра яго не ведаеш? — пакрыўдзілася я.

— А што пра яго ведаеш ты?

Так, Алеся мяне, як той казаў, падлавіла. Я сапраўды пра цябе нічога не ведала. Ні тады, ні пазней. Цяпер магу сабе прызнацца, што ўсе мае «веды» пра цябе былі міфам і не мелі аніякага дачынення да цябе як да рэальнага чалавека.

На наступны дзень я адшукала сярод старых канспектаў сшытак са студэнцкімі вершамі. Гартала, перачытвала і… пакутліва моршчылася ад уласнага графаманства. Я не магла паказаць табе ўсё гэтае сентыментальнае смецце і вартыя жалю спробы падрабіцца пад стыль Алеся Разанава. Нагода для сустрэчы знікала, мной апаноўвала паніка. І тут я ўзгадала, што было яшчэ апавяданне. Сяброўкі, памятаецца, чытаючы, плакалі. А гэта хоць і не прафесійная, але ўсё ж нейкая станоўчая ацэнка.

Я пакапалася ў шуфлядах з усялякімі старымі паперамі і знайшла апавяданне. Зрэшты, яно таксама было вельмі сентыментальным. Тады я закахалася ў маладога і прыгожага выкладчыка нямецкай мовы, але сэрца яго было занята, і пакуты мае аб няспраўджаным каханні пераўтварыліся ў невялічкі аповед. Каханне тое неяк вельмі хутка прайшло, неўзабаве пасля здачы экзамена па нямецкай мове. Пагатоў, цяпер усё тое было адно цьмяным успамінам. І ўсё ж я была вельмі ўдзячна выкладчыку замежнай мовы. За тое, што сёння мелася нагода табе патэлефанаваць…

Мы сустрэліся праз некалькі дзён. За гэты час апавяданне было грунтоўна перапрацавана і ўдасканалена, а закаханасць мая развівалася па ўсіх законах жанру: я зноў пачала пісаць вершы. Вядома, табе пра гэта не расказала. Ты прачытаў апавяданне пры мне і сказаў, што яго абавязкова трэба надрукаваць. Тут толькі я даведалася, што ты працуеш у нейкай рэдакцыі. Крыху пазней ты запрасіў мяне вычытаць карэктуру.

— Ну, расказвай, чаму зіхціш, як навагодняя ёлка? — запытала Алеся, заўважыўшы мой шчаслівы выраз твару.

— Ён мне патэлефанаваў!

— Тое, што ён умее карыстацца тэлефонам, сапраўды вельмі цешыць.

— Перастань здзеквацца. Ён прапанаваў мне сустрэцца.

— Запрасіў цябе на спатканне?

— Ну, не зусім, але якая розніца, галоўнае, што мы ўбачымся!

— Розніца ёсць. Калі гэта спатканне, то ён будзе спрабаваць цябе спакусіць. А калі проста сустрэча, то…

— То спакушаць яго буду я! — раптам нечакана для самой сябе заявіла я, але насампраўдзе проста выказала ўголас тое, што займала мае думкі з таго часу, як мы пазнаёміліся.

— Тады табе трэба выбраць самую кароткую спадніцу, — аўтарытэтна параіла Алеся. А яна разбіралася ў такіх справах. Праўда, я завагалася: мне заўсёды здавалася, што мужыкі не любяць, калі ім вешаюцца на шыю. Караценькая спадніца — гэта занадта відавочна...

— Тым больш ён паэт, — нясмела скончыла я свае разважанні.

— А ты думаеш, што ў паэтаў у штанах нейкая іншая сістэма, чым у астатніх мужыкоў? — пакпіла Алеся. — Ты ж не сказала, што хочаш разбіць яму сэрца, ты сказала, што збіраешся яго спакусіць. А гэта справа вельмі тонкая. Ён павінен адразу зразумець, што ты ад яго хочаш. Інакш нічога не атрымаецца.

Карацей, я паслухалася Алесі, бо ў такіх справах ёй варта давяраць.

Карэктуру вычытваць мне было цяжка, я ніяк не магла сканцэнтравацца і ўвесь час думала пра тое, што мы засталіся сам-насам. Ты рабіў выгляд, што заняты сваімі справамі, але я бачыла, што раз-пораз ты кідаеш позірк на мае каленкі. Апавяданне неабходна было скараціць, каб яно ўлезла на газетную паласу. А паколькі ў той момант я плявала і на апавяданне, і на ягоны лёс ды выгляд, я лёгка згадзілася. Адно толькі сказала:

— Адрасат наўрад ці будзе супраць.

— Адрасат не супраць, — адказаў ты і ўсміхнуўся.

Толькі цяпер я зразумела: ты так зацікавіўся апавяданнем, бо думаў, што яно прысвечана табе. Я не стала расчароўваць цябе гісторыяй пра выкладчыка нямецкай мовы і пакінула магчымасць пацешыць мужчынскае самалюбства. Пагатоў, мне гэта было ў пэўным сэнсе выгадна — ты ўжо ведаў пра мае пачуцці. (Праўда, за таго выкладчыка крыху крыўдна: мабыць першы і апошні раз яму прысвяцілі твор, ды і той праз некалькі год дастаўся іншаму.)

Нарэшце, калі ўсё было зроблена і ўпарадкаванае апавяданне ляжала на стале, ты прапанаваў:

— Калі больш нікуды не збіраешся, я магу цябе падкінуць дадому.

Хто толькі ні кпіў са сціплых беларускіх пісьменнікаў, якія саромеюцца апісваць інтымныя сцэны. Ледзь толькі пачнуць героі палка цалавацца, як адразу:

«А за акном шумелі бярозы і цёмнае зорнае неба…»

Або:

«А над імі было высокае зорнае неба, і недзе далёка чуўся плёскат вады…»

Дык вось, зорнае неба, як заўсёды, было там, дзе яму і варта знаходзіцца, а Алеся ўсё-ткі мела рацыю.

Праз некалькі дзён ты запрасіў мяне з’ездзіць разам у госці да Андрэя Хрыпалюка. Спачатку я збянтэжылася і не адразу рашылася. Усё ж Хрыпалюк — вельмі вядомы кампазітар, песні яго мы развучвалі з малодшых класаў. І выпраўляцца ў госці да яго вось так, знянацку, без асабістага запрашэння… Ды ўсё ж спакуса пазнаёміцца з легендай, як ты выказаўся, была надта вялікай.

Хрыпалюк сустрэў нас цёпла, галантна пацалаваў мне ручку і кінуў на цябе такі красамоўны позірк, што яго лёгка было зразумець нават мне. «Ого! Якую ладную каханку ты займеў!»

У гасцёўні сядзела вельмі прыгожая жанчына гадоў пяцідзесяці. У яе паставе ўсё было настолькі эстэтычна, што яна здавалася часткай шыкоўнага інтэр’ера. Элегантная дарагая сукенка ідэальна пасавала да яе танклявай постаці, яна трымала доўгую цыгарэту ў прыгожых руках з бездакорным манікюрам і задуменна глядзела ў акно.

Я падумала, што гэта жонка Хрыпалюка, але памылілася.

— Людміла Нартоўская, — томным голасам прадставілася жанчына. — Магчыма, вы ведаеце майго мужа — ён драматург.

— Так, чытала яго п’есы і нават бачыла некалькі пастановак, — адказала я.

— Як прыемна мець справу з адукаванымі людзьмі, — дадала Нартоўская і падміргнула табе.

У пакой увайшла маладая прыгожая дзяўчына з шыкоўнымі даўгімі валасамі і паставіла на маленькі столік талерку з бутэрбродамі і вазу з садавіной, услед за ёй зайшоў гаспадар з каньяком і кілішкамі.

— Знаёмцеся, дзяўчаты. Гэта Наташа. Вы павінны паладзіць.

Наіўна было думаць, што гэта дачка кампазітара. Я ўсміхнулася і хацела нешта прамовіць, але Наташа кінула на мяне такі злосны позірк, што я сумелася і прымоўкла.

Пасля Хрыпалюк распавядаў розныя гісторыі са свайго багатага творчага вопыту, а Нартоўская раз-пораз уздыхала і томна прамаўляла:

— Так, так, ты абсалютна маеш рацыю, гэта так несправядліва!

Наташа моўчкі пацягвала каньяк і гартала альбом з рэпрадукцыямі Рэнэ Магрыта. Ты сачыў за тым, каб кілішкі нядоўга заставаліся пустымі, а я ўсміхалася, згодна хітала галавой і маўчала. Нарэшце Хрыпалюк гэта заўважыў.

— Чаму твая чароўная прыгажуня ўвесь час маўчыць?

— Ну, ты ж ведаеш, я не люблю, калі жанчыны шмат гавораць, — адказаў ты і засмяяўся. Але Хрыпалюк не супакоіўся:

— Можа, вы таксама пішаце вершы?

— О, не! — паспешліва дадала я, баючыся, каб мяне не змусілі чытаць вершы ўголас. — Я займаюся перакладамі.

— Праўда? — зацікавілася Нартоўская. — Гэта цяпер, мабыць, вельмі запатрабавана. А дзе вы працуеце?

Тут раптам праявіла цікавасць і Наташа, яна адклала ўбок свайго Магрыта і ўчыніла мне сапраўдны допыт. Я распавяла, што скончыла лінгвістычны ўніверсітэт, абараніла дысертацыю па перакладах Шэкспіра на беларускую мову, працую ў выдавецтве і перакладаю з англійскай і нямецкай моў. Яе цікавіла нават тое, адкуль я родам і чым займаюцца бацькі. Нарэшце я зразумела прычыну яе непрыязі: яна баялася, што магу заняць яе месца. Хто ведае, якім чынам яна пазнаёмілася з Хрыпалюком? Можа, яе таксама некалі запрасілі пазнаёміцца з легендай. Тады я, каб дзяўчына супакоілася і перастала спапяляць мяне позіркамі, пяшчотна прытулілася да твайго пляча, а ты, зразумеўшы гэта па-свойму, паклаў руку мне на калена. Відаць, гэта сапраўды Наташу супакоіла, бо яна перастала задаваць мне пытанні і зноў узялася за Магрыта.

Калі Нартоўская выйшла на кухню, каб пагутарыць з некім па тэлефоне, кампазітар раптам запытаўся:

— Слухай, а якія ў цябе планы на выхадныя?

— Здаецца, пакуль ніякіх.

— А можа, махнем да мяне на дачу ўсёй кампаніяй?

Я ніколі не была маралісткай. Тое, што палюбоўніца знакамітага кампазітара па ўзросце магла быць яму дачкой, гэта яго асабістая справа. Пагатоў, цяпер гэта не вялікая навіна. Але ў гарэзлівым тоне Хрыпалюка было нешта настолькі непрыхавана-непрывабнае, што мне проста не хацелася належаць да ягонай «кампаніі». Ты маўчаў, і я, баючыся, што можаш згадзіцца, пачала ветліва адмаўляцца:

— Ой, ведаеце, акурат на гэтыя выхадныя ніяк не атрымаецца…

І тут на «легенду» напала сапраўднае шаленства. Ён пачырванеў, нібы вараны рак, гучна адкашляўся і, схапіўшы са стала талерку з апошнім бутэрбродам, з усяго маху шпурнуў у мой бок.

— Не атрымаецца? Ды ты ўвогуле маеш уяўленне, з кім размаўляеш? Ты думаеш, гэта звычайная справа са знакамітым кампазітарам каньячок распіваць? Ты ўяўляеш, якія шалёныя грошы людзі плоцяць, каб хаця зазірнуць у грымёрку да

Кіркорава ці Пугачовай? Пайшлі вон! — закрычаў ён, не гледзячы на нас. — Забірай сваю ляльку і вымятайся, каб я цябе больш ніколі не бачыў у сваёй кватэры!

Калі мы выйшлі з пад'езда, панавала ўжо сапраўдная ноч. Я адчувала сябе абражанай ды расчараванай і таму не разумела прычыну тваёй весялосці. А ты з цяжкасцю стрымліваў смех ужо нават тады, калі нас выпіралі з кватэры.

— Не бачу ў гэтым нічога смешнага, — пакрыўджана прамовіла я, але ты працягваў рагатаць. — Адвязі мяне дамоў, — папрасіла я ледзь не са слязамі.

— Пачакай, — прамовіў ты, спрабуючы супакоіцца. — Зараз ён прыбяжыць прасіць прабачэння.

— Адкуль ведаеш? — здзівілася я.

— Адтуль, што ён так паводзіць сябе не ўпершыню.

Ну, тут я зусім пакрыўдзілася:

— Значыць, ты і раней да яго «лялек» прыводзіў?

Але табе не давялося нічога адказваць, бо, на тваё шчасце, у дзвярах пад'езда сапраўды з'явіўся Хрыпалюк з адчайна вінаватым выглядам. Ён паляпаў цябе па плячы:

— Я тут лухты нагарадзіў. Ты даруй мне, дурню старому.

— Не пытанне, праехалі, — весела згадзіўся ты.

— І ў дзяўчыны сваёй папрасі за мяне прабачэння, — дадаў ён так, нібыта мяне не было побач. — Яна слаўная. Прыходзьце яшчэ. — Ён рэзка развярнуўся і знік за дзвярыма, а ты зноў пачаў рагатаць.

— Ну што тут такога ўжо смешнага? — нарэшце запытала я.

— Ты проста не ўяўляеш, як жа гэтым нашым знакамітым не стае прызнання іх знакамітасці. — І раптам цалкам сур'ёзна дадаў: — Шкада старога, ён сапраўдны прафесіянал.

Я ведала, што гэта так, але разумела і тое, што ўжо ніколі не буду захапляцца ягонымі песнямі.

Пасля мы паехалі да цябе, і я, падагрэўшы сваю фантазію віном, якое аказалася ў тваёй лядоўні, прапанавала табе пагуляць «у Барадуліна».

Гэта было студэнцкае вынаходніцтва. Збіралася вялікая кампанія, нехта прыносіў «Дуліну ад Барадуліна». Адзін называў нумар старонкі, другі мусіў прачытаць на гэтай старонцы верш, і калі там аказваліся нецэнзурныя словы, чытальнік здымаў з сябе нешта з адзення. Гэта заўсёды вельмі смешна і весела, калі кампанія вялікая, а калі гуляць у такую гульню толькі ўдвух, то зразумела, чым яна можа скончыцца. Карацей, «за акном было высокае зорнае неба», і я спадзяюся, што ў тую ноч народнаму паэту сніліся добрыя сны.

Праз некалькі тыдняў маё апавяданне пабачыла свет. Ты падрыхтаваў для мяне пяць асобнікаў газеты і аддаваў іх з такім урачыстым выглядам, нібыта адбылася немаведама якая значная падзея. Ну, вядома, для любога творчага чалавека гэта падзея, але для мяне падзеяй была сустрэча з табой, і дзеля таго, каб проста знаходзіцца з табою побач, я магла напісаць хоць дваццаць апавяданняў. А ты нічога не разумеў і шчыра верыў у тое, што шчасце маё выклікана газетнай паласой з маім прозвішчам і фотаздымкам. Па праўдзе кажучы, мне было нават крыху сорамна…

Пасля мы некалькі месяцаў не бачыліся. Праўда, я сачыла за тваім жыццём па інтэрнэце і ведала, што ты заняты выданнем новай кнігі. Нарэшце ўбачыла яе на паліцах «Кнігарні пісьменніка». Набыла, прыбегла дадому і прачытала запоем за якую гадзіну. Але, загарнуўшы апошнюю старонку, зразумела, што амаль нічога не памятаю. Чытаючы, я думала пра цябе, хвалявалася… Адным словам, давялося перачытваць — на гэты раз спакойна, удумліва.

Няважна, што я думала пра гэтую кнігу. Падабалася яна мне ці не, не мела аніякага значэння. Тады ў мяне не было жадання разбірацца і я ўсё адно не сказала б табе праўды. (Неяк Алеся прадказала, што маё каханне скончыцца, калі я змагу сказаць табе праўду.) На той час значэнне мела толькі тое, што гэта была *твая* кніга.

Нарэшце мы сустрэліся. Я нешта гаварыла без ладу і складу і яшчэ больш бянтэжылася ад таго, што так бянтэжуся. А ты быў вельмі задаволены сабою, бо лічыў, што зрабіў мне вялікую ласку, надрукаваўшы апавяданне. Мужчыны любяць адчуваць сябе ў ролі дабрачынцаў.

— Маю для цябе падарунак, — урачыста прамовіў ты і працягнуў сваю кнігу. Я разгарнула яе і прачытала аўтограф:

Ёсць і ў багны чаканае дно,
Акрылёна-чароўная панна.
Недзе ж сонца над намі відно,
І зняверавацца вершамі рана!

Гэта было прыгожа, многа для мяне значыла. Ты прысвяціў мне верш. Ты думаў пра мяне… Я перачытвала аўтограф безліч разоў, уранку і ўвечары, як малітву. Твой почырк! Словы, напісаныя тваёй рукой для мяне!

Цяпер думаю, што насамрэч гэта вельмі ўдалы аўтограф — яго можна прысвяціць любой жанчыне, і кожная будзе перакананая ў яго ўнікальнасці. Я не ўпэўнена, што ты не прысвячаў яго яшчэ каму-небудзь. Але гэта цяпер, а тады…

А тады ты проста знік.

Спачатку я чакала. Пасля спрабавала тэлефанаваць, але ты не здымаў слухаўку. Пасля я зноў чакала, прыдумляючы табе апраўданні, праз колькі дзён не вытрымлівала і зноў хапалася за тэлефон. Усё было марным: ты не хацеў мяне бачыць, і я не магла гэтага не разумець. І ўсё-ткі...

Усё-ткі ў мяне не ставала сілы волі, каб вось так раптам прызнаць сваю паразу. Неяк аднойчы, цудоўна ўсведамляючы, наколькі гэта для мяне прыніжальна, я даўмелася пазваніць табе са службовага тэлефона.

Ты гаварыў, што быў вельмі заняты, што цябе не было ў краіне, што глючыць тэлефон... Вядома, я табе не верыла, але сказала, што страшэнна засумавала і хачу сустрэцца. І ты згадзіўся — вельмі лёгка, проста і весела. Мы дамовіліся стэлефанавацца на наступны дзень, і я амаль забылася пра сваё прыніжэнне.

Амаль. Насамрэч на душы было вельмі пагана. Я ведала, што ніякай сустрэчы не адбудзецца.

Доўга праседзела ў кавярні, спрабуючы ўратавацца ад адчаю алкаголем, пасля гадзіну каталася ў метро, неяк вяла дабрыла да пад'езда і нос у нос сутыкнулася з Алесіным кавалерам. Яны пачалі сустракацца не так даўно — месяцы са два таму, але я паспела ўжо з ім пазнаёміцца. Дзяніс быў нечым вельмі абураны, і ягонае абурэнне шукала падтрымкі.

— Уяўляеш, Алеся папрасіла мяне з'ехаць! Пасля таго, што паміж намі адбылося! Яна проста сказала: апранайся і вымятайся!

— Можа, яна не гатова яшчэ бегаць раніцай перад табой у халаціку без макіяжа, — паспрабавала я апраўдаць сяброўку.

— Магчыма. Але я адчуваю сябе, як танная партовая выляжанка.

Гэта былі менавіта тыя словы. Тое, у чым я баялася сабе прызнацца.

— Я таксама.

— Што таксама, — не зразумеў Дзяніс.

— Таксама адчуваю сябе, як танная партовая выляжанка, — прамовіла я і нарэшце расплакалася...

Ты заўсёды знікаў раптоўна — без папярэджанняў, тлумачэнняў і выбачэнняў — на месяц, два, тры, на паўгода. А калі з'яўляўся, то быў такім уважлівым і пяшчотным, што крыўда мая праходзіла праз некалькі хвілін: тады яшчэ кілішак майго сляпога даверу да цябе не быў перапоўнены. Але так не магло працягвацца бясконца. І вось аднойчы ты знік назаўсёды. То бок я вырашыла, што назаўсёды — закруціла раман з першым-лепшым, хто трапіўся пад руку, і выйшла за яго замуж. Натуральна, нічым добрым гэта скончыцца не магло. Праз пару месяцаў мы развяліся.

І я ўсё адно згадвала цябе кожны дзень, сачыла за табой па навінах і плётках. Не ведаю, чаму, але гісторыі пра цябе заўсёды мяне знаходзілі. Ад зусім выпадковых людзей, якія нічога не ведалі пра мае пачуцці. Таму, калі ты нарэшце патэлефанаваў мне і прапанаваў сустрэцца, я не здзівілася. Бо насамрэч ты не знікаў з майго жыцця, а заўсёды быў недзе побач.

Мне давялося збегчы з працы, але спатканне з табой важней за нараканні начальства.

Ты чакаў мяне ў машыне. Я села побач, з цяжкасцю стрымліваючы хваляванне.

— Ну, хваліся, што новага?

Хваліцца мне асабліва не было чым, але пра нешта я ўсё ж табе распавяла… Хаця сказаць мне хацелася толькі адно: кахаю, кахаю! Няўжо ж ты не разумееш, што я цябе, сволач гэткую, кахаю! Кахаю і нічога не магу з гэтым зрабіць. Столькі было надумана тэорый за той час, што мы не бачыліся, я амаль пераканала сябе ў тым, што ты для мяне анічога не значыш, і ўсё разбурылася ад адной тваёй усмешкі.

Я адкінулася на спінку сядзення, заплюшчыла вочы і глыбока ўздыхнула.

— Што так цяжка ўздыхаеш?

І ён яшчэ пытаецца?! Я маўчала, а ў скронях грукатала: альбо абняць яго, прытуліцца, альбо надаваць аплявух. Але я толькі ціха прамовіла:

— Ты ўсё цудоўна разумееш.

Пэўны час мы маўчалі, а пасля ты вырашыў зрабіць размову не такой напружанай, пачаў жартаваць, распавядаць пра нейкія літаратурныя справы. Пакрысе я супакоілася настолькі, што магла ўсміхацца і адказваць. Ты дастаў з задняга сядзення кнігу і падаў мне. Гэта была прыстойна выдадзеная кніга ў цвёрдай вокладцы, на добрай паперы. Ты расказваў мне пра аўтара, але я слухала няўважліва: ні аўтар, ні кніга мяне не цікавілі. Я насычалася тваім голасам, назірала за тваімі рухамі і думала толькі пра тое, што ж я павінна зараз сказаць, зрабіць, каб гэтая сустрэча не была апошняй. Але галоўнае да мяне дайшло: аўтар быў рускамоўны, і ты ягоную кнігу пераклаў.

— Праз два тыдні плануецца прэзентацыя. Я цябе запрашаю — як прафесіянала гэтай справы, як перакладчыка. Прыйдзеш?

Ты сам прапаноўваў мне наступную сустрэчу. Вядома, я згадзілася. Пасля ты папрасіў напісаць рэцэнзію і выступіць на вечарыне. Выступаць мне ніколі не падабалася, але дзеля цябе я гатова была і на значна большы гвалт над сабою. Карацей, я згаджалася з усім, але глядзела на цябе, мабыць, такімі тужлівымі вачыма, што ты нарэшце апамятаўся і ўдавана пяшчотна дадаў:

— Ты цудоўна выглядаеш. Проста не магу налюбавацца.

Я ведала, што гэта звычайны камплімент, у які ты не ўкладаеш аніякага асаблівага сэнсу. І ўсё-ткі, усё-ткі… Ты ўзяў мяне за руку, крыху сціснуў у сваёй і вялікім пальцам пагладзіў срэбны пярсцёнак у выглядзе дэльфіна, які я нашу з трынаццаці гадоў. Спатканне было закончана, і я разумела, што мне трэба раз-

вітацца і пайсці. А каб я не мела магчымасці затрымацца, ты выйшаў з машыны і адчыніў мне дзверцы.

Крыўдавала на цябе я не за тое, што пасля такога працяглага маўчання ты сустрэўся толькі таму, што табе спатрэбіліся мае паслугі. Не, балюча было ад іншага. Магчыма, ты думаў, што за гэты час мае пачуцці зменяцца, магчыма, ты нават наўмысна даў мне гэты час… Але твой жэст на развітанне — такі пяшчотны і даверлівы на першы погляд. І такі дзяжурна-абыякавы насамрэч. Я адчула гэта ўсёй сваёй істотай, і нешта ўнутры абарвалася. Гэта было ўсё адно як падачка галоднаму сабаку. Маўляў: але! яна ж чакае ад мяне нейкай ласкі, ну, дык вось табе, маеш, пацiснуў ручку… Зрэшты, хто ведае, магчыма, я і глядзела на цябе менавіта вачыма галоднага, пабітага сабакі. Цяпер я магу сабе ў гэтым прызнацца. Але гэта цяпер, а тады…

Тады я не адмовілася ад намеру выканаць тваю просьбу. Пачала чытаць кнігу без асаблівага імпэту — ні тэма, ні сюжэт мяне не зацікавілі. Але… старонак праз дваццаць зразумела, што ніякага перакладчыка не было. То быў грубы, неадаптаваны камп'ютарны пераклад — не адаптаваны да такой ступені, што цэлыя абзацы выглядалі суцэльнай бяссэнсіцай. Добры сябра Белазар...

І гэта была апошняя кропля ў кілішак майго даверу да цябе.

Я не ведаю, навошта так спяшаліся з выданем кнігі. Няўжо яе нельга было хаця б элементарна па-карэктарску вычытаць? Я не разумею, навошта ставіць сваё прозвішча пад такой халтурай? Усё, што я магла зрабіць для цябе — не выказваць свайго меркавання публічна. То бок не пісаць рэцэнзіі і не выступаць на прэзентацыі. Нават у такой паганай сітуацыі я не магла табе здрадзіць. Праўда, ты наўрад ці гэта ацаніў...

Але і такое я змагла б як-небудзь апраўдаць, калі б не той абыякавы жэст. Ён нібыта ацверазіў мяне, і я нарэшце зразумела, што было відавочна з самага пачатку: таго чалавека, якога я ўвесь гэты час кахала, насамрэч ніколі *не існавала*. А значыць, *не было* і кахання.

* * *

Ух! Як я цябе напалохала! Уяўляю, з якой палёгкай ты ўздыхнуў, дачытаўшы да канца, бо насамрэч праўды пра цябе тут не так ужо і многа. Уся соль у тым, што пра гэта ведаем толькі мы з табою, а астатнія абавязкова павераць.

А калі сур'ёзна, то ўсё-ткі кідаць маладзенькіх дзяўчат трэба так, каб у іх вачах усё адно застацца героем. Гэта сяброўская парада. Абавязкова яшчэ знойдзецца летуценніца, якая закахаецца ў твае вершы. А для мяне ты не здолееў захаваць сваё гераічнае аблічча, і ў маіх успамінах пра цябе ўжо даўно няма паэзіі. Пакуль яна была, твой вобраз у маім уяўленні заставаўся нязменным. Калі яна знікла, я заўважыла, што ты крыху пастарэў за гэты час, і ўсмешка твая ўсё часцей застаецца толькі на вуснах і не адбіваецца ў позірку — ужо не такім ясным, і стомы ў вачах тваіх болей, чым бадзёрасці. Ты абзавёўся класічным мужчынскім брушкам, якое сведчыць пра дабрабыт і паспяховасць уладальніка…

Адным словам, чалавек для цябе я цяпер цалкам бяспечны: вершаў больш прысвячаць не буду і сустрэчы шукаць таксама. І калі нам з табою давядзецца спаткацца на мінскіх вуліцах, я ўжо не буду прасіць позіркам: «Ты болей мяне не калеч». Скалечанае табой маё каханне ніколі не вернецца. Ёсць у жыцці рэчы незваротныя. Бо жанчына можа дараваць мужчыне ўсё: здраду, подласць, слабасць. Усё што заўгодна, акрамя аднаго — свайго расчаравання ў ім.

*Мікола МАЛЯЎКА*

# ГЭТА РЭХА З ГАДОЎ МАЛАДЫХ...

**НА РАЗВІЛЦЫ**

Кожны дзень
У жыцці сваім
Перад выбарам мы стаім.

І не проста
Без страт і крыві
Выбар пэўны
Зрабіць наперад —
На развілцы любві,
На развілцы сумлення і веры.

Не заўсёды
Спрыяе нам Бог
Годна трымацца
Ў падзей крутаверці —
На развілцы дарог,
На развілцы жыцця і смерці.

Што чакае далей —
Там, за імглою часу?
Яснага мы
Не бачым адказу
І на развілцы вызначаемся нездарма —
Шляху назад
Няма.

* * *

Вяртаем
У свет жывых
Усіх, хто падняўся да Бога высока.
Для гэтага —
Ёсць памяць галавы,
Ёсць памяць рук,
Ёсць памяць вока.



*Мікола Маляўка нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў філфак БДУ, настаўнічаў, працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні. Цяпер — у часопісе «Вясёлка». Аўтар шматлікіх кніг для дарослых і дзяцей. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

**Чым каштоўная для нас літаратура прадстаўнікоў старэйшага пакалення? Канечне, магчымасцю напоўніцу ацаніць і, магчыма, пераняць іх майстэрства, а таксама мудрасцю — не толькі пісьменніцкай, але і жыццёвай. 13 снежня вядомы творца Мікола Маляўка адзначыць сваё сямідзесяцігоддзе. Рэдакцыя «Маладосці» шчыра віншуе Мікалая Аляксандравіча з юбілеем, жадае здароўя, даўгалецця і ўсіх даброт, асабліва — далейшага плёну ў творчасці, якая радуе і натхняе чытачоў.**

***Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»***

А як вярнуць
І радасць,
І боль,
І скруху,
І веру,
І праўды соль,
І энергію
Чалавечага духу?..

Для гэтага —
Ёсць памяць душы:
Яна, грэшная і святая,
Адтуль, з-за нябыту мяжы,
І думкі,
І клопаты,
І пачуцці вяртае.

**НАДЗЕЯ**

Яна адпрэчвала трывогу,
Яна то зблізку, то здалёк
Трымцела, вабячы ў дарогу,
Як залацісты матылёк.

Я быццам чуў далёкі голас,
І весялела ў жылах кроў, —
Не матылёк ужо, а голуб
Мяне на голас дзіўны вёў.

Яна бадзёрыла ўсё болей,
Яна жывіла думак рух,
Каб мы сустрэліся з табою
На скрыжаванні лёсаў двух.

Даўно надзея стала верай,
А з верай разам і любоў
Крыляюць над зямлёю шэрай,
Як пара белых галубоў.

**АПОРА**

Наплывуць,
Улагодзяць
Пра маму
Вечаровыя думкі-ўспаміны —
І яснеюць вочы памалу,
І разгладжваюцца маршчыны.
Я вяртаўся пасля разлукі,
Каб у родным свеце сагрэцца,
Апіраўся на матчыны рукі,
Апіраўся на матчына сэрца.
Не здагадваўся ў сталым веку,
Над магілай панікшы ад гора,
Як нялёгка ў жыцці чалавеку
Без душэўнай гэтай апоры.
Я на рукі свае спадзяюся
І на сэрца сваё — таксама,
Ды яшчэ не раз
Абапруся
На ПАМЯЦЬ
Пра маму.

**ЯК ВЯСНА МАЛАДАЯ…**

Ах, гэта рэха
З гадоў маладых,
Не змаўкае яно
І зімой ледзяною.
Заварожвае голасам,
Б’е пад дых,
Лашчыць слых
Абарванай струною.

Слухаць душою
Бясконца гатоў,
Быццам дрэвамі
Сталі ўспаміны, —
І гудуць яны,
Дрэвы маіх гадоў,
Ад асновы камля
Да крутой вяршаліны.

Абляцелі юнацкіх
Ілюзій лісты,
Снег сівізны
З галавы не спадае.
Рэхам зімовым
Вярнулася ты —
І стаіш уваччу,
Як вясна маладая.

*Анатоль КАЗЛОЎ*

# АБГАНЯЮЧЫ СНЫ*

***Аповесць***

Вам даводзілася бачыць, як паміраюць дэльфіны? Не? А як яны займаюцца сексам? Ага, таксама не бачылі… Вось і мне не пашэнціла ўгледзець ні першае, ні другое пра дэльфінаў. А калі-небудзь ваш позірк чапляўся за ягня з дзвюма галовамі, альбо спатыкаліся вы вачамі аб мядзяны поўнепадобны твар Іван-Мар’і? Ну, гэта калі твар адзін, а ніжэй пупка (даруйце) два ў адным… Навошта так непрыхавана пасміхацца? Ды і не трэба пальчыкам свідраваць скроню. Адкуль я магу ведаць, што сёння на першым плане ў Іван-Мар’і: мужчынскі ці жаночы пачатак… Матухна прырода паздзекавалася з чалавека. Вы не пагаджаецеся, гаворыце, што гэта ўсяго толькі жарт. Нават не кпіна з чалавечага цела… У такім выпадку Бог вам суддзя. Бо не думаеце вы пра душу. Але, але, слушна падказваеце: душа — не цела. Яе не відаць, і твару ў яе няма. Для вас важней абалонка паветранага шара, а чым ён надзьмуты — другаснае. Так? Бачу сумнеў у вашых вачах. Не? Вы абыякава перасмыкаеце плячыма і ўнурваеце галовы ў плечы… Душа, цела, смерць дэльфінаў, ягняты з дзвюма галовамі… ці так гэта важна, калі на вуліцы вясна, а горад захлынаецца цяплом сонца, ажывае кволай зелянінаю дрэў паўз шырокія праспекты на чыста вымеценых бульварах. На лапіках паркаў і сквераў цвінкаюць вяртлявыя сініцы, лаўкі перапоўнены гаманлівай моладдзю, а фантанчыкі пстрыкаюць у глыбокую сінечу неба хларыраванымі струменямі. Самы час зазірнуць у бліжэйшы прыгарадны Дом адпачынку ці санаторый, а я вам пра Івана-Мар’ю. Можна і на егіпецкае ці турэцкае ўзбярэжжа. Вы не



*Анатоль Казлоў нарадзіўся ў 1962 годзе ў в. Асінаўка Краснапольскага раёна. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Працаваў рэдактарам аддзела нарыса і публіцыстыкі ў часопісе «Полымя», галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Выдаў кнігі прозы «Міражы ценяў», «… І тады я памёр», «Незламаная свечка», «Юргон», «Горад у нябёсах», «Минск и ворон, Париж и призрак».*

**Нельга не адзначыць сакавітай мовы пісьменніка, яго лаканічнага і ёмістага стылю. Вельмі перспектыўным для нашай літаратуры падаецца мне і распрацаваны ім жанр міні-рамана: твора невялікага па памерах, але значнага па колькасці падзей, персанажаў, месцаў, а галоўнае — па сэнсе.**

**Можна быць, Анатоль Казлоў — беларускі Стывен Кінг?**

**Хоць у яго творах багата і містыкі, і магіі, і жорсткасці, і душэўнага змроку, персанажы Казлова падсвядома адчуваюць сябе часцінкай народа, які на доўгі час быў пагружаны ў стан духоўнага здранцвення, забыцця.**

***Ягор КОНЕЎ***
***Рэцэнзію на кнігу «Юргон» А. Казлова*** ***чытайце на с. 91.***

* Часопісны варыянт.

супраць Іспаніі, Балгарыі і Чарнагорыі? Я ж раю гайсануць у Ізраіль альбо ў Італію. Едзьце, ляціце, плывіце, бяжыце і дыхайце на поўныя грудзі. Сустракайцеся, кахайце, здраджвайце тым, кім захапляліся! Дайце гэтай вясною вольніцу сваім двухаблічным Іванам-Мар'ям, прыхаваным і прыдушаным пячонкаю, засунутым у апендыкс. Бо ўсе вы (даруйце, мы) Іваны-Мар'і і двухаблічныя Янусы. Не, не цялесна. Дзякуй Богу. Я — пра нашы патаемныя памкненні і жаданні, пра чарвяка здрады ў сэрцы, падсвядомыя хаценні, пра сны, у якіх мы не прывязаны да аднаго ці адной і на ўсё жыццё! Я пра цялесную насалоду гавару, адкідваючы ў каналізацыйныя люкі словы: «Нельга! Як можна! Што скажуць!..»

Вось, некаторыя з вас грэбліва скрывілі вусны. Праз зубы сёй-той гатовы выціснуць: «Разбэшчаны падонак, збачэнец. Ату, на шыбеніцу яго, ізаляваць, расстраляць! Чаму ён навучыць моладзь?!» Не гарачыцеся, шаноўныя, не трэба. Вучыць нікога не варта. Усе даўно навучаны. Вамі ж навучаны. Я хачу аднаго — шчырасці! Наколькі можна. Бо ўсё роўна, як ні старайся, як ні вымольвай, а самае патаемнае застанецца недасягальным для староннягa вока. Сыдзе яно разам з кожным у нябыт. Гэта яшчэ адзін закон жыцця. Нашага з вамі жыцця. Вось чую гнеўныя воклічы «шэрых мышак». Яны, шэрыя мышкі, сінія панчошкі, даядаюць сакавіты яблык толькі дзеля таго, каб шпурнуць агрызкам мне ў пераноссе: праведнік чортаў! Не, я не праведнік, даражэнькія, а такі ж затурканы, задзёўбаны жыццём чалавек, з процьмай патаемных (часам непрыгожых) жаданняў і хаценняў. Як і большасць з вас, хаваю яго (свой сверб) ад людскога, вашага вока. Таксама нашу крыжык на целе з надзеяй, што ён, мой абярэг, дапаможа мне «быць, як і ўсе»: правільным. Вось бачыце: нічым я не адрозніваюся ад іншых. Такі ж мізэрны ў сваёй велічы. Бо, як і ўсе, жыву ў грамадзе. А закон грамады важнейшы за асобу.

Ды не буду я пра нізкае і жывёльнае, павяду гаворку пра высокае і незямное, асветленае і асвечанае тысячагоддзямі. Так-так, пра Чалавека гавару. А вы ўсё патрабуеце пра каханне, пра каханне… Чалавека ж не бывае без кахання, як не можа быць наступнага дня без ранішняй зоркі і вечарніцы. Вось толькі каханне ў кожнага мае свой, адметны, прысмак, пах, вышыню і даўжыню. Што, не згодны? Ага, тады зірніце за акно сваёй спальні. Помніце, учора была вясна з цёплым сяйвом сонца, а сёння што бачыце? Так, снежная пацяруха на кволай зялёнай лістоце дрэў. Прыціхлі сініцы, апусцелі лаўкі ў скверах і парках, галапузая моладзь усцягнула на плечы цёплую вопратку, а над жалезным, без пеністых струменяў, шчэццем фантанаў — шэрае нуднае неба. Куды падзелася аквамарынавая нябесная глыбіня з ласкавай цеплынёй промняў? Вось так яно, мае шаноўныя: вясна пабралася з зімою, а ўзнёсласць пачуццяў абрынулася ў самы ніз, на дно, і нават светлай макаўкі яе не бачна. Шкада, што нам часта даводзіцца забываць, як мяняюцца месцамі верх і ніз. Адзін кульбіт, лёгенькая хвалька, штуршок, пстрычка пальцаў, і вось маем: тое, што напярэдадні было ўверсе, апынаецца ўнізе, і наадварот. Яшчэ адзін закон зменлівай вечнасці. А колькі іх яшчэ!..

Не трэба папракаць мяне ў чарговай банальнасці. Самае дзіўнае ў тым, што чым складаней паняцце, тым яно банальней і прасцей. Усё самае складанае ў жыцці да прымітыўнага банальнае. Чарговы закон вечнасці…

Аднойчы я змяшаў чорную фарбу з белай. Мне карцела атрымаць шэры колер. І што вы думаеце я ўрэшце атрымаў?.. Не напружвайце звіліны. Я атрымаў такі колер, які хацеў. Але гэта было маё разуменне шэрасці, маё бачанне яе гушчыні і насычанасці. Толькі маё асабістае! У вас атрымалася б па-іншаму. Смешна? Не ведаю, як вам, а мне сумна…

* * *

Ён выйшаў з метро ў прыцемках. Травень яшчэ не ўвабраўся ў сілу, не перакаціўся праз сваю лысаватую сярэдзіну. Бо вясна была позняй, зацяжной і халоднай. Увесь час дзьмулі паўночна-ўсходнія ветры. Начамі яны натужна вылі, шасталі між шматпавярховікамі як галодныя бяздомныя сабакі, біліся ў вокны, выстуджвалі кватэры. Сапраўднага вясенняга цяпла людзі яшчэ так і не адчулі.

Ён ішоў па бязлюдным тратуары, хаваючы твар пад насунутым на самыя вочы башлыком. Куртка напіналася ветрам, шаргацела пад раз'юшанымі парывамі. Здавалася, што калі б расшпіліць гузікі і расхінуць крысо апраткі, то Ікарам можна было ўзвіцца ў цяжкаватае хмарнае неба, а вось прызямліцца наўрад ці ўдалося б. А навошта? Куды, дзеля чаго? Юджын ішоў у ноч. Яго ніхто цяпер не чакаў, не завіхаўся каля пліты, каб згатаваць вячэру. Ягоны сябра і спадарожнік вецер імкнуўся падсобіць, падкінуць чалавека ўвышкі, але ж той не разумеў намаганняў вольнага беспрытульніка, таму і дыбаў у невядомасць, упіраючыся галавою ў пругкія хвалі ветру, нагінаючыся і прабіваючы плечуком іх халодныя абдымкі.

«Навошта, ну навошта іду пад чужыя цяпер вокны? Каб яшчэ раз зразумець, што ніхто там мяне не чакае? А, можа, раптам?.. — мужчына сам сабе крыва ўсміхнуўся. — Ніякага "можа" не здарыцца. Пастаю, пагляджу ў асветленыя вокны на шостым паверсе і пасунуся на вакзал. Я быў шчаслівы, але не разумеў гэтага. Звыкся са сваім шчасцем. Яно падалося мне заўсёдным, вечным і нязменным. Магчыма, што ў нейкі момант я насыціўся ім. Ці прыелася яно мне, як грэцкая каша, якую спажываеш на снеданне, абед і вячэру… Захацелася іншага смаку, нечага смажанага альбо печыва з разынкамі хапануць напоўніцу». Юджын збочыў з тратуара на лясную добра ўтаптаную сцежку, пайшоў напрасткі. Ён углядаўся пад ногі, каб не зачапіцца абуткам за вузлаватыя карані елак, якія, быццам гіганцкія спруты шчупальцамі, аплялі сцяжыну. Так Юджын часта хадзіў з Русланаю на працу, разам яны прагульваліся ў выхадныя і святы ў гэтай лесапаласе, якая падзяляла ці не тры мікраараёны горада і праз якую шматлікія тутэйшыя жыхары праcтквалі дарогу да метро. Як ні дзіўна, але ў гэтым ляску атабарыліся вавёркі. Не адна-дзве, а дзясяткі пухнатых рудаватых звяркоў. Менавіта зімою яны радавалі гараджан, асабліва дзятву і пенсіянераў. Але тое ўсё — у мінулым для Юджына. У мінулым ранішнія прабежкі з Русланай, шашлыкі «па-паходнаму», тут, непадалёчку. Ён, яна, іх сябры. Русланіны сябры. Дзіўна, але нават сваіх сяброў у Юджына не было. Ні раней, ні цяпер. У яго былі яе сябры, Русланіны…

«Ну чаму, чаму чалавек змушаны ўсё жыццё вучыцца на сваіх памылках? Навошта набіваць гузакі на ілбе, ведаючы, што мільёны да цябе іх ужо панабівалі: крывавасінюшных, ацёчных. Асцярэгчыся б, абысці, ухіліцца… Аж не — пнуся напралом, не зважаючы на вопыт братоў па няшчасці. Няўжо ўсе мы, мужчыны, настолькі дубовыя і не здатныя ўспрымаць горкі набытак папярэднікаў? Няўжо? — невядома ў каго пытаўся Юджын, углядаючыся ў пагусцелы змрок між елак. — Я кахаў і кахаю Руслану. Самому сабе не схлусіш. Збіраўся пражыць з ёю да глыбокай старасці, да тых дзён, калі падаюць адно аднаму напіцца. Не так і важна было, што лёс не даў нам нашчадкаў. Я і Руслана зжыліся ўжо з гэтай думкаю, змірыліся раз і назаўсёды. "Ты маё самае вяліка-малое дзіця", — часта жартавала яна, барукаючыся ў ложку. Гадамі мы дыхалі адным дыханнем, глядзелі аднолькава шмат на якія рэчы і падзеі. Нават думалі часта аднолькава. Але ў адзін чорны дзень мне падалося, што гэтага мала. Не, не мала, а недастаткова для майго мужчынскага шчасця. І панеслася, пакацілася мая бяздумная галава па купінах жыцця…»

Сцежка падвяла да шырокага палатна дарогі. Па шашэйцы стомленымі жукамі цягнуліся легкавікі, укормленымі вусенямі паўзлі аўтобусы. Каб перайсці на другі бок дарогі, даводзілася счакаць вечаровы наплыў жалезных монстраў на святлафоры. Побач з Юджынам спынілася бабулька, якая нагадвала багамола. Яна моцна трымала за руку дашкольніка. Хлопчыку чакаць няўсцерп, ён быццам на шарнірах: тузаецца, круціцца на ножках управа-ўлева, плечукі пад лёгкім палітончыкам падаюцца то ўперад, то назад, галава ў вязанай шапачцы — як завадная. Назіраючы за ім, Юджын падумаў, што менавіта так і ён сябе паводзіў у тыя два тыдні, калі Руслана з'ехала да хворай сястры ў Крым. Яго распінала, ён захлынаўся незразумелай воляй. Свабо-да. Сва-бо-да! Цяпер ён разумее, што ніякай воляй і свабодай тое не было. Але як толькі аддаліўся ад перона цягнік «Мінск — Сімферопаль», Юджын заспяшаўся па спіртное. Было толькі восем раніцы, а ён, набыўшы тры пляшкі нямецкага цёмнага піва, прысеў за вынасны столік у пластмасавае ж крэселка і з незразумелай асалодай зрабіў некалькі глыткоў. Усё спрыяла выдатнаму настрою: выхадны дзень, ён адзін (упершыню за некалькі гадоў без Русланы), п'е нядрэннае піўко і ў яго вольная (воль-на-я!) кватэра. Ён адзіны гаспадар на два тыдні ў іх з Русланай кватэры…

Прапусціўшы апошнія пару машын, бабуля з унукам і Юджын перайшлі дарогу. Вецер, здаецца, крыху аціх. Зашамацелі дажджынкі па куртцы, вышчарбленых плітках тратуара, па лісціках прыдарожных ліпак. Бабулька з унукам схаваліся ў бліжэйшым пад'ездзе дзевяціпавярховіка. Юджын прыцішыў крок. Да яго з Русланай дома (не, цяпер ужо не яго) засталося прайсці адзін прыпынак. Што ён шукае? Чаго патрабуе ад былой сваёй жанчыны? Учарашні дзень яму хочацца вярнуць? Ці шкадобы захацелася ад той, якую прынізіў бяздумнай здрадай? Па шчырасці, Юджын і сам не ведае, што ці хто прымушае яго прыязджаць, прыходзіць, вяртацца да мінулага. Да шчаслівага, непаўторнага, роднага, блізкага, але цяпер такога далёкага і незваротнага мінулага. Але кожны вечар, як толькі пачынае на вуліцы шарэць, ён спускаецца ў метро, сядае ў вагон і, прымружыўшы вочы, едзе ў гэты мікраараён, да гэтага шэрага дома, каб паглядзець на ўсё яшчэ не чужыя для яго вокны шостага паверха.

«Сёння слотна на вуліцы, доўга не вытрымаю. Лепш прабрацца ў пад'езд дома, што насупраць Русланінага, — разважае сам з сабою Юджын, прыпальваючы чарговую цыгарэту. — Там з лесвічнай пляцоўкі можна паназіраць за маёй любай. Аблашчыць хоць здалёк позіркам. Падымуся вышэй, да сёмага паверха, і ўсё будзе бачна, як на далоні. Клятыя кодавыя замкі. Без чыпа не прабярэшся. Застаецца схітраваць».

Мужчына спыняецца ля пад'езда, глядзіць на таблічку з нумарамі кватэр. Тут са 137-й па 151-ю. Ён набірае 150-ы нумар. Слухае працяглыя гудкі дамафона. Нарэшце голас:

— Хто там?

— Добры вечар, — вітаецца Юджын. — Разносім газеты «Мінск на далонях», адкрыйце, калі ласка, дзверы.

Працяглы зум і шчаўчок. Юджын хаваецца ад ветру ў задушлівай цішы пад'езда. Тут клубком спляліся пахі вечаровых сталоў і смеццеправода. Чаго больш — і не зразумееш вось так, з наскоку.

«Няма куды спяшацца, падымуся пешкі». Ён цярэбіць прыступкі спружыністым крокам. Чым вышэй узбіраецца, тым падаюцца бліжэй асветленыя вокны шостага паверха ў доме насупраць. Святло запалена і ў зале-спаленцы і ў варыўні-куханьцы.

«Руслана эканомная гаспадыня, з чаго б ёй так раскашаваць?» — здзіўляецца Юджын і прыпыняецца на лесвічнай пляцоўцы чацвёртага паверха. Прытуляецца ілбом да бруднаватай халоднай шыбіны акна, углядаецца і нічога (нікога) не бачыць…

* * *

Дапіўшы трэцюю пляшку піва і смачна зацягнуўшыся цыгарэтай, Юджын нечакана для сябе зразумеў, што яму анікольвечкі не сумна без Русланы. Няхай шчасліва коціцца яна пад перастук цягніковых колаў на крымскае ўзбярэжжа да хваравітай сястрыцы, з якой ён усё яшчэ незнаёмы. Адпачнуць урэшце адно ад аднаго: Юджын ад Русланы, а Руслана ад Юджына. Цяжка ўвесь час грэцца пад сонцам, часам хочацца і ў цяньку пасядзець. Заліваючы шлунак віном, няхай і вышэйшага гатунку, не варта адпрэчваць насалоду ад сагрэтага далонямі каньяку. Як кілаграмамі спажываючы зялёныя яблыкі, грэбліва пазіраць на спелую сакавітасць кавуна? «Ё-маё! — вырвалася ў мужчыны, — хапану поўнымі шчэлепамі кахання без абавязкаў. Хачу разгулу асалоды, бяздумнасці ўчынкаў. Хачу навізны!» На ягоны голас азірнулася маладзенькая дзяўчына за крайнім столікам, ці не студэнтка. Здзіўлена хіхікнула. Юджын ёй падміргнуў, маладзёнка сарамліва адвяла позірк, падхапілася і зацокала абцасікамі прэч. Юджын памаўзліва пазіраў на зграбную фігурку, пакуль яна не згубілася сярод натоўпу на аўтобусным прыпынку.

«У мяне ўсё ёсць, а нечага не хапае. Душа з гадамі заскарузла, сціснулася, высахла, як жабіна скура на сонцы. І дзень пры дні яна ўсё чэзне, скукожваецца і смярдзіць. — Юджын зморшчыў нос. — А ці ўсё настолькі добра, як мне падаецца? Жыццё з Русланай зручнае, бесклапотнае, утульнае… Адным словам — балотнае». Вось табе і маеш! Юджын здзівіўся нечаканасці сваёй высновы. «Што ж мне яшчэ трэба? Бэйбус ты, перавернуты, — ён пстрыкнуў слінай пад ногі. — Подленькая ж у цябе душонка, ой, подленькая, як у шакалёнка. А хто, пакажы мне, ад макаўкі да пятак перапоўнены святасцю? Усе такія, адным мірам памазаныя. Чакаем выпадку, зручнага моманту, каб урваць, абхітрыць, падмануць. Хлусім, не міргнуўшы, направа і налева. Усміхаемся там, дзе па мардасах трэба даць, падлабуньваемся, робім “лізь-лізь”, дзе неабходна было б смачна плюнуць. Вераб’інасць душонкі кожнага выпінаецца на першы план. Галоўнае, каб чаго дрэннага не здарылася са мной, любым. Нічога, язык не адваліцца, калі і пахвалю, а не скажу, што брыда стаіць перада мною. І так ва ўсім: у сямейным жыцці, на працы, у адносінах між сябрамі і блізкімі. Кожны з гадамі ўсведамляе: за праўду моцна б’юць! Не шкадуючы, азвярэла, да бяспамяцтва. То навошта мне (яму, ёй, ім) такая праўда? Га?»

Юджын крочыў да прыпынку маршруткі. Не хацеў ціснуцца ў метро. Палёгка ад выпітага саступіла месца незразумеламу раздражненню. Нядаўняя лёгкасць незаўважна агарнулася пакутлівым і нікому не патрэбным самаедствам.

«Нудны, ой нудны ты, Юджын, — дакараў сябе мужчына. — Усяго хочаш і адразу. Так не бывае! Цішэй ідзеш — далей будзеш, ці па-іншаму: спяшайся паволі. Вось прыедзеш да свайго прыпынку, зазірнеш у супермаркет, прыкупіш двухлітровік айчыннай “Крыніцы”. Хопіць з цябе буржуйска-бюргерскага, каўтай родненькае піўко, падтрымлівай беларускага вытворцу. Не важна, чым дагнацца, абы мазгі пераключыліся на патрэбную хвалю. І ніякіх спрэчак сам з сабою. Я ж малады мужчына, у самым росквіце і сіле. Руслане — мора, пляж і сонца, а мне — скварка, пляшка і Машка. Усё чэсна і без прэтэнзій. Ад усяго неабходна атрымліваць кайф. От, слоўца. Каратка і ясна».

Пакуль маршрутка віхляла па вуліцах ды завулках, адбівала паклоны святлафорам, прапускала на «зебрах» пешаходаў, Юджын паспеў кімарнуць. Лёгенька так, праз смугу свядома-падсвядомай дрымоты. Калі мозг адным бокам знаходзіцца тут, а другой паловай — там. Мроіўся яму ружовы ўзыход сонца, і росна-дыяментная трава казытала босыя ногі, а далёкі прырэчны туман сцяліўся паўз рэчку да шапаткога жытнёвага поля. Там жа, удалечыні, праз рэчку, бачыў ён і магутны горб нейкага заводзіка са стойкамі дымных труб. Нечакана ён паварочвае галаву і бачыць, што ні поля, ні рэчкі з туманам, а тым больш заводзіка і знаку нямашака. Стаіць Юджын голенькі сярод вялізнай плошчы невядомага горада, навокал залівае ўсё дождж, а на ім ні кропелькі, і жанчыны, сотні жанчын з усіх бакоў таксама голенькіх. Яны маладзенькія, крамяныя і ўсе чарнявыя, ніводнай бландзінкі. Дождж сцяною залівае плошчу, а на людзей не трапляе. «Не можа такога быць…» — пра сябе адзначае Юджын. «Я ж у маршрутнай таксоўцы. Еду дамоў. Адкуль тут плошча і голыя паненкі? Няма ніякага чужога горада! Няма сотні дзяўчат, і я апрануты...»

Юджын праз высілкі расплюшчвае набрынялыя павекі. У таксоўцы ён і яшчэ чатыры чалавекі. Задушна. Цярнуў далонню потны лоб. Зірнуў у акенца. «Пару прыпынкаў — і трэба выходзіць. Лічы, даехаў без асаблівых прыгод. Канечне, калі адкінуць сон… Чаго толькі часам не выдасць наш бацюхна мозг! Труцім жа яго алкаголем і нікацінам, вось і бунтуе, помсціць, стварае алюзіі-ілюзіі. Каб жыццё мёдам не здавалася. Патрабуе чаўпешачка з шэрым рэчывам павагі і ўвагі да сябе».

— За наступным святлафорам спыніцеся, — пачулася з задняга раду.

Паўз Юджына прайшла, трымаючыся за поручань, малодка пад трыццатнік. Асіная талія, попка, што ў прыгаршчы ўмесціцца, стрыжка пад карэ. Стрэльнула позіркам на яго, нечаму свайму, жаночаму, пасміхнулася. Юджын таксама падаўся да выхаду.

— Дазвольце, адчыню дзверы, — звярнуўся ён да жанчынкі.

— Калі ласка, — саступіла, прапускаючы яго ўперад.

Выходзячы, падаў руку, дапамог сысці. На хвілінку прытрымаў танюткія пальчыкі ў сваёй далоні. Канечне, гэта прымітыўны знак заляцання, але, як ні дзіўна, — падзейнічала.

— Вы сапраўдны кавалер, — адарыла адкрытай і лагоднай усмешкай жанчына. — Аж настрой узняўся. Цяпер такое не часта бывае. Можаш і спатыкнуцца, ляснуцца, а ніхто не прыпыніцца, не дапаможа падняцца. Дробны мужчынка пайшоў, ай дробны. А вы не з іх, — кудахтала малодка грудным даверлівым галаском. — Дзякуй вам, дзякуй.

— Ды няма за што. Вы перабольшваеце.

— Не, за кожнай драбязой бачны сапраўдны мужчына. Я маю на ўвазе, за дробным на першы погляд учынкам, які для нас, жанчын, значыць вельмі шмат. Вось вы падалі мне руку, а для мяне ўжо і свята.

«Адзінокая і недакаханая. Развядзёнка. Шанец ёсць!» — падумаў Юджын.

— А як вы зірняце на маю прапанову папіць кавы? Якраз і мой дом насупраць. — Юджын махнуў рукой у бок шэрай дванаццаціпавярховай камяніцы. — Дарэчы, я — Віктар, — не ведаючы навошта, схлусіў ён.

— Наталля, — жанчына сарамліва апусціла вочы. Хоць карціну пішы з вінаватай авечкі.

«Пераігрывае з цнатлівасцю. Відаць, шмат на якіх ложках цёрлася. Нечым жа я ёй глянуўся, калі не абрывае гульню ў прыстойнасць. Вось так, маё золатка Руслана. Ты яшчэ і да Гомельскай вобласці на цягніку не даляла, а я красуню ахмураю. А магчыма, і яна мяне зацугляла на вечарок. Не, лепш не будзіць у Руслане мегеру. Няхай

яна ні пра што не здагадваецца. Едзе са спакойнай душой і сэрцам. Яна ж нават думкі не дапускае, што ў яе адсутнасць я змагу пайсці налева. “У нас усё пабудавана на даверы”, — так рэагуе Руслана на кожны падкол сябровак. Ага, “давярай ды правярай”: не дурным чалавекам прыдумана…»

— Чаму б і не пачаставацца? Тым больш, што далёка ісці не трэба. — У голасе Наталлі прабіваліся ноткі непрыхаванай радасці і надзеі. — Дахаты ісці не хочацца, там маці са сваімі бясконцымі павучаннямі, мараллю ды прыстойнасцю. Маўляў, гэта вось можна рабіць маладой прыгожай жанчыне, а гэта — ні ў якім разе. Нават пад прымусам смерці. Вам, мужчынам, лягчэй жывецца. — Яны ішлі па вузкаватай пратаптанай сцежцы ад прыпынка наўпрост да дома. — Вас бацькі не пілуюць, не здымаюць гэблікам стружку без дай прычыны. — Наталля какетліва ўздыхнула. — І чаму я не нарадзілася мужчынам? Наколькі б усё прасцей было…

— Не скажы, даражэнькая. І ў нас сваіх праблем хапае вышэй вушэй, — квола запярэчыў Юджын. — Ат, не будзем даказваць перавагі мужчынскага і жаночага жыцця. Як там, так і там, — ён тыцнуў пальцам на Наталлю і сябе, — хапае станоўчага і адмоўнага, сваіх плюсаў і мінусаў.

«У лядоўні стаіць пляшачка каньяку. Як ведаў, што спатрэбіцца. Адмовіўся ўчора па кілішку выпіць з Русланай. Яна прапаноўвала, яму ж не хацелася спіртнога. Цяпер вось поўную прыгажэй на стол паставіць, чым адкаркаваную. Ёсць у гэтым свой цымус. Маўляў, глядзі, да цябе тут ніводнай паненкі не было. Жыў і чакаў, мая харошая, цябе. Дубовы, зразумела, довад, а ўсё ж…»

— Ты з кім жывеш? — агледзеўшыся ў кватэры, спытала Наталля. — Адчуваецца жаночая рука ва ўсім.

— Сястра забягае, часам начуе, — зноў схлусіў Юджын. — Нядаўна выйшла замуж, мядовы месяц праляцеў, пачаліся будні. Прыціраюцца, цапаюцца. Пераводзіць дух ад сямейных турбот у мяне.

— Мной гэта пройдзена, — Наталля следам за Юджынам-Віктарам прайшла на кухню. Прысела за стол, дастала з ружовай сумачкі цыгарэты і запальнічку. Прыкурыла.

— Не веру я мужчынам. І табе не веру, — абыякава, як пра ўчарашнюю навальніцу, прамовіла жанчына. — Жыццё — бясконцая гульня ў хованкі. Хто каго больш удала і праўдзіва падмане. Ты згодны? — Госця хітравата прыжмурыла вочы, у глыбіні якіх іскрынкамі прамільгнуў прыхаваны гнеў.

— Давай не практыкавацца ў філасофскіх катэгорыях. Лепш па кілішку каньячку перад кавай. Нарэж грэйпфруціну, можаш на чатыры частачкі. І вып’ем за ўдачу, Наталька.

— За такую рэдкую птушку ў маім незайздросным лёсе можна і выпіць. Па-праўдзе, не люблю я грэйпфрут. Лепш лімончыкам было б прыкусіць ці скрылькам ананаса.

— Чаго няма, таго не знойдзеш.

Юджын паклаў на сподачак румяны грэйпфрут, паставіў кілішкі з пляшкай і разліў па кубачках каву.

«Як усё добра пачынаецца. Прыгожа. Любата і замілаванне. Гэта пакуль спіртное не акупавала мозг і не выпусціла з глыбінь натуры прыснулага звера. Які пакуль, праз дрымоту, прыслухоўваецца, адным вокам прыглядаецца, прынюхваецца да нашых грахоўных жаданняў, свербу, юру… Вось і па другім кілішку каньяку ды пад каву, нальём ды вып’ем. Звяры нашы выпростваюць выгінастыя спіны. Пацягваюцца, выпускаюць кіпцюры, спрабуюць імі разадраць цянёты прыстойнасці, ікластымі пашчамі прымерваюцца да шыльдаў з надпісам нельга. Кутнімі зубамі без натугі перашчыкваюць ахоўныя замкі нетрывалых жаданняў і, ужо не

хаваючыся, кладуць лапы на стол, злізваюць языком з цыраты кропелькі разлітага каньяку, а затым Юджынаў звер праводзіць шурпатым языком па шчацэ Наталлі, а ейны — слюнявіць нос Юджына. Іх звяры паразумеліся. Зліліся. Цяпер ужо жыве, пульсуе адзін магутны звер на дваіх. Ці не? Ага. Кожны з іх паасобку. Са сваімі жаданнямі, памкненнямі ўрваць кавалак насалоды… Ух, і зашумелі дубы над ракою. Ссунуты, скамечаны дыванок на кухні. Звяры шкуматаюць адно аднаго. Калоціцца, як ад ліхаманкі, столік, жаласліва цвінькаюць, пазвоньваюць кілішкі. Палахліва прытулілася ў куточку газавая пліта. А ў паветры вісіць нямое, не агучанае пакуль нікім, пытанне: “Што ж гэта будзе?!”»

На бетонным вышчарбленым падаконні сядзіць самотны голуб і пазірае праз шыбіну на кіпенне бурлівых, расхрыстаных пачуццяў, ад якіх, здаецца, пачырванелі нават шпалеры на сценах. Ні Юджын, ні Наталля не чуюць меладычных званкоў мабільнікаў ці, можа, не хочуць чуць. Ім не да тых людзей, якія пра іх думаюць і клапоцяцца ў гэтую хвіліну. Яны ў палоне сваіх звяроў: нізкіх і ўзвышаных, прадонных і нябесных, подлых і рамантычных. А найперш — галодных. Вось праз нейкі час яны насыцяцца, спатоляць смагу і сарамліва сцішацца, схаваюцца ў глыбінях целаў мужчыны ды жанчыны, задрэмяць зноўку. Толькі ж на які час? А вось гэта пакуль невядома ні нам, ні ім самім, ні нават галубку на падаконні. Хто ж зможа прадказаць непрадказальнае?..

* * *

Звыклы з дзяцінства ўсялякую справу рабіць грунтоўна і хутка, ён і цяпер, у сорак гадкоў ад нараджэння, абавязкова і хутка прымаў душ. Хоць больш падабалася Юджыну плёхацца ў ванне ці наведваць лазню. Лазня — гэта ўвогуле казка, свята, да якога патрэбны падрыхтоўка і адпаведны настрой. Юджына ніхто і ніколі не падганяў. Ён проста быў такі. Але паспешлівасць не заўважалася ні ў яго хадзе, ні ў гаворцы, ні ў звыклых рухах. Вось толькі за сталом — роўных яму наўрад ці знойдзеш. Еў Юджын за мірг вока, але вельмі акуратна і прыгожа. Можна сказаць — віртуозна. Не адзін раз гэта адзначала і Руслана.

«Мой верны арыстакрат спажывае Богам пасланае, мной гатаванае без спешкі, але і не дрэмле з відэльцам у руцэ. Ты хоць пражоўваеш ці цалкам каўтаеш?» — часам пыталася яна, падкладваючы на талерку новую порцыю.

«Трэба мець добрыя зубы», — жартаваў Юджын і змятаў пакладзенае за хвіліны.

«Што б я рабіла, калі б паўсюль быў такі?»

Падчас гэткіх жартаўлівых размоў мужчына не-не, ды і прыгадваў свой сексуальны юначы досвед. Ён у Юджына сфарміраваўся даволі рана. Хоць, які там быў вопыт? Зразумела, ён падшыванцам ведаў сёе-тое. Вырас жа ва ўлонні прыроды, у невялічкай глыбіннай вёсачцы. Ды і старэйшыя хлопцы аўтарытэтна распавядалі байкі пра Люсі Лісічкіну, Катрын Бавараву, Гэльку Лёпіцыну… Маўляў, гуляюць дзяўчаты па-чорнаму, радыя кожнаму, хто прыгрэе.

Пасля сёмага класа ўсё і атрымалася. Пры канцы жніўня ў залацістым бункеры зжатай пшаніцы. Бесталкова і сарамліва, з бояззю, як быццам нешта крадучы, пакахаўся ён з Гэлькай.

У першыя хвіліны пасля **таго** яму зрабілася настолькі брыдка і чамусьці крыўдна, што ён ледзьве не заплакаў. Гарэлі вушы, і не хацелася да канца жыцця бачыць Гэльку. Але, як ні дзіўна, праз паўтары-дзве гадзіны, калі супакоілася і ўраўнаважылася душа (ці сумленне, кволае, дзіцячае яшчэ), Юджыну аж да зубнога болю,

да помараку хацелася распавесці сябру Робіку пра тое, што ён, Юджын, мужчына. Але Робіка не было ў вёсцы. Ён на цалюткае лета з’ехаў да цёткі ў Кіеў, добра, калі вернецца праз тыдзень. Юджын падрос, пасталеў сам для сябе, пасталеў, можна сказаць, на цэлую вечнасць…

Той восенню паспытаў Юджын шчасця і з Лю́сі, і з Катрын. Самалюбства ў кавалера зашкальвала. Яму здавалася, што восень пабралася шлюбам з вясною, кожны дзень вітаў яго шчодрым россыпам сонечных промняў. Юджын не ведаў стомы ні ў школе, ні дома, падсабляючы бацькам парадкаваць гаспадарку. Ён пачаў галіць шчэцце на шчоках, пакідаючы чорныя вусікі над адтапыранай верхняй губою. Толькі адна хмурынка ненарокам набягала на ягоны твар, калі сустракаў на школьных калідорах ці на вясковай вуліцы стрыечную сястру Волечку. Ён, паганец, закахаўся ў стрыечную сястру. І нават цяпер, у яго саракоўнік, тое ціхае, стрыманае каханне голкаю паколвае ў глыбіні сэрца. Цяжкае яно — няспраўджанае юначае каханне. Вобраз Волечкі, ейны тварык, голас, постаць аніяк не стасоўваліся з астатнімі, спазнанымі Юджынам, дзяўчатамі. Стрыечная сястра была і засталася для яго недасягальнай марай, танюткай кволай кветачкай, выпеставанай сярод зімы ў гаршчэчку. Яна можа лашчыць вока, позірк, але рукамі дакрануцца да яе небяспечна і боязна: раптам парушыш, загубіш гэту крупінку яснасці, святла і хараства сваімі грубымі бруднымі пальцамі. Юджын і аберагаў Волечку ад усіх і ўсяго. Пакуль не пайшоў у войска, ніводзін хлопец не змог правесці сястру дадому пасля пагулянак у клубе. Тым больш, што іх хаты стаялі непадалёку… Цяпер Волечка жыве ў Пецярбургу, выйшла другі раз замуж, мае дваіх дзяцей. Але і па сёння яна для Юджына не пазбавілася той дзіцяча-юначай светлай радасці, азарэння, трапяткой узнёсласці, што атуляла яе з далёкай памятнай восені. Восені-вясны, калі Юджын убачыў у вобразе стрыечнай сястры зямнога анёлка, а сам адчуў сябе мужчынам ва ўсім: ад паводзін да прыняцця рашэнняў. За прамінулыя гады ён дзясяткі разоў кахаў і быў каханы. І кожны раз — як у апошні. Яго хапала на год, два, пяць… пакуль не стамляўся і не пачынаў вышукваць новую ахвяру альбо шчаслівіцу. Хто можа дакладна сказаць? Так было да Русланы. Някідкай знешне, мяккай, далікатнай, сардэчнай жанчыны. «Гэта маё шчасце, — так вырашыў Юджын, — з ёю да скону і жыць мне…»

У хвіліны роспачы і раздраю Волечка наведвалася ў ягоныя сны. Супакойвала, абнадзейвала, часам выгаворвала і павучала. Ды заўсёды нязменна брала яго за руку, і яны лёталі, луналі над дахамі горада, над палямі і лясамі, гойсалі па падсвечаных сонцам аблоках, пералічвалі зоркі на вечаровым небе, рыбачылі на азёрах, рэчках і цалаваліся. Цнатліва, як родзічы, ці — як маці ледзь кранае вуснамі шчокі сына альбо дачкі. Яны аберагалі свае адносіны ад усяго штучнага, грубага, наноснага… І ў сне заставаліся братам і сястрой. Кожную раніцу пасля такіх сустрэч Юджын прачынаўся, як абноўлены і памаладзелы. Ва ўсім целе панавала ўстойлівая сіла, лёгка дыхалася, у галаве пасялялася зладжанасць са знешнім светам. Жыццёвыя дробязі і побытавыя перапалкі з Русланай не здаваліся яму ўжо настолькі непапраўнымі і глабальнымі. Яны ўспрымаліся не больш як шалупіннем ад падсмажаных семак. Усмешка, абдымкі са спіны, пацалунак у скроню ці вушка — і вось у іхнім доме, іхняй кватэры сытай коткай вуркатала сямейнае шчасце…

Можа падасца камусьці неверагодным і дзіўным, але Юджын з Русланай жылі чатырнаццаты год у грамадзянскім шлюбе. Не хацела жанчына ніякай пячаткі ў пашпарце. Нават размова пра гэта выводзіла маладзіцу з раўнавагі. Яна злавалася, калі сяброўкі-дарадчыцы нагадвалі пра путы Гіменэя, альбо Юджын пачынаў здалёк падыходзіць да ўзаконьвання адносін.

«Мне і так добра. А калі вам, ці табе, хочацца законнасці і папяровай дакладнасці, то вы звярнуліся не па адрасе», — маланкавым позіркам страляла Руслана на сяброўак ды Юджына. І ўсе прыціхалі. Маўляў, тваё права, шаноўная. Мы ж хацелі, як лепш, як у людзей прынята. Калі ж табе так зручней і спакайней, то і дзякуй Богу. Толькі праз некалькі гадоў Юджын здагадаўся, у чым прычына. Усё настолькі проста і банальна, што нават смяяцца не хацелася. Руслана баялася за свае квадратныя метры. У гэтым цяпер пераканаўся Юджын. Яна, як мудрая жанчына, прадчувала, што рана ці позна, але іх дарога падзеліцца на дзве асобныя. А чаму не можа такое адбыцца? Акрамя кахання іх нічога не звязвала. Дзяцей няма і не прадбачыцца. Пачуццяж часта замала для доўгага і шчаслівага, як пішуць, да глыбокай старасці, сумеснага жыцця. Хаця прасцей за ўсё шукаць прычыну ў кімсьці ды абвінавачваць іншага. Не любім мы прызнавацца ў сваіх памылках, выстаўляць на ўсеагульны агляд мізэрнасць унутранага свету, свае цялесныя і душэўныя шчарбіны, выродлівасць учынкаў. Хаваем прыроджаны цынізм пад мілай усмешкай. Але ж колькі не накідвай на вярблюда посцілак ды рыззя, а гарбы ўсё роўна вытыркацца будуць, як у таго Пілipa — макаўка з канапель.

Юджын кахаў Руслану. Моцна і шчыра. Устаялым, ціхім, як перадвосеньская часіна, каханнем. Так яму здавалася. Закалыхала яно (каханне іхняе) на нейкі час Юджынава імкненне палявання на беспрыглёдных паненак. Кароткія спаднічкі, аголеныя лыткі, ладныя грудкі… Усяго было зашмат і без асаблівага перабору. Раней было, да Русланы. А з ёю Юджын прыціх, пасамавіцеў. Спакоем і ўраўнаважанасцю, задаволенай сытасцю поўніўся ягоны позірк. Глыбока схаваліся ў вачах неспатолены юр, нерастрачаная жарсць і сіла. Хаваліся нават ад самога Юджына. Сцялася, назапашвалася, паўнела і чакала зручнага моманту. Чакала, здзіўляючы сваёй вытрымкай…

* * *

Не трэба забываць людзей блізкіх табе, каханых, любых ні на хвіліначку, ні на імгненне. А тым больш на доўгія дні і тыдні. Неабходна думаць пра іх, клапаціцца і хваляваўцца за іх лёс, учынкі, паводзіны. І ні ў якім разе, барані Божа, не здраджваць ім ні фізічна, ні духоўна. Гэтую простую ісціну толькі цяпер зразумеў Юджын, стоячы ў чужым пад’ездзе і гледзячы праз бруднае шкло акна на асветленыя чатырохкутнікі Русланінай кватэры.

Блізкія людзі звязаны між сабою нябачнымі воку ніткамі, танюткімі стужачкамі, крохкімі ланцужкамі, якія разрываюцца ад абыякавага дотыку, няўважлівага позірку, абразлівага слова. І вой, як цяжка, а найчасцей немагчыма парванае злучыць-звязаць, дый на звязаным — застаюцца вузлы. А калі па жывым секанула здрада, прадуманая, выпеставаная ў закутках розуму распуста, то ў попел ператвараюцца масточкі, якія нядаўна так моцна і, здавалася, надзейна злучалі два сэрцы. Сэрцы закаханых.

Ды што цяпер галасіць? Як ні сілься, ні намагайся, а свой локаць не ўкусіш. Цягнік пайшоў, а ты самотна і разгублена стаіш на пероне: не дагоніш, і вяртацца няма куды. Попел масточкаў ветрам развеяны, дажджамі ў каналізацыйныя калодзежы змыты.

Юджын усё гэта разумее, але нічога з сабою не можа зрабіць. Нясуць яго ногі да дома Русланы, пад яе вокны. Вось і цяпер ён бачыць, як яго жанчына зайшла на кухню, прыпынілася каля мойкі, уключыла кран, а ў яе за спінай узнікла постаць невядомага мужчыны. Не, хутчэй рослага і стройнага маладога чалавека, каротка

пастрыжанага з аголеным торсам. Ён са спіны абняў Руслану. Яна павярнула галаву і, пэўна, пацалавала кавалера. У Юджына ад нечаканасці запульсавала кроў у патыліцы... «І чаму на кухні яна не павесіла начныя фіранкі? — пачынае недарэчна разважаць Юджын. — Не бачыў бы ўсяго гэтага паскудства. Выставілася, гулёна, глядзі на яе бессаромнасць паўгорада. Хоць бы святло выключылі, ці схаваліся, апусціліся на падлогу. Вокны ж вакол, сотні вокнаў, а ў іх людскія вочы… Не, трэба бегчы і пазваніць у дзверы. Напалохаць, спыніць гэты бардак». Юджын намагаўся зрушыцца з месца, ды ногі, быццам налітыя свінцом ад каленяў і да самых пазногцяў, нават не пасунуліся. Быццам не належалі яму.

«З кім я жыў столькі гадоў?!» — мужчына адчуваў, як палае твар. Здавалася, пырсні вадой — і зашыпіць скура, як напаленая патэльня. Вочы рэзала, ніжняя скіўіца калацілася.

— Ах ты, мой даражэнькі, непрыемна глядзець на чужое шчасце, на шчасце, якое не так даўно было тваім...

Юджын нібы ўва сне павярнуў галаву на голас. Толькі цяпер заўважыў побач з сабою жанчыну ў гадах. У цьмяным святле пад’езда твару было не разгледзець. Ды і нічым асаблівым гэты твар не вылучаўся. Пра такіх гавораць — звычайны. Якіх тысячы на вуліцы. Прабяжыш позіркам і не зачэпішся, а праз пяць хвілін забудзеш.

— Ну, ну, дзетка, не перажывай так. Не запаўняй сваё цела жоўцю, атруціш усе вантробы. А ты ж яшчэ маладзенькі, — жанчына правяла далонню па ілбе Юджына, працягнула рукой да макушкі, скінуўшы на плечы башлык курткі. — Спажывай страву здрады з гонарам. Ты ж яе першы згатаваў. Табе яна падалася дужа ж смачнай. Я ж бачыла, як ты сёрбаў, аж па барадзе цякло, за вушамі трашчала. А твая Руслана ў гэты час даглядала хворую сястру. Нават на мора схадзіць хвілінкі не мела. Змазвала пролежні ў роднага чалавека, выносіла пасудзіны з-пад хворай, мяняла памперсы на збалелым целе. Сама ўчарнела, гледзячы на пакуты і боль. А ты што? Ты цешыўся воляй. Гуляў, як прайдзісвет-рамізнік перад пакараннем. Навошта самоціцца, калі выспела і выпеставалася ў душы здрада? Даўно саспела і толькі чакала моманту, каб вылузнуцца з пацёмкаў тваёй душы на свет божы. Ты нават не намагаўся яе стрымаць… А ў цябе ж была магчымасць паехаць разам з Русланай. Ды куды там! Калі яшчэ надарыцца такая выгода — застацца вольным казаком? Вось ты і застаўся… — Жанчына перавяла дыханне ад даўгаватай гаворкі. На крок адступіла ад Юджына. Прытулілася плячом да сцяны каля смеццеправода.

— Помніш, як з сябруком ты патэлефанаваў адміністратару падпольнага бардэля? Што, запамятаў? Калі так, дык магу напомніць...

— Не, не трэба, — выціснуў з сябе мужчына.

— Чаму ж? Давай прыгадаем...

Юджын крыху ачомаўся ад разгубленасці. Яго пачынала распінаць злосць на сябе, Руслану, незнаёмага маладзёна каля Русланы, а больш за ўсё на гэтую вось старую выдру, якая немаведама адкуль з’явілася і павучае яго, прымушае перагортваць старонкі мінулага, якія ён хацеў раз і назаўсёды выдраць з памяці.

— Слухайце, вам пра Бога, пра вечнасць трэба думаць, не сорамна гаварыць пра такое? Ды і якая вам справа да мяне? Навошта прычапіліся? Ідзіце сваёй дарогай, пакіньце мяне ў спакоі!

— Не злуйся, дзетка. Я ўсяго пабачыла за свае гадкі. А чаго начулася — і не пераказаць. Вось ты зараз вінаваціш ва ўсім сваю каханую. Заўваж, былую каханую...

— Чаму вы ўпэўнены, што былую? — перапыніў старую Юджын. — Яна мне і сёння даражэй за ўсіх.

— Няхай будзе так, — пагадзілася бабуля. — А цяпер скажы, вось ты бачыш, як Руслана кахаецца з іншым і табе гэта неабыякава. Ты гатовы дараваць ёй?

— Не ведаю. Магчыма, што і так.

— Тады пытанне наступнае: а ці трэба ёй тваё дараванне? Бо з вогнішча, залітага ліўнем, іскарку не разадзьмеш. Раней трэба было паклапаціцца і прыкрыць сямейнае цяпельца ад стыхіі. Ці не самалюбства, хлопча, цябе душыць? Закрануты ж твой мужчынскі гонар. Жанчына за распусту вытурыла цябе з кватэры. Ты апынуўся на вуліцы нікім і нічым. Табе ж было зручна з ёй, утульна. Сам сабе ў гэтым прызнаваўся, а каханне — гэта ўжо дадатак да ўсіх папярэдніх дабротаў жыцця. Твайго жыцця. Ці праўду я кажу?

Мужчына маўчаў. Ён павярнуў галаву да шыбіны, каб зірнуць у акно кухні Русланы.

— Не глядзі туды, — папрасіла старая. — Навошта яшчэ мацней распальваць і злаваць сябе? Злоба можа перарасці ў нянавісць, а ад яе недалёка і да граху, непапраўнага ўчынку. Скажу табе так: разбярыся, спазнай сябе, кім ты быў для Русланы, а яна для цябе? Разбярыся ў гэтым сур'ёзна. Без самашкадавання, прыніжэння яе і ўзвышэння сябе. Прааналізуй, узваж усе «за» і «супраць», а затым ужо і зробіш нейкія высновы. Часам прасцей адпусціць чалавека і пачынаць жыць наноў, чым бясконца песціць пустацвеціну надзеі.

— Яна мне не даруе. Я ведаю, — ледзь улоўным рухам губ вымавіў Юджын.

— Не спяшайся з высновамі. Бо неспазнаная душа жаночая, бяздонная яна ў сваёй любові, як і ў нянавісці, дарэчы. Хто можа дакладна сказаць, што хаваецца на самым донцы сэрца жанчыны? Якія думы даймаюць яе галаву бяссоннымі доўгімі вечарамі? Што яна перабірае на адзіноце ў сваёй памяці? Найвялікшая гэта загадка — душа жаночая. Павер мне.

— Хто вы? — адважыўся нарэшце спытаць Юджын.

— Я? — перапытала старая. — Звычайная бабулька, якая глядзіць на навакольны свет і людзей крыху па-іншаму, не так, як усе. А ўрэшце, прыйдзе час, Юджын, і даведаешся. Вядома, калі захочаш.

— Вы жывяце ў гэтым доме? Недзе паблізу? — дапытваўся мужчына. Яму, нібыта паляўнічаму, захацелася загнаць пытаннямі старую перапёлку ў непралазнае разнатраўе, дзе б яна заблыталася і не змагла выслізнуць з яго ўвішных і ўчэпістых пальцаў. Яму карцела даведацца ўсё пра дзіўную бабцю. Да Юджына ўрэшце дайшло: старая шмат чаго ведае пра яго і Руслану. Найбольш жа пра яго. Адкуль?

— Ці так гэта важна, — адказала старая на бязгучнае пытанне Юджына. — Не ўсё, што мы бачым ды чуем, існуе на самай справе. І наадварот: нябачнае — рэальней дня белага. Вось так яно, мой галубок.

Старая заінтрыгавала Юджына. Яму падалося, што ён ужо дзесьці сустракаўся з гэтай бабуляй, нават размаўляў. І твар яе ўжо не здаваўся такім сярэднестатычным, звычайным. У паўзмроку пад'езда ён добра бачыў мяккасць і засмучаную любасць у позірку, звернутым да яго. Дзіўна, але прытупілася і Юджынава раз'юшанасць на Руслану. Падалося нават, што Юджына гэта ўжо не датычыць. Пакуль не датычыць.

— Ты, хлопча мой, цяпер начуеш на вакзале?

— Так.

— А чаму б табе не зняць пакойчык у якой-небудзь пенсіянеркі ці дзядка? Людзі ж здаюць жытло. Ты спрабаваў шукаць?

— Не.

— Спадзяешся на вяртанне, — бабуля позіркам паказала за акно.

— Не ведаю. Сапраўды не ведаю, — разгублена і пакрыўджана прамовіў мужчына. — Я заблытаўся так, што не магу разабрацца: хто я, што мне трэба, і ўвогуле, навошта жыву на гэтым грэшным свеце. Для мяне ўсё абрынулася ў той дзень, калі Руслана зачыніла за маёй спінай дзверы. Шчаўчок замка — і ўсё. — Юджын прысеў на кукішкі каля ног старой. Утаропіўся вачыма ў яе зграбныя шараватыя валёначкі. Дзіўным было тое, што на валёнкі ўссунуты чырвоныя галёшы. Такія яму ніколі не даводзілася бачыць. Галёшы заўсёды і ва ўсіх былі чорнымі. Сярэдзіна ружовая, а вонкавы бок заўсёды чорны. Ва ўсёй вёсцы аніводзін чалавек не меў чырвоных галёшаў. Юджын адчуў роднасць з гэтай не знаёмай яму кабетай. Так бывае. Нячаста, але бывае.

— А можа, і добра, што чакаеш, — бабуля правяла пальцамі па валасах Юджына. Асцярожна, нібы баючыся. — Трэба перажыць, перапакутаваць, шмат з чым змірыцца, сёе-тое вынішчыць у сабе. Правесці, як кажуць, прапалку ў мазгах. Дайсці самому да простых ісцін. Узважыць ці ўраўнаважыць свой і чужы боль.

— Слухайце, а чаму людзі гэтага пад’езда нібыта вымерлі? Мы столькі часу тут стаім, а ніводны чалавек не зайшоў у кватэру і не выйшаў на лесвіцу. Ды і ліфт нібы паралізаваны, — здавалася, што зусім не да месца спытаў Юджын. — Вам гэта не падаецца незвычайным?

— У людзей хапае сваіх клопатаў, — уздыхнула старая, — навошта ім на сябе ўзвальваць яшчэ і нашы непрыемнасці. Ты ж паглядзі, колькі напладзілася ў гарадах народу. Аж страшна робіцца. І ў каго пальцам не тыцні — свае балячкі, клопаты і турботы мае. Зрэдку — радасці. Вось шчасцем людзі дзяліцца не любяць, баяцца, што сурочаць. Бяду ж большасць прывыкла выстаўляць напаказ…

— Няпраўда, — не пагадзіўся Юджын. — Я сваю агорваю адзін.

— Чаму ж адзін? Я з табою. Побач з табою, — бабуля ледзь заўважна пасміхнулася.

— Вы самі прыйшлі, — Юджын насупіўся. — Я нікога не клікаў.

— Не магла я не прыйсці, мой даражэнькі. Інакш ты б сёння ўтварыў яшчэ большае гора, чым маеш. А калі можна адвесці бяду, то чаму б і не зрабіць так?

— Вы мой анёл-ахоўнік?

— Старая я для анёла.

— Нічога тады не разумею… — Юджын уцягнуў галаву ў плечы. — Чаму не даяце мне паверыць у магчымасць немагчымага?..

— А я і не пераконваю цябе, мой харошы, у адваротным. Проста сказала, што для анёла ўжо старая. Няўжо акрамя анёлаў у чалавека няма іншых заступнікаў, памочнікаў і дарадцаў?

— З дзяцінства не люблю загадкі і недаказанасці.

— «Люблю — не люблю» — гэта слоўцы маленькага хлапчука. А ты ўжо і з сівізною ў валасах, і з баразёнкамі зморшчынак на твары. Капрызлівасць павінна ўжо была адквітнець у тваёй натуры. Ці не так, Юджын? — у голасе старой чуліся ноткі настаўніцы пачатковых класаў. Так падалося мужчыну. І ён увесь сцяўся, паменшаў, змізарнеў каля сцяны.

— Ногі не зацяклі? — старая дакранулася да пляча Юджына. — І не крыўдуй за строгасць. Не хачу бачыць перад сабой капрызлівага сысунка, які толькі і чакае, каб слёзкі яму выцiралі хусцінкай. Ты моцны, і я побач.

— Хто вы? — у другі раз нясмела спытаў Юджын.

— Неабыякавая да цябе бабуля. Ці дастаткова такога тлумачэння?

Юджын маўчаў. Разглядаў выбоіны на бетоннай падлозе. Яму падалося, што каля яго ног прабег ланцужок лясных мурашоў. Замыкала ж іх мітуслівая кампанія, якая гуртам цягнула ў дальні кут празрыстакрылую стракозу. Мужчына прымружыў

павекі, счакаў некалькі імгненняў і зноў зірнуў долу. Ніводнага мураша, тым больш страказы не ўгледзеў.

«Вось так і прыходзіць нечаканая і непрадказальная паненка-дурнота. Не заўважыш, калі цмокне ў вусны і высмакча, як згаладалая ўдавіца, розум ды памяць з галавы, пакіне ўсведамленне вечнай радасці і шчасця. Што было, што будзе, чым усё скончыцца? — чалавека ўжо не хвалюе. Ён шчаслівы сваім, нікому не бачным і не зразумелым шчасцем. Шчасцем на аднаго».

— Ты не заснуў часам? — старая паклала далонь на галаву Юджыну. — Сумяціца пройдзе. Не за дзень ці два, але ўсё ўраўнаважыцца ды ўсталюецца. Павер мне. Ды яшчэ падумай пра жыллё. Чалавеку без свайго кутка, як любой жывой істоце, нельга. І я падумаю, мо чым і падсаблю. Падымайся ўжо, едзь на свой вакзал. А то вольнага месца, каб прыткнуцца, не знойдзеш. Мой час таксама наблізіўся. Сыходзіць трэба, затрымалася я з табою. Ну, падымайся, падымайся, — бабуля лёгенька цеганула за куртку на плячы мужчыны. — І не пазірай ты за акно. Там усё ўжо скончылася. Святло выключылі. Не перажывай. Сам жа не святы быў. За гэтыя месяцы, што на вакзале жывеш, па якіх толькі ложках не швэндаўся, на якіх падушках галаву не прытульваў… Ай-яй-яй. Усе вы сваіх каўтуноў не бачыце, а ледзь заўважылі ў каго злямчаную пасмачку ў валасах, то ўжо і гвалт уздымаеце. Мудрасці, пакуль не позна, вучыся. Можна шмат чаго бачыць і заўважаць, але не пра ўсё і не ўсім гаварыць. Вось, ледзь не забыла: перастань, Юджын, так часта прыкладвацца да пляшкі. Гэтая зараза нікому яшчэ здароўе не дала ды на роўную дарогу не вывела. Нібы ад чумы ўцякай ад дармавой і сваёй чаркі са спіртным. Не патрэбна галаву, розум свой заліваць. Чуеш мяне?

— Чую, — Юджын зрабіў некалькі крокаў уніз па прыступках. Спыніўся, павярнуўся: — І ўсё ж, хто вы і адкуль? Скажыце, прашу вас, — умольны, як голас тапельца, вокліч павіс у пад'ездзе. Яму было цесна ў вузкасці лесвіцы, сцен, і голас жывой птушкай трапятаўся ў далонях нябачнага птушкалова.

— Усяму свой час, Юджын. Усяму свой час.

Мужчына цяжка выдыхнуў і, апусціўшы галаву, пасунуўся ўніз. Ён быццам нёс на плячах цяжар усяго чалавецтва, таго, што жыло да яго, і таго, што яшчэ прыйдзе ў гэты свет, народзіцца.

«Як жа вам невыносна бывае парою? Пуста, адзінока, раздрайна і раздарожна. Тыцкаецеся, шукаеце, як сляпыя кацяняты, суладдзя з самімі сабою і не знаходзіце, а калі і намацваеце, то абмінаеце, абыходзіце, не разумеючы, што знайшлі тое (тую, таго, тых), каго (што) шукалі. Жывяце ў большасці глухімі ды сляпымі і паміраеце невідушчымі. Няшчасныя пакутнікі мае вы…» — старая ў валёнках з чырвонымі галёшамі глядзела на апусцелую лесвіцу і прыслухоўвалася да аддаленых крокаў Юджына, які нёс на сваіх плячах роспач усяго чалавецтва, самоту і крыўду мужчынскага племя зямлі. А ці не зашмат яму аднаму? Хто ведае, хто скажа?..

* * *

Россып далёкіх зорак усцілаў неба. Вецер разагнаў нарэшце хмары, выпусціў на шырокі цёмны прасцяг маладзічок. Хрумстка-крамяны жэўжык мядзяным сярпочкам так і хацеў успароць тугую прасціну, што агортвала-спавівала горад. Але, як і тысячагоддзі таму, як учора і сёння, яму, нястомнаму нябеснаму служку, было не пад сілу змагацца з вечнасцю, з законам быцця. І ён, маладзенькім козлікам пабарукаўшыся з пругкай цемрай, — супакоіўся, сцішыўся, засяроджана павіс на адведзеным

месцы. Што ж, можна і павартаваць засеянае зоркамі поле. Ці мала хто захоча пакваліцца на такое багацце? Хтосьці, можа, і паквапіцца, але не Юджын. Яму б зараз хоць заляжалы і прыплюснуты піражок ці смажань на зуб узяць. Ён зусім забыўся, што пасля полудня ў сталоўцы ніводнай крошкі не паклаў у рот, праўда, выпіў шклянку соку ў краме непадалёк ад плошчы Перамогі. Толькі калі тое было?.. А паесці нешта трэба. Яму галаднавата, халаднавата і адзінока пад зорным, на ўскрайку горада, небам. Ва ўтульных кватэрах сытыя мінчукі на мяккіх канапах глядзяць серыялы ці баевікі перад тым, як уткнуцца ў плячо сужэнцы. Юджын жа паспешлівым крокам мерае асфальтаваную сцежку да «Каменнай Горкі». Трэба паспець да закрыцця метро. У яго ў запасе трыццаць хвілін. А там, калі выйдзе на плошчы Леніна, яго чакае вакзал. Чыгуначны вакзал, які не ведае супакою ні днём, ні ўночы. Шматлюддзе напачатку стамляла мужчыну, голас з рэпрадуктара надакучваў, міліцыянты даймалі пытаннямі і праверкай дакументаў… але да ўсяго чалавек прывыкае, прыстасоўваецца. У Юджына было ўжо і сваё ўлюбёнае месца ў зале чакання. Дальні куток ад увахода па правую руку. Там, за шыракаватай чатырохкутняй калонай, стаяла пяць пластмасавых крэслаў. Іх быццам знарок нейкі дабрадзей уткнуў у тым закуточку для такіх небарак, як Юджын. Каб вельмі не мазоліць вока ахоўнікам парадку. Мужчына і спаў седзьма на мулкіх крэслах. Гадзіны чатыры-пяць выпадала падрамаць пад няспынны шоргат ног, голас дынаміка і катурханне міліцыянтаў…

«Як жа мала для шчасця трэба чалавеку. Усяго-та — быць здаровым, мець працу, свой дом, кватэру. Не, — Юджын запаволіў хаду, — усё ж дом, кватэра па значнасці стаяць на другім месцы, а пасля ўжо праца, любы чалавек побач і незалежнасць. Хаця незалежнасць асобы таксама трэба пераставіць. Яна мусіць ісці пасля здароўя і дома, а затым ужо любы чалавек. Не… Шмат што залежыць ад асобы чалавека. Народжаны рабом — не захоча волі, ці яна яму не будзе настолькі важнай і патрэбнай, як таму, хто свабоду ўвабраў у сябе з малаком маці. Вось я, здаецца, свабодны, вольны, як птушка ў нябеснай сінечы, але не хачу я вольніцы ад Русланы. Я гатовы здацца ёй у палон, капітуляваць, укленчыць і прасіць даравання. Праўда, гэта розныя ўзроўні свабоды. Свабода духу (душы) і свабода ў сямейных адносінах. Але любячы, каханы чалавек не стане няволіць любага. Калі толькі ён не закончаны эгаіст. Вельмі ж шмат гэтых умоўных “але”, “калі”, “па-першае”, “па-другое”…»

Юджын выйшаў з метро побач з вакзалам. Хоць і адчувалася стомленасць ва ўсім целе, але пры думцы пра пластмасавае крэсла мужчыну закарцела прысесці ў недалёкім скверыку на лаўку. Выкурыць пару цыгарэт пад пляшачку піва, каб лепш падрамаць, перабыць ноч ды выправіцца ў сваю кантору на працу. Адседзець абавязковыя восем гадзін за табліцамі і схемамі, пагойсаць у абедзенны перапынак па інтэрнэце, урэшце, пашукаць пакойчык. Каб зняць кватэрку, мізэрнага Юджынава заробку не хопіць, а вось катушок па сярэднім кошце ён пацягнуў бы. Толькі ж у сусветнай павуціне наўрад ці вывешваюцца аб'яўкі пенсіянераў. Для іх капм'ютар, што падарожжа ў іншую галактыку. Хоць чаму, можа ж дзядуля ці бабуля папрасіць прасунутага ўнука альбо ўнучку паслугу зрабіць.

Юджын купіў пляшку піва і пакуначак з салёным арахісам. Паўз жалезную агароджу, што аддзяляла чыгуначныя пуці ад вуліцы, прайшоў да таўставатых ліп з рэдкім шапаткім лісцем у вершалінах і пачаў выглядваць незанятую лаўку. Навокал было даволі людна. Не верылася, што прывакзальны гадзіннік на вежы прабіў дванаццаць ночы, — і пазнавата ўжо, а тут столькі народу. Моладзь, людзі сярэдняга ўзросту. Народ табарыўся групкамі, мала дзе можна было ўгледзець у цмяным святле шарападобных ліхтароў дзівакоў-адзіночак: Юджыну не хацелася ўлівацца ні ў якія кампаніі. Нагледзеўся на рознае ў гэтым скверыку. Даводзілася бачыць і

разбітыя насы, і панажоўшчыну. Любоўныя сцэны сярод нізкарослых трох елак, не жадаючы таго, а заўважаў не раз і не два.

Міліцыянты ледзь не штовечар і ноччу ганялі аматараў экстрыму, выпівох, блакіцізну, але яны, як надакучлівая машкара, зноўку зляталіся сюды праз нейкую гадзінку, а то і хутчэй. Што паробіш, у нас краіна вольная і кожны мае права выяўляць сябе, як заўгодна. Абы вольналюбец не прыніжаў у адкрытую гонар і мараль іншых. А чый гонар і маральнасць можна было прынізіць у гэтым скверыку? Пытанне рытарычнае і бязглуздае. Тут былі ўсе свае, усе з завёртамі і мухамі ды прусакамі ў галаве. Няўжо прыкладны і па ўсіх агульных мерках нармальны чалавек пацягнецца сярод ночы ў прывакзальны скверык? Мо толькі падпіты шукальнік экзотыкі і зазірне ці прыезджы навалока, а так усе ў гэтым скверыку збольшага ведалі, хто ёсць хто, якія ў чалавека праблемы і на чым спецыялізуецца. Напачатку, калі Юджын толькі адкрыў для сябе гэтае месца, яму было цікава і незразумела. Вакзальнае жыццё, хоцькі-няхоцькі, а змушала праводзіць час у скверыку, асабліва летам, калі тут, на лаўках, вячэрняя прахалода і дармавая забава. Ён, перажываючы разрыў-расстанне з Русланай, напачатку вырашыў згладзіць сваю адзіноту сустрэчамі з даўно прапісанымі ў скверыку жанчынамі. Яны прыхільна і нават з павагай-жалем паставіліся да навічка, калі ён за чаркай, даволі частай, распавядаў пра сваю злыбяду. Гаварыў і пра Руслану, якая, даведаўшыся пра яго здраду, выпхнула з кватэры. Хапануў ён тым летам і венерычкі, але, дзякуючы аптэкам ды старому доктару, які туліўся ў падвале недалёк ад вакзала, хутка вылечыўся. Цяпер Юджын больш асцярожны. Але вакзальную школу ён прайшоў без асаблівых згуб і падзення для сябе. Праўда, пару разоў, па няведанні і нявопытнасці, здымалі яго блакітныя, да аднаго падшыванца нават дахаты паехаў, але, разабраўшыся, што і да чаго, — збег.

Прыгадаўшы той эпізод, ён пасміхнуўся. Бо не намі ж прыдумана: чаго не ясі, таго ў рот не нясі. Павітаўшыся з некалькімі знаёмцамі, пааднекваўся ад запрашэнняў далучыцца да кампаній, Юджын знайшоў не занятую лаўку з перапоўненымі сметніцамі па баках. Прысеў, выняў бутэльку з унутранай кішэні курткі, адкаркаваў аб драўляны край і зрабіў некалькі кароткіх глыткоў. Піва было кіслае і нейкае занадта смярдзючае, як у далёкія савецкія часы. Менавіта такім ён запомніў смак і пах піва з дзяцінства. Піянерска-камсамольскага школьніцтва. Ці не ў восьмым класе яны з сябрукамі-аднакласнікамі прыкупілі ў мясцовай кармапайкаўскай краме кожны па бутэльцы піва і, ідучы дамоў са школы праз сад і лясісты астравок, адкаркавалі напой. А ён, як тое ўзбоўтанае шампанскае, шуснуў вонкі і абліў хлопцу грудзі ды крысо пінжачка, камусьці піва трапіла на нагавіцы і кеды. Сябрукі смярдзелі, як вэнджаныя ўюны. І ўсё ж, крывячыся, даглыкалі пітво, а яно яшчэ з гадзіну не знаходзіла супакою ў вантробах, штохвілінна парывалася вонкі. Галоўнай задачай было ўтрымаць яго ў сабе, не выпусціць, адчуць асалоду і кайф, пра які так распінаўся на школьным двары Джэнсін Мэл. Доўгі час Юджын увогуле не мог пераносіць пах піва. Нават як быў студэнтам, як служыў у войску, пазбягаў заваблівай думкі пацешыць сябе бурштынавым напоем. Толькі атабарыўшыся ў сталіцы і працуючы ў канторы, сяк-так прыламаўся ў кампаніях супрацоўнікаў па пятніцах зазіраць у бар і прапускаць келіх пеннай вадкасці. Заўсёды замаўляў сабе нямецкае альбо рыжскае. Але, жыццё ніколі не стаяла на месцы: то бегла жарабцом, то паўзло казюркай, сягала да зор і абрывалася ў прадонне. Занепадала жыццё і адраджалася птушкай Феніксам з попелу. Уздымала асобы ды народы, але ж без шкадобы перацірала іх у парашок, змывала ў акіяны, ператварала ў порхаўкі... Што ж гаварыць тады пра нелюбоў ці захапленне пітвом маленькага чалавека, сасмяглай пясчынкі сярод барханаў пустыні? Звыкся ўжо Юджын да любога пітва. Не грэбуе ніякім

гатункам, абы пенілася ды невясёлыя думкі з галавы выбівала. Іншым разам яму здаецца, што ператвараецца ён, Юджын, у нейкага выродца. Па каліўку, па крупінцы назапашваецца, напластоўваецца ў ягонай душы незразумелая чэрствасць, абыякавасць да сябе, да людзей, што ненажэрнай асінай плоймай сноўдаюць навокал, гудуць, піхаюцца адзін перад адным. Згаладалымі і здзічэлымі сабакамі вырываюць абглыданую костку з пашчаў-рук, абы не дасталася суседу. А слоўцы-то, слоўцы якія вылятаюць з натоўпу і навісаюць над галовамі, іх галовамі, нашымі галовамі... Ці не ад гэтага ўсё так перакулілася апошнім часам у чалавечым жыцці. Спаганілі мы паветра, якім дыхаем. І бяда не толькі ў мільёнах машын ды заводаў, а найперш яна вынік нашых паганых, нялюдскіх слоў, думак і ўчынкаў...

— Прывет, мой свет. Ты сёння адзін? — нечаканым з'яўленнем Віялета вывела Юджына з невясёлых дум. — Схаваўся ад народа, як кулак, і глыкаеш піўко. У адзіноце! Я прысяду, не прагоніш? — Жанчына плёхнулася побач, нават не змёўшы з лаўкі абдзёрты шкілет рыбіны. Яе ёмкія клубы ў спартыўных штанах медузай расцякліся па бясколерных драўляных плашачках. — Даўнавата цябе не бачыла, — Віялета пацягнулася рукой да пляшкі з півам. Юджын перадаў ёй недапітае.

— Усё сумуеш па сваёй лахудры? Колькі ж можна? Чым во я горшая за яе, га? Ну, скажы мне. Усё ж на месцы, — Віялета хітнула плячыма. Хадуном захадзілі яе поўныя грудзі пад расшпіленай вятроўкай. — У мяне ж усё, як у кожнай бабы. Сам жа правяраў. — Кабета ўсміхнулася, агаліўшы разам з зубамі ружовую палоску верхняй дзясны. — Я пяты год туляюся тут, на вакзале, ды падвалы аціраю, і шчаслівая. Ты ж некалькі месяцаў, як прапісаўся ў гэтым гмаху, а ўжо нос ніжэй каленяў павесіў. Ну і мужчыны! Ламаецеся вы, як трэсачка ці саломінка. Толькі маленькая завірушка, землятрусік у сям'і, так і ляскаецеся на дзве палавінкі. — Віялета прыклалася да рыльца бутэлькі, каўтанула. Выцерла далонню пухлаватыя губы. — Я дык лічу так: што б ні здарылася, як бы жыццё ні біла чалавека, а ён павінен жыць і радавацца кожнаму наступнаму дню. Любіць кожнага новага знаёмцу, кінутых і з кватэр павыгнаных кошак і сабак падкормліваць. Нават і тады, калі і самому нямашака чаго ў рот пакласці. Скрадзі піражок ці пончык і пакармі сябра ды жывёліну. Дарэчы, ты сам хоць што-небудзь еў? — спахапілася жанчына. — У мяне ёсць кусман каўбасы. Праўда, не сыравэнджанай, але есці можна. — Віялета зашабуршэла поліэтыленавым пакетам каля ног. Пакорпалася ў ёмістым пакунку і выцягнула колца каўбасы, нарэзанага хлеба. — На во, еш, — падала Юджыну.

— Дзякуй, — узяў. — Апетыту няма...

— Ну, гэта паправіма. Прагуляемся два кварталы. Там чысценькі і ўтульны падвальчык ёсць... Калі не супраць, то можам і Віцьку ўзяць, ну, таго, барадатага. На мінулым тыдні з ім выпівалі. Ён нядрэнны хлопец, — паспешліва тлумачыла Віялета.

— Патаскуха-пацягана ты, — без злобы прамовіў Юджын.

— Не, патаскуха — гэта тая, якая патаскуе-пасумуе ды адна ляжа спаць. Я ж сабе вось дваіх выбрала. То пабегла я, пачакай тут, далёка не адыходзь. Хуценька мы падыдзем. Адна нага тут, а другая там, — прасакатала Віялета і пабегла з пляшкаю, у якой на самым донцы засталася пена.

Ноч. Яна для Юджына раней азначала пакой і адпачынак, утульнасць ложка і пах чыстай бялізны, роўнае цёплае дыханне Русланы каля яго вуха. І цішыню. Мернае і аднастайнае ціканне насценнага гадзінніка не бралася ў разлік. За доўгія гады сумеснага жыцця да яго звыкліся і быццам не чулі. І калі нават спыняўся гадзіннік, то спахопліваліся праз нейкі час, выпадкова зачапіўшыся позіркам за цыферблат. Стрэлкі ў раскірэку маглі застыгла вісець і дзень, і два. То было раней... Раней шмат чаго было па-іншаму. «Нейкі я бязвольны, сапраўднаяануча!» — настолькі нечакана

і ярка выплыла аднекуль думка, што Юджын здрыгануўся, быццам да яго дакрануліся шокерам.

— Брудная, бязвольная ануча я, — прашаптаў мужчына ў мітуслівую вакзальную ноч. — Так жыць далей нельга. Нельга! «А як жыць?» — з подленькім сумнівам запытаўся той Нехта, што ўвесь час спрачаецца з намі, не пагаджаецца ў хвіліны, калі мы павінны зрабіць выбар паміж добрым учынкам і непрыглядным. Той Нехта, які прымушае нас вагацца, не верыць у свае сілы і магчымасці, падштурхоўвае да здрады і забыцця... Гэты хліпкі чарвяк, якога не вытруціць з сябе, не прыдушыць ні падэшвай, ні пальцам. Ён, здаецца, ледзь дыхае ў нашай натуры, калі мы ідзём пракладзенай і надзейнай дарогай, а калі незнарок ці змушана збочылі, вытыркнуліся з агульнага натоўпу на дарозе, вось тут наш Нехта, здыхлік-чарвяк, і ачуньвае, мажнее і даймае сумненнем. Бяда ж у тым, што не можам мы прыняць кардынальнага рашэння, бо нас агортвае жах: а чым гэта мне адгукнецца? Што падумаюць і скажуць? Ну, не хачу я падавацца белай варонай, мяне задавальняе шэрая чарада і я ў ёй як асобіна, часцінка цэлага варанячага кагалу... «Банальна і збіта на горкі яблык. Чаго-небудзь навейшага падкінь, — Юджынаў чарвяк-здыхлік кпіў. — Бач ты, захацелася яму пагуляць са мной у хованкі. Забаўляйся, але памятай: цела адно маеш і жыццё таксама. А я пачакаю. Спяшацца няма куды, мой гаспадар. Узбунтаваўся ён, ісціну шукае ў сабе. Тупік там, поўны абзац! Асадзі назад». — Нехта прыціх, а Юджын спахапіўся, што так і сядзіць на лаўцы з кавалкам каўбасы і лустай хлеба ў руках.

— Усё гэта ад недасыпу, нервяку, — выдыхнуў мужчына і ўзяўся за пачастунак. — Як у пісанні сказана: «суета сует и томление духа».

Стыласць даймала. Зябкаватасць прабіралася праз лёгкую куртку да схуднелага цела Юджына. Ён падумваў ужо сысці ў зацішак вакзала, а не тырчэць сівагракам на лаўцы і выглядваць зніклую Віялету. Цягнула пасядзець невялічкай кампаніяй, маўчаць ці перакідвацца пустымі фразамі ні пра што. Бо ад вакзальнага шматлюддзя пачынала ўжо балець пячонка і паколваць пад левай лапаткай. Жанчына абяцала ўтульны, дагледжаны падвальчык. Там можна і да раніцы перабыць.

— Зачакаўся нас? Добра, што не сышоў. Мы з Віцькам бегалі, каб да беленькай чарнільца прыкупіць, а яшчэ слоік салянкі грыбной ды халвы салодкай. Люблю салодкае, — Віялета паставіла свой пацяжэлы пакет на лаўку побач з Юджынам. — Халера іх бяры. Столькі народу на вакзале і ў буфеціках-крамках, аж не прабіцца. Скуль бяруцца, чаго ім не спіцца? Едуць яны, усё едуць некуды. Бягуць, спяшаюцца, уцякаюць! Ад самога ж сябе не ўцячэш, праўда, Віцёк? — жанчына штурханула плячом высокага хударлявага мужчыну, з якім прыйшла. Зірнуўшы на яго, Юджын прыгадаў, што сапраўды браў з ім чарку ў кампаніі з Віялетай ды іншымі «знаёмцамі».

— Ыгы, — пацвердзіў даўгалыгі. — Бягуць.

— І мы зараз пабяжым. Ты ісці можаш, не акалеў яшчэ? — жанчына схапіла пакет з лаўкі.

Юджын выпрастаўся, накінуў башлык на галаву

— Вядзі нас.

— І павяду. Хто пакет возьме, мужычкі? — не пытаючыся згоды, саўганула яго даўгалыгаму ў руку. Той моўчкі ўзяў.

Мінулі падземны пераход, выйшлі на другі бок прывакзальнай вуліцы. Тут людзей было значна менш. Стаяла з дзясятак таксовак. Вадзіцелі, збіўшыся па дватры чалавекі, няспешна гаварылі пра сваё. Не рыбны для іх, відаць, час.

— Закурыць не дасі? — басавіта спытаў Віцёк у Юджына. — Я прыкупіў два пачкі, але не распатрашыў яшчэ. Нязручна з пакетам у руцэ.

Юджын працягнуў цыгарэту, пстрыкнуў запальнічкай. Агеньчык выхапіў з прыцемкаў гарадской ночы няголеную шчаку.

— Дзякуй, — буркнуў даўгалыгі.

— А мяне, кавалер, забыў, — азвалася Віялета. — Як лашчыць мяне, то кожны з вас першым імкнецца, а як цыгарэцінкай прывеціць, то ў апошнюю чаргу.

— Прабач, забыўся, што курыш, — павініўся Юджын.

— Ого, я не толькі куру, — Віялета крутанулася юлой на дзябёлай назе. — Я знаходка для вас, мае хлопчыкі: і накармлю, і напаю, а прыгалубіўшы — спацькі пакладу.

— Ці далёка яшчэ? — выдыхнуўшы дым цыгарэты, спытаў Віцёк.

— Ды не. Хвілін праз дзесяць будзем.

— А можна там застацца да рання? — звярнуўся да жанчыны і Юджын. — Не хочацца вяртацца на вакзал.

— Гэта залежыць ад таго, як сябе паведзяце. У маёй рэзідэнцыі можна і на некалькі дзянькоў спыніцца. Дворнічыха там знаёмая. Я ёй часта падсабляю з прыборкай, а яна мне ключы ад падвала дала ды яшчэ і абсталяваць дапамагла, мэбляй забяспечыла. Нумар атрымаўся не горш як у серыялах.

— Ты яшчэ і тэлевізар глядзіш? Дзе знайшла такое месца? — здзівіўся Юджын. — Верталётная ты кабеціна.

— А няго ж! Не кожную ночку баўлю з такімі бескватэрнікамі, як вы. Бываюць у мяне і багаценькія кліенцікі. Некалькі дзядкоў паблізу жывуць, — Віялета тыцкнула рукой перад сабою. — Запрашаюць. Начую, прыбіраю, гатую, пакуль пенсійку не прагойсаем разам. Добрыя яны, пенсіянерчыкі, адстаўныя ваенныя. Многа ім не трэба. Пацалую ў макаўку, пашлыкачу за пятку, ну і... Хопіць. Добрыя яны дзядкі, удаўцы мае залатыя. Праўда, як мужчыны, то ўжо нямоглыя. Затое абыходлівыя, далікатныя, інтэлігентныя. А для спатолення свербу ў мяне вы ёсць, ці падобныя да вас. Віялета зірнула па чарзе на Юджына і Віцька. Мужчыны моўчкі хітнулі галовамі.

Тройца, адышоўшы ад вакзала, апынулася ў гарадскім сонным зацішку. Ні табе людзей, ні машын. А калі павярнулі ў двары, то і святло ад прыдарожных ліхтароў здалёк ледзь прабівалася сюды. Цяпер ішлі моўчкі. Па-перадзе яна, а следам Юджын і Віцёк. Збоку здавалася, што ідуць няспешна, задаволеныя сабою. Нагадвалі яны людзей, якія годна адпрацавалі дзень, прыхапілі ночы і нарэшце дабіраюцца да цёплых сваіх кватэр, дзе іх чакаюць жонкі (Юджына ды Віцька) і муж (Віялету), а таксама плойма здаровых ружавашчокіх дзетак...

Яны ішлі і не бачылі, што следам за імі, не выбіраючы дарогі, плыла, не кранаючыся зямлі, постаць бабулькі ў валёнках з чырвонымі галёшамі.

* * *

Седзячы за сталом у сваёй канторы, Юджын не пераставаў думаць пра загадкавую бабулю, што сустрэў у пад'ездзе. Яна была знаёма-незнаёмым сном, явай, рэальнасцю, выдумкай перанапружанага мозга, глюкам ці... усё ж была? Быццам і зараз ён чуў бабульчын голас, а яе лёгкае дыханне кранала Юджынаву шчаку. Ён нават правёў пальцамі па няголеным падбароддзі да вуха. Мужчына быў перакананы, што некалі, даўным-даўно, у дзяцінстве, а, магчыма, яшчэ да свайго нараджэння, сустракаўся, бачыўся з бабулькай. Чуў ейны спакойны голас і трымаўся за лёгкую, як галоўка дзьмухаўца, руку. Перабіраў пасмы яе прывідных, як ранішні туман, валасоў. Вось толькі калі тое было і дзе? Пры якіх абставінах, з якой нагоды?

«А ці так гэта важна: пра ўсё помніць? — азвалася ў галаве думка. — Было, і дзякуй Богу. Значна горш, калі б таго не здарылася. Застаўся б прагал у памяці, які з гадамі толькі пашыраўся б, пакуль не ператварыўся ў прорву. Галоўнае, ува мне пакінула след хвіліна нашай сустрэчы. Яна ёсць, вось і ўсё! А калі сустракаліся, няхай застаецца тайнай да пэўнага часу... а мо і назаўсёды...»

Юджын чуў голас старой у сваёй галаве, не, зусім не так: яму здавалася, што чароўны гук запаўняў усё ягонае цела, кожную клетачку, жылку. Ён з кожным уздыхам убіраў яго з паветра, са сцен пакоя, з паверхні стала, з манітора камп'ютара. Юджыну было ўтульна і спакойна ў гэтым голасе. Так, як бывае ў дзяцінстве, калі маці спачатку насварыцца на цябе за правіну, а пасля, зразумеўшы, што дарма пакрыўдзіла сваю крывінку, прытуліць да сябе, абдыме і пацалуе сухаватымі вуснамі ў макаўку ці скроню. І крыўда перамешваецца з удзячнасцю і любоўю да роднага чалавека. Крыўда чэзне ад любові маці, як стрыкучая крапіва пад палкім промнем сонца. Высыхаюць слёзы на твары, і табе ўжо нічога не страшна. Ты абаронены ад усялякай несправядлівасці. Табе паверыў самы дарагі чалавек і пашкадаваў. Ты зразумеў, што бяспека — вышэй за ўсё. І бяспеку гэту табе дае маці, нічога не патрабуючы ўзамен. Яна арганічна сплялася з любасцю. А мо і наадварот, любасць, каханне з'яўляюцца для нас аховай ад усяго зямнога і незямнога наслання: крыўды, злыбяды, зайздрасці, нагавораў, чорнага слова, сталёвага кінжала, пякучай кулі і...

«Вось бачыш, мой хлопчык, не ўсё так дрэнна, як табе здаецца. Бо вельмі часта ад страты да набыцця ўсяго — адзін крок, а іншым разам і меней. Хоць гэтага мы і не заўважаем, не прыкмячаем. Галоўнае — не страціць веру. Верыць, калі не хапае сілы ў душы і моцы ў сэрцы. Трэба верыць. Нават тады, калі цябе, як чорнага ахвярнага барана, вядуць-цягнуць на вогнішча ахвяραпрынашэння... Ніхто ж не ведае, што праз хвіліну здарыцца. Чаму б і не ляснуць сярод чыстага неба перуну і прыгаршчамі не сыпануць маланкі і не праліцца залеве, як перад канцом свету. Ці наадварот, той, хто валачэ чорнага барана, знясіліцца, і ў яго ад натугі і паслужлівай пакорлівасці лопне, разарвецца на шматкі сэрца. І нікому не будзе вядома, чыя ж ахвяра патрэбна была сілам, не бачным нам... Не, ні ў якім разе да пакорлівай абыякавасці я цябе не заклікаю, але і ад дурнаватай наскоклівасці папярэджваю. Галоўнае — ведаць, што рабіць. І не клясціся ў вернасці чужым ды і сваім багам...»

— Дзіўная філасофія. У ёй шмат чаго не стыкуецца, — задуменна прамовіў Юджын.

— Ты пра што? — здзіўлена зірнуў на яго калега. — Вось гляджу на цябе і не магу зразумець: па прызванні ты прыйшоў сюды працаваць ці з-за кавалка хлеба? — лысаваты калабок утаропіў на Юджына заплылы тлушчам позірк. — Апошнім часам ты ўвесь нейкі разбэрсаны, недагледжаны, змучаны. — Більярдным шарыкам калега выкаціўся з-за стала і на караценькіх ножках пачаў перакочвацца між сталоў: два метры ўперад, два — назад. — У цябе нешта здарылася? — надзея ў голасе калабка. — Я чым-небудзь магу памагчы? — ён цярнуў пульхнымі далонькамі адна аб адну.

— Ага, — абыякава выдыхнуў Юджын.

— Што? Гавары, што здарылася? — калабок-більярдны шарык аж падскочыў над падлогай. — Я нікому ні-ні! Галаву на адсячэнне! — ён пяцярнёй шмаргануў па ўрослай у плечы шыі. — То што ж там у цябе? — цікаўнасць выпірала ў калегі праз вушы і ноздры.

— Зацяжараў я, — сур'ёзна і абыякава прамовіў Юджын. — Ужо сёмы месяц пайшоў. Так што збірайся, кумам будзеш.

— Свіння ты, Юджын, — з калабка быццам бы выпусцілі паветра. Ён зменшыўся, укормленыя плечыкі абмяклі, трайное падбароддзе ўпёрлася ў грудзіну. — Я па-

сяброўску хацеў памагчы, калі трэба, а ты здзекуешся, пасміхаешся з мяне. Глядзі, каб і я з цябе на ўвесь голас не пацешыўся! Гумарыст знайшоўся!

— Супакойцеся, ваша напалеонаўская вялікасць, — прымірэнча прагаварыў Юджын, — нічога супраць вас не меў і не маю. Толькі адна просьба: у душу не лезьце. Вось і ўсё.

Більярдны шарык закаціўся за свой стол, улузнуўся ў крэсла і, павярнуўшы манітор, поўнасцю адгарадзіў цікаўны твар ад «разбэрсанага, недагледжанага, змучанага» Юджына.

«Мае вы людзі-чалавекі, — падумалася Юджыну, — не дам я магчымасці парадаваць ваша самалюбства праз мае нястачы і праблемы. Шчырасці няма ў вашых словах, спачування ў вачах. Ды і не трэба яны мне, вашы напышліва-прыгожанькія “охі” ды “ахі”. Ведаю я іх кошт ды вартасць».

«Навошта так безаглядна думаць пра ўсіх? Чалавек ад чалавека розніцца, — ласкавы і дакорлівы голас з’явіўся, нібы хвалька на рачной люстраной гладзі. — Нічога дрэннага, калі і пашкадуе нехта, добрую параду дасць. Не ўсе ж навокал згубілі чалавечыя якасці. Хапае і тых, каму баліць чужы, а не толькі свой боль. А калі па сабе іншых мераць, то зноў — не так усё дрэнна, як здаецца. І ў табе, Юджын, побач з заганамі, душэўнай іржою ды чарнатою, хапае і светлых, белых, ружовых і нябесна-блакітных плямак, дзе раскашуе яшчэ спагада, спачуванне шчырае, вера ў вечнае, хоць і іншымі зацяганае, патаптанае ды не зношанае дарэшты. Ты ўспомні, як у хваравітым далёкім юнацтве, ці не ў сёмым класе, твая маці аддала цябе твайму дзядзьку, для яе — брату. Аддала, каб вылечыць цябе ў горадзе. Каб быў ты здаровенькі. І ў той жа час, калі цябе забралі, яна, твая маці, узяла прымака. Адной жа не пацягнеш малых дзетак ды гаспадарку... А ты, нязграба, дадумаў, што яна здрадзіла табе, бацькавай памяці, здрадзіла сёстрам... Для твайго дзіцячага сэрца свет дзяліўся толькі на дзве часткі: гэта — правільна, а гэта — не. Ты не думаў, што адчувае маці кожны дзень, высільваючыся за плугам, касой, рвучы жылы ў лесе на нарыхтоўцы дроў, полячы, жнучы, збіраючы... Яна не думала пра сябе. Маці думала пра вас. А ты, мой дарагі Юджын, плакаў у бальніцы далёкага горада, і табе не хацелася лячыцца, а карцела збегчы дадому... Калі ж даведаўся пра прымака, то ледзь не пракляў любага і дарагога чалавека. Дзядзька прынёс навіну. Ты скрыгатаў зубамі і плакаў, пазіраючы праз бальнічнае акно ўдалячынь. У той бок, дзе, як табе здавалася, знаходзіцца вёска, твой дом, свежая бацькава магіла... Ты не забыў яшчэ пра гэта, Юджын?»

— Не прымушай пакутаваць наноў! — выдыхнуў Юджын. Ён пашукаў на стале цыгарэты. Ляпнуў рукой па кішэні джынсаў. З-за манітора на яго асцярожна зірнуў калабок-більярдны шарык. У пакоі чуўся толькі манатонны гул кулераў ды клацанне клавіятуры. Юджын вырашыў не ісці ў курылку, а падыміць на свежым паветры, каля ўваходу ў кантору. Золкасць і макрэча не палохалі. Мужчыну падумалася, што незразумелае насланнё ўспамінаў, голас невядомай бабулі ў галаве — не што іншае, як наступствы ўчарашняга загулу.

Юджын прыкурыў, упёрся плячыма ў сцяну. Пад невялічкі навесік-казырок вецер не заносіў дажджавую пацяруху. Цыгарэтны дым распаўзаўся па дзвярах, сцяне, і спакайнела на душы ў мужчыны. Пры кожнай зацяжцы яснела ў вачах, цвеі разіўся затурканы штодзённай неўладкаванасцю мозг.

— І праўда, не ўсё так дрэнна, як здаецца напачатку, — прашаптаў Юджын нябачнаму субяседніку. — Бо ніхто з нас не ведае, па чым ці кім можна і трэба плакаць, а з-за чаго кідацца ў бяздумны рогат. Сказана ж, што будзе дзень і будзе ежа. Здаецца, гэтак гаварыў стары Ярмак. Дзядуля з роднай вёскі. Божа мой, калі тое было? Які ж я сам стары ўжо! — Юджын вольнай ад цыгарэты рукой правёў па твары. — Гады вы мае,

гадочкі, і не прыкмеціў, як напластаваліся, нагрувасціліся вы на плечы, сціснулі, сцёрлі храсткі ў суставах, выгнулі пытальнікам некалі стромкі хрыбет... Але, чаго я галашу над сабою? Сам жа толькі што пераконваў сябе: не ўсё так дрэнна, як здаецца. За восенню будзе зіма, а затым — абавязкова! — прыйдуць вясна і лета. Вось пабачыш, будзе вясна і лета! Скончацца ўсе мае мыканні. І ў Русланы сэрца не з жалеза. Даруе яна мне, выбачыць і даруе! — Юджын усміхаўся. Курыў і ўсміхаўся, ці не? Не, ён плакаў...

* * *

Ноч, якая то была чорная і глухая ноч. Ад стварэння свету яна больш не паўторыцца. Ніводнае дрэўца не шалахнулася ні каля двароў, ні ў садах, ні ў блізкім лесе. Нямая цішыня павісла над вёскай, калі Юджын вобмацкам зняў з вешалкі пінжачок у сенцах і выйшаў крадком, каб не рыпнулі масніцы, на двор. Іхні сабака і то не азваўся на крокі; здавалася, што зямля злілася з небам. Калі заплюшчыць вочы і моцна націснуць на іх пальцамі, то нешта падобнае да той ночы можна пабачыць. Юджын жа ішоў упэўнена. Мінуўшы варотцы, якія, на дзіва, не скрыгатнулі іржавымі цвікамі, ён па нябачнай утравелай сцяжынцы крочыў паўз плот сядзібы да лесу. Босыя ногі не халадзіла раса, яна лашчыла. Юджын ведаў, што толькі сённяшняй ноччу ён зможа паспрабаваць вярнуць бацьку, вярнуць шчасце ў іхнюю асірацелую хату. Напачатку, калі даведаўся, што яму давядзецца ў Гнётаву ноч ісці ў лес, дык ледзь не знямеў. Але ж, калі ён зразумеў, што ад яго, і толькі ад яго залежыць: ці вернецца бацька, ці заўсміхаецца ўчарнелая ад гора маці, ці адродзяцца ў іхняй хаце радасць і дабрабыт, — ён пагадзіўся. Ні слова нікому не кажучы, пагадзіўся і пакляўся на вялікай ступе ў клеці, што пойдзе ў Гнётаву ноч і прынясе аднаногаму Аўдзею зоркавую расліну. Гэта Аўдзей, на саракавы дзень пасля пахавання бацькі, пераняўшы Юджына каля крыніцы пад трыма ліпамі, спытаў: — Ці хочаш ты, каб твой бацька вярнуўся? — Ад яго позірку пякло твар у хлопца і ледзянелі ступні. Голас не слухаўся, а між лапатак танюткім раўчуком пакаціўся па спіне струмень поту. Аўдзей абапіраўся на мыліцу і не адводзіў вачэй ад знямелага хлопчыка.

— Дык ці хочаш бацьку вярнуць? Праз шэсць дзён зможаш гэта зрабіць, калі не спалохаешся ды людзям нашу гамонку не перакажаш. І не злякаешся ў патрэбны момант. То, як яно, пагамонім?

Юджын успомніў пустую без бацькі хату і згодна матлянуў галавою.

— Мужчынам расцеш. Пашкандыбаем да мяне, пад паветку, там зручней гаворку весці. — Аўдзей абапёрся вольнай ад мыліцы рукой на плячо хлапчука. — Пайшлі-пайшлі, — першым зрабіў скок-крок, нібы цвыркун з абарванай нагою, стары.

Сядзіба варажбіта-ведзьмака месцілася за апошнімі хатамі іхняй маленькай, згубленай сярод дрымучых лясоў і балацявін, вёскі. На лабастым пагорку, сярод таўсматых асін, муляў, як бяльмо на воку, двухпавярховы дом Аўдзея. Гаварылі, што больш як стагоддзе, пры князю, пабудавана гэтая хароміна. Ані ўчарнеласці, ні гніласці на дубовых кругляках будыніны. Ад крыніцы пад трыма ліпамі да дома Аўдзея метраў сто — сто дваццаць. Юджын не паспеў і вокам міргнуць, а яны апынуліся пад страхою паветкі, сярод павозак і рыштунку да іх.

— Сядай, хлопча, — Аўдзей паказаў на плашку паўз сцяну. — Гаворка ў нас не такая і кароткая будзе. — Сам прыладкаваўся каля хлопца. — Дрэнна без бацькі застацца ў такія гады, — з жалем прыцмокнуў вядзьмак, — а яшчэ ж дзве дзеўкі меншыя за цябе. Матцы цяжка, вам халодна і галодна будзе. Без бацькі закарэеце, зачарсцвееце. Каму захочацца, той і папіхне, пакрыўдзіць. Доля сірочая — горкая доля. Вось я і наважыўся дапамагчы вам бацьку вярнуць. — Аўдзей пагрозліва зір-

нуў на Юджына, — калі і ты мне паможаш. Спадручней жыць, падсабляючы адно аднаму. Ці праўду я кажу?

— Бацька наш памёр, — выціснуў з сябе хлопчык. У ягоным голасе чуліся прыхаваныя слёзы. — Вы ж на пахаванне прыходзілі і...

— Ведаю, ведаю я, што бацька памёр, што на могілках закапалі яго. Не забыў, што і саракавіны справілі. Усё я гэта помню, Юджын. Яшчэ не здзяцінеў і з розуму не выжыў, з глуздоў не з'ехаў, — бачна было, што вядзьмак пачынае злавацца. У яго дробненька затрэслася барада, нервова захадзілі-затрапяталі крылцы доўгага носа. — Ты можаш дапамагчы і мне, і бацьку. Не дзівіся ўсяму, што пачуеш. Проста павер і зрабі так, як накажу зрабіць. На шостую ноч, пасля сённяшняй, трэба пайсці табе, цнатліваму чалавечаму парастку, не забруджанаму яшчэ ні маной, ні здрадай, у Бярозавую грыву на курган. Тая ноч будзе Гнётавай ноччу. Яна раз на тысячагоддзе выпадае. Разумееш, усяго раз на тысячагоддзе. Нам пашчасціла, на наша жыццё прыпала такая падзея. Ад далёкіх прабацькоў, з пакалення ў пакаленне перадаецца дзень і год Гнётавай ночы. Я ці не апошні, хто яшчэ помніць, што яна, Гнётава ноч, распластаецца над зямлёю на наступным тыдні і выпусціць з нетраў зямлі на кургане Бярозавай грывы зоркавую кветку.

— Гэта папараць-кветка? — не падумаўшы, перабіў Аўдзея хлопец. — То ж у мінулым месяцы хадзілі сябры шукаць. І нічога не...

— Навучыся слухаць! — грымнуў бакавінай мыліцы аб плашку, на якой сядзелі, Аўдзей. — Не перабівай, а запамінай. Дурні няхай шукаюць папараць-кветку. Я ж табе пра векавую тайну гавару, якую мне аднаму не ўтрымаць і не адолець. Ты той, хто зможа справіцца з нялёгкай задачай. Тваё дзіцячае гора, твая шчырая бяда залучаць зоркавую расліну ў нашы рукі. Шкада, што дужа маладзенькі ты, зялёны яшчэ. Гадкі б тры табе яшчэ накінуць. Але, што ёсць, тое і маем. Слухай далей, у Гнётаву ноч, пасля першых пеўняў і пойдзеш ты цішком з хаты. Ніхто ні чуць цябе не павінен, ні бачыць. Ідзі смела, з адкрытай душою. Я наглядкам буду табе дапамагаць, праз лес весці. Ніхто: ні птушка, ні звер, ні казюрка дарогі тваёй не пяройдзе...

— А як мы бацьку вернем? — з сумнівам і нецярпеннем спытаў Юджын. Яму надакучыла слухаць пра Гнётаву ноч і зоркавую расліну. Хлопцу хутчэй хацелася даведацца, як вярнуць дамоў памерлага татку. Яму пачало здавацца, што Аўдзей засумаваў у сваёй бярлозе без удзячнага слухача, таму ён і залучыў абяцаннямі Юджына да сябе і цешыцца расповедамі. Ды і як можна вярнуць таго, хто закапаны на могілках, па кім адгаласілі і адстагналі родныя? Чыё сэрца спынілася, а ў целе кроў зледзянела, застыгла. — Казкі ўсё гэта, дзеду, казкі. — Хлопчык абапёрся локцем аб краёк самаробнага стала. — Ніхто яшчэ з таго свету не вяртаўся. — Па даросламу, з веданнем вымавіў Юджын.

— Го-о-о, з такімі думкамі далёка не зрушым, — Аўдзей задумаўся, машынальна адагнаў ад вачэй надакучлівага слепака, цярнуў кулаком пераноссе. — Трэба верыць і ведаць, што рабіць. Я зараз раскажу, у чым уся закавыка. Зоркавая расліна, па якую ты пойдзеш, спыняе бег часу. Можа павярнуць кожны лёс у адваротны бок, нават далёкую гісторыю мае сілу перастварыць. Пры дапамозе зоркавай расліны мы зможам убачыць усё сваё будучае жыццё, вярнуць людзей, дарагіх нам, пазбавіцца ад стыхій і хвароб. Будзем заўсёды багатыя і здаровыя...

— А як татку вернем? — не стрымаўся, каб не перапытаць наноў. — Ён жа мёртвы, дзеду!

— Дзіця, горкае ты яшчэ дзіця, — Аўдзей дакрануўся да пляча хлопчыка. — Мы ж будзем з табою ўсясільныя. Мы спынім час напярэдадні бяды. Не пусцім твайго бацьку на рэчку. Абыдзецца Сож без яго ахвярапрынашэння. Галоўнае, знайдзі на кургане Бярозавай грывы зоркавую расліну і прынясі мне...

Ноч, то была чорная і нямая ноч. Быццам увесь сусвет нехта вывернуў на знаніцу. Заціхла, стаілася ўсё жывое, а нежывое і так нямком было. Юджын ужо мінуў прылеснае кустоўе, перайшоў роў, заглыбіўся ў баравы сасоннік. І нідзе нічога не шалахнецца, нават пад босымі нагамі галінка не трэсне. Хлопец ідзе, як у сне, як у цягучай рошчыне. Паветра навокал настолькі пругкае, што яго прыходзіцца разрываць грудзямі і плячыма. Ён прабіраецца, як нагрэты на агні нож праз вашчыну. Радуе адно: Юджына нехта нябачны падтрымлівае, падпірае са спіны, паказвае ў суцэльнай цямрэчы пуцявіну. Хлопец яшчэ ні разу не сутыкнуўся ні з дрэвам, ні з пнём, якіх, ён помніў, дужа багата па дарозе на курган Бярозавай грывы. І светлякоў не згледзець, хоць раней Юджын з сёстрамі збіраў іх прыгаршчамі на чарнічніку і лісточках сунічніку. У вушы як быццам напіхана ваты ці заліта вада. Ну хоць бы адзін-адзінюсенькі жывы гук! Хлопец паспрабаваў крыкнуць сам, але з расшчэпленых вуснаў не вырвалася нічога. Юджыну карцела ўжо павярнуцца і бегма бегчы дамоў. Незразумелая трывога нараджалася ў яго душы. Ён не хацеў ужо абяцанага Аўдзеем вяртання бацькі. Сумненне ў такой магчымасці запаўняла дзіцячую свядомасць. «Пад нябожчыка рукі не падкладзеш, каб узняць». Юджын неаднойчы чуў пра гэта і верыў чутаму. Цяпер паверыў яшчэ больш. Хлопчык наважыўся спыніцца, але нябачная сіла падштурхнула са спіны, і ён зрабіў наступны крок. Да Бярозавай грывы заставалася не так і далёка, калі малы спатыкнуўся і распластаўся на мяккім пульхным імху.

«Падымайся, Юджын, ідзі. Ты ўжо дайшоў, зусім побач», — пачуў над вухам голас Аўдзея. Хлопчык узрадаваўся, што чуе, што ён не глухі, як здавалася зусім нядаўна. Юджын узняўся і пасунуўся далей. Праз паўсотню крокаў ступнямі адчуў, што пачынае ўзыходзіць на курган. Ён углядаўся ў цямрэчу. Якая розніца, куды глядзець? Паўсюль аднолькава: што ўверсе, што ўнізе. Час для Юджына спыніўся, як незаведзены будзільнік на стале. Ён знаходзіўся ў міжчассі: тут і недзе там, між зямлёю і небам. Ён быццам быў, але яго не існавала. Хлопчык згубіў сам сябе ў неабдымнай прасторы Сусвету, пераадолеў мяжу рэальнасці, за якой пачыналася чужое, варожае для чалавека валадарства. (Гэта цяпер, дарослым, ведае Юджын, а тады, у тую ноч, ён проста растварыўся ў суцэльнай цямрэчы.) Але што гэта такое? Вочы, якія былі быццам аддзелены ад цела, раптам убачылі палоску святла. Ногі, таксама без цела, напружыліся, паскорылі крок, рукі чапляліся за нізкарослае падлессе. Вочы зірнулі ў неба. Над курганам высеяліся ўсе зоркі. Ды так густа яны цясніліся, што лапік неба ператварыўся тут у суцэльнае белае прасцірадла. Толькі сям-там прабіваліся танюткія нітачкі чорнай прасторы.

Юджын забыўся, як дыхаць, і праз некалькі імгненняў страціў прытомнасць, праваліўся ў глыбокую палонку забыцця. Ён так і не пабачыў зоркавай расліны. А мо, проста не заўважыў яе на кургане ў суцэльнай белі... Хлопца знайшлі пасля полудня вясковыя пастухі. Нямоглага прынеслі дамоў. І зноў, як зусім нядаўна, плакала маці, сёстры расціралі слёзы па мурзатых шчоках, а ён, цяперашні гаспадар у сям'і, не мог зрабіць і кроку па хаце. У той жа дзень ён даведаўся навіну і пра Аўдзея. Нехта з вяскоўцаў убачыў яго каля крыніцы пад ліпамі з успоратым жыватом. У руцэ, як гаварылі, ён трымаў пук дзядоўніка. Вось і ўсё, што засталося ў памяці Юджына пра зоркавую расліну і ўваскрашэнне таты...

«Ну, не ўсё. Памятаеш, ты ж вінаваціў маці, што аддала цябе дзядзьку, каб самой узяць прымака», — зноў убіўся ва ўспаміны голас старой у валёнках з чырвонымі галёшамі.

«Было такое, я не аднекваюся».

«Хоць цяпер зразумеў сапраўднасць яе парыванняў ды клопатаў?»

«Даўно ўжо дайшло да мяне ўсё, што трэба».

«Значыць, не дарэмна мы вярталіся ў тваё дзяцінства, у таямніцу Гнётавай ночы. Зноўку прайшліся да кургана ў Бярозавай грыве. Вяртанне ў мінулае дасць магчымасць зразумець дзень сённяшні...»

«Але ж і жыць мінулым немагчыма. Мінулае няхай застаецца там, разам з гадамі, што адляцелі».

«Спрачацца не буду, — пацішэў голас старой, — але, як вы любіце паўтараць: без мінулага і будучыні няма».

«Прамоўленыя словы часта нічога не значаць. Вы-та пра гэта павінны ведаць...»

«Я ведаю, шмат чаго ведаю... Каб жа некаторым навучыцца спасціжэнню чужых памылак...»

«Тут свае б асэнсаваць...»

«Хопіць на сёння вандраваць у басаногім дзяцінстве. Пара ўжо абуцца, хлопча. І досыць курыць. Паглядзі, пачак пусты...»

* * *

Колькі ж людзей згарэла, звяла, згібела, так і не выпрастаўшыся, не пасталеўшы, не разгарнуўшы плечы на поўную сілу. Не нагледзеўшыся ўволю на нябесную прастору, не ўдыхнуўшы напоўніцу п’янкога і чыстага паветра, не ўсміхнуўшыся шчыра, без аглядкі, не сказаўшы праўдзівага слова, каму гэта патрабавалася... І віною тут боязь, перасцярога, недавер... Іншым разам здаецца, што яны ў некаторых з нас ад нараджэння закладзены ці ўвабраны ў душу і сэрца з першым удыхам. А мо, генетычна гэта адклалася за доўгую і пакручастую гісторыю? Хто толькі над гэтым пытаннем не разважаў? Вучоныя галовы падкідвалі разумныя гіпотэзы, а яны, боязь ды недавер, перасцярога ды паслужлівасць, і цяпер набіраюць сілу, мажнеюць, распаўзаюцца, падмінаюць пад сябе ўсё новыя і новыя пакаленні...

Юджын стараўся ў жыцці нікога і нічога не баяцца. Не ўпускаць у сваё нутро гэтую ліхаманкавую, слізкую істоту. Мо з-за таго што ў дзяцінстве ён сваё адбаяўся. Ён тады, у бязвусым узросце, зразумеў, што нельга пражыць усё жыццё — баючыся. Новага дня, злога чалавека, настаўніка, суседа ці суседку, цёмнага лесу і топкага балота. І сёння ён не баяўся начальніка на працы, машыны чыноўніка на дарозе, міліцыянта ў метро, не баяўся прыдуркаў у транспарце, злаязыкіх калег, напалеончыкаў, што імкнуліся ім кіраваць... Чаго баяцца Юджыну? Што яны могуць зрабіць? Звольніць з працы, пабіць, абгаварыць, паліць брудам без дай прычыны? Без праблем! Рабіце тое, што лічыце патрэбным. Пацешце сваё дробненькае і змізарнелае самалюбства, адчуйце сваю мурашыную моц і важнасць. Узвысцеся на хвіліначку. Так, на хвіліначку! Больш не атрымаецца. Ваша ж самалюбнасць вас і з’есць цалкам, не пакінуўшы нават воласу, пазногця. Стратай працы таксама палохаць не трэба. Была б шыя, а хамут знойдзецца. Так, Юджын без даху над галавою, без жанчыны, якую кахаў. Чаму ж кахаў? Ён яе і цяпер кахае. То чаго ж баяцца? Боязі ў сэрцы няма. Там пакуль пасялілася роспач. Не, не баіцца ён застацца адзінюткім, як высахлая піжміна сярод зімовага лугу ці поля. Нават яна, піжміна, не адзінокая. Яна сваволіць з ветрам і мяцеліцай, забаўляецца з машкарэчаю фігурных сняжынак, усміхаецца бяльмастаму сонцу праз настылае зімовае паветра. То чаго баяцца?

І Юджыну няма чаго баяцца. Што яму губляць? Ды і не толькі яму, а кожнаму, хто жыве на зямлі... Жыццё? Так, толькі жыццё ён можа згубіць! Як і кожны, хто пакуль дыхае і цешыць сваю веліч мізэрнасцю ўчынкаў. Самае цяжкае ва ўсім гэтым — застацца чалавекам. Пры любых абставінах і ва ўсялякіх сітуацыях. Вось маралісты

могуць адразу ж пакхекаць у кулачок, прыгразіць пальчыкам: маўляў, ведаем мы цябе, святошу-чалавекалюбца. Не баіцца ён нікога ды нічога, а сам прапагандуе сярод прывакзальных выпівох не этычныя нормы, высакароднасць, свабодалюбства, а разбэшчанасць. Мы цябе зараз пазногцікам і прышчэмім: не пусцім, забаронім. Ату, кусай яго, гані ў тупік...

А які тупік, мае вы шаноўныя людцы? У тупік Юджын сам сябе загнаў, пакінуўшы Руслану незамужняй удавою. А ён хоча проста быць чалавекам: гаварыць, што думае, жыць, як дазваляе сумленне і абставіны. Не быць еўнухам ці блударукім манахам, а мужчынам застацца. Не даць магчымасці ажыць брыдкаму чарвяку боязі і хцівасці ў сэрцы. Не дазволіць скамянець ці хоць бы ачарствець трапяткому мускулістаму органу ў грудзях... Ці ж такая гэта ўжо звышзадача для яго, чалавека? Бо маральныя законы часта пісаліся амаральнымі людзьмі. Зазірніце ў гісторыю чалавецтва, процьма прыкладаў выплывае на свет Божы. Так, Юджын не багаслоў, але, як дзевяноста дзевяць адсоткаў электарату, пачытваў у свой час Вечную кнігу. Іншая справа, ці ўсё прымалася ім на веру, бо часта даймалі сумненні... А як без гэтага? Толькі праз сумненні і дойдзеш да ісціны, магчыма.

Вельмі шмат у Юджына часу на роздум, аналізаванне, параўнанне... Што яму яшчэ рабіць доўгімі начамі ў вакзальнай чакальні? Вядома, калі не бярэ чарку са знаёма-незнаёмымі асобамі ў скверыку ці ў падвальчыках. Як ні дзіўна, толькі ж апошнімі тыднямі Юджын адчуў, што яму абрыдла ўжо душыць нутро паленай гарэлкай, смярдзючай самагонкай ды танным віном. Ён баяўся, што можа не заўважыць той мяжы, калі вяртанне назад, да сябе ранейшага, зробіцца немагчымым. Вельмі ж танюткая гэта рысачка-палоска, амаль уяўная і ценькая. Некаторыя яе не заўважаюць і пераходзяць, не спатыкнуўшыся... І вось чалавек слізгануў, пакаціўся ўсё ніжэй і ніжэй. Няма сілы і волі зачапіцца за нешта ці некага. Ды і руку ніхто асабліва не хоча працягнуць. А калі ў незразумелым парыве душы нейкая дурніца ці рамантычна настроены дабрадзей і падасць дагледжаны пальчык, дык толькі дзеля прыліку. Каб ачысціць уласную душу ад свайго граху. Каб пасля сабе ў хвіліны замілавання сказаць — я добры, спагадлівы. Вось не пашкадаваў часу, не пасаромеўся і дапамог бамжу рублём-тышчонкаю, няхай парадуецца, купіць сабе кавалак каўбасы ці куфаль піва. Ад мяне не ўбудзе, а яму, небараку, радасць. Не, Юджын не хацеў, каб яго шкадавалі. Гэта ўжо апошняе, да чаго можа дайсці чалавек. Шкадаванне прыніжае і абражае. Шкадаваць можна калеку. І то — асцярожна, не напаказ. А з-за чаго шкадаваць яго? Ну, не ўсё ладна, не так, як хацелася б, ідзе жыццё. Ну і што? У Юджына ўсё яшчэ наладзіцца з Русланай. Наладзіцца... Калі ж не, то патрэбны час, каб адбалела, загаілася і ачысцілася душа ад кахання да яе і саступіла месца іншаму пачуццю. Тут вельмі важна перацярпець, сціснуць зубы і чакаць, жыць, працаваць і яшчэ раз чакаць. Самыя вялікія пачуцці адгараюць, самыя шырокія рэкі перасыхаюць. Трэба ўмець чакаць. Вось дзе толькі набрацца сілы, каб пераждаць-перачакаць? Юджын жа моцны мужчына! Асілак духу!.. Ні фіга падобнага. Слабы ён, звычайны, як і кожны з сямі мільярдаў чалавек. Слабыя мы ў сваёй моцы. Кволыя ў вялікасці. Мы проста людзі...

Юджын ішоў з працы да ЦУМа, і гэтыя вечныя і заблытаныя пытанні варушыліся, кіпелі ў ягонай галаве. Ён разумеў, што ні да якой высновы пакуль не зможа прыйсці. Ніякае пэўнае рашэнне не прыме. Будзе і надалей ледзь не штодня ездзіць пад вокны Русланінай кватэры і ўглядацца ў асветленыя квадраты рам. Ягонае сэрца будзе захлынацца тугой, а вочы поўніцца нявыплаканымі слязьмі. Як і тыдзень, месяц таму, ён будзе давіцца спіртным у прывакзальным скверыку, аблашчыць не адну яшчэ жанчыну. Лёгкую і падатлівую, з пахам перагару і таннай парфумы... Але

ён таксама ведае, што ў любых умовах вытрывае, не пераступіць мяжу незваротнасці. Ён здольны пераадолець непераадольнае.

— Не займайся самападманам, маленькі мардасты кітайскі бажок! — прабубніў сабе пад нос Юджын і цынічна цыркнуў слінай пад ногі. — Не змог перамагчы ў сабе жарабячы юр, а замахваешся на цяжэйшыя чалавечыя заганы. Так яны табе і даліся. Ужо лічы, што зацугляў, адолеў іх. Гэткія памкненні падобныя да камарынага піску, сполаху запалкі пад навальнічным ветрам. Паміж «хацець» і «зрабіць» — прадонне без мастка і тарзанкі.

Мужчына спахапіўся, што гаворыць сам з сабою. Коса, спадылба, зірнуў на прахожых. Такіх, як ён, заклапочаных і паспешлівых. Усе ўсім былі да лямпачкі. Хоць прысядзь і пераабувайся пасярод тратуара. Абыдуць, не зачапіўшы позіркам.

«Наколькі прасцей стане жыць, калі прыгаснуць мужчынскія жаданні ў целе, — дзіўнаватая думка-хітрынка ўсміхнулася Юджыну бяззубым ротам. — Ніякіх праблем табе: папрацаваў, паеў, паспаў. Вось жытуха дык жытуха на гарызонце світанкам ажыны зіхатнула».

Але Юджыну цеснавата ў гэтым свеце. Яму надакучылі шкляныя дарогі горада, такія ж дамы і людзі са шклянымі тварамі. Нямашака цеплыні, агеньчыку сардэчнасці ды лагоды сярод мільёнаў зацывілізаваных, ненажэрных у сваіх жаданнях ды памкненнях, гараджан. Але ці толькі гараджан? Юджыну ніколі раней не прыходзілі такія думкі ў галаву. Ён быў шчаслівы побач з Русланай сваім маленькім і ўтульным шчасцем. Магчыма, што так і жыве большасць?.. А што, скажыце, яшчэ трэба чалавеку, калі ў яго ёсць любая жанчына, здаровыя карапузы-дзеці, жывыя бацькі, праца, якая дазваляе зарабіць на хлеб і нагавіцы з кашуляй. Але ўсё гэта адносна, да пары да часу, пакуль не грымне ў спіну яго вялікасць выпадак і бесталкова не змяшае раскладзеную калоду карт твайго жыцця.

— Ага, як тут не паверыць у песімізм Артура Шапенгаўэра. І спрачацца няма сэнсу. Дзе ж, падкажыце, схапіць за хвост птушку шчасця? — Юджын мармытнуў пад нос і, сышоўшы з тратуара да газетнага шапіка, прыпыніўся ў закутку. Ён угледзеўся ў твары прахожых і ўбачыў безаблічную, аднастайную шэрую масу. Аж скалануўся: падалося, што выпадкова ён патрапіў да жывых мерцвякоў. І сам ён зомбі, але ў яго на хвіліну ўраўнаважыўся розум і прасвятлеў зрок, таму ён і бачыць рэальную карціну. Праўду кажуць, што іншым разам трэба мець дар маўчання, які — нібы выратавальная кропля дажджу ў паўдзённым жэрале пустыні. Юджын яго мае. Дзякуючы гэтаму ўсведамляе, што ўсе яго парыванні абудзяць і ажывяць замбіраваных вакол сябе людзей — непатрэбная валтузня ў пустэчы. Яму не страшна быць сярод да сабе падобных. Ён такі ж, ён, магчыма, і горшы за большасць, але ў Юджына разам з дарам маўчання ёсць яшчэ і запас зносаўстойлівасці. Гэты запас, як цагліны ў сценах Чырвонага касцёла. Маўчанне і зносаўстойлівасць — Юджынава нябачная зброя, засцерагальная абалонка ад варожых выпадаў, ад нечаканых udараў лёсу. Яму раптам так захацелася жыць толькі цяперашнім, без мінулага і будучыні. Расплавіцца казюркай у кроплі бурштынавага вечара і нікуды не ісці, ні пра што не думаць. Вызваліцца ад цяжару выбару, правільнасці і няправільнасці ўчынкаў...

Юджын дзесьці чытаў, што ўсе мы залежныя ад саміх сябе, нават калі пра гэта і не падазраем. І яшчэ... мы ўсе залежым адно ад аднаго. Вось вам і метамарфоза, характэрная для кожнай душы без выключэння...

У газетным шапіку сотні рознакаляровых глянцавых вокладак часопісаў з эфектнымі прыгажунямі, найноўшымі аўтамабілямі і россыпам драбязы — ад жуйкі да цыгарэт. «Не перабольшваючы, нібыта ў паўсядзённым жыцці», — адвёўшы позірк ад запыленага шкла, канстатуе Юджын. Ён нечакана адчувае нерухомасць часу. Час застыг, зледзянеў. Час не мае формы. Як маскі на тварах сустрэчных.

Вечар нагадваў разбаўленае вадой малако з дамешкам шэрай фарбы.

— Нічога ў жыцці не бывае выпадковым, мой ты хлопец, — Юджын павярнуў галаву на голас. Побач стаяла знаёмая ўжо бабулька ў валёнках з чырвонымі галёшамі. Твар старой быў сумны, але прасветлены. Нейкая нябачная і няўлоўная сіла ці энергія зыходзіла з кожнай зморшчынкі ласкавага аблічча. Цішыня разрасталася вакол Юджына і бабулі, яе было шмат, вельмі шмат. Ад незразумелай цішыні на хвіліну мужчыну заклала вушы. Яна, цішыня, пералівалася праз край вуліцы, паглынала шматпавярховікі, запаўняла ўсю вечаровую прастору горада. І яшчэ Юджын адчуў тугую гушчыню паветра.

— Не перажывай і не катуй сябе, — бабулька дакранулася да пляча Юджына. — Цяпер не той час, калі чалавека ацэньваюць як асобу ці індывідуума. Трэба перачакаць гадзіны, дні, а то і гады вячэрняга смутку, пакуль надыдзе прасвятленне і ў душы запануе ачышчальная раніца. Ты сёння маеш галоўнае — унутраную свабоду. Вось што заўсёды і паўсюдна належыць табе. Адчувай волю там, дзе яе няма адвеку.

— Я задаволены адзінотай, — не хочучы таго, прамовіў Юджын.

— Нядрэнна, — пагадзілася старая, — тыя, — яна хітнула галавою на прахожых, — пазбаўлены і такога шчасця. Адзінота — катэгорыя, якая для талковага чалавека павінна быць пастаяннай.

— Ці не перабольшваеце вы? — засумняваўся мужчына.

— Ніколечкі. Павер на слова, — бабулька сумна ўсміхнулася. — Так ужо склалася ад стварэння свету. Ад нашых прабацькоў перадалося нам, ад нас вам перацякла самотнасць душы.

— А як з целам? — выскачыла пытанне з Юджынавых вуснаў.

— З целам? — перапытала старая. — З целам тое ж. Ты вось зараз заплюшчы вочы. Заплюшчыў?

— Так.

— Не здаецца цяпер, што цябе тут няма? Ды і ўвогуле цябе нідзе няма. Цяпер пастарайся спыніць любыя думкі! Правалiся ў прадонне. Туды, дзе няма ні фарбаў, ні гукаў, ні цябе самога. Галоўнае — не забудзься, як дыхаць. Пабудзь наглядчыкам над сабою. Ці адчуваеш, што патрапіў у лабірынт без выхаду?

Юджын стаяў і маўчаў са шчыльна заплюшчанымі вачамі.

— Скажы, ці не здаецца цяпер, што ты анікому не патрэбны? Нават сам сабе.

Юджын ператварыўся ў слуп, сталёвую балванку, у бесцялеснае пудзіла. Ён не адчуваў сябе чалавекам. Яму падалося, што яго няма. Нідзе няма. Мужчына пачуваўся пылінкай, водбліскам сонечнага зайчыка, сполахам ценю на пісьмовым стале.

— Ну і як, мой харошы, пачувацца ў пазачассі? — бабуля падтрымлівала Юджына за локаць. — Людзі самі прыдумалі паняцце часу. Да гэтай думкі ты ўжо не аднойчы даходзіў. Толькі не мог акрэсліць яе. Ну дык вось: каб пачувацца ўтульней у пазачассі, чалавек і прыдумаў час. Разуменне месца ды часу супакойвае, дае ўпэўненасць, што ў кожнага яшчэ наперадзе бязмежжа... у сотню гадоў. Але часу няма і не было. Сусвет не ведае часу. Людзям ён патрэбны, каб не заблукаць у саміх сабе. Гэта тое ж самае, што шукаць ворагаў, калі іх няма. Ворагаў няма, а мы шукаем. Яны патрэбны, каб вольналюбныя адзінкі збіць у статак. Вораг жа ў нас саміх, у падсвядомасці, а час — усярэдзіне пазачасся.

— Дужа мудра, — Юджын разамкнуў сасмяглыя губы. — Вы вельмі ўскладняеце жыццё. Маё жыццё. — Мужчына расплюшчыў вочы і зірнуў у нікуды, па-над галовамі натоўпу. — Мне ўсяго толькі хацелася разабрацца ў сабе, у адносінах з Русланай. Зразумець нарэшце — хто я і дзеля чаго. А вы адразу пра адзіноту, бясчас-

се, ворагаў... Робіцца ніякавата ад пачутага. Калі так думаць, то жыццё, звычайнае жыццё, страчвае ўсялякі сэнс. Вам так не здаецца?

— Зіму змяняе вясна, лета зганяе восень незалежна ад часу, — гаварыла далей бабуля, быццам не чуючы Юджына. — Пясочны гадзіннік перасыпаецца, як вечны рухавік, круціцца прапелерам. Змолвае пакаленні на дымны порах. Людзі, нібы каменьчыкі, булькаюцца ў цягучую і стылую ваду тугіх рэчак. Знікаюць у вечнасці. А прыдуманы час застаецца нязменным. Мяняюцца людзі. Нараджаюцца, сталеюць, хварэюць і паміраюць. А час усё той жа — нязменны. Для ўсведамлення сэнсу жыцця чалавек і прыдумаў час. Толькі для самасцвярджэння ён і патрэбны...

— Вы мяне не чуеце, — Юджын уздыхнуў і прыкурыў цыгарэту. — Паглядзіце, колькі навокал людзей: мужчын, жанчын, падлеткаў, старых, а вы абралі дзеля нечага свайго мяне і даймаеце пустой гаварыльняй. Ці не, даруйце, напіхваеце ўтапічнай мудрасцю.

— Мудрасць — у простасці.

— Спрачацца не буду. Калі ўжо сустрэліся зноў, — Юджын зірнуў на бабуліны валёнкі, — то пайшліце ў ЦУМ. Купім нешта лягчэйшае для вашых ног. Трэба пераходзіць на вясенні абутак.

— Дзякуй за клопат, — бабульчыны вочы ўспыхнулі светлякамі. — Дзякуй, дарагі хлопча, але на мае ногі не знойдзецца чаравікаў.

— Не перажывайце, што якое, але купім. Лягчэй і лацвей хадзіць будзе.

— Усё так хутка змяняецца, і я не паспяваю змяняцца следам, — старая вінавата пасміхнулася.

— Што менавіта вас так усхвалявала? Якая і ў чым змена?

— Ты, хлопец, мяняешся, нібыта восеньскі дзень: то хмурынка з дажджынкай, то сонца з-за хмаркі вочы слепіць. На маё старэчае буркатанне не звяртай увагу. Сумна бывае, вось і хочацца пагаварыць. Доўга чытаць не магу, не тыя вочы ды і галава вятрамі-стагоддзямі што рэшата прадзімаецца. Ты сёння дзе збіраешся начаваць?

— Пакуль не ведаю. Хутчэй за ўсё — на вакзале.

— Вольнаму чалавеку жыць можна і там. Цела звыкаецца з усім. Шкада душу, якая беспрытульна б'ецца, што птушка ў клетцы, а выйсця не знаходзіць. Табе трэба ўраўнаважыць, супакоіць яе. Улашчыць, урэшце, памірыць з сабою. Чым больш ты прыгнятаеш яе, скрываўленую горкімі думкамі, запаўняеш галаву супярэчлівымі ды хцівымі пытаннямі без адказаў, тым больш вяне, высушваецца, ніякавее твая пакутніца-душачка. Не заўважыш, як і пахаваць яе давядзецца. А хто на хаўтуры да цябе зазірне?

— Я ніколі не хадзіў і не збіраюся хадзіць на пахаванні, — спакойна прамовіў Юджын. — Нават блізкіх сяброў, сваякоў і родзічаў. Выключэннем былі смерць бацькі і бабулі, бацькавай маці. Але тады я быў школьнікам. Я хацеў і хачу, каб людзі, якіх ведаў і любіў, заставаліся заўсёды ў маёй памяці жывымі, усмешлівымі, буркатлівымі альбо веселунамі. Такімі ж, якімі зусім нядаўна, на маёй памяці, былі. Каб і надалей адчуваў цеплыню іх далоняў, а не ледзяны холад ілбоў ды скроняў.

— Ты ж і на вяселлі не ходзіш, — працяжна і скрушна выдыхнула бабулька.

— Праўду кажаце, — пагадзіўся Юджын. — Не люблю грэцца каля ўяўнага і хліпкага агеньчыка чужога шчасця. Бо ўсё падман. Нават — каханне. Ніколі не меў жадання быць саўдзельнікам хлусні і няшчырасці. Падманвацца можна самому ў сабе, а ў іншых?..

— А ці так ты жыў сам, мой харошы? — старая лёгенька прытулілася спінай да бакавіны газетнага шапіка. — У сваіх меркаваннях нагадваеш мне экзатычнага хамелеона. Бачыла некалі. У табе, даражэнькі, я адчуваю не два, не тры, нават не

шэсць аблiччаў-асобiн, а бясконцы мурашыны россып. Навошта так, мой ты хлопчык? Збярыся, злучыся нарэшце ў адзiны вобраз. Iнакш нязначны подых зменлiвага лёсу — i разнясе цябе, як шалупiнне семак, па смярдзючых закутках. I нiхто, нават я, не здолее дапамагчы табе. Ведаю, як хочаш ты пазбавiцца сноў. Яны ў цябе заўсёды надакучлiвыя ды небяспечныя. Цi так?

— Ага. Часта думаю, вось мець бы нейкi ёмкi сталёвы нож-цясак i адсекчы-адрэзаць назаўсёды мае бесталковыя i задушлiвыя сны.

— А ты паспрабуй абганяць свае сны. Гэта зусiм не цяжка. Я ўмела абганяць iх. Калi хочаш, то навучу i цябе. Твае ж сны заўсёды прадбачлiвыя, цi не?

— Каб жа заўсёды, — Юджын намацаў у кiшэнi джынсаў пару карамелек. Не задумваючыся, адкуль яны там, выцягнуў i працягнуў адну цукерку старой. — Вось, вазьмiце пасаладзiць у роце.

— Дзякуй, — бабулька не варухнулася. — Маё цела даўно ўжо не патрабуе ежы.

Юджын толькi хмыкнуў i, разгарнуўшы карамелькi, укiнуў iх у рот.

— Ты вось даймаешся пытаннямi: чаму не змог сасніць наступствы сваёй здрады Руслане? Даруй, не мне б, старой, гаварыць пра такiя рэчы, але хто скажа, калi не я. Прадбачлiвасць — кара за грахi папярэднiкаў-суродзiчаў, за нашы грахi... — бабулька цяжка ўздыхнула i склала на грудзях свае бязважка-празрыстыя рукi. — Усё ты прадбачыў у снах, Юджын. I расстанне з Русланай прадбачыў, вось толькi не надаў гэтаму значэння. Тваё прадбачанне згубiлася чорным драздом у гушчары падсвядомасцi. Яшчэ разок паўтару — навучыся абганяць сны. Усвядомi пазачассе... Адчуй яго.

— I як гэта зрабiць? — абыякава прамовiў Юджын.

— Стрымлiвай звярыны пачатак у сабе. Упусцi ў душу ды цела радасць дня сённяшняга. Выкраслi з памяцi боль учарашняга дня... Ты не забыў яшчэ, як выглядала наша хата, — бабулька закашлялася, засланiла далонню вусны, выдыхнула натужна i працяжна, — твая хата як выглядала, не забыўся? — вiнавата папраўiла старая сваё пытанне. — Звычайная вясковая хата з пачарнелымi вугламi i патрэсканымi ў расчэлiны бярвеннямi. Не забыў родную хату? Яна ж таксама ў пазачассi. Засталася ў тваiх снах. Мiж учарашнiм, сённяшнiм i будучым... Помнiш цёмна-шэрыя, ледзь не чорныя бярвеннi каля ганка? Ага, бачу, што помнiш. У iх заблукалi твае сны. А мо, хата заблыталася ў тваiх снах. Як падабаецца табе — выбiрай сам.

— Канечне, помню, — у вачах Юджына сляпучая смуга. — Пах старога роднага дома — хмельны пах... На ўсё жыццё — пах духу роднай хаты. Узгадваць цяжка i забыць няма моцы. А на губах прысмак вечнасцi.

— Будзь спакойны, мой хлопец, — старая абняла Юджына позiркам. — Цяпер ты не будзеш пакутаваць ад сноў. На вакзале ж не да iх... часу не стае. З гэтай хвiлiны ты стаў адным з тых, хто абганяе сны. Калi чалавек вольны, яму няма патрэбы ў снах, як i ў часе...

— Чым жа адгукнецца ваш падарунак? — у Юджына драбнютка, як асiнавы лiст пад ветрам, трымцела нiжняя губа. — Жыць без сноў i ў пазачассi цi даводзiлася каму? — Было незразумела, у каго пытаўся мужчына: цi то ў старой у валёнках з чырвонымi галёшамi, цi ў сябе самога.

— Спачатку зразумей, спасцiгнi сябе. Зазiрнi ў патаемныя сховы душы. Асэнсуй, урэшце, разбярыся з жаданнямi i памкненнямi. Адкажы сабе: чаго хочаш, да чаго iмкнешся? Што любiш i чаго не прымаеш? Як i з кiм жыць хочаш штодня?.. Хто твой Бог, а хто пасланнiк з прадоння?.. Руслана — усяго толькi вынiк. Пашукай першапрычыну. Не бойся глыбей, на самае донца глянуць у душу сваю. Калi не спалохаешся, то я спакойненька, як з'явiлася, так i знiкну.

— Вы ж ведаеце: я даўно перастаў баяцца. Так бывае. Прачынаешся аднойчы ранкам і, яшчэ не падняўшыся з канапы, разумееш: нешта беззваротна змянілася ў тваіх мазгах, нават у тваім целе. Вачамі гэтага не згледзіш. Ты проста ведаеш, што, расплюшчыўшы вочы і ўдыхнуўшы, ты зрабіўся іншым. Папярэднік твой памёр. Ён бязмоўна саступіў месца другому. Таму, хто будзе жыць далей, часам згадваючы пра таго...

— Шматслоўна, — бабулька цярнула празрыстай далонню свой сухенькі пергаментны твар. — Не буду перашкаджаць тваёй самавайне. Ваюйся. Мо, хто і пераможа. Але, вунь бачу, да цябе шкандыбае нейкая вульгарная кабеціна. Размаляваная і нападпітку. Якая ж тут вайна з сабою? Пайшла я, пайшла...

Старая растала кропелькай дажджу на ўгрэтым асфальце... Знікла парушынкай дзьмухаўца ў навакольным шматлюддзі.

* * *

Самае неспасцігальнае і заблытанае ў жыцці — узаемаадносіны паміж людзьмі. Невытлумачальнае заўсёды ўзнікненне сімпатый, перараджэнне паднебнага кахання ў пякельную нянавісць. Імклівае перацяканне захаплення ў будзённую абыякавасць... Ну, няўжо вам вядома, адкуль і з-за чаго ўзгараецца іскрынка пры, здавалася б, звычайным, мімаходным позірку юнака на дзяўчыну, жанчыны на мужчыну, чалавека ў гадах на кабету? Калі так, то вы шчаслівыя! І вам не страшна паміраць. Юджын жа не мог і не можа па сёння вытлумачыць гэтую загадку жыцця. Чаму нядаўна чужыя людзі з розных мясцін, сацыяльных пластоў, выхаваныя кожны на свой капыл, спаткаўшыся позіркамі, адчулі і зразумелі, што разам ім будзе добра, што яны спазнаюць шчасце! Няважна, на колькі хопіць таго зданістага і хліпкага шчасця, але яно будзе. І яшчэ будзе ўзаемапаразуменне, захапленне і адкрыццё адно адным. Магчыма, гэта важней ды каштоўней за хвіліны фізічнай блізкасці. Бо хвіліны шалу праходзяць, выпарваюцца слязінкай на распаленым жалезе, а духоўна-душэўная роднасць застаецца. Яна больш трывалая і надзейная...

Вы бачылі стомленую божую кароўку на запляванай і пракуранай сметніцы? Сярод горада, каля парадных дзвярэй установы з кідкай назвай на шыльдзе, стаіць сметніца. Побач дзясяткі курцоў, гара смярдзючых недакуркаў у чэраве сметніцы, і на яе крайку кропелькай крыві прытулілася стомленая і прыгаломшаная божая кароўка. Адна. Двухмільённы горад, сметніца і адзінокая казюрка. Абыякавая да ўсіх і ўсяго. Юджыну падалося, што гэта ён, ягоная душа прытулілася там, на краёчку сметніцы. Ён вось да гэтай хвіліны, пакуль не пабачыў багоўку на сметніцы, яшчэ спадзяваўся, што Руслана яму даруе і ў іх будзе ўсё, як і раней. Што надыдзе дзень і гадзіннік пачне адваротны адлік. Яны зноў зірнуць адно аднаму ў вочы і паяднаюцца не толькі позіркамі, а і сутнасцямі. Іхнія здрады, сваркі ды разборкі застануцца ў снах у пазачассі, а яны, удваіх, узяўшыся за рукі, абгоняць гэтыя непрыемныя і непатрэбныя ім сны і пачнуць жыць па-новаму... Так усе доўгія месяцы здавалася Юджыну. Ён верыў у гэта, пакуль не ўгледзеў багоўку на сметніцы...

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга другая*

Колісь за пару кашуляў, за пару забраных сякераў
Мы пакаралі маскоўца.[1] Бяздзейнасць — благая Сірэна —
Мне не была перашкодай у войнах. А ў вас без натугі
Вораг забраў гарады і жыве ў іх! — і вас не трывожыць
Ганьба ліхая — ані, ды прынамсі й хвала не турбуе...
Ты, спадзяванне ліцвінаў і светач надзейны дзяржавы,
Здольны да цвёрдых рашэнняў, каб скончыць няпэўную справу;
Бачу, ты край наш выводзіш з журботных часоў ліхалецця.
Люду свайму паспрыяй, пакарай недалэнгаў-маскоўцаў.
Ты — той адзіны, хто можа зрабіць гэта, так я мяркую —
Думаю, што прадчуванне не хлусіць, — таму і прашу я.
Заўтрашні дзень мае ўбачыць на полі пагібель маскоўцаў.
О як жа будуць тады спачываць мае косці прыемна!
Подзвігі вашы цяпер маю славу былую адродзяць,
Душы герояў пацешаць і продкаў хвалу ўзвялічаць.
Што ж, перамогу здабудзь: за яе бессмяротная слава
Гонар прызначыць, калі ты апошні прысуд атрымаеш.
Смела кіруйся цяпер, заклікае карміцелька-цнота
Дбаць пра бацькоўскі наказ, пра гісторыю мужных ліцвінаў».
Гэтымі словамі Вітаўт натхняе на бітву героя.
Вось прамінула глыбокая ноч; правадыр абудзіўся…
Толькі віднець пачало — ён звярнуўся да неба з мальбою:
«Ты, Хто і ноччу, і днём над вірлівым сусветам чуйнуеш;
Творачы ў небе штогод агняпады, парадкуеш зоры
Воляй нязменнай Сваёй на бліскучых дарогах паднебных;
Справы людскія пільнуеш, любое стварэнне, істоту,

---

* *Працяг. Пачатак Кнігі другой у № 6, 7, 8, 9, 10, 11 г. г.*

[1] С. Нарбутас са спасылкай на «Хроніку» М. Стрыйкоўскага адносіць гэтыя словы да падзей 1406 г. Насамрэч, у вершаваным фрагменце «Хронікі» пад загалоўкам «Пра першую вайну Вітаўта з зяцем маскоўскім, князем Васілём, у 1406 г.» распавядаецца пра тое, як «Масква літоўскія Сеўрукі разбіла», забраўшы двух баброў, кадку мёда, дзве сякеры і тры сярмягі. Падобна, размова тут ідзе пра лакальны канфлікт блізу вёскі Сеўрукі ў Гомельскім раёне. Вітаўт, каб адпомсціць за гэты напад, «сабраў войскі літоўскія, смаленскія, віцебскія» і пайшоў з вайной на Маскву, «разбураючы і палячы маскоўскія памежжы».

Бачыш прастор Акіяна, суровае царства памерлых.
Будзь жа з народам Тваім, міласэрны! І нашы маленні
Выслухай толькі таму, што нас любіш, дзяцей недастойных.
Дай успамогу Сваю з прамяністых вышыняў Алімпа,
Войска маё і мяне Ты ўратуй ад ліхой небяспекі!»
Так ён сказаў, і нябесны Айцец, скалануўшы грымотна
Шаты Алімпа, нібыта пацвердзіў: пачулі малітву!
Неба качнула са звонам сузор'ямі срэбнымі ціха:
Гэта азваўся сам Бог — ты не мусіш баяцца! Заранка
Шчодра зрасіла палі і зямлю, ды паклікала сонца:
Дзень пачынаецца новы. (О ты, блаславёнае Сонца!
Доўгачаканы ты, дзень!) Запаліла свяціла ў нябёсах
Дзень гэты ясны, каб ён суцяшэнне прынёс і адпомсту.
Строіць усіх правадыр, размяркоўвае шумнае войска.
Шуйскі схаваўся ў лясах, і маскоўцы ў бяспечных мясцінах
Лагер разбілі, як бач: зіхацяць іх стракатыя раці.
«Вось жа ён вораг, смялей! Зараз, зараз той час, да якога
Гэтак імкнуліся вы і прасілі ў малітвах; дык Марса
Слаўце правіцай, не вуснамі! Гэй, памагай, сіла продкаў!
Мілую ўспомнім Айчыну, сыноў і пяшчотную жонку!
Вось поле нашае славы, адно тут патрэбна — адвага!»
Гэтак сказаў Радзівіл, і суладным ды радасным спевам
Трубы гучаць пачалі, да нябёсаў панеслася гранне,
Тут жа крылатае войска ўзнялося імкліва на бітву.
Вечар пагоркі пакрыў, ды адкладу для бітвы не будзе[1].
Мужны Зяновіч звярнуўся да тых, хто сабраў свой рыштунак:
«Гэй, хто са мною, сябры? Хто на ворага першы памчыцца?
Прагну цяпер, каб мяне гэтым першым у бітве лічылі!»
Рушыла войска крылатых; сышліся — і лівень жалезны
Хлынуў адразу, наўкол чуцен трэск — так ламаюцца дзіды.
Гэткім жа строем вялікім імкнуцца насустрач маскоўцы.
Тысячы грозных жаўнераў вядуць і наперад кіруюць[2]
Грозны Захарын[3], Іосіф Быкоўскі[4], падобны аблічным
Сам да айчынных дубоў і да соснаў, пакрыты жалезам;
Голаў вялізны яго пышным пер'ем аздоблены ладна;
Марса ўва ўсіх абуджае, вышэйшы за ўсіх, апантана
Скача праз войска віхурай, ажно за спінаю лунае
Грыва яго валасоў ды аздобы цяжкія на шлеме.
Гэтак раз'ятрана ён налятае на войска ліцвінаў;
Букавай дзідай, аднак, працінае магутны Зяновіч
Волата цела, наскрозь пратыкае яго — і з крывёю
Ён ванітуе жыццём праз адтуліну чорнае раны;

[1] Глоса: «Бітва пачынаецца пад вечар».

[2] Глоса: «Правадыры маскоўцаў».

[3] Паводле «Хронікі» Мацея Стрыйскоўскага, Іван Захарын.

[4] Стрыйкоўскі называе яго «Іосіф Фёдаравіч Быкаў» і піша пра яго так: «муж вялікага росту, паўтара вялікія сажні».

Валіцца зверху, як сноп, лямантуе, з каня апаўзае, —
Рухнуў нарэшце, шырока ручышчы свае распасцёршы.
Так, Аквілонам эдонскім адолены, падае ніцма
Ясень стары, што калісь красаваўся на полацкіх землях.
Кажа з дакорам Ліцвін: «Што ж, ляжы й памірай: раз хацеў ты
З Марсам Літвы паспытаць, перамер яе лежачы зараз!»
Многіх паклаў там Ліцвін, пасяліўшы ў саюзніках сполах:
Чыняць натоўпы яны, мечуць дзіды, бягуць… Пачалася
Марсава сеча між тых, хто адзін на другога ўзняліся.
Бачаць цяпер ваяводы маскоўцаў: зусім нечакана,
Нават бяспечна Зяновіч вялікія страты ўчыняе;
Гуртам яго акружаюць тады, абступаюць натоўпам,
Збіліся ў кучу, як быццам калі талакою вялікай
Людзі выходзяць на льва, што на выганах быдла плюндруе,
Ён жа крывавую пашчу і дзікія вочы адводзіць, —
Гэткім жа чынам юнак быў прыціснуты зброяй жалезнай,
Мноства атак ён адбіў у няроўнай, бязлітаснай бітве,
Грознай навалай прымушаны, кідаўся ўлева і ўправа.
Раптам масковец, прыкмеціўшы месца для трапнага ўдару,
Спрытна падняўся з мячом, рубануў — і чароды маскоўцаў
З крыкам пабеглі, аднак быў Зяновіч не ў сэрца працяты;
Гнеўна прамовіў герой: «З маёй раны, о вораг, не цешся!»
Сам вокамгненна ўздымаецца, меч свой узносіць — і раптам
Моцна шыбае ў чало апантанаму крыкам маскоўцу.
Тут жа — пачварны мардвін, велізарны, магутны і дужы —
Люты Іван Шарамет, — гэткім імем ад продкаў празваўся,
Марсавай славай сваёй ён узняўся надзвычай высока;
Побач — і Леў[1] непахісны: ён часта змагаўся адважна
З дзікім ардынцам, — і вось смерць у вочы яму зазірае;
Трэба й Палецкіх назваць, і Давіда, нашчадка Скунтора:
Рухалі разам яны лёгкаўзброеных войскаў шарэнгі.
Што ж атрымалася? Глянь: яны разам з вялікаю сілай
Выйшлі на бітву, аднак іх бацькі не на шчасце прыдбалі.
Тыя здалёк забіваюць, а гэтыя б'юцца аберуч;
Войскі змяшаліся разам, і коні ляцяць грудзі ў грудзі,
Поўныя сполаху. Муж усутыч насядае на мужа.
Гэткі вялізны натоўп закіпае гарачаю бітвай,
Быццам калі ўсе вятры ў пераменных кірунках шчыруюць,
Быццам ад гневу Вултурна[2] дубы векавечныя стогнуць,
Быццам густыя лясы пад парывамі ветру скрыгочуць.
Вось Шарамет нешчаслівы прыпаў да зямлі сваім тварам.
Тут паміраючы, ён пра Аку сваю родную ўспомніў.
Моцныя рукі яго не пацешацца болей ніколі
Кончыкам вострай стралы чараміскай з айчынных сядзібаў:
Воіна палкага раптам спакойная куля спаткала.

[1] У «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага сярод маскоўскіх ваяводаў узгадваецца Якаў Леў.

[2] Вултурн — паўднёва-ўсходні вецер у антычнай міфалогіі.

Выпусціў хтосьці яе — а не спыняць браня, ні даспехі,
Шчыт не расплюшчыць; яна застанецца ў канаючым целе.
Выйшлі ў атаку браты — два Хадкевічы, войнаў маланкі,
З імі Сангушка, адметны ў вайне, вельмі спраўны, каб хутка
Ворага знішчыць; пры іх — самых лепшых ліцвінаў кагорта.
Грукат узняўся, і вось приступаюць да Марсавай бітвы
Новыя сілы, як быццам ніколі раней між народаў
Войнаў ліхіх не было і ніякіх нападнікаў звонку.
Чорныя войны жадаюць крыві, ды прыгожая мэта
Сэрца мацуе ў грудзях і падвойвае ратныя сілы.
Вось перад войскам ліцвінаў выводзіць вялізныя раці
Колічаў[1]: пырснуў свінцом па радах Радзівілава войска;
Зноў аднаўляе вайну, палымяны й раз’ятраны; зманна
Злая Фартуна цяпер несупынна спрыяе няшчасцю.
Хтосьці шчыруе мячом, проста косіць сапернікаў, хтосьці
Чорныя кулькі свінца выпускае з пачварнай хелідры[2];
Іншыя маюць калчан, што пры боку цяжбрам звісае:
Хмары бязлітасных стрэл зацямняюць высокае неба.
Колічаў носіцца скрозь на ліхім скакуне: выдыхае
Конік гарачы агонь з распасцёртых падрэзаных ноздраў[3];
Фыркае гучна, іржэ, уздымаючы галаў высока.
Мужны юнача, каму ж першы ўдар меч твой востры прызначыў?
Прагнучы подзвігаў ратных, ты горача ў бітву імкнешся…
Рушыў адважны Сангушка ў аздобе юначага веку,
Сіла магутнага войска яго адусюль атачае.
Болей не можа чакаць — насупор, велізарны, нясецца,
Кажучы: «Мноствам варожых трафеяў ці смерцю гвалтоўнай
Сёння магу ўзбагаціцца». Акінуўшы вокам адлегласць,
Выпусціў юркі снарад: ён праз пушчу імкліва пранёсся
З жудасным воем — ажно дуб магутны разбіўся дашчэнту.
З целам варожым, аднак, ён німала не судакрануўся.
Храбры Сангушка тады з похваў меч без затрымкі вымае:
Востры, блішчасты, праз шлем ён паўкруглым ударам праходзіць,
Чэрап рассёкшы, і вось — у адтуліне мозг паказаўся…
Стаў над забітым Сангушка і, мёртвае цела штурхнуўшы,
Гэтак прамовіў тады: «О ліхія маскоўцы, вазьміце
Гора-ваяку свайго!.. Што за лёс ён абраў ад нябёсаў?
Птушак драпежных карміць? Але ж цела прызначана глебе.
Гэтай правіцай яго аддаю для дастойных пагрэбаў».

---

[1] Глоса: «Масковец Колічаў». Даніла Колічаў узгадваецца ў «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага.

[2] Хелідра — від вадзяной змяі; тут — метафарычнае пазначэнне агнястрэльнай зброі.

[3] Глоса: «Коні маскоўцаў з падрэзанымі ноздрамі».

***Пераклад з лацінскай Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

# «МАЛАДОСЦЬ» — 1979



***Віктар Шніп** — аўтар 16 кніг паэзіі і прозы, лаўрэат прэміі імя У. Маякоўскага, літаратурнай прэміі «Залаты Купідон», спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у галіне «Мастацкая літаратура».*

*Але гэта цяпер. А ў 1976-м паэту Віцю было 16 гадоў...*

«У мяне захоўваецца альбом, у якім я збіраў усе публікацыі — тады яшчэ не ведаў, што іх будзе столькі... А першай стала выразка з газеты "Чырвоная змена" ад 30 снежня 1976 года. Мне было 16, і я ўпершыню трапіў у агляд вершаў.

Пасля яго Яўген Крупенька запрасіў мяне ў літаб'яднанне "Крыніца" (пры "Чырвонай змене"). Я прынёс свае вершы, напісаныя ад рукі. Мне сказалі, што іх разгледзяць ужо на наступным пасяджэнні. І так атрымалася, што за некалькі дзён да разбору я захварэў на ангіну. Горла балела так, што ледзь гаварыў. Можа, і тэмпература была (не ведаю, бо тэрмометра не меў). А што рабіць? Не пайсці? Дык наступны раз наогул страшна будзе з'явіцца. І я пайшоў. Хоць і асіплым голасам, але чытаў вершы. Народу ў той вечар сабраўся поўны вялізны пакой. Калі ж даведаліся, што мне 16 гадоў, здзівіліся: "Го! Ды некаторыя з нас і пісаць не пачыналі ў тваім узросце..." Самае галоўнае, што калі я пасля пасяджэння прыехаў у інтэрнат — адразу адчуў сябе здаровым! І тэмпература знікла, і голас прарэзаўся.

Але пасля гэтага мяне не адразу надрукавалі. Верш "Сямнаццаць мне" з'явіўся ў "Чырвонай змене" 17 жніўня 1977 года.

Сямнаццаць мне, нібы сямнаццаць
Зрабіў я крокаў у жыцці.
Жыццё я толькі пачынаю,
Сябе ў сабе я адкрываю,
І добра разумею я —
Жыццё не лёгкая дарога,
Што пачалася ад парога
Бацькоўскай хаты, любай, добрай...
Жыццё — заўсёды вышыня.

Я на той час быў у вёсцы, там газету і атрымаў. Але не ведаў, што за вершы яшчэ і плацяць. Калі восенню прыехаў у інтэрнат, да мяне падышлі сябры: табе, вось, квітанцыя прыйшла. А там нечага панапісвана... Мы, добра не разбіраючыся, вырашылі, што там вельмі вялікая сума: гэта ж за вершы! І раптам усе пачалі прасіць у

мяне пазычыць грошай. Ну, добра. Але як запомніць, каму і колькі? Я, каб не забыцца, склаў спіс.

І вось мы ўсім кагалам пайшлі па ганарар. Заходзім на пошту. Падаю квіток. Паштарка забірае і дае мне другі. Пытаюся: дзе тут што пісаць? А яна і кажа:

— Пішы: атрымаў адзін рубель дзевяноста капеек.

Спадзяваўся рублёў на 200 — а тут рубель!.. Усе разышліся, ледзь не плачучы. А спіс я ў кішэні ціхенька скамячыў, парваў і выкінуў. Пасля на мяне яшчэ доўга глядзелі са спачуваннем».




Пасля першых «літаратурных крокаў», малады паэт вырашыў рухацца далей. Наступнай прыступкай да Парнаса мусіла стаць публікацыя ў «Маладосці». На той час аддзелам паэзіі загадваў Мікола Аўрамчык.

Кожную раніцу Віктар Шніп з'яўляўся ў рэдакцыі за паўгадзіны да таго, як прыходзілі супрацоўнікі часопіса. З гэтай нагоды Аўрамчык жартаваў: «Можа, цябе ў штат узяць? Заўсёды ў адзін і той жа час на тым жа месцы…»

Вершы бясконца рэдагаваліся, перапісваліся, падпраўляліся. Мікола Якаўлевіч рабіў безліч заўваг у рукапісах, Віця Шніп выпраўляў недахопы — а на іх месцы наступным разам з'яўляліся новыя праўкі.

— Я нават цяпер бачу сны, як стаю ў калідоры і чакаю, — кажа Віктар Анатольевіч.

Толькі праз паўгода паэтычная падборка Віктара Шніпа пайшла ў друк. Але для публікацыі неставала фотаздымка…

У вызначаны дзень малады паэт прыйшоў да рэдакцыйнага фатографа. І тут жа ўзнікла праблема: Віктар па тагачаснай модзе насіў даўгія валасы.

— Але стрыжкі ніякай у мяне не было. Як ляглі, так і добра. Фатограф рады не мог даць маім валасам.

Акурат у той момант у рэдакцыі «Маладосці» знаходзіўся Пімен Панчанка. Ён адшукаў выйсце: прыгадаўшы, як некалі валасы прыгладжваліся спецыяльным алеем, народны паэт Беларусі змачыў непаслухмяную грыву Шніпа вадой з графіна.

— Вось, — сказаў ён, — у цябе прычоска ад Пімена Панчанкі.

І ў вераснёўскім нумары «Маладосці» (№ 9, 1979 год) з'явіліся памятны фотаздымак і шматпакутная падборка. Туды трапілі чатыры вершы Віктара Шніпа: «Далёкі продак наш у цемры рос», «Асірацелы шпак у клетцы», «Зямля ад рук шурпатых адагрэта» і «На Валожыншчыне». І ўзровень іх вельмі высокі. Хаця не абышлося без «касмічных элементаў» — страла, запушчаная ў неба нашым продкам, «праз сусвет ракетаю плыве». Але такія матывы для таго часу з'ява звычайная,

як, напрыклад, для сучаснай маладой беларускай паэзіі — трагічны маналог юнака пра страшны бяздушны горад, які паглынае светлую душу, пра адзіноту, пра загубленасць і г. д.

Большай увагі варты радкі «вясковыя». Апісанае «зялёным» на той час паэтам лета, якое блукае па вёсцы, адагрэтая зямля, пуні каля святочных хат — усё гэта не проста знаёма, але назаўсёды ўкаранілася ў свядомасці і адзываецца кожны раз, калі бачыш падобныя радкі (тады, зразумела, калі ты сам нарадзіўся і вырас у вёсцы, ці хаця б зведаў на сваёй скуры сезонныя «высылкі» да бабулі з дзядулем).

І ў сучаснай паэзіі Віктара Шніпа ёсць «вясковая лірыка». У адрозненне ад шматлікіх балад з іх складаным сінтаксісам, дзе часам сэнс становіцца надта цьмяным, «вясковыя вершы» чыстыя і празрыстыя — як па сэнсе, так і па сваім настроі.

Холад ля хаты пасе снегіроў.
Сонца замецена снегам у полі.

Адчуваеце мароз, з-за якога снегіры мусяць гуртавацца ў чароды? Бачыце поле — белае, бясконцае — і неба над ім, такое ж белае і бясконцае? Яны зліваюцца ў адно — так што сонца нябачна...

Ці вось гэтае:

Хата анямелая, сівая,
З шэраю буслянкай, бы вянком,
Вокнамі задумна пазірае,
Склаўшы рукі на дзвярах замком.

Тут і каментарыі непатрэбны. Усё проста. А ісціна, як і шчырасць, заўжды такая — простая. Ці не таму Чэхаў казаў, што сцісласць — сястра таленту? І ці не таму лічыцца, што прыкмета геніяльнасці — лаканічнасць і дасягаецца яна толькі з вялікім досведам? Тут прыгадваюцца словы майго ўніверсітэцкага выкладчыка Анатоля Капцава пра тое, што сталы (ці позні) Пастарнак здаецца вельмі простым, настолькі простым, што ўзнікаюць думкі пра паэтычную дэградацыю, але насамрэч радкі — геніяльныя.

Аднак не толькі вёску і сум па малой Радзіме, а з гэтым і настальгію па дзяцінстве можна ўбачыць у паэзіі Віктара Шніпа. Як любога творцу, яго хвалюе праблема волі Паэта. Як любога сталага чалавека — часы былой маладосці. Як мужчыну — каханне.

Можа падацца, што Віктар Шніп гэткі ўзнёслы, сур'ёзны, непад'ёмна класічны аўтар. Аднак партрэт паэта ажыўляе адна рыса яго асобы і творчасці — іранічнасць. І, што вельмі важна, — самаіронія. Віктар Анатольевіч, нягледзячы на ўсе атрыманыя ім узнагароды, на сур'ёзную пасаду, якую займае, на вялікую колькасць выдадзеных кніжак, не ператварыўся ў жывы помнік самому сабе. Пацверджаннем таму — раман «Паэт, у якога ўсе дома». Не магу прыгадаць падобную з'яву ў беларускай літаратуры (хаця не выключаю, што прычынай таму — не такая ўжо вялікая колькасць прачытанага). Са зместу твора вынікае, што Віктар Шніп выдатна ўсведамляе хібы сваёй паэзіі. Вуснамі сваіх уяўных чытачоў паэт кажа: «Колькі ўжо можна пісаць пра каханне! Хопіць нам твайго “Першага папяровага снегу”, “Лістоў і залатога лісця”, а таксама “Вечаровага дажджу і слёз”! Хопіць!» А пазней разважае: «Вельмі ўжо часта слова “Бог” прысутнічае ў маіх вершах. І гэта, кажуць крытыкі, вельмі дрэнна…» На гэтыя

словы варта б было звярнуць увагу тым прадстаўнікам літаратурнай моладзі, якія заўзята рыфмуюць імя таго, каго «всуе» не прыпамінаюць, са словамі «збярог», «парог» (дзякуй Яму жа, хаця б не «пірог») і г. д. Усе мы грэшныя, але сачыць за мовай трэба...

Вось і атрымліваецца, што прастата (за выключэннем вышэйпамянёных балад) і іронія — адметныя рысы сталай паэзіі, ды і наогул літаратурнай творчасці Віктара Шніпа. Але прастата не ў банальнасці — яна нараджаецца ад яснасці думкі. Чым больш цьмяны тэкст, чым больш завуаляваны, малазразумелы яго сэнс, тым меншая верагоднасць таго, што сам аўтар можа растлумачыць, у чым асноўная думка твора. Яно і не заўсёды патрэбна, аднак здараецца, што творца (асабліва малады) не перадае пачуццё, уражанне, не пераўтварае яго ў слова, а паказвае, наколькі ён разумны, нагрувашчваючы верш неалагізмамі, наватворамі, складанымі метафарамі, якія бываюць проста недарэчнымі… Навошта? Паэзія — не поле бою інтэлектаў (хаця і без наяўнасці яго ў літаратуры няма чаго рабіць)! Паэзія — найвышэйшае вымярэнне чалавечага існавання, звышсвядомасць. Складанасць тэксту ніяк не паказальнік яго глыбіні. Але вершы Шніпа не толькі простыя — яны вельмі светлыя, лёгкія і пяшчотныя. У кожнага паэта чулая душа (толькі не блытайце чулую душу паэта са звышслязлівасцю графамана), але выражэнне гэтага ва ўсіх рознае. Яскравы прыклад — Сыс і Багдановіч. Абодва яны адчувалі гэты свет «абвострана», аднак іх паэтычныя сусветы — палярныя. У Шніпа ж вершы мяккія, амаль жаночыя. І гэта, у суме з трапнымі вобразамі («Цыбулю мама у вянкі пляце, // Нібыта дочкам заплятае косы».) заварожвае.

Што да іроніі… Цяпер увогуле выяўляецца тэндэнцыя да сцёбу з любой нагоды. Але сцёб — адно, а іронія — зусім іншае, тым больш — самаіронія. Вельмі лёгка пасцябацца са свайго «пярнатага» калегі, які ўжо некалькі гадоў мусоліць рыфму «сонца — бясконца», рэгулярна піша вершы да Дня Перамогі ці з галавой сышоў у жанр «соплі-воплі». Аднак заўважыць саломінку ў сваім геніяльным воку бывае надта складана… А было б няблага!

***Падрыхтавала***
***Анастасія ГРЫШЧУК***

# ІМКНЁМСЯ ДА НЕБА, ДА СОНЦА, ДА БАГДАНОВІЧА

Тое, што было раней, з тым, што ёсць сёння, ніколі не размаўляе адно з адным гучна, а заўсёды толькі ціха-ціха нагадвае пра сябе. Такая разважлівая цішыня найбольш чуецца ў сценах музея.




Літаратурны музей — гэта месца, дзе ўся прастора аддадзена рэчам, фотаздымкам, дакументам, рукапісам, кнігам. Але адметнасць літартурных экспазіцый заключаецца ў тым, што экспанаты ў ёй не замяняюць і не выцясняюць людзей, а наадварот, дапамагаюць прачытаць кнігу жыцця выбітнага пісьменніка і ўявіць тое асяроддзе, той час, у якім ён жыў і тварыў.

Дваццаць гадоў таму, у 1991 годзе, гасцінна расчыніў свае дзверы перад першымі наведвальнікамі Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Гэта стала сапраўднай падзеяй у гісторыі Беларусі — усё прагрэсіўнае грамадства адзначала 100-гадовы юбілей са дня нараджэння паэта і з’яўленне на культурнай карце Мінска яшчэ аднаго асяродка, дзе будуць панаваць геніяльная паэзія і чароўная прыгажосць, было вельмі доўгачаканым. Варта адзначыць, што двухпавярховы мураваны будынак, у якім размясціўся музей, знаходзіцца ў Траецкім прадмесці — бадай, ці не адзінае месца сталіцы, у якім спалучаюцца самыя разнастайныя праявы сучаснага жыцця і даўніх традыцый.

Рашэнне аб стварэнні музея было прынята на бюро ЦК КПБ 19 верасня 1980 года. А з 1 красавіка 1981-га музей пачаў сваю дзейнасць як музейная ўстанова Беларусі з рэальнымі і канкрэтнымі задачамі. Пачалася штодзённая руплівая праца па выяўленні і зборы матэрыялаў, іх навуковай апрацоўцы, фарміраванні фондавых калекцый, распрацоўцы канцэпцыі будучай экспазіцыі і ў шмат якіх іншых кірунках музейнай працы. Супрацоўнікі музея ажыццяўлялі шматлікія камандзіроўкі (часам далёкія, часам блізкія) для працы ў архівах, для сустрэч з нашчадкамі сям’і Багдановіча, сябрамі паэта. Але варта адзначыць, што да таго як распачалі сваю працу музейшчыкі, шляхі нашага паэта былі амаль усе вызначаны і занатаваны для нашчадкаў. Таму нізкі паклон ад усіх пакаленняў аматараў творчасці Максіма Багдановіча, словы шчырай павагі і падзякі такім руплівіцам беларускай культуры, як В. Вольскі, М. Барсток, С. Александровіч, С. Шумаковіч, А. Бачыла, Н. Ватацы, М. Танк і інш. Менавіта дзякуючы ім не згас агеньчык Памяці і Спадчыны.

«...Так рупная пчала умее ў соты мёд сабраць...» Ці не гэтыя паэтычныя словы Максіма Багдановіча былі запаветам для кожнага тагачаснага супрацоўніка яго музея?! І ўсё ж спатрэбілася больш як дзесяць гадоў, каб экспазіцыя Літаратурнага музея Максіма Багдановіча паўстала ва ўсёй сваёй прыгажосці і адметнасці, сустрэла сваіх першых наведвальнікаў.

Аўтарам мастацкай канцэпцыі афармлення экспазіцыі Літаратурнага музея М. Багдановіча з'яўляецца Эдуард Агуновіч, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь. Ён правёў глыбокі і ўсебаковы аналіз трансфармацыі афіцыйнай інтэрпрэтацыі і поглядаў на каштоўнасць спадчыны беларускага паэта, вызначыў найважнейшыя фактары і прапусціў кожны радок верша праз сваю душу. Краса і хараство, якія пануюць у паэзіі Максіма Багдановіча, былі кіруючымі прынцыпамі мастацкага афармлення экспазіцыі музея. Таму апраўдана называюць яго самым прыгожым літаратурным музеем Беларусі. За гэту працу ў 1993 годзе мастак атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь.

У аснову пабудовы экспазіцыі, якая складаецца з пяці залаў, пакладзена структура адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў «Вянок». Шматпланавы паказ асобнага цыкла са зборніка, як ілюстрацыі да тэмы ці кірунку творчасці, адлюстроўвае пэўны перыяд жыцця паэта, цесна звязаны з ім. Дамінуючую ролю ў кожнай зале адыгрывае адзін экспанат-сімвал: ручнік, які вышывала маці паэта, слуцкі пояс, арыгінальны зборнік вершаў «Вянок», геліягравюра «Сіксцінская Мадонна», кішэнны гадзіннік. Значнае месца ў музеі займаюць мемарыяльныя прадметы, фотаздымкі, кнігі сям'і Багдановічаў. Экспазіцыя дапоўнена іншымі цыкламі вершаў, апавяданнямі, літаратурна-крытычнымі і публіцыстычнымі творамі. Уся экспазіцыя пабудавана на глыбокім сімвалізме.

Мастацкае афармленне музея стылізавана пад «мадэрн» — напрамак у мастацтве канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Элементы мадэрна прысутнічаюць у афармленні столі, рамак у экспазіцыйных нішах, у складаным пластычным малюнку вырабаў з саломкі, у рытмічным чаргаванні модулей мэблевай канструкцыі, у вітражах. Але не толькі колер і форма, не толькі шкло, лепка, інкрустацыя робяць арыгінальнай экспазіцыю музея. Яе шэдэўральнасць у бессмяротнасці: вартасць яе не знікне ніколі! У чым сакрэт? У глыбокай народнай мудрасці, эстэтыцы поглядаў, філасофіі чалавечага жыцця, закладзеных у аснову экспазіцыі.



*Трэцяя зала.*

Своеасаблівым арганічным працягам аднаго з апошніх раздзелаў асноўнай экспазіцыі Літаратурнага музея М. Багдановіча (тэма вяртання паэта на Бацькаўшчыну) стала музейная прастора, створаная ў доме, які мае вялікую каштоўнасць для гісторыі нацыянальнай культуры. Гэта адзінае ацалелае месца ў Мінску, дзе ў 1916—1917 гадах жыў і тварыў Максім Багдановіч. «Беларуская хатка» — такую назву ў знак пераемнасці атрымаў адзін з двух філіялаў музея. Другі філіял музея «Фальварак Ракуцёўшчына» знаходзіцца ў прыгожай маляўнічай вёсачцы Ракуцёўшчына паблізу Краснага, на Маладзечаншчыне. Менавіта тут, у фальварку дробнага шляхціца Вацлава Лычкоўскага, летам 1911 года адпачываў М. Багдановіч. Гэты фальварак стаў сімвалічным месцам вяртання Максіма на Бацькаўшчыну.

Сёлета, кожны хто ўсведамляе сябе беларусам і мае ў душы любоў да сваёй Радзімы, у той ці іншай ступені далучаны да святкавання 120-гадовага юбілею са дня нараджэння самага маладога класіка нацыянальнай літаратуры. Праводзіліся і праводзяцца шматлікія разнастайныя мерапрыемствы. Усе яны скіраваны на ўшанаванне памяці Максіма Багдановіча, на тое, каб кожны адчуў прыгажосць і непаўторнасць яго паэзіі.

***Тацццяна ШЭЛЯГОВІЧ,***
***дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча***

*Фотаздымкі Сяргея КАЛТОВІЧА*

Міхась ПАЗНЯКОЎ

# НЕЎМІРУЧАЯ ДУША ПАЭТА
## (Максім Багдановіч у Беларусі)

На 26-й вясне абарвалася велічная песня класіка сучаснай беларускай літаратуры, аднаго з яе заснавальнікаў — Максіма Багдановіча. Усяго 10 год літаратурнай працы гэтага геніяльнага юнака далёка ад роднай старонкі, у барацьбе з хваробай, у спалучэнні з вучобай, вывучэннем славянскай і сусветнай культурнай спадчыны. Але імя яго сёння сярод лепшых песняроў усяго свету, усіх часоў.

Што зрабіў М. Багдановіч для нашай літаратуры і культуры ўвогуле? Хто ён для нас сягоння?

Па-першае, Багдановіч — таленавіты творца, тонкі лірык, які ўсё лепшае ў сусветнай паэзіі імкнуўся прышчапіць да беларускай. Калі яраслаўскі сябра паэта Агурцоў запытаў у Максіма, чаму ён, народны паэт, напоўніў сваю кніжку «Вянок» санетамі, рандо, трыялетамі і іншымі незнаёмымі народу формамі, а таксама даў эпіграфы да вершаў амаль на ўсіх еўрапейскіх мовах, то атрымаў такі адказ: «За беларускай мовай не хочуць прызнаць самастойнасці і самабытнасці. Не хочуць дапусціць думкі, што на гэтай мове можна выразіць усе рухі чалавечай душы і даць любую літаратурную форму. Я сваёй кніжачкай хацеў паказаць, што ўсё гэта магчыма. А для гэтага трэба было беларускую мову паставіць побач з еўрапейскімі». Багдановіч напісаў 250 лірычных вершаў, Пушкін — 700, Купала — 900. А хрэстаматыйных у іх пароўну (прыкладна па 40).

Па-другое, М. Багдановіч быў выдатным крытыкам, гісторыкам і літаратуразнаўцам. Ён — пачынальнік прафесіянальнай беларускай літаратурнай крытыкі. Багдановіч — даследчык замежных літаратур. Яго работы прысвечаны творчасці ўсіх беларускіх пісьменнікаў ад старажытнасці да яго часу. Ён — першы, і трэба сказаць, тонкі крытык Купалы і Коласа. Добра ведаючы рускую і ўкраінскую літаратуры, М. Багдановіч шмат пісаў пра іх прадстаўнікоў. У сваіх артыкулах ён гаворыць пра творчасць Ламаносава, Рылеева, Адоеўскага, Баратынскага, Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Чэхава, Брусава. Яркія радкі прысвяціў ён творам Франко, Стэфаніка, Самійленкі, Шаўчэнкі. «Шаўчэнка ва ўкраінскай літаратуры, — пісаў Багдановіч у 1914 годзе ў артыкуле “Памяці Т. Р. Шаўчэнкі”, — з’яўляецца не тым, чым быў Кальцоў у рускай альбо Бёрнс — у англійскай. Не, ахоп яго паэзіі шмат шырэйшы і ставіць яго на тое месца, якое ў Расіі, напрыклад, займае Пушкін, у Польшчы — Міцкевіч».

Па-трэцяе, М. Багдановіч — выдатны перакладчык паэзіі, прозы. Валодаючы французскай, лацінскай, нямецкай, грэчаскай, італьянскай і польскай мовамі, ён перастварае Авідзія, Гарацыя, Шылера, Гейне, Дантэ, Верхарна, Верлена. А таксама перакладае з беларускай на рускую і наадварот, з украінскай на беларускую і рускую мовы, у тым ліку творы Пушкіна, Купалы, Шаўчэнкі, Франко, свае творы.

Гуманіст і інтэрнацыяналіст, Багдановіч бачыў у збліжэнні літаратур шлях да дружбы паміж народамі. М. Багдановіч не менш таленавіты і як празаік, публіцыст, мысляр. Не быў ён убаку і ад марксісцкай літаратуры, пра што сведчыць яго рэцэнзія на работу Пляханава «Дзённік сацыял-дэмакрата». Дарэчы, у ёй паэт пісаў: «На сацыялістычную дактрыну Пляханаў абапіраецца вельмі рэдка, і ўласна сацыял-дэмакратычнага ў рабоце амаль нічога няма. Гэта жыва і даступна выкладзеныя думкі разумнага, культурнага чалавека і толькі». Да ўсяго сказанага, М. Багдановіч быў сапраўдным грамадзянінам. Яго подзвіг — прысвячэнне жыцця нашай культуры.

Вось некалькі ўспамінаў сучаснікаў Мак-

сіма. А. Цітоў — яраслаўскі сябра, паэт: «Имея чуткую и отзывчивую душу, он невольно привлекал к себе каждого, его любили и уважали все, кого он знал; с ним не было весело, но было тепло, приятно поговорить и поделиться обо всём, что только лежит на душе. Он был одним из тех людей, которые горят, согревая жизнь и освещая путь другим, но мало заботясь о себе». З. Бядуля: «Ён быў ідэалістам-фанатыкам, чалавекам незвычайна добрым і ўважлівым да людзей, хоць на першы погляд ён здаваўся суровым і замкнутым. Паэзія была найлепшай уцехай яго жыцця. Пры ёй ён забываўся аб сваёй хваробе, забываўся, што дні яго жыцця злічаны».

Нарадзіўся Максім Багдановіч 9 снежня 1891 года ў Мінску на былой Аляксандраўскай вуліцы (пазней — М. Горкага, а цяпер — М. Багдановіча) каля Траецкай гары. Бацькі яго, як вядома, былі настаўнікамі. Бацька, Адам Ягоравіч, цікавіўся ўсімі праблемамі тагачаснага жыцця, збіраў фальклор, захапляўся этнаграфіяй, выступаў у друку. Час быў цяжкі для сям'і. Пасля нанесенага ўдару па партыі «Народная воля», членам якой быў бацька паэта, у партыі пачаўся разлад, ішлі вобыскі, арышты. Марыя Панасаўна жыла трывогай за мужа, за лёс дзяцей. Да Максіма ўжо быў у яе Вадзім. Праз 8 месяцаў пасля нараджэння Максіма сям'я Багдановічаў пераязджае ў Гродна. Тут Багдановічы жывуць да 1896 года. Максім, успамінаў Адам Ягоравіч, «па складу свайго характару, мяккага, нібы жаночага, па весялосці сваіх нораваў, жвавасці, спагадлівасці і ўражлівасці ўсяго больш напамінаў сваю маці...» Ад маці таксама перадаліся Максіму літаратурныя здольнасці: яна пісала апавяданні. Горад Гродна. Рака Нёман. Прынёманскія лугі, палі і лясы зачаравалі будучага паэта, пасеялі ў яго чулай, уражлівай дзіцячай душы зернейкі святой, неўміручай любові да роднага краю, роднай мовы. Гэтыя зернейкі не засохлі ў паэтавай душы ні ў Ніжнім Ноўгарадзе, ні ў Яраслаўлі, ні на Поўдні, а ўскаласілі самаахвярнай адданасцю свайму народу, яго культуры. Дзеці вельмі любілі бавіць летнія дні і ў вёсцы Вяззе Асіповіцкага раёна, куды бацька адвозіў іх разам з маці да сваякоў. Так будучы паэт далучаўся да жывога беларускага слова, наталяў душу непаўторнай прыгажосцю родных краявідаў.

У 1896 годзе пяцігадовы Максім страчвае самага дарагога чалавека — маці, а разам з ёй і радзіму, да якой будзе імкнуцца ўсё жыццё. Бацька пераязджае з дзецьмі ў Ніжні Ноўгарад, а потым — у Яраслаўль.

У 1911 годзе, пасля заканчэння яраслаўскай гімназіі, ужо вядомым паэтам Багдановіч нарэшце вяртаецца ў Беларусь. Супрацоўнікі «Нашай Нівы» падшукалі яму выдатную маляўнічую мясцінку, фальварак Ракуцёўшчына, што побач з пасёлкам Краснае, у сучасным Маладзечанскім раёне. Фальварак належаў дробнаму пану Вацлаву Лычкоўскаму, да якога нашаніўцы прыязджалі, як да сябе дамоў. Багдановіч заехаў спачатку ў Вільню. Нашаніўцы сустрэлі яго вельмі цёпла. Два дні прабыў паэт у горадзе. На жаль, сустрэцца з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Канстанцыяй Буйло яму не давялося. У пісьме да Клейнбарта ад 11.01.1929 г. Купала пісаў: «З Багдановічам мне асабіста не давялося сустракацца і перапіскі ў мяне з ім — адна-дзве паштоўкі». Колас жа быў кінуты ў Мінскі астрог і вызвалены толькі пасля ад'езду Багдановіча ў Яраслаўль.

У 1982 годзе я атрымаў ліст — адказ з Масквы ад Канстанцыі Буйло, якая паведаміла, што з Багдановічам яна не бачылася — ні ў Вільні, ні ў Мінску.

Ад'язджаючы з Вільні, Багдановіч пакінуў эпіграму на Купалу ў рэдакцыі «Нашай Нівы»: «Я. Купала немалое, ды благое нарабістае дзіця, каб яго давесці да пуцця, трэба паліваць часцей халоднаю вадою».

У Ракуцёўшчыну паэта суправаджаў беларускі археолаг, супрацоўнік «Нашай Нівы» Іван Луцкевіч. Тут, каля сасновага бору, сярод жытнёвых ніў, поруч з бруістай крынічкай і квяцістымі мурожнымі лугамі, Багдановіч і правёў сваё адзінае вясковае творчае лета ў Беларусі. Ён часта наведвае Краснае, навакольныя вёскі, зближаецца з людзьмі, слухае жывую чысцюткую народную мову, бачыць жыццё народа, адчувае хараство народнай душы.

Паэт шмат піша. Па ўражаннях гэтай паездкі ім напісана, наколькі вядома, 18 вершаў, у тым ліку паэма «У вёсцы», нізка вершаў «Старая Беларусь», у якой цэнтральны — «Слуцкія ткачыхі».

Паездка ў Беларусь уліла ў паэта новыя сілы. Ён глыбей зразумеў гістарычны час, які прадвяшчаў нацыянальнае і сацыяльнае

вызваленне народаў Расіі. Узмацнілася яго вера ў росквіт беларускай літаратуры, ён адчуў сябе сапраўды беларускім паэтам. У гэтым жа годзе Багдановіч вымушаны быў паступіць у юрыдычны ліцэй. Яго цягнула філалогія, але ў Пецярбургскі універсітэт да акадэміка Шахматава, якому «Наша Ніва» рэкамендавала Максіма для вывучэння мовы, этнаграфіі і гісторыі Беларусі, не пусціў бацька: найбольш з-за фінансавых праблем і хваравітасці паэта. Паэт самастойна вывучае філалагічныя навукі, падтрымлівае сувязь з Беларуссю, плённа працуе на карысць літаратуры.

Закончыўшы ліцэй у 1916 годзе, М. Багдановіч адразу накіроўваецца ў Мінск. Ніхто і нішто не можа затрымаць яго ў Яраслаўлі. Ужо сам факт пераезду ў Беларусь быў для паэта крыніцай гаючых сіл. На роднае яму асяроддзе ён ускладаў вялікія надзеі:

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады,
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды.
Калі ж у ім умру-загіну, —
Не жалюсь я!
Не будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там, пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.

У канцы верасня 1916 года паэт прыехаў у Мінск. Сустракалі яго ў «Беларускай хатцы» на тагачаснай Захар'еўскай вуліцы. «Сардэчны, сціплы і просты, — узгадвала пісьменніца Зоська Верас (Людвіка Войцік), — М. Багдановіч адразу заваяваў агульную сімпатыю. Ужо ў канцы вечара здавалася, што ён даўно з намі, што ўсім блізкі і дарагі». Тут часта збіраліся вечарамі Уладзіслаў Галубок, Усевалад Фальскі, Ядвігін Ш., Рамуальд Зямкевіч, Іосіф Фарботка, Зоська Верас, Змітрок Бядуля, Ванда Лявіцкая і, безумоўна, Максім Багдановіч. Паэт жыве ў З. Бядулі на былой Малагеоргіеўскай, пазней — вул. Талстога, 14 а. Працуе ў Губернскім харчовым камітэце сакратаром. Актыўна ўдзельнічае ў працы Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Мінску захоўваюцца дакументы камітэта, падпісаныя рукой паэта. Дакументы сведчаць пра актыўную грамадскую дзейнасць Багдановіча ў Мінску. Сярод іх зварот камітэта ў канцылярыю мінскага губернатара з просьбай дазволіць яму прачытаць публічную платную лекцыю на тэму «Беларускае адраджэнне» для паляпшэння грашовых спраў камітэта. «Лекцыя, — адзначалася ў звароце, — будзе прачытана па-беларуску Максімам Багдановічам». Дэпартамент паліцыі лекцыю забараніў.

У маляўнічым куточку ў прыгарадзе Вільні жыў незвычайны чалавек — Зоська Верас. Яна працавала поруч з Максімам у Мінску. Шмат цікавага расказала яна пра Багдановіча падчас нашых сустрэч ды ў артыкулах. У Мінску ўсіх здзівіла, што Максім адразу адмовіўся піць чай з цукрам. І гэта тлумачыў так: «Калі мільёны людзей гінуць на франтах, калі сотні тысяч бежанцаў — жанчын, старых, дзяцей — цярпяць голад і холад на дарогах, у чыстым полі, я не магу дазволіць сабе раскошы».

Асабліва клапаціўся паэт пра дзяцей. Ён ездзіць у Ратамку, Карпілаўку, дзе быў дзіцячы прытулак, ладзіць для іх святы, частку свайго харчовага пайка аддае дзецям.

Нягледзячы на слабое здароўе, у Мінску Багдановіч актыўна займаецца літаратурнай дзейнасцю. Пасля працы ён звычайна ідзе ў Пушкінскую бібліятэку. Пасля бібліятэкі працуе дома да 3—4 гадзін ночы. У Мінску напісана паэма «Страцім-лебедзь», а таксама верш «Пагоня», артыкулы «Аб веры нашых прашчураў», «Голас з Беларусі», «Беларускі бежанскі прытулак», «Дзейнасць беларускага камітэта». У Мінску ён распачаў працу над літаратурнай хрэстаматыяй для старэйшых класаў пачатковай школы.

Любімымі мясцінамі паэта ў Мінску былі Траецкая гара, чыгуначны вакзал, прывакзальная плошча — часта ён сустракаў і праводзіў гасцей з Вільні, Гродна.

Яшчэ з Яраслаўля паэт перапісваўся з Вандай Лявіцкай, дачкой Ядвігіна Ш. Па перапісцы яна яму вельмі спадабалася, але, калі сустрэліся ў Мінску, пачуцці развеяліся. Ад нежадання прычыніць боль дзяўчыне, ад таго, што не можа адказаць на яе пачуцці, — пакутаваў...

Паэт прыехаў у Мінск ужо хворым. Здароўе пагаршалася з кожным днём. Заўсёды на яго рабочым стале стаялі лекі.

Сябры сабралі грошы, падаспеў ганарар за брашуру пра дзейнасць Харчовага камітэта, і Багдановіч выправіўся на лячэнне ў Ялту. «Мы ўсе хацелі правесці яго на цягнік, — успамінала Зоська Верас, — але Максім запратэставаў»: «Развітаемся тут, у "Беларускай хатцы". Мне будзе цяжэй развітацца з вамі ўсімі пры натоўпе чужых людзей». Ён адчуваў, што ніколі ўжо не ўбачыць іх. Яны ж яшчэ не ведалі, што праводзяць паэта назаўсёды. І ён паехаў. Лёс жорстка вымусіў яго памерці ў поўнай адзіноце, але мужна, з нязгаснай верай у свой народ, у сваю краіну, з усведамленнем, што жыў нездарма на зямлі:

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Ты не згаснеш, ясная заранячка.
Ты яшчэ асвеціш родны край.
Беларусь мая! Краіна-браначка!
Ўстань, свабодны шлях сабе шукай.

Людзі заўсёды цягнуцца да мастацтва, шукаюць сябе ў ім, правяраюць і сцвярджаюць ім сябе.

Вяслуючы ў адкрытых водах жыцця, мы выбіраем тыя спадарожныя плыні, якія здольны наблізіць нас да жаданых даляглядаў. Паэзія — адна з такіх спадарожных плыняў. Гэта той сябар, «чыё месца нікім не можа быць занята». Сяброўства ж, дружба нараджаецца з патрэбы душы. Паэзія Багдановіча — пільная неабходнасць для сучасніка — няўрымслівага, духоўна багатага, складанага па светаадчуванні, які шукае непаўторнае ў жыцці. Слова паэта, фальклорна-рамантычнае, нагадвае пра скарбніцу духоўнай спадчыны нашага народа, якая далёка не ўся яшчэ засвоена і вабіць сваімі легендамі, казкамі, песнямі — крыніцай мудрасці, досціпу і журбы. Горкае, яно не дае забыць пра нядаўняе гаротнае мінулае, каб належна цаніць і шанаваць шчаслівае сёння. Гордае, яно надае больш сілы, веры ў змаганні за самыя высокія ідэалы. Журлівае, яно ўбірае і нашу тугу. Пяшчотнае, яно ўзвышае гарачым сцвярджэннем несмяротнасці найлепшых пачуццяў чалавека, і гэта акрыляе, не дае зламацца, спаняверыцца ў жорсткіх абставінах. Збалелае, слова паэта вяртае нас з летуценнай замілаванасці ў суровы рэальны свет і зноў вярэдзіць трывогай: «Нашто на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?»

Глыбока сучасная паэзія Багдановіча вылучае ў голасе паэта непаўторную інтанацыю шчырага суразмоўцы, мысліцеля, які багата перажыў, перадумаў, але не страціў душэўнага святла і жыццярадаснасці. У вершах Багдановіча — жывыя праблемы людскіх узаемаадносін, чалавечых стасункаў, асабістага шчасця, лёсу ўсёй «планеты людзей». Ён не дае нашаму сумленню — грамадзянскаму і чалавечаму — пакрыцца пылам.

Беларусь шануе імя свайго слаўнага сына. Імем Максіма Багдановіча названы вуліцы ў Мінску, Гродне, у пасёлку Краснае Маладзечанскага раёна, у гарадскім пасёлку Халопенічы Крупскага раёна. Імя паэта нададзена бібліятэкам у Мінску, у Смалявічах, школе ў Халопенічах. Каля вёскі Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна ўстаноўлены мемарыяльны знак з надпісам «У в. Ракуцёўшчына летам 1911 года жыў і працаваў выдатны паэт Беларусі М. Багдановіч». Пісьменнікі і прадстаўнікі грамадскасці заклалі сад Максіма. Захавана і крынічка паэта, якую даглядаюць жыхары вёскі. Адкрыты тут і філіял музея. У Гродне захаваўся дом Багдановічаў, у якім працуе экспазіцыя «Літаратурная Гродзеншчына». Адшукалі ў Гродне і магілу маці паэта.

У дзень 90-гадовага юбілею каля опернага тэатра быў адкрыты помнік Багдановічу. Дом, у якім ён нарадзіўся, згарэў падчас вайны. На тым месцы цяпер стаіць новы будынак, на якім устаноўлена мемарыяльная дошка з барэльефам паэта. Увекавечана імя Багдановіча ў Яраслаўлі, Ніжнім Ноўгарадзе, Ялце.

Мне пашчасціла ў 1981—1983 гадах працаваць першым дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску, ствараць яго. Пашчасціла праехаць і прайсці па дарогах і сцяжынках паэта. Яшчэ глыбей адчуць яго талент, адметнасць душы, значэнне для літаратуры і гісторыі краіны.

М. Багдановічу прысвечаны сотні мастацкіх работ, шэраг кінафільмаў, тысячы вершаў беларускіх, рускіх, украінскіх паэтаў.

Магіла паэта знаходзіцца ў далёкай Ялце. Але душа Паэта жыве ў Беларусі.

Анатоль БАРЫС

# «КАВАЛАЧАК БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ Ў ЯРАСЛАЎЛІ»

***Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,***
***Абрабіць яго трэба с цярпеннем.***
***Як ударыш ты ім, — ён, як звон, зазвініць,***
***Брызнуць іскры з халодных каменняў.***

М. Багдановіч «Песняру»

## ТУТ ЁН ЖЫЎ, ВУЧЫЎСЯ І СТВАРАЎ...




Успамянем, мой дружа,
у багатай чужыне
Аб беднай, далёкай
сваёй старане.

Радкі з верша «На чужыне» напісаны Максімам Багдановічам у 1908 годзе, у першы год знаходжання ў Яраслаўлі. У іх гучыць крыўда сямнаццацігадовага творцы, што ён вымушаны развітацца з роднай Беларуссю.

Я ж узгадваю сучасны Яраслаўль, дзе на беразе Волгі праляцелі васямнаццаць гадоў майго жыцця. Гэта прыгожы горад з больш як 600-тысячным насельніцтвам, прамысловы, культурны і навуковы цэнтр. Гэта радзіма першага народнага тэатра Фёдара Волкава, які, я мяркую, не аднойчы наведваў М. Багдановіч. Вабяць турыстаў помнікі архітэктуры, цэрквы, апранутая ў граніт Волжская набярэжная. Або Яраслаўскі гісторыка-архітэктурны музей, адкрыты ў 1895 годзе ў манастыры як гістарычны запаведнік. Музей вядомы экспазіцыяй «**Слова пра паход Ігаравы**» — рукапіс твора быў адшуканы ў сценах гэтага манастыра. У гэтым горадзе ў 1960-я гады я пачаў працоўны шлях, авалодаў журналісцкай прафесіяй. Пакінуўшы Яраслаўль у 1984-м, я стараюся наведваць яго часцей, бо тут жывуць мае сваякі.

З нагоды стагоддзя са дня нараджэння Максіма Багдановіча па вуліцы Чайкоўскага № 21 у драўляным доміку, дзе некалі жылі Багдановічы, у музеі «Літаратурнае жыццё Яраслаўскага краю» адкрылася экспазіцыя, прысвечаная нашаму паэту. З 2000 года гэта філіял Музея гісторыі горада Яраслаўля, афіцыйная назва ўстановы: **«Цэнтр беларускай культуры. Музей Максіма Багдановіча»**.

Дом па вуліцы Чайкоўскага (былая Любімская) быў пабудаваны ў 1908 годзе саветнікам Васілём Ржэўскім, нашчадкам святара. Пры жыцці Максіма дом меў нумар 28 А. Цэлая гісторыя адбылася з захаваннем

гэтага дома. Галоўную ролю адыгралі вядомы краязнаўца, музейны дзеяч **Наталля Зямлянская**, краязнаўца і калекцыянер **Валянцін Ляпёшкін** і іншыя прадстаўнікі яраслаўскай грамадскасці. Калі краязнаўцы даведаліся, што на месцы дома праектуюць сквер, то пачалі звяртацца ў розныя інстанцыі з просьбай захаваць адметны будынак, аднак у пастаноўцы яго на дзяржаўную ахову было адмоўлена. Затым звярнуліся ў Міністэрства культуры СССР, якое ўключыла дом у «Спіс зноў выяўленых помнікаў». Выкладчык мясцовага педагагічнага інстытута **Павел Казлоў**, які асабіста ведаў брата паэта Паўла Багдановіча, знайшоў дамавую кнігу Ржэўскіх, у якіх Багдановічы здымалі кватэру з 29 снежня 1912 года па 16 ліпеня 1914-га. Вялікую дапамогу ў захаванні дома адыгралі і беларускія музейшчыкі **Вера Мякута** і **Таццяна Шубіна**, якія сталі аўтарамі першай экспазіцыі. Па рашэнні выканкама яраслаўскага Савета народных дэпутатаў ад 5 сакавіка 1986 года дом быў перанесены з цотнага боку вуліцы на няцотную. Перанос стаў кампрамісам паміж краязнаўцамі і ўладамі, бо ў супрацьлеглым выпадку ён быў бы знесены, як і іншыя драўляныя дамы ў цэнтры Яраслаўля.

У музеі тры залы. Першая прысвечана дзяцінству і юнацтву паэта, гісторыі сям'і Багдановічаў, трэцяя — яраслаўскаму асяроддзю Максіма, а таксама яраслаўскаму перыяду жыцця Адама Ягоравіча і яго трэцяй сям'і. У другой зале, прысвечанай гісторыі дома і яго гаспадарам — Ржэўскім, — фотаздымкі сям'і, купчая на зямлю, выпіска з дамавой кнігі, партфель, у якім яна знаходзілася. На гэтым доме вісіць шыльда: «Центр белорусской культуры. Музей М. Богдановича. РСФСР. Памятник истории. В этом доме в 1912—1914 гг. жил белорусский поэт Максим Адамович Богданович (1891—1917). Охраняется государством».

Колькі год таму зайшоў туды і пазнаёміўся з загадчыцай незвычайнай яраслаўскай установы — **Наталляй Прохаравай**. Менавіта ад яе даведаўся, што тэрыторыя музея — невялікі сядзібны комплекс плошчай зямельнага ўчастка ў 615 квадратных метраў. Два будынкі. Асноўны з іх, у выглядзе літары А, помнік рэгіянальнага значэння, плошча якога 135,4 квадратнага метра, другі — службовы будынак. Экспазіцыя збіралася супрацоўнікамі Дзяржаўнага літаратурнага музея М. Багдановіча Мінска сумесна з Яраслаўскім музеем-запаведнікам «Карабіха» (сядзіба рускага пісьменніка Мікалая Някрасава). У музеі быў часткова аднноўлены інтэр'ер, выстаўлены прадметы тых гадоў, рэчы сям'і Багдановічаў і яго знаёмых, фотаздымкі і іншыя рарытэты.

Як адзначае Наталля Валянцінаўна, экспанаты збіраліся, як кажуць, са свету па нітцы — штосьці прынеслі яраслаўцы, але асноўная іх маса з фондаў мінскага музея М. Багдановіча. Вялікую дапамогу ў зборы навуковага матэрыялу аказалі яраслаўцы **Ефрасіння Ермалаева**, загадчыца чытальнай залы Дзяржаўнага архіва Яраслаўскай вобласці, і згаданы раней **Павел Казлоў**.

Сям'я Багдановічаў жыла небагата, уласную мэблю асабліва не куплялі, бо з-за сямейнай хваробы — сухотаў — часта пераязджалі. Захавалася пасля пажару ў 1918 годзе бібліятэка бацькі паэта Адама Ягоравіча. Яна ўнікальная, у ёй ёсць шэдэўры сусветнай мастацкай літаратуры, з якімі дзеці знаёміліся з малых гадоў. Яшчэ адзін каштоўны экспанат музея — геліягравюра Рафаэля «Сікстынская Мадонна» — падарунак Максіма Горкага. Містычным чынам яна захавалася пры пажары 1918 года. Максім вельмі любіў глядзець на гэту карціну, яна давала яму сілы і энергію на стварэнне цыкла лірычных вершаў «Мадонны». У экспазіцыі ёсць мемарыяльныя рэчы сям'і Багдановічаў: куфар, у якім Максім захоўваў асабістыя рэчы, а таксама абедзенны настольнік. Спыняюцца наведвальнікі каля гадзінніка, што перадаў музею **Віктар Кузняцоў**, які выхоўваўся ў сям'і брата Максіма — Паўла. Каштоўны экспанат падараваў музею нашчадак сям'і ўладальнікаў дома — рэстаўратар Андрэй Ржэўскі. Гэта сапраўдная рэліквія — піяніна, якое належала сябру Максіма па гімназіі — Дэадору Дэбольскаму. Гэты інструмент часта слухаў Максім, калі прыходзіў да Дэбольскіх.

Дарэчы, у сям'і Багдановічаў меліся два таленты — літаратурны і матэматычны. Браты Максіма — Леў і Павел — валодалі ўнікальнымі матэматычнымі здольнасцямі.

Бацька Максіма, Адам Ягоравіч, працаваў настаўнікам Мінскага прыхадскога вучылішча, але па здароўі (хвароба галасавых звязак) вымушаны быў пакінуць выкла-



Музейныя заняткі, прысвечаныя Дням беларускай культуры.

данне. Потым ён працаваў ва Усерасійскім сялянскім пазямельным банку ў Гародні, Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі. Яго першая жонка Марыя Мякота, таксама педагог, любіла паэзію і музыку, яе апавяданні друкавалі ў гарадзенскай газеце. Яна памерла ў маладым узросце пасля нараджэння чацвёртага дзіцяці — дачкі Ніны, калі Максіму было толькі пяць гадоў. Будучы паэт запомніў, што маці іграла на фартэпіяна. Бацька Максіма папрасіў перавод па службе і трапіў у Ніжні Ноўгарад. Там ён пасябраваў з пісьменнікам Максімам Горкім. Адам Ягоравіч ажаніўся з Аляксандрай Волжынай — роднай сястрой жонкі Горкага Кацярыны. Аднак і Аляксандру напаткаў лёс яе папярэдніцы — памерла пасля нараджэння сына Аляксандра, які затым выхоўваўся ў цёткі Кацярыны, але памёр у 2,5 гады.

Пасля смерці Вадзіма — старэйшага сына — адбываецца пераезд Багдановічаў у 1908 годзе ў Яраслаўль. Там Адам Ягоравіч ажаніўся з малодшай сястрой сваёй першай жонкі Аляксандрай Апанасаўнай, якая выхоўвала яго дзяцей і падаравала яму яшчэ пяць сыноў.

Па прыездзе ў Яраслаўль у Максіма ўжо быў надрукаваны першы твор — апавяданне «Музыка» ў газеце «Наша Ніва», якая выдавалася ў Вільні. У 1909 годзе ў той жа газеце з'явіліся першыя вершы Максіма на беларускай мове. У ліцэйскія гады Максім, вымушана разлучаны з роднай Беларуссю, самастойна вывучаў беларускую і ўкраінскую мовы, чытаў у арыгінале Міцкевіча, Сыракомлю, быў знаёмы з паэзіяй іншых славян і займаўся перакладамі на беларускую мову, у тым ліку з французскай. Шмат чытаў у мясцовай Пушкінскай бібліятэцы, пісаў ноччу. У 1911 годзе ў «Весніку Еўропы» прафесар Харкаўскага ўніверсітэта Аляксандр Пагодзін у артыкуле «Беларускія паэты» даў высокую ацэнку творам Максіма Багдановіча.

Творчасць паэта прысвечана роднай Беларусі. Шэраг вершаў, у тым ліку «Зорка Венера ўзышла над зямлёю…», прысвечаны Максімам яго чыстаму, але ў канчатковым выніку няўдаламу каханню — Ганне Какуевай, сястры яго аднакласніка. Ён шмат часу бавіў з Ганнай, асабліва, калі яна студэнткай прыязджала на вакацыі з Піцера. Максім часта заходзіў у заможны купецкі дом, якім валодала цётка Ганны Таццяна Какуева. Ганна атрымала добрую адукацыю: скончыла прыватную гімназію Анціпавай у Яраслаўлі, а ў 1914 годзе — Петраградскую кансерваторыю. Аднак адносіны ў Ганны і Максіма не складаліся. Какуевы — багаты яраслаўскі род, таму сваякі былі супраць гэтай сувязі. Нядзіўна, што цётка адправіла пляменніцу падалей ад хворага на сухоты паэта на вучобу ў Санкт-Пецярбург. Там Ганна аддала перавагу аднакласніку Максіма, сыну інжынера, Івану Лілієву і выйшла за яго замуж. Пазней яна выкладала музыку, муж стаў прафесарам. У далейшым Ганна, як і яе сын Мікалай, свята захоўвала ўспаміны пра свайго каханага.

Супрацоўнік «Нашай Нівы» Вацлаў Ластоўскі паўгода не мог выдаць зборнік

вершаў Максіма Багдановіча з-за адсутнасці сродкаў. Толькі дзякуючы продажу старой пячаткі з гербам, якую прывезла з Кейданоў літоўская пісьменніца Пяледа, а таксама дапамозе княгіні Радзівіл (за гэта на першай старонцы кнігі змешчаны знак «Лебедзь» — герб Магдаліны Радзівіл) зборнік быў выдадзены ў 1913 годзе. Назву даў сам Вацлаў Ластоўскі — «Вянок», у памяць Максімавага сябра і былога супрацоўніка рэдакцыі Сяргея Палуяна. На пачатку наступнага года Максім атрымаў некалькі экзэмпляраў сваёй кніжкі. Адзін з іх ён падарыў брату Ганны Какуевай, а той — каханай паэта. Пазней сын Ганны перадаў гэту рэліквію ў Мінск, у аддзел рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі. Дарэчы, зборнік «Вянок» — сярод цэнтральных экспанатаў і ў яраслаўскім музеі.

У 1909—1916 гадах Максім актыўна супрацоўнічае з яраслаўскай газетай «Голас». Пад псеўданімамі друкуе вершы, прозу, артыкулы, рэцэнзіі. Супрацоўнікі газеты давяралі яго літаратурнаму густу, заказвалі матэрыялы. Добры ўплыў на творчасць Багдановіча зрабіла знаёмства са студэнтамі Мінскага настаўніцкага інстытута.

Сям'я Адама Багдановіча ўвесь час жыла на прыватных кватэрах па вуліцах Ільінская, Ваздзвіжанская, Любімская, Вялікая Данілаўская, Сянная плошча і іншых. Вельмі важна, што захаваўся хоць адзін з гэтых дамоў. Мікалай Адамавіч, з якім мой брат пазнаёміўся праз свайго дзядзьку Івана Варановіча і з якім яны жылі ў адным доме па вуліцы Свабоды, апавядаў, што дом, адкуль Максім паехаў у 1916 годзе ў Мінск, не захаваўся, згарэў падчас мецяжу ў 1918 годзе. Цяпер на тым месцы стадыён шыннага завода. Тады ж згарэў Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй, у якім Максім вучыўся ў 1911—1916 гадах. У будынку мужчынскай гімназіі, дзе Максім вучыўся ў 1908—1910 гадах, пасля рэканструкцыі размясціўся адзін з корпусаў Яраслаўскага ўніверсітэта. Мемарыяльная дошка на ягонай сцяне з 27 мая 1958 года сведчыць, што там вучыўся беларускі паэт. Цяпер каля ўваходу ў будынак стаіць і помнік М. Багдановічу, копія помніка каля Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ў Мінску. У 1985 годзе вуліца Вялікая Данілаўская ў Яраслаўлі перайменавана ў вуліцу Максіма Багдановіча.

Тады ж, пры сустрэчы майго брата з Мікалаем Багдановічам, той паказаў кішэнны гадзіннік Максіма. Пазней, як і абяцаў, Мікалай Адамавіч перадаў рэліквію ў Мінск, і цяпер яна захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі.

Дарэчы, паводле архіўных і статыстычных дадзеных, у Яраслаўскай вобласці пражывае каля трынаццаці тысяч беларусаў. Гэта бежанцы сусветных войнаў, перасяленцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя, якія ехалі асвойваць яраслаўскае Нечарназем'е, а таксама 80—90-х гадоў з Гомельскай вобласці пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Па каліве папаўняецца музей. У 2008 годзе тут быў капітальны рамонт. Рэстаўрацыю фінансавала мэрыя Яраслаўля на чале з **Віктарам Валанчунасам**. Потым пачалася актыўная работа па стварэнні экспазіцыі,



*Каляднае гулянне ў выкананні яраслаўскіх школьнікаў.*

аўтарамі якой сталі яраслаўскія мастакі **Іван Мітрафанаў** ды **Іван Бухараў**.

І вось 30 мая 2008 года ў рамках Дня горада ў Яраслаўлі зноў адкрыўся музей беларускага паэта. На ўрачыстасцях прысутнічалі дырэктар мінскага Дзяржаўнага літаратурнага музея М. Багдановіча **Таццяна Шэляговіч**, вучоны сакратар музея **Ірына Мышкавец**, прадстаўнікі аддзела культуры Мінскага гарвыканкама, музейшчыкі з Яраслаўля, нашчадкі сям'і Багдановічаў, прадстаўнікі беларускай дыяспары, мясцовых улад, кіраўніцтва будаўнічай кампаніі, якая праводзіла рэканструкцыю, і іншыя.

У новай экспазіцыі, адкрытай пасля рамонту, прадстаўлены два партрэты — Максіма Багдановіча і яго музы Ганны Какуевай, — аўтарам якіх з'яўляецца Іван Бухараў. Тут экспануецца шмат падарункаў наведвальнікаў: саламяная лялька, прэзентаваная ў свой час Уладзімірам Мулявіным, абярэг «Саламянны павук», зроблены спецыяльна для музея ветэранам Вялікай Айчыннай вайны **Адольфам Мішыным**.

Калі раней у музей штогод прыходзіла каля трох тысяч чалавек, то столькі ж пабывала тут за тры месяцы да афіцыйнага адкрыцця, а пасля ўрачыстасцей за дзесяць дзён завіталі паўтары тысячы! Большая палова гасцей — школьнікі. Для ўсіх катэгорый наведвальнікаў прапануецца экскурсія «Беларускі паэт з берагоў Волгі Максім Багдановіч», інтэрактыўныя музейныя заняткі «Гуканне вясны», «Масленіца», «Каляды», «Асаблівасці нацыянальнай кухні» і іншыя.

— Школьнікі і студэнты яраслаўскіх ВНУ, — распавядае загадчыца яраслаўскага музея, — бяруць актыўны ўдзел ў навукова-даследчай рабоце па тэме «Максім Багдановіч і расійска-беларускія сувязі», становяцца прызёрамі алімпіяд мясцовага і агульнарасійскага маштабу. Асабліва хочацца адзначыць студэнта яраслаўскага педагагічнага ўніверсітэта **Яраслава Сіроткіна,** вучняў школы № 84 Яраслаўля **Таццяну Пакроўскую** і гімназіі № 2 **Аляксандру Каверыну**. У школе № 14 загадчыца бібліятэкі беларуска **Людміла Карпусова** праводзіць работу па папулярызацыі творчасці Максіма Багдановіча.

Добраўпарадкаванне магілы бацькі паэта Адама Ягоравіча зроблена яго нашчадкамі, а таксама музейшчыкамі. Яе знайшлі ў 1990 годзе супрацоўнікі музея Максіма Багдановіча і прыёмны сын Паўла Багдановіча Віктар Кузняцоў, А. Я. Багдановіч — беларускі этнограф, гісторык культуры, фалькларыст, разам з сынамі зрабіў усё магчымае па захаванні рукапісаў Максіма і перадачы іх у Мінск. Ён пахаваны на Лявонцьеўскіх могілках у Яраслаўлі, побач — трэцяя жонка А. Мякота. Помнікі для іх зроблены ў Мінску.

Максім марыў выдаць тры зборнікі сваіх твораў. Пры жыцці пабачыў свет толькі адзін. Яму лёсам было наканавана пражыць толькі 25 гадоў, ён шмат чаго не паспеў здзейсніць. Бацька паэта, убачыўшы першую кніжку сына, сказаў яму: «*Станеш беларускім Гамерам. Лепш бы пісаў па-руску*». Але паэт не мог іначай...

Хочацца прыгадаць адну са старонак даведніка «Яраслаўль» (які ўклалі гісторык П. Казлоў і архітэктар В. Мараў). У ім называюцца мясціны, звязаныя з жыццём Максіма Багдановіча. Адзначаецца, што, знаходзячыся за межамі Беларусі, Багдановіч усім сэрцам быў звязаны з беларускім народам, яму прысвяціў сваю творчасць. Але М. Багдановіч дарагі і яраслаўцам. Тут, у рускім горадзе, ён жыў, вучыўся, ствараў…

У кнізе водгукаў музея нашага земляка ў Яраслаўлі ёсць запісы на рускай, беларускай, французскай, нямецкай, японскай і іншых мовах. Адзін з наведвальнікаў напісаў надзвычай трапна: ***«Гэта кавалачак беларускай зямлі ў Яраслаўлі»***.

***Фота прадастаўлена з Музея Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі.***

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

# ПАЛЫНОВАЯ ГОРЫЧ КАХАННЯ

## *Максім Багдановіч і Ганна Какуева*

«Палын-трава» — гэткую назву меркаваў даць Максім Багдановіч сваёй кнізе, што прыгожай кветкай паўставала з ягонага «Вянка». Кветкай жывой, натуральнай, не пазбаўленай адметнай пекнасці, але найпершая яе адметнасць — расстайная жаўцізна і горыч. Менавіта такім было ягонае самае вялікае каханне. Да той, якую ўвасобіў і ў несмяротнай «Зорцы Венеры», і ў многіх іншых творах. Пра гэтую старонку творчасці нашаніўскага класіка вельмі пранікліва напісала літаратуразнаўца Ірына Багдановіч: «Шчымлівыя, трапяткія вершы, прысвечаныя Ані Какуевай, у якую закахаўся М. Багдановіч, будучы яраслаўскім гімназістам, — гэта драматычная гісторыя кахання, якая саграваe душу асаблівым цяплом і адначасна разліваецца ў ёй нявыказаным сумам».



Станіслаў Станкевіч і Антон Адамовіч, укладальнікі мюнхенскага выдання твораў Максіма Багдановіча, у раздзел «Па вянку» ўвялі нізку «Палын-трава», куды змясцілі дваццаць вершаў, што і былі напісаны пад уражаннем кахання да гэтай чарнавокай пані. Адкрывае нізку верш «Учора толькі шчасце глянула нясмела…» Тое, што твор прысвечаны Ганне Какуевай, пацвярджае імя, якое знаходзім у перакладзе верша на рускую мову. Паэт здолеў перадаць незвычайны стан закаханага юнака, калі пачуццё перапаўняе яго, змяняючы ўсё навокал. Але знешне поступ кахання незаўважны, нясмелы, далікатны, бо, як слушна зазначае Ірына Багдановіч, «лёгкімі пастэльнымі танамі зафіксаваў паэт пачатак свайго захаплення». Аднак жа гэты поступ здольны цалкам змяніць успрыняцце свету. Несумяшчальныя, здавалася б, перажыванні, перапаўняюць чалавека:

> Учора толькі шчасце глянула нясмела, —
> І развеяліся хмары змрочных дум.
> Сэрца чулае і млела, і балела,
> Радасць душу мне шчаміла, быццам сум.

Перапоўненасць пачуццём, якое засланяе ўсё, калі адкінуты ўсе справы, немагчымасць рацыянальна асэнсаваць гэты стан, дайсці да прычын таго, што адбылося, — усё гэта ўвасоблена ў дакладнае параўнанне жыцця з лёгкай завеяй, якая наляцела, заваражвае, замятае ўсё на сваім шляху. Дзіўны стан лёгкасці і прыемнага одуму-бяздум'я перапаўняе душу. Пытанні паўстаюць і тут жа адпрэчваюцца, бо адказы на іх непатрэбны, бо і адказаць можна таксама пытаннем:

> Ўсё жыццё цяпер, як лёгкая завея.
> Кнігу разгарнуў, а не магу чытаць.
> Як зрабілася, што пакахаў цябе я, —
> Хіба знаю я? Ды і нашто мне знаць?

Калі той, для каго кніга — вялікі, бясконца дарагі свет; калі той, хто сам сябе назваў кніжнікам, не можа чытаць, то гэта сведчыць пра многае.

У паэтычным накідзе «Ўсё адна цяпер мне думка сэрца сушыць…», які лагічна працягвае сюжэтную канву нізкі, упершыню з'яўляецца яе цэнтральны вобраз — палын-трава. Таму і апраўдана, што ўкладальнікі змяшчаюць гэты твор другім. Зварот да ратавальнай сілы траў роднай зямлі цалкам натуральны ў творчасці беларускіх паэтаў.

У Максіма Багдановіча палын-трава паўстае ва ўсёй сваёй знішчальна-ратавальнай моцы. Галоўнае цяпер для героя — пошук шляху да яе сэрца, а ўсё астатняе — хай парасце палыном:

Ўсё адна цяпер мне думка сэрца сушыць,
Як пабачыцца з табой, к табе прыйсці,
А палын-трава няхай сабе заглушыць
Пазабытыя даўнейшыя пуці.

Далейшая кампазіцыя нізкі, прапанаваная эмігранцкімі літаратуразнаўцамі, парушае стройнасць, паслядоўнасць гісторыі гэтага кахання. Далей было б лагічна прапанаваць верш «Халодная, ясная ноч…», у якім перавашае той жа матыў пошуку шляхоў да каханай, але выказаны вельмі адметна, праз выкарыстанне традыцый калядных гаданняў:

Звонка хрумчыць сняжком,
Ідучы мне насустрач дзяўчына.
«Як Вас завуць?» —
Пытаюся я.
Сягоння ж усе гадаюць.
А яна няголасна кажа:
«Аня».

Іншага імені ў гэтай выпадковай дзяўчыны не магло быць. Бо кожная выпадковасць у такім стане заканамерная. Бо кожны крок героя вывяраецца, пазначаны каханнем. Адбываецца своеасаблівае прыцягненне: усе ягоныя шляхі вядуць да яе.

Нельга не згадаць цікавую версію адносна гэтых твораў Ірыны Багдановіч: «Чарнавыя накіды — магчымыя пачаткі і сярэдзіны вершаў, а можа быць, аскепкі аднаго-адзінага прысвечанага Ані верша». Аднаго-адзінага, думаецца, не ў літаральным сэнсе, а таму, што адно вялікае пачуццё знітоўвае гэтыя творы ў адзін, яно рознымі сваімі гранямі высвечана тут. Таму чарнавыя накіды можна ўявіць разбітай на аскепкі крышталёвай вазай, якая і сімвалізуе каханне.

Закаханы аддае сябе на волю пачуццю, на волю лёсу, на волю той, што стала для яго адзінай гаспадыняй. Адчайна, бы ў вір, кідае сваё жыццё — найвялікшую каштоўнасць, якой валодае, ёй пад ногі. Сюжэт верша «Буду сніць і днямі, і начамі» — скразное лірычнае дзеянне, не перанесенае ні на якія вобразы-рэаліі знешняга свету, бо ў гэтым свеце не засталося нічога, апроч яе, нічога, апроч кахання да яе. Дзеянне ўяўнае, але, відавочна, немагчымае, неверагоднае, але нястрымнае, бо пачуццё прагне выйсця:

Буду сніць і днямі, і начамі.
І прыду. Што ўздумаеш, рабі.
Хочаш — душу растапчы нагамі.
Хочаш — мучай, хочаш — загубі.

Усё, што трапляе на вочы закаханаму, успрымаецца праз прызму пачуцця. Так, шаўковая тканіна з такой вабна-прыгожай, нянаскай назвай — муар, якая мае ўласцівасць зіхацець рознымі колерамі, што, пераліваючыся, робяць немагчымым правесці між імі мяжу, наводзіць на смутны роздум: «У сэрцы — боль: // Ніколі // З душою Вашай так не сальецца // Мая душа». Фінал верша «Муар» адназначна-лаканічны: «Канец». Гэта не проста канец твора, а канец усяму, бо прыходзіць разуменне, што ніколі немагчыма тая вышэйшая еднасць, якая злучае душы дваіх у адно. Верш знешне астрафічны, але сэнсава ў ім яскрава вылучаюцца дзве часткі, якія і кампазіцыйна паўтараюць адна другую: у кожнай цэнтральны працяглы радок, які заключае ў сабе асноўную думку. А ад яго пункцірамі разыходзяцца іншыя, каб распачаць і завяршыць гэтую скрушную гісторыю.

Два блізкія паэтычныя накіды, своеасаблівы дыстых «Вашай цётцы…» і «Мая гаспадыня» — гэта водгук на вядомую гісторыю пра ролю ў лёсе Ані яе апякункі, цёткі Тацяны Рафаілаўны, якая не ўхваляла адносіны маладых людзей. Зразумелая непрыязь юнака да гэтай асобы не магла не з'явіцца як адказ на яе непрыязь да яго:

Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна
Рабіць обыск у маім сэрцы.
Яшчэ ўчора яна мне сказала:
«Прызнайцеся, што Вы палюбілі Аню!»

Другі верш — гэта паэтычны адказ самой Тацяне Рафаілаўне, што была, зразумела, супраць сустрэч закаханых. Магчыма, паэт меркаваў прапанаваць гэты верш сваёй «гаспадыні», але, нясмелы і далікатны, наўрад ці асмеліўся зрабіць гэта. Такім чынам, паэзія дапамагала суцішыць крыўду. Называючы апякунку каханай «мая гаспадыня», Максім Багдановіч падкрэслівае, якім значным з'яўляецца яе стаўленне да маладых людзей, разумее, што яе воля ў многім вызначальная. Прызнае, што яна — гаспадыня ягонага лёсу, ягонага кахання. Дазваляе сабе паэтычны «дыспут», прыводзячы вельмі яскравыя «аргументы» са зразумелага «апанентцы» свету культуры, да якога яна сябе адно-

сіць. Кампазіцыя верша цалкам падпарадкавана патрабаванням палемічнага трактата: напачатку адпаведны статусу зварот, далей выкладзена сутнасць праблемы праз выкарыстанне параўнання. Дыдактычны момант закранае асноўную думку твора. Галоўнае, да чаго імкнецца паэт, данесці: каханне — справа надта інтымная, далікатная, у яе нельга ўмешвацца, «Бо гэта — задушэўная справа, // А чалавецкай душы таксама // Няхораша мацаць рукамі». З выказвання асабістага болю, які паэт імкнецца прыхаваць за іранічнай інтанацыяй, верш вырастае да своеасаблівага маніфеста ў абарону кахання.



Максім Багдановіч вельмі рэдка (а мо і ніколі) у жыцці дазваляў сабе раскрываць душу перад іншымі, перад светам. І толькі паперы, вершам давяраў ён самае патаемнае. З такіх твораў у «палыновай» нізцы — «Больш за ўсё на свеце жадаю я…», верш, што вылучаецца надзвычайнай адкрытасцю. Тут выказана непасрэдна, калі скарыстаны прыём адкрытага біяграфізму, найвялікшае жаданне маладога чалавека стаць бацькам. Жаданне цалкам зразумелае, натуральнае, але яму ніколі не суджана было збыцца. Асабліва кранае вобраз немаўляці, намаляваны з глыбокай пяшчотай. Не могуць не хваляваць тыя характэрныя вобліку маленькага чалавечка ў анёльскім веку дэталі, якія малады паэт накрэслівае толькі некалькімі штрыхамі:

Больш за ўсё на свеце жадаю я,
Каб у мяне быў свой дзіцёнак —
Маленькая дачушка — немаўляшка,
Аня Максімаўна,
Такая прыгожанькая,
Цёпленькая, мокранькая,
З чорнымі валосікамі і броўкамі,
З цёмна-карымі вочкамі,
А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.

Адкуль такая пяшчота? На існуючы толькі ў марах воблік дзіцяці паэт пераносіць сваё вялікае каханне. Да той, якую марыць мець за маці свайго дзіцёнка. Гэта яе, Аню Какуеву, ён уяўляў такою ў анёльскім веку. А мажліва, бачыў яе дзіцячыя фотаздымкі: «Зусім такая, як Вы, // Калі Вы былі маленькай дзяўчынкай». Зразумела, што і гэты твор, як і ўсе іншыя, нельга адназначна ўспрымаць як няхай сабе паэтычную, але ўсё ж біяграфію аўтара.

У нізку ўваходзіць яшчэ адзін дыстых — два паэтычныя пасланні да цёмнавокай пані, асноўны ў якім — матыў развітання. Калі больш дакладна, то гэта два варыянты аднаго верша. Поруч з палыновай горыччу расстання гучаць тут і прасветленыя ноты захаплення дзявочай красою, захаплення красою жыцця, якія ўраўнаважваюць драматызм страты. Краса паўсюль, у кожнай з'яве, на першы погляд непрыкметнай. Але варта асвяціць яе агнём пачуцця, і яна загарыцца красой незвычайнай. Як тыя непрыкметныя на цёмным небе цёмныя зоры:

Цёмнавокая пані, канец!
Ёсць накшталт Вашых цёмных вачэй,
Зоры цёмныя, што неўзнарок
Загараюцца ў змроку начэй.

Невядома дакладна, як сам Максім Багдановіч уклаў бы сваю кнігу «Палын-трава», але, падаецца, было б цалкам апраўдана завяршыць яе вершам «Двайняткі». Гэта быў бы вельмі дасканалы фінал. Бо гэты твор выводзіць на іншы, адрозны ад палыновага, шлях: роздуму пра тыя вечныя кветкі мастацтва, якія былі ўплецены паэтам у ягоны дасканалы вянок. І шлях роздуму пра незгасальнае святло кахання, пра тое, чым ёсць творчае натхненне, і пра тую, што стала музай, без якой не было б і яго, паэта:

Вы, і самі тое не прыкмячаючы,
Так многа далі мне,
Так напоўнілі сабой маё жыццё,
Што ці ж магу я адказаць,
Заглянуўшы ў сваю душу:
Што там Ваша і што маё?

І калі іх душы не змаглі зліцца ў адно ў зямным жыцці, як тыя колеры муару, то яны здолелі зрабіць гэта ў нябеснай вышыні, адкуль свецяць зоркамі-двайняткамі.

***Ілюстрацыі А. Кашкурэвіча да цыкла вершаў «Эрас» прадастаўлены Літаратурным музеем М. Багдановіча***

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# ЛІСТЫ З «ЛЯСНОЙ ХАТКІ»

*Зусім яшчэ нядаўна, гаварылі мне старэйшыя філолагі, што маладосць беларускай літаратуры можна было лёгка адчуць на ўласнай скуры. Бо былі яшчэ (а некаторыя, дзякуй Богу, і сёння жывуць) людзі, якія ўвасаблялі сабой усю гісторыю Беларусі XX стагоддзя. Такім чалавекам была і Людвіка Войцік (1892—1991), больш вядомая пад сваім пісьменніцкім псеўданімам — Зоська Верас. Пражыўшы 99 гадоў, яна стала звяном, якое звязала «нашаніўства» з найноўшай гісторыяй краіны. Да яе ў лясную хатку пад Вільняй здзяйснялі паломніцтва дзясяткі чалавек — каб хаця дакрануцца да той рукі, якую паціскаў некалі Максім Багдановіч.*

*Але не толькі ў самім вобразе і жыццёвым лёсе Зоські Верас была прыцягальнасць яе для гісторыкаў, філолагаў, літаратараў. Справа ў тым, што ў памяці яна захоўвала сапраўды энцыклапедычныя дадзеныя, а пад рукамі мела багацейшы архіў — нататнікі, лісты, рукапісы, фотаальбомы, з якіх на прыезджых глядзела ўсё стагоддзе: Луцкевіч, Смоліч, Багдановіч, Бядуля і многія іншыя. Для Зоські Верас яны былі сябрамі, паплечнікамі-аднадумцамі: яна захоўвала ў сабе іх твары, іх хаду, рухі і жэсты, характары.*

*Снежань — месяц Максіма Багдановіча. Сёлета мы святкуем 120-годдзе са дня нараджэння безумоўна вялікага і вечна маладога паэта. Менавіта яму Людвіка Антонаўна сімпатызавала найбольш: на працягу ўсяго свайго доўгага жыцця яна нястомна абвяргала міфы, выпраўляла памылкі, якія рабілі даследчыкі творчасці класіка. Перш за ўсё крытыка яе была скіравана на мастацкія творы-ўспаміны З. Бядулі: фантазіяй выдатнага празаіка варункі жыцця М. Багдановіча ў Мінску ў 1916—1917 гг. былі істотна перайначаны.*

*Ніжэй «Маладосць» прапануе чытачу выбраныя лісты Зоські Верас да багдановічазнаўцаў: Алеся Бачылы і Ніны Ватацы. У поўным аб'ёме і з падрабязнымі каментарыямі, якія ў часопіснай публікацыі адсутнічаюць, эпісталярый змешчаны ў кнізе «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы», што рыхтуецца да друку ў РВУ «Літаратура і Мастацтва».*

### ЛІСТ ЗОСЬКІ ВЕРАС ДА НІНЫ ВАТАЦЫ

2/IV.76 г.
Вільня.

Паважаная Ніна Барысаўна.

Аж баюся ўяўляць сабе, што Вы аба мне думаеце… Выйшла непрыемная гісторыя, якую хачу высветліць і растлумачыць.

Я ў студні атрымала 3 экзэмпляры кніжкі «Шлях паэта». Першы экз[эмпляр] прыслаў мне Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, другі — Іван Уладзіміравіч Саламевіч, трэці са штампам Бібліятэкі. Я думала, што яго выслала Лідзія Іванаўна[1], і ён у мяне па сённяшні дзень ляжаў не распакаваны…

Толькі сёння, хочучы пазычыць кніжку знаёмаму беларусу, я распакавала і знайшла Ваш ліст.

Вось чаму я Вам не адказала аж дагэтуль і не падзякавала. Так што, калі ласка, даруйце…

Мой ліст з планам Бядулінай кватэры Вы, напэўна, атрымалі? У той самы дзень я пісала Аляксандру Мікалаевічу. Мо ён паказаў Вам мой ліст. Я там ператрэсла г. зв. Бядуліныя «ўспаміны» і той яго «твор» «Страцім-Лебедзь». Паўтараць не буду. Адно

[1] Маецца на ўвазе Лідзія Збралевіч, на той час — загадчык аддзела рукапісных, старадрукаваных і рукапісных кніг бібліятэкі НАН Беларусі.

толькі паўтару, што мне крыўдна не толькі за маю с[ветлае] п[амяці] Матку, але не менш за Максіма… Калі Вас цікавіць, а Вы таго майго ліста да А. М. Бач[ылы] не чыталі, то калі ласка папрасіце і прачытайце.

Цяпер хачу пазнаёміць Вас яшчэ з адным фактам з жыцця Максіма ў Менску. У сваіх надрукаваных успамінах «5 месяцаў…» я яго прапусціла, бо справа была даволі «дражлівая». Але Вам трэба ведаць (для сябе асабіста), бо тут ясна выразілася адна характэрная рыска Максіма — Яго надзвычайная чуткасць на чужую крыўду.

Справа вось у чым:

Як ведаеце з маіх успамінаў, у Ратамцы дзеці нашага прытулку прыгатавалі спектакль. Навучыліся ролі… але не было ў што іх апрануць — не было бел[арускіх] нацыян[альных] касцюмаў. Аб іх мелі парупіцца ў Менску мы, г. зн. Максім Б[агдановіч], А. Смоліч і я.

Думалі-думалі і нічога лепшага не прыйшло ў галаву, як звярнуцца да Р. Зямкевіча, у якога была поўная скрыня сабраных экспанатаў — народных вопратак. Папрасілі, растлумачылі на што і калі яны патрэбны… Пачулі: «Калі ласка, з прыемнасцю дам што трэба. Скажыце калі…» Надышоў той дзень. Трэба было ўсё ўзяць, запакаваць і ехаць. Ідзем да Р. Зямк[евіча] — няма, выехаў. Не папярэдзіўшы, не аставіўшы ні слова… Мы ў роспачы. Каб на мейсцы — адлажылі бы спектакль. Але там жа назначаны дзень — чакаюць. Ды і сорамна сарваць свой беларускі спектакль, калі ў дзяцей расейскага прытулку ўсё будзе ў парадку.

Доўга мы думалі, радзіліся і прыйшлі да вываду — возьмем самі. Скрыня, не зачыненая на ключ, стаіць у Бел[арускай] Кнігарні (Захараўская, 24). Усё запішам, па гэтаму ж рахунку вернем. Так і зрабілі. На другі дзень усё вярнулі. Думаем, перапросім, зразумее чалавек…

У гэты ж дзень атрымліваем 2 лісты ад Р. З[ямкеві]ча — адзін мне, другі Смолічу (Максіма чапаць не адважыўся…)

Я села ў адным пакоі сталоўкі, а Яны абодва (Багд[ановіч] і См[оліч]) у другім. Я чытаю свой. Яны ліст См[олі]ча. Мяне лае ад зладзеяў… Я прачытала, занясла Ім — чытайце, кажу, а мне дайце свой. Смоліч кажа: «Не». — і схаваў у кішэнь. Відаць З[ямкевіч] мяне там «абмазаў» добра…

Праз нейкі тыдзень Камітэт пом[ачы] ахв[ярам] вайны даручыў нам траім (Багд[ановічу], См[олічу] і мне) арганізаваць спатканне Н[овага] года — 1917-га. Усё нарыхтавалі і ўзяліся рассылаць запросіны. І тут пытанне — што рабіць з Зямкев[ічам]. Ён нас абразіў, моцна абразіў… Максім кажа: маем права Яго абмінуць.

Прыйшоў дзень спаткання. Гасцей поўная сталоўка. А я яшчэ канчала надзявацца ў сваім пакоі. Раптам, нават не пастукаўшы, убегае расхваляваны Максім: «Панна Людвіка, Зямкевіч прыйшоў!» — а тут і См[олі]ч з'явіўся. Я так і села, ногі падкасіліся… Пакуль мы са См[олічам] зарыентаваліся — Максім выбег і да Зям[кеві]ча: «Пане Зямкевіч, хто Вас сюды прасіў?» Шмат хто ахнуў: так абражаць чалавека. Але Смоліч таму-другому растлумачыў. Усе супакоіліся. Селі за стол. Зям[кеві]ч — застаўся(!) Увесь вечар ніхто да Яго ні слова не сказаў — ігнаравалі. Але Ён упарта сядзеў да канца.

Вось які быў Максім… Сам жа Ён абражаны не быў, але перажываў за нас.

Што да аўтографаў. У мяне толькі адна маленечкая пісулька з гульні «ў пошту» на адным з суботнікаў. Больш нічога не маю. Цяпер шкадую, што замест немагчымых паміж намі гутарак мы не перапісваліся хоць часам у такія мінуты, калі нікога ў сталоўцы не было. Максім гаварыў вельмі ціха, а ў мяне ад 19 году жыцця пачалі хварэць вушы, і я дрэнна чула. Якраз гэтае пытанне закрануў Макс[ім] у пісульцы.

А развітваючыся з намі перад ад'ездам Ён сказаў маёй Маме: «Хацеў бы сказаць п[ані] Людвіцы шмат мілых слоў, але не магу галасней гаварыць, а Яна слаба чуе. Я напішу». У сваіх успам[інах] я крыху гэта скараціла. Усё ж непрыемна на ўвесь свет інфармаваць аб сваім калецтве…

З гэтай пісулькі раблю копію. Той самы размер, пісана алавікам. Столькі гадоў прайшло і пісулька не зусім была выразная і я яе «падправіла».

Папрашу Зяця, каб паспрабаваў перафатаграфаваць. Калі выйдзе — прышлю.

Надта буду рада і ўдзячна, калі да мяне напішаце. Дзякую за інфармацыю аб новай кніжцы. Усё на тэму Максіма Б[агдановіча] — цікава і цэнна.

Ці Вы чыталі ўспаміны аб М. Багд[ановічу] — напісаныя Смолічам? Іх ад некага

атрымаў І. У. Саламевіч. Прыслаў мне копію. Яна ўжо ў Вільні, але дастану толькі заўтра.

Вялікая шкада, што аб См[олі]чу прыходзіцца маўчаць. Цікавы быў і надта вартасны чалавек. Я Яго ведала ад 1913 г. і доўга з Ім карэспандавала. Маю каля 20 лістоў. Думаю, што Вам варта было б іх прачытаць. Ведаць, з кім сардэчна сябраваў Максім.

Калі б у Вас была магчымасць і ахвота, калі ласка прыязджайце. Мо зацікавілі б Вас мае ўспаміны і іншыя матэрыялы. Пакуль жыву, рада б падзяліцца.

Што дагэтуль кніжка не была распакавана — яшчэ адна прычына, спаткаўшае мяне цяжкае гора: 27/I г[этага] г[ода] памёр мой Сын… Цяжка гэта перажываю. Стараюся скончыць пачатае і задуманае, але не вельмі ўдаецца… Частковы работа як быццам «абурае», але схамянуўшыся яшчэ горш сябе адчуваю.

*Усяго Вам найлепшага.*
*Як найбольшага плёну ў працы.*
*Вітаю. Л. Войцік*

***Сягоньня я пачуў, што «моя нешчасьліва дзевечко» і думаю увесь вечар аб гэтым, але жывем мы, як чужые людзі і ні да чаго дадумацца не можна*[1].**

*АРС НББ, ф. Ватацы, 30Н//689(026), л.1-3*

## ЛІСТЫ ЗОСЬКІ ВЕРАС ДА АЛЕСЯ БАЧЫЛЫ

### № 1

2/I.76 г.
Вільня.

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч.

Ізноў паводле Вашай волі вярнулася я думкамі ў той даўні, але ніколі не забыўны час.

Нешта я нядобра чуюся і не магу спаць… Ужо 3 ночы не спала. Значыцца, маю час думаць, успамінаць. Не, я не «думаю», я зачыняю вочы і хаджу, хаджу па тых сцежках, вуліцах, завулачках і ўсё бачу. Бо ў мяне памяць у зроку, таму я хіба не магу памыліцца.

На Вашыя пытанні адказваю ахвотна, хоць мо не так дакладна, як хацелася і як бы Вы жадалі.

Усё ж прайшло 59 гадоў!

1. Хто лячыў Максіма ў Менску? — Ён праз гэтыя 5 месяцаў ні разу не хадзіў да дохтара. Прывёз з сабой лякарствы і рэцэпты.

2. Хто першы забіў трывогу? — Уся тая блізкая да Максіма грамадка, што збіралася дзень у дзень на Захараўс[кай], 18 у «Беларускай хатцы» — сталоўцы Т[аварыст]ва помачы ахвяр[ам] вайны. І дзень у дзень Максім прыходзіў адразу з работы ў сталоўку, абедаў і найчасцей да позна заставаўся ў сталоўцы, нават калі ўсе ўжо паразыходзіліся. Мы там былі такія зжытыя, так цесна звязаныя, што шмат слоў не трэба было, каб паразумецца. Цяжка сказаць, хто першы ўстрывожыўся. Думкі ўва ўсіх былі аднолькавыя. Але з Максімам гаварыў Аркадзь Смоліч — найбліжэйшы і найсардэчнейшы сябра. Відаць, Максім казаў, што некалі яму Крым памог… Таму і цяпер на Крым была надзея…

Ніякага скіравання ён не меў. Ехаў лічачы толькі на сябе самога.

Напісаўшы ў сваіх успамінах: «сабралі грошы», я сама шкадавала, што так выразілася. Збіраць прыватна, напр[ыклад] на «падпісны ліст» гэта было б вельмі нетактычна ў адносінах да Максіма.

Грошы здабыў У. Фальскі або ў Тат’янінскім К[амітэ]це, які тады яшчэ даў апошнюю дапамогу на прытулак, або ў «Саюзе Гарадоў», адкуль час ад часу ўдавалася дастаць на К[амітэ]т Т[аварыст]ва пом[ачы] ахв[ярам] вайны.

Але і сам Максім без грошай не быў. Працаваў больш за 4 месяцы. Тады стаўкі былі прызваітыя, а Ён жа амаль нічога не купляў. Не помню, як разлічаўся ў сталоўцы за снеданні і вячэры, а за абеды плаціў, як і ўсе «камітэцкія», са зніжкай — усяго 10 р[у]б[лёў] у месяц. Нармальная цана была 15 р[у]б[лёў] у месяц. Еў тое, што і ўсе сталаўнікі. На ніякія дадатковыя або здаравейшыя для Яго стравы не згаджаўся. У сталоўцы кухарка была добрая (расейка), а Маці мая вельмі дбала пра якасць страваў. Былі нават

[1] На асобным лістку памерам у дзве пушкі запалак — рукапісная копія запіскі Максіма Багдановіча. Арыгінал захоўваецца ў калекцыі дакументаў Я. Ю. Раманоўскай (БДАМЛМ, ф.394, воп.1, спр. 5, л.1)

сталаўнікі па асобнай «дыеце». Нат бел[арускі] архітэктар Лявон Дубейкоўскі як вэгетарыянец даставаў толькі малочнае, з маслам і г. д. А нейкі чыгуначнік з цяжка хворым страўнікам атрымліваў абеды паводле рэцэпту доктара. Так што магчымасці былі і былі прапановы, але Максім не згаджаўся на ніякае «падкармліванне»: «Як усе!»

Нехта недзе напісаў, што «моладзь наладзіла развітальную вечарыну». Не, нічога такога не было. Мо якраз быў чародны «суботнік»? — а з гэтага зрабілі «развітальную вечарыну»? А развіталіся ў «Бел[арускай] хатцы»-сталоўцы. Як бачу, пасярод пакоя стаіць Максім… Прыйшлі: Смоліч, Галубок, Фальскі, Ядвігін Ш, жанчын 2 — мая Мама і я.

Ніякіх шумных прамоў, ціха… Ва ўсіх сціснула горла, ва ўсіх слёзы ў вачох. Мая Мама абняла Максіма, пацалавала ў галаву. Ён сказаў маме (гэта замест мяне беспасярэдна): «Хацеў бы сказаць шмат мілых слоў. Але панна Людвіка дрэнна чуе, а я не магу голасна гаварыць… Напішу».

Цягнік адыходзіў сярод дня. Гэта быў люты, дзень кароткі, а ў часе развітання ў пакоі было ясна, лямпа не гарэла. Адводзіў, безумоўна, А. Смоліч… можа яшчэ Фальскі або Галубок, можа Яны абодва? У кожным выпадку ніхто больш, хоць праектвалі пайсці грамадой. Але Максім не хацеў. Ніякай дэманстрацыі.

Ехаў зразумела у вагоне 2 кл[аса].

На дарогу прыгатавалі ежу. Бутэрброды, фрукты. Прыйшло мне ў галаву (гэта ўсё у бяссонную ноч!) што Вам, можа, цікава было б пазнаёміцца з асобай Смоліча, з яго біяграфіяй, лістамі… Маю і біяграфію, і спіс яго друкаваных прац (геаграфічных) і з 20-ць лістоў. Лісты вельмі цікавыя. Максім са Смолічам былі ў вялікай прыязні.

А. Смоліч са сваёй чуткай, добрай душой не мог не прывязацца да Максіма і наадварот.

У гонар Максіма Смоліч свайго сына назваў Максімам. На жаль, жонка Смоліча, забраўшыся з малымі дзецьмі ў Омск, не выгадавала іх на беларусаў. Гаварыла з дзецьмі па-расейску… Я гэтага ніяк не магу зразумець. Сама па-беларуску добра гаварыла, пісала, рвалася ў Беларусь. А калі была нейкі час у Сына ў Чэрэпаўцы, то нават да мяне — калі пісала адкрытку — па-расейску…

А вось сп. Ванда Лёсікава да апошняй мінуты свайго жыцця гаварыла са сваімі дзецьмі па-беларуску. Ці помніць што з мовы Маткі Сын і малодшая Дачка, не ведаю, але старшая Алеся вось і цяпер прыслала паштоўку з навагоднімі пажаданнямі — па-беларуску…

Толькі доўгі ліст то па-расейску — не мае адвагі. Як пісала: «баіцца вялікай колькасці памылак».

Прыслала мне ліст з малюнкам, які атрымала ад свайго Унука — гэта прапраўнука Ядвігіна.

Хлопчык маленькі — піша друкаванымі літарамі (па-расейску…) і называе бабку «Баба Алеся» — што мяне сапраўды ўзрушыла — бо Смолічыха ў сваёй сям'і перакінулася ў Шуру.

Думаючы аб Смолічы, Яго лістах і г. д. — пастанавіла запрапанаваць Вам прыехаць неяк да нас.

Недалёка — можна і на адзін дзень, а калі б час дазволіў, то і на пару. Затрымацца можна — калі цёпла — у нас (бо ў тым гасцінным пакоі пакуль што няма печкі) — а калі зімна, то ў маёй Дачкі. У Яе 3 пакоі і гасцям заўсёды рады. Падумайце і напішыце.

Прыйдзецца Вам набрацца цярплівасці чытаючы мой ліст — гэтак намазана. Апанаваў радыкуліт, моцна баліць.

*Усяго Вам найлепшага.*
*За пажаданні дзякуем.*
*Л. Войцік*

*Маі шлюць Вам прывітанні.*

*БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 191, арк. 1-2адв.*

**№ 2**

18.III.76 г.
Вільня.

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч.

Ніяк не магла сабрацца напісаць Вам. Але трэба нарэшце скончыць з гэтымі «бядулінымі» справамі. Сапраўды, трэба мець вялікі мастацкі талент і багатую фантазію, каб гэтакага навыдумваць! Звычайны смяротны аніяк бы гэтага не змог…

Уразіла мяне, што Вы лічыце, як бы ў стасунку да маёй с[ветлае] п[амяці] Маткі Бядуля «пакрывіў душой». А рэшта ўсё, па-Вашаму, праўда?

Мне і за Максіма крыўдна… Што ж гэта выходзіць? Максім — з яго цяжкай, у апошняй стадыі, «заразнай хваробай», згаджаўся жыць у адным пакоі са здаровым чалавекам? Згаджаўся… заразіць яго?

Кім жа Ён тады быў? Эгаістам, бяздумным, безадказным чалавекам? А ці ж гэта так? Падумайце!

Ды яшчэ і «плявацельніцу» паставіў…

А гэтыя страшныя прыступы кашлю…

Што ж яны якраз з'яўляліся ў прысутнасці Бядулі? А як жа на рабоце, на вуліцы, у сталоўцы і г. д.? І як у такім стане (пасля прыступаў) Ён мог хадзіць на работу? А хадзіў да апошняга дня, да выезду! Вось справа ў тым, што такіх прыступаў не было. Як я пісала ў сваіх успамінах, М[аксім] кашляў зусім мала, рэдка і ніколі не пляваў! У яго і не было чым пляваць… Усё гэта Б[ядуля] пісаў «для краснага слаўца». Каб паказаць сябе героем.

Вось Л. Заяц піша: «гаварыў мала, ціха…» Праўда. А ў Б[ядулі] Ён выступаў з рэфератамі, дэкламацыямі… Няпраўда. Ні з рэфератамі, ні з вершамі ні разу не выступаў.

Чаму ж я помню, як выступаў Ядвігін Ш., У. Галубок, як чытала (на памяць) творы Бацькі Ванда — чытала «Важная фіга», а Максіма бы не помніла? Паміж іншым, Бядуля ні разу на суботніках не быў, так, як ні разу не быў у «Беларускай хатцы»… Цікава, чаму гэта суботнікі былі «нелегальныя»? Т[аварыст]ва пом[ачы] ахв[ярам] вайны было легальнае, і ў яго памяшканнях збіраліся калі хацелі і хто хацеў… Грошы збіралі на скарбоначных зборах заўсёды з дазволу губернатара. Я сама па гэтыя дазволы хадзіла.

У канцы скуль узяўся Скірмунт? Пры чым тут Ён? Таварыст[вам] пом[ачы] ахв[ярам] вайны Скірмунт ніколі не цікавіўся і мы тады Яго і ў вочы не бачылі (палякі мелі сваё падобнае Т[аварыст]ва, шмат багацейшае і шмат актыўнае).

Толькі як стварыліся палітычныя арганізацыі пасля З'езду — «Цэнтральная рада Бел[арускіх] арг[анізацый]» — пасля Нацыянальны К[амітэ]т, тады час ад часу з'яўляўся Скірмунт… І трэба катэгарычна адзначыць, што ніякай матэрыяльнай сувязі з Ім ніколі не было… Наогул з'яўляўся рэдка і ў ніякія дыспуты не ўмешваўся. Прыходзіў так прыходзіў — і ўвагі не звярталі… Проста ніяк не разумею, як Б[ядулю] хапіла нагласці ўсё гэта выдумаць. Ды ўсе гэтыя «забавы» з Яго сёстрамі… Максім быў вясёлы… Проста «бред сумасш[едшего]». Для прыгожасці і сцэны з «паэтычнымі» бацькамі (Рэня-Геня — і сястру перахрысціў). У лістах да мяне ў 60 гадах Ванда Л[ёсік] і Алеся Смоліч увесь час пішуць Чэрня… А яны абедзве былі ў Менску даўжэй за мяне, і аб змене імені напэўна б ведалі… А[леся] Смол[іч] нават прыслала мне адрас Чэрні і сама да яе пісала… Шмат яшчэ можна высняць. Але хопіць. І так ці паверыце?

Мо заўтра вышлю яшчэ адзін ліст на Вашае імя, з планам кватэры Бядулі і некалькімі славамі да гр. Н. Ватацы. Калі ласка, аддайце Ёй. Добра было б і з гэтым лістом Яе пазнаёміць.

Усяго Вам найлепшага. Ці грыпа Вас мінула. У мяне нешта падобнае да грыпы — ўсё цягнецца.

Наогул — цяжка і в[ельмі] сумна. Пішыце.

*Л. Войцік*

*БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 191, арк. 4-4адв.*

*Ягор КОНЕЎ*

# АСНОЎНЫ ІНСТЫНКТ

Памятаю, як калісь сонечным верасnёўскім поўднем у час святкавання Дня беларускага пісьменства ў Шклове ля ратушы ўшаноўвалі прэміямі Саюза пісьменнікаў Беларусі руплівцаў мастацкага слова. Кніга Анатоля Казлова «Юргон» была ўганаравана прэміяй Першага літаратурнага конкурсу «Залаты Купідон». І памятаю, як тады мне раптам падумалася, што паводле твораў Анатоля Казлова можна было б здымаць цікавае эратычнае кіно.

Вядома, такое дапушчэнне падаецца амаль неверагодным. Зразумела ж, аднае эротыкі замала для таго, каб твор займеў літаратурную якасць. Значэнне мае, найперш, творчая задача, дзеля якой у творы прысутнічае апісанне інтымных момантаў. У раманах і аповесцях Анатоля Казлова эратычныя элементы натуральным чынам вынікаюць з філасофіі пісьменніка. Базуецца гэтая філасофія, як мне здаецца, на так званым АСНОЎНЫМ ІНСТЫНКЦЕ. Менавіта гэтая няспынная прага асалод многім падаецца адзіным сродкам пазбыцца тугі ад думак пра непазбежную смерць. А паколькі смерць дыхае ўсім у патыліцу, яе не пазбегнеш, то адлюстраванне рэчаіснасці ў творах такога кшталту патрабуе адпаведнага метаду. Хтосьці з пісьменнікаў робіць выбар на карысць своеасаблівага метаду AQUAVITA («жывая вада»), які, калі спрошчана тлумачыць, засяроджвае ўвагу на тым, што робіць наша быццё шчаслівым — каханне, вернасць, мужнасць, любоў і г. д. Хтосьці ж аддае перавагу метаду AQUANEKRA («мёртвая вада»), які часцей нагадвае пра трагічныя моманты быцця.

Творы Анатоля Казлова, як мне здаецца, блізкія па сваіх сюжэтах да метаду «мёртвай вады». Іхнія героі няспынна здзекуюцца адно з аднаго. Іхняе жыццё — падарожжа ад пакуты да пакуты. І надзеі на тое, што хоць калісьці сітуацыя зменіцца да лепшага — аніякай. Героі Казлова існуюць ва ўмовах прыцемак свядомасці. Яны акружаны духоўнай цемрай, якую спараджаюць уласнымі ўчынкамі, а наперадзе іх чакае суцэльны змрок. І гэта яшчэ не самая песімістычная частка творчасці пісьменніка.

Бяздушнасць — выключная рыса персанажаў рамана «Юргон». Мізэрнасць духоўных пачуццяў кампенсуецца ў іх сексуальнай неспатоленасцю. Галоўны герой — Юргон — жыве выключна дзеля інтымных уцех. Кожны яго крок перасследуе адзіную мэту: зацягнуць у ложак чарговую жанчыну.

Параўнаць Юргона з аналагічнымі персанажамі класічнай літаратуры — англійскім спакушальнікам Лаўласам або французскім юрліўцам Вальмонам — можна досыць умоўна. Апошнія ўсведамлялі пустэчу арыстакратычнага побыту і спрабавалі запоўніць яе распустай. Нікчэмнасць жа Юргона абумоўлена гарэлкай і півам, якія ён жлукціць пры кожнай нагодзе. Алкаголь не дадае розуму беларускаму распусніку. Затое спараджае змрочны позірк на рэчаіснасць. І высновы, да якіх прыходзіш у час чытання «Юргона», пацвярджаюць даўно адкрытую ісціну: калі б меней беларускія мужыкі спажывалі алкаголю, лепшым было б нашае жыццё! Прычым, не толькі інтымнае...

Юрлівасць, як вядома, належыць да смяротных грахоў. І кожны грэх мусіць быць пакараны. Вось і Юргон дачакаўся расплаты за свае выбрыкі. Кожны псіхіятр пацвердзіць, што сярэднестатыстычны мужчына па-сапраўднаму баіцца чатырох рэчаў — згвалтавання, кастрацыі, слепаты ды імпатэнцыі. Юргона праклялі ды сурочылі імпатэнцыяй. А дакладней — Духам бяссілля Вісуном, насланым маскоўскай вядзьмаркай Алімпіяй па просьбе Фрэні, былой каханкі Юргона.

Перажыванні Юргона не робяць героя ані мудрэйшым, ані чуллівейшым. Нейкі намёк на пакуты сумлення з'яўляецца ў яго, бадай, калі прыходзіць у храм, ставіць свечку перад абразам Дзевы Марыі. Простыя

і, разам з тым, слушныя думкі наведваюць гэтага клінічнага цыніка: «Чаму чалавек... прыходзіць у храм... часцей у хвіліны і дні роспачы, бяды і няшчасця? Калі ж вельмі прыціскае жыццё, калі надзеі не застаецца... Вось тады душа, заціснутая ў абалонку цела, і прыводзіць нас да Бога, адзінага, хто можа ўсё дараваць, зразумець і дапамагчы. А мы ж у першую чаргу павінны ўслаўляць трохадзінства Стваральніка, а не выпрошваць асабістых даброт... Не, усё ж чалавек у сваёй большасці з самага пачатку і па вялікім рахунку — эгаіст, эгаізмам прапітана кожная клетачка, пазногаць і волас...»

Зразумела ж, нябёсы не дапамогуць эгаісту. У жыцці эгаіста няма Бога, паколькі думкі эгаіста засяроджаны толькі на сабе. А дзе няма Бога, там пануе містыка і магія самага брутальнага гатунку.

Вось таму творы Анатоля Казлова насычаны містыкай. Містыка ў яго творчасці — не паралельная рэальнасць, а натуральная і даволі страшная частка нашага быцця. З часоў старадаўняга паганства нічога, па сутнасці, не змянілася ад таго, што «счахлі паціху дамавікі, пярэваратні, духі лясоў і лугоў». Паганская прага да ахвярапрынашэнняў і помсты нікуды з чалавечай свядомасці не знікла. Таму так лёгка перамясціліся злыя духі з навакольнай прыроды ў чалавечыя ўчынкі.

Магія, да якой звяртаюцца персанажы, нікому не дапамагае, адно псуе жыццё. Героі звяртаюцца да магіі, паколькі ніхто з іх нават не задумваецца наконт такіх простых ісцін, як каханне, дараванне, дабрыня, спагада. Героі «Юргона» — надзвычай імпульсіўныя. Як стрэльне ім крыўда ў галаву — тут жа імкнуцца нейкае паскудства ўвасобіць. Пра наступствы ж нават і не задумваюцца.

І паколькі жыве герой рамана без Бога ў душы, то і дапамога прыходзіць ад містычнай сілы. Невядома з якой нагоды Юргона пашкадаваў чараўнік Кірыла ды замовай прагнаў Духа бяссілля.

Якую ж выснову з усіх гэтых прыгод зрабіў Юргон?

«— Жыццё пачынаецца ноччу! — гучна выдыхнуў хлопец».

Такім чынам, гулі працягнуцца...

Не больш аптымістычным падаецца і наступны раман — «Мінск і воран, Парыж і здань». Яго персанажы таксама загразаюць у распусце. Княжыч Севалад гуляе вяселле з князёўнай Кацярынай, а госці за сталом узгадваюць, як яшчэ нядаўна малады распуснік цешыўся з дваровымі дзеўкамі. Адна з яго прыслужніц-палюбоўніц Марфа — атруціла нявесту, каб самой потым пабрацца шлюбам з Севаладам. Але ж здань Кацярыны перачакала стагоддзі, убралася ў прыгожае дзявочае цела, «быццам у нядаўна скроеную сукенку». І дзеля чаго? Каб помсціць далёкім нашчадкам Севалада і Марфы. Аднаго хлопца — Антона — прывабіла ды кінула. Другога — Віктара — наогул занесла ў Парыж канца XVIII стагоддзя і таксама знікла. Перарвала такім чынам нітку Севаладава рода. Самой Кацярыне, праўда, шчасця помста не прынесла. Да таго ж, мусіць яшчэ і хавацца ад Поўні ў чужых целах, каб зноў не ператварыцца ў здань.

Кацярыніна трансфармацыя выклікае пэўныя аналогіі са старажытнаегіпецкім Ка — субстанцыяй, у якую ператвараліся душы закатаваных будаўнікоў пірамід. Ка выконвалі своеасаблівую функцыю вартаўнікоў магіл фараонаў, палохалі ды нявечылі рабаўнікоў. Але Ка, паводле міфалогіі, быў здатны і на добрыя ўчынкі, мог дараваць і прыўзняцца над сваёй крыўдай. І так здабываў шанец на пераараджэнне. Героі ж Анатоля Казлова застаюцца замкнёнымі ў вязніцы сваёй злосці. Гэтак жа і Кацярына лічыць сябе жывой, але насамрэч засталася прывідам, бо ейнае існаванне — суцэльны змрок без іскрынкі міласэрнасці, любові, чалавечнасці...

Хапае з лішкам зданяў, злачынстваў, замоў ды заклёнаў і ў іншых творах Анатоля Казлова, змешчаных у гэтай кнізе, — у аповесцях «Я і Прарок-Уродка», «Раздарожаны саракоўнік», а таксама ў апавяданнях «Верасава вечнасць», «Крывавы прысмак» і «Ейны боль».

Так, ёсць забыццё, ёсць духоўная смерць, нават горшая за фізічную. Але ж ёсць і адраджэнне, і аднаўленне, і ўваскрасенне. І старажытная міфалогія, на элементах якой базуецца творчасць Анатоля Казлова, дакладна сцвярджае: каб ажывіць героя, які заснуў смяротным сном, трэба змачыць яго рану спачатку «мёртвай вадой», і толькі потым — «жывой». А паколькі наша грамадства цяпер перажывае духоўнае аднаўленне, то і ў мастацтве, зразумела ж, не абысціся без метадаў «жывой» і «мёртвай» вады. Значыць, містычная проза Анатоля Казлова, заглыбленая ў прыцемках свядомасці, будзе і далей прыцягваць увагу чытачоў, паколькі заўсёды вабіць страшнае і невядомае. Нам жа, чытачам, варта не забывацца, што самы страшны змрок — перад світаннем.

Святлана ДЗЯНІСАВА

# З ГІСТОРЫІ АДНОЙ ХВАРОБЫ…

***Пісьменнік Кафка, кампазітар Шапэн, філосаф Вальтэр, мастак Гаген, скульптар Мадзільяні, яшчэ некалькі соцень гучных прозвішчаў. Пісьменніца Шарлота Брантэ, аўтарка знакамітай меладрамы «Джэн Эйр» таксама. І Чэхаў, і наш Багдановіч… Творцы, якія хварэлі на сухоты. Хвароба, якая абірала сваімі ахвярамі творцаў. Лічылася нават, што сухоты — гэта для самых адораных. З такімі думкамі хварэць было, напэўна, трошкі лягчэй. Але…***

Але няхай успомніцца савецкі час. Сухоты тады пачалі асацыіравацца з людзьмі, так бы мовіць, іншага кшталту — турэмшчыкамі і беспрытульнымі асобамі асацыяльных паводзін. Доўгі час лічылася, што сухоты проста выбіраюць сваімі ахвярамі людзей малазабяспечаных, а ўжо род заняткаў тут вялікай ролі не іграе. Што ж сёння? Хвароба зноўку робіць круты віраж.

## БАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

Чаму хвароба мяняе аблічча? Што агульнага паміж багатымі і беднымі, творцамі і рамеснікамі, кіраўнікамі і выканаўцамі?

Вось спіс схільнасцей і абставін, якія сухотам дапамагаюць. Стрэс, ледзь не штодзённы, хранічны. Няма вялікай розніцы, набываецца ён у спрэчках за бутэльку спіртнога напою ці за выгоднага кліента. Злоўжыванне алкаголем. Зноў жа няма розніцы, у рэстаране ці на прыступках пад'езда гэтае злоўжыванне адбываецца. Кліматычныя ўздзеянні. А тут або грошай няма на зімовыя боты, або пасада вымушае сярод зімы ляцець раптоўна ў Егіпет. Недастатковае харчаванне. Маецца на ўвазе, што і ў дарагіх паўфабрыкатах карысных рэчываў часам не хапае. Вам не здаецца, што межы паміж людзьмі сёння размыты, як ніколі да гэтага? А хвароба не глядзіць ні ў пашпарт, ні ў працоўную кніжку, ні ў кашалёк, бо на самай справе галоўны матыў для яе ўзнікнення — аслаблены імунітэт.

Хвароба пад назвай сухоты выклікаецца, як многім вядома, бацылай Коха або палачкай Коха. Мікрабіёлаг з Нямеччыны Роберт Кох дакладна апісаў выгляд гэтай вокам нябачнай істоты 24 сакавіка 1882 года. Хутка «круглая» дата. У 1905-м Кох атрымаў за гэта Нобелеўскую прэмію, ды толькі няхай выбачаюць і ён, і Нобелеўскі камітэт, але прэмія за адкрыццё мікроба — гэта не тое самае, што прэмія за выратаванне ад яго!

## ХІМЕРА. ВІКІПЕДЫЯ

Бацыла Коха мае яшчэ адну назву — мікабактэрыя. Гэта азначае наяўнасць у яе прыкмет бактэрыі і мікраскапічнага грыбка адначасова. Вось вам і адказ на пытанне, чаму сухоты такія неўміручыя: хімерападобныя пачвары заўсёды ўстойлівыя, тут нават і да статыстыка не хадзі. Але ж будзем паслядоўнымі.

— *Магу прывесці апошнія дадзеныя Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Фантастыкай гэта толькі здаецца, на самай справе — сумная рэчаіснасць: у свеце кожную хвіліну адзін чалавек падхоплівае мікабактэрыю Коха, кожныя чатыры хвіліны адзін чалавек робіцца хворым на сухоты, а кожныя дзесяць хвілін адзін чалавек ад сухотаў памірае. Калі казаць інакш, то штогод на Зямлі з'яўляецца восем ці дзевяць мільёнаў новых хворых і два або тры мільёны памірае.*



Намеснік галоўнага ўрача па медыцынскай частцы 10-й паліклінікі Мінска кандыдат медыцынскіх навук Вольга Маршалка канстатуе, што хвароба пад назвай сухоты — вялікая праблема ўсяго чалавецтва. Недарэмна Сусветная арганізацыя аховы здароўя агучыла такі дэвіз: «У барацьбе з сухотамі — а ніякага перамір'я!»

## КЛОПАТ ДЗЯРЖАЎНЫ, СПРАВА АСАБІСТАЯ

Спынімся на роднай Беларусі. Становішча з сухотамі ўзята пад кантроль урада Рэспублікі Беларусь і Міністэрства аховы здароўя нашай краіны. Распрацавана і зацверджана Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь Дзяржаўная праграма «Туберкулёз» на 2010—2014 гады.

— *У прыватнасці, гэтай праграмай прадугледжана закупка высокаэфектыўнага сучаснага абсталявання для паскоранай бактэрыялагічнай дыягностыкі і вызначэння лекавай устойлівасці ўзбуджальніка хваробы. Яна дае магчымасць забяспечыць патрэбы рэспублікі ў адпаведных леках, у тым ліку і для лячэння мульцірэзістэнтных форм хваробы, і не толькі дасягнуць стабілізацыі сітуацыі па гэтай хваробе, але і выйсці на зніжэнне паказчыкаў захворвання прыкладна на 2 % за год,* — гаворыць Вольга Маршалка.

Мульцірэзістэнтныя формы хваробы — гэта калі ўзбуджальнік да такой ступені ўстойлівы, што не «бяруць» яго звычайныя лекі і трэба вышукваць нейкія камбінацыі. Звычайна гэта азначае больш доўгі перыяд падбору схемы лячэння і самога лячэння. Пра зніжэнне паказчыкаў можна казаць, што гэта задача вырашальная: калі верыць урачам, лічбы захворвання і смяротнасці не маюць прыросту. Значыць, папярэдняя праграма сябе апраўдала.

— *Прафілактыка ў нас пастаўлена добра, на дзяржаўным узроўні. Кожны год чалавек павінен прайсці абследаванне ў флюараграфічным кабінеце — гэта нават не абмяркоўваецца. Кожнае дзіця атрымлівае прышчэпкі — гэта таксама абавязковае мерапрыемства. Ухіленне тут можа быць толькі часовым — па прычыне нейкай хваробы, якая праходзіць,* — адзначае Вольга Маршалка. — *Часам мамы няправільна разумеюць неабходнасць прышчэпкі: маўляў, слабенькаму дзіцяці гэта нашкодзіць. На самай справе якраз слабенькае дзіцятка і рызыкуе больш за іншых, і прышчэпкі яму трэба зрабіць у адпаведнасці з зацверджаным у краіне календаром, як мага менш ад яго адхіляючыся.*

І штогод, як вы ведаеце, кожнае дзіця павінна праходзіць праз пробу Манту — для кантролю сітуацыі. Тут, я ўпэўнена, мала ў каго не ўзнікне пытанне: чаму прышчэпкі мы робім, а хвароба не знікае? Вакцыны, якая б ахоўвала арганізм ад гэтай пачвары, напаўгрыбка-напаўбактэрыі, як кажуць, «на ўсе сто», пакуль не існуе. А падхапіць бацылу Коха лёгка — яна распаўсюджваецца самым звычайным шляхам — паветрана-кропельным ці праз прадметы побытавага ўжытку.

— *Чаго не хапае для больш дзейснай прафілактыкі?* — задае пытанне і сама на яго адказвае Вольга Маршалка, — *свядомасці чалавечай. Бо трэба не толькі раз на год наведваць флюараграфічны кабінет, а яшчэ і сачыць за самаадчуваннем, і калі што якое, то звяртацца да ўрача, а не чакаць. Часцей за ўсё хворыя на сухоты выяўляюцца пры прымусовым прафаглядзе, падчас флюараграфіі. Бывае, што гэта ўжо далёка не першая ступень хваробы.*

## АСАБЛІВЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Аналіз крыві гэтай хваробы можа не выявіць. Ды і нейкіх асаблівых прыкмет яе наступлення няма. Да пары, як кажуць, да часу.

— *Першыя стадыі сухотаў праходзяць амаль нябачна. Чалавек можа адчуваць агульнае недамаганне, слабасць, пацение, паніжэнне апетыту, часам — невялікае павышэнне тэмпературы, асабліва пад вечар. Такія сімптомы нельга аднесці да нейкай канкрэтнай хваробы, яны агульныя,* — гаворыць наш урач. — *Але ж мена-*

*віта яны павінны навесці чалавека на думку, што нешта ў арганізме ўсё ж не так, нешта дакладна адбываецца, нейкі запаленчы працэс ідзе. І калі два тыдні запар гэтыя сімптомы трымаюцца, то трэба ісці да ўрача, абследавацца. Бо калі з'явяцца тыповыя прыкметы: кашаль і кровахарканне, то ўжо канкрэтна будзе вядома, што гэта туберкулёз, але пачынаць лячэнне на такім этапе пазнавата: замест шасці-васьмі месяцаў прыйдзецца лячыцца ледзь не два гады, ды і ўскладненняў розных пазбегнуць наўрад ці ўдасца.*

Аналіз крыві, паўтаруся, сухотаў можа і не выявіць. Палачка Коха ўвогуле можа не выяўляцца бактэрыялагічнымі даследаваннямі, і гэта яшчэ адна яе асаблівая прыкмета. Таму сухоты могуць быць БК-станоўчымі і БК-адмоўнымі — у першым выпадку хворы ўяўляе сабой небяспеку для іншых людзей, у другім — не. Другі варыянт хоць і ўскладняе дыягностыку, але з'яўляецца добрым знакам для родных і блізкіх — яны не так рызыкуюць. Але і БК-адмоўнасць можа быць часовай з'явай, калі працэс пусціць «на самацёк».

— *Адзінае, што можа даць інфармацыю пра хваробу на першай яе стадыі — гэта тая самая флюараграфія, якой многія цураюцца. Чаму часцей за ўсё сухоты выяўляюцца менавіта на прафаглядзе? Бо чалавека яшчэ нічога не турбуе, а ачаг запалення ўжо відаць. Дарэчы, сухоты і пачынаюцца са звычайнага запалення. Першапачаткова, перад тым як паставіць дыягназ «сухоты», урач праводзіць агульную супрацьзапаленчую тэрапію.*

Пачварная сухотная мікабактэрыя мае таўшчэзную абалонку з воску, растварыць якую здольны хіба толькі спіртавы экстракт лічынак воскавай молі — ёсць такія навуковыя дадзеныя. Тады яна можа зрабіцца такой слабай, што не спатрэбяцца і антыбіётыкі — дастаткова будзе ўласнага імунітэта арганізма. Але пакуль лячыць сухоты давядзіцца менавіта антыбіётыкамі.

— *У залежнасці ад ступені і формы хваробы пацыент нейкі час знаходзіцца ў стацыянары. Канечне ж, паўгода чалавек ва ўмовах стацыянара не бавіць: як толькі ўрач вызначаецца са схемай лячэння і яна выводзіць на папраўку, пацыент ідзе дадому і атрымлівае лячэнне амбулаторна,* — гаворыць Вольга Маршалка. — *Да таго ж на тэрыторыі Беларусі ёсць спецыяльныя шпіталі для пацыентаў з хранічнымі формамі з лекавай устойлівасцю ўзбуджальніка — для часовай ізаляцыі і доўгатэрміновага лячэння.*

Як родным хворага пазбегчы такога самага дыягназу? Яны таксама трапляюць пад апякунства ўрачоў — дзецям робяцца пробы Манту, дарослым — рэнтгеналагічнае абследаванне, пасля чаго вызначаецца, якія дакладна тэрапеўтычныя мерапрыемствы спатрэбяцца і ці спатрэбяцца ўвогуле.

## ХВАРОБУ — У АНАМНЕЗ, ЖЫЦЦЁ — НАПЕРАД!

Ёсць два лацінскія выразы, якімі карыстаюцца ўрачы, апісваючы абставіны жыцця пацыента або яго захворвання. «Анамнез вітэ» — гісторыя жыцця, «анамнез морбі» — дасье на хваробу. Дыягназ «сухоты» мае шанцы, прайшоўшы праз «анамнез морбі», патрапіць у «анамнез вітэ». Раней, у час Багдановіча, гэта было малаверагодным фактам, цяпер жа — звычайная справа. Працягласць лячэння залежыць ад «індывідуальных асаблівасцей арганізма», стадыі хваробы і яе формы. Выключна ў парадку агульнага азнаямлення можна прывесці тут інфармацыю пра тое, што палачка Коха шкодзіць не абавязкова лёгкім, яна можа закрануць іншыя тканкі і органы — вочы, скуру, косную або мочапалавую сістэму. Усё ж такі яна не такая моцная, калі імкнецца знайсці ў арганізме самае слабое месца. Працягваючы ўрок лаціны, хочацца прывесці яшчэ адзін выраз — «локус мінорыс», якраз тое самае «слабое месца». У кожным арганізме заўсёды ёсць свой «локус мінорыс». Пажадаць чытачам, каб яго ў іх не было, — значыць, не ўважыць Стваральніцу-Прыроду, якой гэтыя «локус мінорыс» для нечага ўсё ж патрэбны. Лепш прыгадаць статыстыку: кожную хвіліну ў свеце адзін чалавек падхоплівае мікабактэрыю Коха, кожныя чатыры хвіліны адзін чалавек робіцца хворым на сухоты, а кожныя дзесяць хвілін адзін чалавек ад сухотаў памірае... Беражыце сябе і родных!

Ірына ЛЮБЯНСКАЯ

# Сумесны праект часопіса «Маладосць» і газеты МУС Беларусі «На страже»

***Мы ўсе да чагосьці імкнёмся. Кожны хоча пражыць шчаслівае жыццё, сустрэць сваё каханне, стварыць сям'ю. А ці многім удаецца дасягнуць жадаемага? У чым сэнс жыцця? Пытанні гэтыя існуюць даўно. Хацелася б ведаць, у якой краіне нам давядзецца жыць праз пяць або дзесяць гадоў? У якім свеце будуць жыць нашыя дзеці? Мы не ведаем, магчыма, і не здольны ўявіць сваю будучыню, таму што заўсёды кудысьці спяшаемся, але куды? Можа, кожнаму з нас трэба хоць на імгненне спыніцца і ўсё-ткі задумацца: хто ж мы?***

— Мы біялагічныя істоты — з гэтым спрачацца нельга, — зазначае настаяцель царквы Іконы Божай Маці «Усіх тужлівых радасць» айцец Аляксандр. — Хіба можна адпрэчыць, што ў нас ёсць цела і што мы здзяйсняем свае біялагічныя патрэбы. Параўнанне з жывёльным светам немагчыма — гэта даказана, дастаткова пачытаць вялікіх даследчыкаў-біёлагаў. Але з біялагічнага пункта гледжання чалавек можа пасці яшчэ ніжэй, чым жывёла. Чаму? У жывёлы ёсць інстынкты, закладзеныя прыродай, якія выяўляюцца ў пэўныя моманты яе дзейнасці. Ёсць нейкія рамкі. А ў чалавека — свабодная воля, дадзеная Богам: ён можа жыць адпаведна біялагічным патрэбам, можа аддаць перавагу нечаму большаму, а можа ўвогуле дайсці да невытлумачальнага стану. Што чалавек выбраў, тое і атрымлівае.

**— Як вы патлумачыце выказванне Шэкспіра: «Госпадзі, мы ведаем, хто мы ёсць, але не ведаем, кім можам быць…»?**

— Гэтыя словы можна тлумачыць па-рознаму. Кім можам быць? Мы можам быць нашмат лепей, духоўна багацей, глыбей. І нават пад пагрозай смерці людзі дзейнічаюць па-рознаму. Ведаем, што ад голаду адны пачыналі есці адно аднаго, а іншыя, нават паміраючы, не маглі сабе дазволіць нешта скрасці. Асоба фарміруе грамадства і тое, што яно прымае за каштоўнасць. Дзіця абавязкова ўбярэ атрыманае ў сям'і.

Ёсць людзі прыстойныя і непрыстойныя. А ёсць — святыя, як Кірыла Тураўскі, Еўфрасіння Полацкая, Серафім Cароўскі, Сергій Раданежскі і інш.

**— Запомнілася ілюстрацыя са школьнага падручніка, дзе чалавек паказаны малпай, якая паступова разгінаецца…**

— Я таксама яе помню. У савецкі час быў адзін пункт гледжання, па якім выхоўвалі, нават калі ён не адпавядаў ісціне. Але, вывучыўшы «дарвінізм» у яго першапачатковым выглядзе, мы разумеем эвалюцыю чалавека, і царква гэтага не аспрэчвае. Выкладанне ж у савецкім духу было скіравана на тое, каб адпрэчыць біблейскае разуменне нашага паходжання.

Ведаем, што, прыкладам, пяць тысяч гадоў таму чалавек быў крыху іншым. Але чалавекам! Пытанне яшчэ і ў тым, што гэта тэорыя, а не ісціна. Доказаў няма! Тое ж датычыць Фрэйда і іншых вучоных. Самае жахлівае, што людзі, начытаўшыся тэорый, прыходзяць да пэўных высноў. Сэнс у тым, што ёсць іншыя меркаванні, якія тлумачаць нашы паводзіны. Фрэйд жа адпрэчыў паходжанне ад Бога і тое, што Бог хоча выратавання чалавека і дапамагае яму. У Святым Пісанні гаворыцца: «Царства Божае ўнутры вас ёсць». Чалавек павінен развівацца, удасканальвацца, бо выратаваць нас без нас саміх немагчыма.

Спыніўся — значыць пачынаеш падаць, дэградаваць.

Што мы бачым сёння? Брыдкаслоўе набыло форму эпідэміі, прычым не толькі ў мужчын, але і ў жанчын, дзяцей. Тут, канечне, складана казаць пра духоўнасць. Што грамадства прымае за каштоўнасць, такі і будзе вынік. Падманныя пачуцці, якія выклікаюць серыялы… Жанчына можа заліваццa слязьмі, гледзячы на экран тэлевізара, і пры тым адмахнуцца ад дзіцяці, якое знаходзіцца побач.

А што сёння адбываецца з сям'ёй? Яе як такой няма. Яна развальваецца. Пажылі, не сышліся характарамі — разбегліся…

**— Вы верыце, што ў сучасным грамадстве могуць перастаць красці?**

— Я памятаю тыя часы, калі ў вёсках хаты не замыкалі. Людзі не кралі, таму што былі так выхаваны. Сучаснае грамадства нарадзілася ў бязбожжы, таму і каштоўнасці іншыя. Ёсць жаданне атрымаць болей, нічога не робячы. Ці, як апісана ў адным з часопісаў: працуем для таго, каб паболей грошай сабраць, а потым паехаць адпачыць і там — «адарвацца»! То бок, сама каштоўнасць працыператварылася ў мэту чыніць грэх. Праца — не як памочнік развіцця, а як падзенне. Некаторыя і не жадаюць працаваць, а атрымаць усё задарма…

Але ўсё можна змяніць, павярнуўшыся тварам да Бога, да абсалютнай любові, да праўды… Вось тады і ёсць сэнс жыць, нараджаць дзяцей, будаваць дамы, вырошчваць сады… У часовых, малых справах нараджаюцца вялікія. Трэба запасціся цярпеннем, паспрабаваць змяніць самога сябе, тады зменіцца і грамадства. Магчыма, патрэбны цэлыя пакаленні, каб гэтыя змены адбыліся і нешта аднавілася. Выхаванне — працэс працяглы. Цярпення ўсім, веры, надзеі і любові.

***Пераклаў Віктар КАВАЛЁЎ***

# ПУШКІНСКІ ЛІЦЭЙ, УПЯЧКА І ІНШЫЯ ДЗІВЫ ПЯРНАТЫЯ

*Пра студэнцкую газету «Перья: журфак литературный» расказвае куратар выдання, дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, загадчык творчай лабараторыі «Крытык»* ***Уладзімір Капцаў.***

— Здаецца, што ўсё пачалося толькі ўчора... Больш як 7 гадоў таму да мяне звярнуліся студэнткі другога курса Юля Папова, Маргарыта Аляшкевіч і Ірына Бажко з прапановай выпускаць на журфаку літаратурную газету.

На журфаку здаўна існавала традыцыя выдання студэнцкай творчасці. Шмат дзесяцігоддзяў прафесар, кіназнаўца Е. Л. Бондарава кіравала студэнцкай лабараторыяй «Крытык» і, як вынік, выдавала кожны год альманах «Аўтограф».

Так склалася, што менавіта мы з Наталляй Кузьміч узначалілі лабараторыю пасля Е. Л. Бондаравай, збіралі і рэдагавалі апошні 21-ы «Аўтограф». Падчас гэтай працы мы зразумелі, што пры ўсёй павазе да альманаха неабходна ісці далей і мяняць фармат выдання, якое заўсёды існавала ў адным экзэмпляры і выходзіла раз на год.

Так пры творчай (і самай маладой на факультэце) кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі з’явілася першае на журфаку друкаванае выданне «Перья» (паміж сваімі «Пёркі»), якое выходзіла прыблізна раз на 1,5—2 месяцы. Але для нас адметна, што выданне гэта было літаратурным.

Як нам здавалася, мы падышлі да справы сур’ёзна і прынцыпова: вызначалі канцэпцыю, прыдумвалі рубрыкі, працавалі над дызайнам і лагатыпам, «запускалі» электронны варыянт на сайце журфака, чаго, па сутнасці, да нас ніхто не рабіў. Адзначым, што рубрыкі атрымаліся сапраўды «пёркавымі»: «Перьепад», «вПЕРЬте взглЯд», «Пернатый глобус», «На кончике пера», «Чудо в перьях», «Орлы на журфаке».

Амаль адразу прыйшлі да думкі, што на журфаку не так шмат сапраўдных літаратурных талентаў, але ёсць студэнты, здольныя пісаць крытыку, рэцэнзіі на літаратурныя навінкі, тэатральныя і кінапрэм'еры. Так канчаткова вызначыўся фармат літаратурна-крытычнага выдання, які існуе і па сёння. Адной з галоўных і найбольш цікавых стала рубрыка «Майстар пяра». Яна спалучала творчыя і прафесіянальныя здольнасці будучых журналістаў. Менавіта ў гэтай рубрыцы на працягу першых гадоў існавання газеты былі прадстаўлены эксклюзіўныя інтэрв’ю з асобамі беларускага літаратурнага «бамонду», іх развагі пра таямніцы творчасці і сучасны стан беларускай літаратуры.

Але галоўнае — атмасфера першых гадоў выдання. Мы шукалі таленты, і таленты самі прыходзілі да нас. Паэтычныя творы Глеба Лабадзенкі і Яраславы Ананка, проза Паліны Паварыч і Антона Кашлікава, крытыка Алены Сасноўскай, Ірыны Шпакоўскай, Аляксандра Дутлава. Шматаблічная і крэатыўная Маргарыта Аляшкевіч. Творчыя вечарыны, якія мы рабілі пад прэзентацыі новага нумара, «Каляды на журфаку», калі да нас прыходзілі вядомыя беларускія літаратары, конкурсы маладзёжных выданняў, школы студэнцкай журналістыкі і шэсць гадоў запар удзел у выстаўцы «СМІ ў Беларусі». Застаецца дадаць, што «Пёркі» двойчы бралі ўдзел у конкурсах малатыражных студэнцкіх выданняў і без узнагарод не заставаліся (другая прэмія і прыз чытацкіх сімпатый).

Каб нікога не пакрыўдзіць і не забыць, скажу так: першае пакаленне «Пер’яў» чымсьці нагадвае першы выпуск пушкінска-

га ліцэя. Да нас не прыходзілі неталенавітыя, кожны з тых, хто пачынаў у нашым выданні, потым знайшоў сябе ў нейкай творчай галіне ці адразу ў некалькіх: у літаратурнай творчасці, крытыцы ці прафесійнай дзейнасці журналіста. Хочацца спадзявацца, што і мы гэтаму паспрыялі.

Існаванне газеты немагчыма без творчай і працавітай рэдакцыі. Таму далей — своеасаблівая «дошка гонару»:

***Першае пакаленне*** (ці хваля): Маргарыта Аляшкевіч (гал. рэдактар), Алена Сасноўская, Юлія Папова, Ірына Бажко, Валянціна Кляніцкая.

***Другое пакаленне***: Марыя Дуброўская (гал. рэдактар), Аляксей Аляксандраў, Алена Сіняковіч, Марыя Друк.

***Трэцяе пакаленне***: Надзея Валькоўская (гал. рэдактар), Алена Шандрак, Вераніка Молакава.

Мы прапануем агляд таго, што рабілася ў студэнцкім выданні «Перья: журфак литературный» на працягу 7 год. А каб было цікавей, прадставім яго як пяць асноўных намінацый.

## ПЯЦЬ НАМІНАЦЫЙ ГАЗЕТЫ «ПЁРКІ»

***Паэзія.*** З паэтычных твораў усё пачыналася. Але гэта, бадай, самая спрэчная намінацыя. На пытанне, што такое паэзія, нельга адказаць адназначна. Да таго ж паэты — асобы штучныя. Многія здольны рыфмаваць, але толькі адзінкі нараджаюцца паэтамі. Так, паэтам трэба менавіта нарадзіцца. Гэта дар, асабістае светаадчуванне, здольнасць убачыць звыклыя з’явы і прадметы ўнутраным зрокам, а потым знайсці ці адчуць адпаведныя словы і вобразы.

Прыемна, што ў кожным пакаленні былі свае «паэтычныя» асобы. Для першага — гэта  Ярослава Ананка, Яўгенія Манцэвіч, Маргарыта Аляшкевіч, Наталля Правалінская, для другога — Марыя Дуброўская, Вольга Чайкоўская, Марыя Друк і Алена Мальчэўская, трэцяе пакаленне — Надзея Валькоўская, Ірына Карэліна, Таццяна Сарока.

Мы спрыялі раскрыццю паэтычнага таленту Кацярыны Юркевіч і Яраславы Ананка (Кацярына: «Мы совсем забыли о нашем / Бессознательном добром прошлом, / Когда мы зеленой гуашью/ Рисовали спящую лошадь…»; Яраслава: «Мае хатнія духі: / іх маці — твая цыгарэта. / Мае хатнія мёртвыя душы: / іх бацька — вішнёвы тытунь. / Я часова Джульета Феліні. / І часова Шэкспіра Джульета. / Назаўжды я Джульета з балкона, / Дзе вішні з акуркаў растуць», — абедзве потым з’ехалі ў маскоўскі Літаратурны інстытут). Мы назвалі адкрыццём года Наталлю Правалінскую: «Колеру хвоі вочы. / Іскры. Іконы. Іглы. / Палацы. Баракі. Корчмы. / Хрэсьбіны і магілы». Цікава, што і яна, і Вольга Чайкоўская (цяпер у газеце «Звязда»), і Марыя Друк (у газеце «Рэспубліка»), і Алена Мальчэўская (газета «ЛіМ»), і Марыя Дуброўская (радыё «Культура») знайшлі сябе ў прафесіі. Паэзія засталась для іх чымсьці камерным, прыхаваным бокам іх творчай асобы.

***Проза.*** Не самы ўдалы фармат для газетнага выдання, таму мы аддавалі перавагу малым формам ці друкавалі фрагмент твора, які цалкам можна было прачытаць на сайце журфака. Больш за гэта, у нашым выданні з’явіўся цікавы празаічны праект «Опусы в тело» Паліны Паварыч. Я лічу, што ў кніжным фармаце твор Паліны не згубіўся б сярод «опусаў» сучаснай літаратуры: «Однажды в общажном лифте Митю, тонувшего в людском потоке, прибило к Блондинке. Митя и Блондинка вцепились друг в друга и так не утонули. Так к Мите пришла любоф»; «Встретились в метро. Слева — воплощение постмодернизма. Волосы всех цветов. Джинсы антиформ. Пирсинг разбросан по телу творческим беспорядком… Справа — утонченность в твидовом пальто. Ювелирный маникюр. Платиновые локоны. Босоножки Маноло Бланик. Метро, метро. Метро…»

Цікавай для чытача выглядала жудасная «Vecherinka» Антона Кашлікава, які пазней выдасць раман «Лузер» і пераўвасобіцца ў свецкага хранікёра — гл. праект «Міца Тарпішчаў» часопіса «34-mag». Гульня ў словы. Гульня ў жыццё — творцы здольны і не на такія пераўтварэнні.

Чымсьці пазітыўным вабяць да сабе казкі Сяргея Борсука («Лямпа Аладына»). Сяргей

наогул «светлы» чалавек, альтруіст. Не так даўно ён стаў рэдактарам прыватнага часопіса малой прозы «Ёмка», робіць конкурсы і літаратурныя праекты (інтэрв'ю з ім называецца «О короткой… прозе, бутылках и мурашках»).

***Крытыка.*** На мой погляд, самая цікавая намінацыя. Найперш з-за сваёй эксклюзіўнасці. «Пёркі» сапраўды спрыялі стварэнню творчай атмасферы і дапамагалі «набіць» руку тым, хто бачыў сабе ў крытыцы, імкнуўся пісаць рэцэнзіі, агляды, невялічкія эсе пра розныя віды мастацтва. Даволі хутка ў газеце пачынае дамінiраваць крытыка. Выданне нагадвае творчыя «штудыі»: уразіла цябе новая кніга, тэатральная прэм'ера ці кіно, хочаш напісаць пра любімага пісьменніка — прыходзь да нас. Цяпер вельмі цікава перачытваць нумары «Пёркаў» і пазнаваць аўтараў па стылі: іранічная і канцэптуальная Алена Сасноўская («Арт-журналистика во всей красе», «Четыре лица красоты», «Моя прекрасная еврейская мама», «Інтэртэкстуальнасць») і яна ж — бязлітасная «атрамантавая душа» (рубрыка «Чернильница»), рэцэнзент Хрыстафор Мортус «Ніякай літасці», «Тонкі водар распусты», «Канфіскат», «Проста ды з густам» — дарэчы, цяпер Алена, ужо з прозвішчам Каваленка, шчыруе ў часопісе «Мастацтва»; разважлівая «казачніца» і прыхільніца «фэнтэзі» Ірына Шпакоўская («Винодел из Иллинойса», «Финская сказочница, которая писала по-шведски», «Все лучшее — детям?», «Гарри Поттера и всех-всех-всех»), тэатралка Ганна Сауткіна («Я верю в гороскопы», «Снежная "Чернушка"?», «Любовь, приключения, Париж…»), якая лічыла тэатральную крытыку і журналістыку сваім прызваннем; мегапраект нашага выдання — Саша Дутлаў («Фон Триер, принц датский», «Трудности перевода», «There's something about Chuk», «Абсолютный Must Have», «Детки-конфетки», «Кысь или Не Кысь? Вот в чем вопрос…», «Ген Икс»), які даказваў мне, што фраза «пустопорожность переливания» — гэта не стылістычная недарэчнасць, а, наадварот, прыкмета аўтарскага стылю. Цяпер, перачытваючы ягоную рэцэнзію на раман «Кысь», я нейкім чынам шкадую аб сваёй прынцыповасці. Потым «завіталі» Аляксей Аляксандраў, які адкрыў для нас музычную крытыку (менавіта ён стане куратарам першага студэнцкага фестывалю «БрамаМар»), і эпатажны Зміцер Кісялёў («Портрет на фоне», «Старикам здесь не место»). Вымалёўваецца і агульны вобраз крытыка нашага выдання: зацікаўленасць мастацтвам, «інтэртэкстуальная» эрудыцыя, разуменне сучаснага стану культуры, творчы эгацэнтрызм (у разумных межах), добры густ, выдатнае пачуццё гумару. І галоўнае — жаданне пісаць, асалода ад тэксту, зацікаўленасць самім працэсам творчасці.

***Журналістыка.*** Таксама наш эксклюзіў. У рубрыцы «Майстар пяра» нашы студэнты адшліфоўвалі сваё майстэрства журналістаў. У 20 нумарах газеты «Перья» цэнтральны разварот — гэта інтэрв'ю са знакамітым беларускім пісьменнікам ці крытыкам. Студэнты рабілі яго выключна для нашага выдання, прыдумвалі пытанні, знаёміліся з творчасцю аўтара, знаходзілі канцэпты-вобразы, вакол якіх будавалася размова (напрыклад, «цмок» і «лабірынт» у гутарцы з Пятром Васючэнкам).

Другім напрамкам журналісцкай дзейнасці ў выданні быў інфармацыйны агляд найбольш адметных культурных падзей: кінафестываль «Лістапад» («Отфестивалили»), міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш («Дашкова детективов не пишет?»), сустрэчы з пісьменнікамі на факультэце, дзейнасць літаратурных гурткоў («Літаратурнае прадмесце», «Хаўтуры па Бум-Бам-Ліце», «Тэксты — 3м. Вішнёў рэкамендуе»), імпрэзы і вечарыны на самім журфаку («Такого на журфаке еще не было!», «Каляды на журфаку»).

***Тэматычныя нумары.*** Першапачаткова тэматычныя нумары мы рабілі на выстаўкі, конкурсы ці свае імпрэзы: нумар пра дзяцей, нумар пра старых, «фантастычны» нумар, амаль міфічны нумар-сімулякр «пра ўпячку», нумар-візітоўка да юбілею Інстытута журналістыкі. Цяпер усе нумары «Пёркаў» тэматычныя. Стала яшчэ больш крытыкі, аглядаў, рэцэнзій. Мы «набралі» штат пастаянных аўтараў (Надзея Валькоўская, Алена Шандрак, Яўген Шыбінскі, Вераніка Молакава), якія пішуць пра кіно, літаратуру,

музыку. Іх можна пазнаць па стылі, аўтарскай манеры. Дзякуючы конкурсу «БрамаМар» мы адшукалі новыя зорачкі ў паэзіі і прозе: Ірына Карэліна, Таццяна Сарока, Іаланта Пракапенка. Наогул, конкурс стаў наступным этапам развіцця «Пёркаў» і дзейнасці лабараторыі «Крытык» у цэлым. А кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі зноў пацвердзіла свой творчы статус, здольнасць выхоўваць творчых асоб і ажыццяўляць маштабныя праекты.

Такім чынам, апошнім часам выйшлі 4 нумары: ваенны (да 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне), пра літаратурную творчасць (прысвечаны конкурсу «БрамаМар»), пра жахі (рабіўся напярэдадні Каляд), пра маскі.

А ўжо заўтра да мяне прыйдзе Надзея Валькоўская з новым нумарам «Пёркаў». Ён прысвечаны пародыям. Працяг будзе…

Далей слова галоўнай рэдактаркі газеты «Перья: журфак литературный» **Надзеі Валькоўскай.**

## СЛОВА РЭДАКТАРА

*Газета «Перья» існуе ўжо сем гадоў. За гэты час у яе некалькі разоў мяняліся рэдакцыі, канцэпцыі, дэталі дызайна, прыходзілі і сыходзілі аўтары. Без гэтых змен літаратурная газета журфака не змагла б існаваць, бо нават чытач у яе мяняецца: другі курс на факультэце не тое, што першы.*

*«Перья» сёння — гэта некалькі аўтараў, якія імкнуцца зацікавіць, патлумачыць, пагутарыць і пажартаваць. Усё для адной мэты: заахвоціць студэнтаў чытаць больш, цікавіцца новымі і старымі кнігамі, незвычайнымі тэмамі, новымі з'явамі, слухаць разумныя думкі ад разумных людзей.*

*Для кожнага нумара выбіраецца адна агульная тэма-канцэпцыя, згодна з якой разглядаюцца галоўныя рубрыкі: літаратура, музыка, тэатр, кіно. У кожным нумары павінен быць герой. Часцей за ўсё гэта ці неардынарны чалавек, ці эксперт, меркаване якога непасрэдна стасуецца з тэмай. Заўсёды ёсць вершы і рубрыка «Проба пера».*

*Газету чытаюць у асноўным студэнты і выкладчыкі факультэта журналістыкі, а таксама сябры аўтараў. Тым не менш, гэта не звычайная студэнцкая газета, бо аўтары спрабуюць зразумець сучаснае мастацтва (і не-мастацтва)!*

*Канечне, рэдакцыі «Перьев» далёка да прафесіяналаў, тыражы нашай газеты невялікія ды выходзіць яна нават не кожны месяц. Але гэта добрая школа: можна ўбачыць усю «кухню» стварэння газеты, паспрабаваць сябе ў вёрстцы, у рэдагаванні, у пошуку цікавай тэмы. Галоўнае для аўтараў, што ў «Перьях» яны могуць пісаць так, як хочацца абмяркоўваць спрэчныя пытанні, выпраўляць адно аднаго. Менавіта так выпрацоўваецца асабісты стыль, так становяцца журналістамі.*

***Падрыхтавалі***
***Уладзімір КАПЦАЎ***
***і Надзея ВАЛЬКОЎСКАЯ***

Віктар КАВАЛЁЎ

# З НОВЫМ ГОДАМ, КЛАСІКІ!

Новы год, бадай, самае доўгачаканае, таямнічае і загадкавае свята, якое ўвайшло ў наша жыццё разам з традыцыйнымі Дзедам Марозам і Снягуркай, падарункамі і прыгажуняй ёлкай. Але ж традыцыі — справа не спаконвечная, яны, як вядома, не абрынуліся з нябёсаў, а ўсталёўваліся, развіваліся ды набывалі тую ці іншую форму ў розных народаў у розныя часы.

Не выключэнне і Новы год. Яго святкаванне ў старажытных народаў зазвычай звязвалі з пачаткам адраджэння прыроды, якое адбывалася ў сакавіку. Так, напрыклад, у Месапатаміі гэта падзея адзначалася карнаваламі, шэсцямі і маскарадамі. Рымляне таксама сустракалі свята адраджэння ў сакавіку, пакуль у 45 годзе да н.э. Юлій Цэзар не ўвёў новы каляндар, у якім Новы год прыпадаў на першага студзеня (першы месяц быў названы ў гонар рымскага бога Януса, які меў два твары і адначасова глядзеў у мінулы год і наступаючы). У Кіеўскай Русі ў 988 годзе з наданнем хрысціянству статусу дзяржаўнай рэлігіі, гэта свята пачало адзначацца першага сакавіка. А пачаткам адліку паслужыў «дзень стварэння Адама» (пятніца першага сакавіка першага года ад стварэння свету).

У 1492 годзе вялікі князь Іаан Васільевіч Трэці пацвердзіў пастанову Маскоўскага (Нікейскага) сабора лічыць пачаткам новага года (як царкоўнага, так і грамадзянскага) першага верасня на Старажытнай Русі і ў іншых усходнеславянскіх народаў. Для надання гэтаму дню большай урачыстасці сам цар напярэдадні з'яўляўся ў Крамлі, дзе кожны жадаючы, незалежна ад свайго сацыяльнага становішча, мог падыходзіць да яго і шукаць праўды, абароны ці міласці.

Так было да 19 снежня 1699 года, калі цар Пётр І выдаў указ святкаваць Новы год не са дня стварэння свету (у Расіі быў 7207 год), але з Ражства Богачалавека. Ва ўказе адзначалася: **«Поелику в России считают Новый год по-разному, с сего числа перестать дурить головы людям и считать Новый год повсеместно с первого января. А в знак доброго начинания и веселия поздравить друг друга с Новым годом, желая в делах благополучия и в семье благоденствия. В честь Нового года учинять украшения из елей, детей забавлять, на санках катать с гор. А взрослым людям пьянства и мордобоя не учинять — на то других дней хватает»**.

Трэба адзначыць, што новыя навагоднія звычаі прыжыліся ў славян даволі хутка, бо на той час раней прыпадалі святкі. Таму многія старажытныя паганскія абрады, гулянні, выбрыкі пераапранутых, а таксама катанне на санях ды паўночныя гаданні выдатна ўпісаліся ў рытуал сустрэчы Новага года. Акрамя выбрыкаў пераапранутых ды гулянняў, часцяком «маскіраваліся» пад розных жывёл або вадзілі саміх жывёлін з сабою.

Цяпер такое відовішча ў нашай краіне сапраўдны рарытэт. Але ж традыцыя ўпрыгожвання лясной прыгажуні засталася, хаця яна і прыўнесена ў нашу культуру. Раней у славян меўся свой выдатны звычай: да дня навагодняга свята ў кадках вырошчвалі квітнеючыя вішні. І на Новы год у доме духмяна пахла ды лашчыла вока пакрытая бела-ружовымі пяшчотнымі пялёсткамі славянская навагодняя вішня.

Безумоўна, Новы год — доўгачаканае і любімае ўсімі свята. Хтосьці святкуе дома

разам з сям'ёй, хтосьці ідзе да сяброў ці ў рэстаран або начны клуб, а нехта вымушаны і працаваць. Але не сумуйце, ёсць магчымасць адзначыць свята і ў іншы дзень, бо не ўсе сустракаюць яго ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня.

У Грэцыі, напрыклад, Новы год супадае з нашым Старым Новым годам і адзначаецца 14 студзеня. Ён мае назоў — Дзень святога Васіля.

Наступным свята прыходзіць у адпаведнасці з месяцовым календаром. Гэты Новы год не мае фіксіраванай даты, бо адзначаецца з першым веснавым маладзіком (між 21 студзеня і канцом лютага). Традыцыя сустракаць Новы год па месяцовым календары існуе ў Кітаі, Малайзіі, Вьетнаме, Сінгапуры, Карэі, Манголіі, а таксама сярод прыхільнікаў будызму ў іншых краінах.

Мусульманскі Новы год — Хіджра прыпадае на першы дзень першага месяца мусульманскага года, але штогод гэта дата мяняецца.

Увесну таксама можна святкаваць. Наўруз — такая назва першага дня новага года па персідскім календары. Ён адзначаецца ў ноч з 21 на 22 сакавіка, у дзень веснавога раўнадзенства, насельніцтвам Афганістана ды Таджыкістана, якія размаўляюць на мовах персідскай групы, а таксама ў рэспубліках Сярэдняй Азіі, Іране, Пакістане і Азербайджане.

Прадоўжыць святкаванне можна адразу ж на наступны дзень — 22 сакавіка, як гэта робяць у Індыі. Індыя сапраўдны рэкардсмен — для Новага года тут аж восем дат. Напрыклад, у дзень Гудзі Падва неабходна паспытаць лісце дрэва нім-нім (на смак вельмі непрыемнае ды горкае). Па старажытным паданні, ужыванне лістоты ахоўвае чалавека ад усялякіх хвароб і ліха, забяспечваючы, як ні дзіўна гучыць, салодкае жыццё.

Трынаццатага красавіка свята прыходзіць у Шры-Ланку і Непал. На наступны дзень — у Лаос.

Далей Новы год — 16 ліпеня — сустракаюць плямёны майя. У Джыбуці і Нігерыі свята адзначаецца ў жніўні. Першага верасня святкуюць у Сірыі. Таксама восенню прыходзіць яўрэйскі Новы год. 11 верасня наступае свята ў Эфіопіі, якое супадае з заканчэннем сезона дажджоў.

У Гамбіі свята прыпадае на 7 кастрычніка. У кастрычніку ж святкуюць і ў Інданезіі: людзі апранаюць лепшыя рэчы і просяць адно ў аднаго прабачэння за непрыемнасці, якія яны зрабілі ў мінулым годзе. 18 лістапада Новы год завітвае ў Йемен. Таксама ў сярэдзіне лістапада адзначаюць свята ў Акеаніі і на Гавайскіх астравах.

Вось бачыце, святкаваць можна амаль круглы год. Выбар за вамі. Галоўнае, каб свята было прыемным ды запамінальным, нягледзячы на тое, дзе або з кім вы яго сустракаеце. І абавязкова загадайце жаданне, бо навагодняя ноч сапраўды чарадзейная. А цуд, кажуць, не міраж, ён існуе. Трэба толькі верыць у яго. Верце, усё ў вас спраўдзіцца, а наступны год будзе лепей за мінулы. А ці можа быць іначай?

**Зімовым святам прымеркавана безліч літаратурных твораў, песень, мультфільмаў, мастацкіх і дакументальных стужак, сцэнічных пастановак… Але вашай увазе — падборка твораў беларускіх пісьменнікаў, якія яны прысвяцілі Новаму году, Калядам ды і ўвогуле зацішнай, лагоднай, а часам і гарэзлівай зімовай паравіне.**

Радкі з верша **Леапольда Стафа** «Пра добрую ноч» у перакладзе **Алега Мінкіна** нібы нагадваюць і пра ціхую святую ноч, калядную, і пра тую бяссонную і шумную навагоднюю ноч, якая зусім хутка ахіне ўсю нашу планету.

А тых, хто ў сэрцы чуласць песціць,
Душою кветкі рассявае,
А тых, хто ў сэрцы чуласць песціць,
Ноч пад сваё крыло схавае.

Ноч, што да споведзі схіляе,
Занурылася ў глыб нябёсаў…
Ноч, што да споведзі схіляе,
Срабрыстым зоркам чэша косы…

Спагадным пацалункам змроку
Ноч жальбам слёзы выцірае…
Спагадным пацалункам змроку
Снам цёмным вочы раскрывае…

На срэбравейным твары ночы
Сні шчасце зорак… Без трывогі…
На срэбравейным твары ночы
Адпачываюць рукі Бога…

Верш **Міхася Машары** «Ноч зімовая», здаецца, найлепшым чынам адпавядае цудоўнай калядна-навагодняй пары.

Ноч, як лебедзь, белая
Туліцца ля стрэх,
Ткуць ёй крылы перламі
Месяц… зоры… снег…

Ноч, як сон, прыгожая
Стала пад акном,
Ззяе сцежка кожная
Ясным серабром.

Ноч, як мара, дзіўная
Ўспеніла палі,
І пад белым інеем
Гнуцца тапалі.

Ноч ледзь ветрам дыхае,
Шолахі нясе,
Ярка зоркі ціхія
Молюцца красе.

Ноч прыгожай дрэмаю
Абняла прастор
І нямой паэмаю
Тчэ ў душы узор.

***Якуб КОЛАС***

## ДЗЕД-ГОСЦЬ

Ходзіць дзед белабароды
Полем, лесам, пералескам,
Засцілае рэчкі лёдам,
Брыяльнцістым снежным блескам.

Сыпле іней на бярозы,
Туліць дрэвы лёгкім пухам,
Крые руні, травы, лозы
Белай воўнаю — кажухам.

Дзеда ўсюды носяць ногі,
І к нам прыйдзе на хвілінку
Адпачыць крыху з дарогі,
Важна сеўшы на ялінку.

А ялінка!.. Чаго толькі
На яе няма галінках!
Свецяць зоркі і вясёлкі
У бліскучых павуцінках.

Тут лісічка, зайчык, мышкі,
Рыбкі, буслік даўгавязы.
А як ззяюць на ёй шышкі,
Нібы ў іх гараць алмазы!

Каля ёлкі карагоды,
Песні, гутарка жывая,
А той дзед белабароды
Толькі ў вусы смех пускае.

Дык рассунем кола шырай,
Патанцуем на памосце,
Песняй звонкай, песняй шчырай
Прывітаем дзеда-госця.

Урывак з аповесці «Тут я жыву…» **Аляксея Кулакоўскага**, дарэчы, першага галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць»:

*«Харошы ў Дабрасельцах лес. У гэтую зіму, калі снег ідзе ледзь не кожны дзень, ён іншы раз падобны на казку. Можна прывесці сюды малых дзяцей і расказваць ім пра розныя цуды на зямлі. Дзеці павераць, бо гэтыя казачныя цуды будуць перад іхнімі вачамі. Можа, хто з іх захоча ўбачыць чарадзейныя вароты ў нейкі лясны палац? Калі ласка. Вось адна маладая, але выносістая хваінка не вытрымала першага шчодрага снегу, нахілілася. Паглядзела на яе гэтакая ж маладая ялінка і таксама нахілілася, бо ёй яшчэ цяжэй было ўстаяць — яе галінкі больш пушыстыя. Сустрэліся хваінка з ялінкаю, абняліся. Тады на іх яшчэ пайшоў снег і яшчэ. Выгнуліся гэтыя два дрэўцы, утварылі арку, а тады ўжо чаго не намудрылі на гэтай арцы снег з марозам! Тут і розныя ўзоры, і скульптурныя фокусы, такія, што свет не бачыў, і арнаменты невядома якіх вякоў і народаў…»*

***Максім ТАНК***

## ЗІМА

…Зіма… Ад інею вішняк
Перахіліўся за парканы,
І не мінеш яго ніяк,
Кранеш — і цветам серабраным

Асыпле з галавы да ног.
На дзенніку лятуць вароны
З глухіх прасёлачных дарог,
І цень плыве іх праз загоны,

Дзе ўсё, як вогнішча лістоў,
Замёў снег свежа-сшаранелы,
Дзе петлі заячых слядоў,
Разгубленыя, забялелі…

***Янка КУПАЛА***

## МАРОЗ

…Як пухам, сняжком пасыпаю
І хвою, і елку, і клён;
Хто ў госці ка мне забярэцца,
Тулю тых, галублю іх сон.

І казку шапчу ім аб шчасці,
І цемру зганяю з вачэй…
Хадзіце, хадзіце к марозу!
Хадзіце ў госці хутчэй!

***Сяргей ГРАХОЎСКІ***

* * *

Вось і зіма,
А мроіцца, што лета
Прыйшло у цвеце ліп,
І грэчка расцвіла.
Здаецца мне —
Выходжу росным следам
У паплавы суседняга сяла.
А за акном лютуе завіруха
І на сумёт накручвае сумёт,
На шыбах снег ляжыць іскрыстым пухам,
А ў хаце пахне грэчкай чысты мёд.

Урывак з апавядання «Воўчы лог» **Міхася Лынькова**:

*«Хараша ў полі зімою… У полі аснежаным, дзе такія гурбы прыгожыя, неахопная шырыня і празрыстае неба, што пачынае цямнець з надыходам вечара.*

*Серабрыцца снег, мігцяць незлічоныя мільёны брыльянцістых іголак, вецер-кусака шчыпле за шчокі, нос. Забіраецца за каўнер, невідзімкаю прабіраецца пад кажух са сваёю халоднаю пяшчотай. Тулішся, пацягваешся, падбіраеш пад сябе ногі, да якіх вельмі ахвоч мароз са сваімі балючымі пацалункамі.*

*Але ўсё ж такі добра. Так бадзёра скрыпяць палазы, снежны пыл ляціць з-пад капыт, абдае цябе ледзяністымі пырскамі, аж зажмурваеш вочы. А коні бягуць, падганяць не трэба — дарога чыстая, дарога слізкая, чаму ж не бегчы.*

*Надыходзіць вечар, сінеюць снегавыя гурбы, ад бледнага месяца цягнуцца празрыстыя промені і не зззяюць, а тлеюць над лесам і полем. Сінія цені плывуць за кустамі, кладуцца ў баразёнкі, у снегавыя сумёты. А зоры, тыя нібы вылецець хочуць з сваіх гнёздаў, да таго зыркія, бліскучыя яны ў марозным паветры…»*

***Пятро ГЛЕБКА***

## ЗІМА

Зіма. Снягі. Мароз. Завеі.
Дарога звонкая, як сталь.
Бярозы ў шэрані сівеюць,
Палі бялеюць, як паркаль.

Люблю я раніцаю звонкай,
Запрогшы быстрага каня,
Імчацца ў лес наперагонкі
З далёкім воблакам з паўдня.

А лес стаіць, маўклівы, ціха,
Не зварухне свайго галля…
Зіма, зіма… Бы ў цвеце ліпа,
У белым снезе ўся зямля.

Люблю я гэтым белым полем,
Дзе месяц пыл ацерушыў,
Назад варочацца паволі,
Драмаць на санях і ў цішы.

***Максім БАГДАНОВІЧ***

## ЗІМОЙ

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі, ад марозу
Пахаладзеўшыя, дрыжаць…

***Сцяпан ГАЎРУСЁЎ***

## «ГАЛІНКА ЗВАРУХНЕЦЦА І СПРАСОННЯ…»

Галінка зварухнецца і спрасоння
У шыбу грукне.
    Ціха дзынкне шкло.
Халодна яблыньцы маленькай сёння —
За ноч ля плота гурбы намяло.

Садоўнік прынясе сюды салому
І дрэўца ўхутае
    Хай снег мяце! —
Яна стаіць, бялюткая, ля дому,
Як быццам сёння першы раз цвіце.

***Галіна ЗАГУРСКАЯ***

## У ЧАКАННІ СВЯТА

Год завяршае свой бег:
Чымсьці сагрэў, абнадзеіў,
Зроблена нешта наспех,
Іншых мінуць бы падзеяў…
А навакольле пяе —
Часу напружаны струны…
Ма́е год кожны свае

Вехі, і памяць, і руны:
Нешта адпрэчыць зусім,
Нешта запіша ў скрыжалях…
Год адыходзіць. За ім —
Свята надзеяў і жалю.

*Генрых ТАРАСЕВІЧ*

* * *

Новы год — суквецце packs
Спадзяванняў і надзей.
Хмель жыцця, жаночых чараў —
Безліч радасных падзей!

Што было, таго не будзе,
Што балела — адышло.
У зімовым, снежным цудзе
Згінуць боль, журба і зло.

Нам ісці сваім хаўрусам
Ад нядолі, ад бяды.
Памажы, Бог, беларусам
Годным шчасця быць заўжды!

*Валянцін ЛУКША*

## КАЛЯДНЫ ВЕЧАР

У чарадзе калядных зыркіх свечак,
Гасцінна расхінаючы прыпол,
Вітае зноў нас навагодні вечар
І запрашае за святочны стол.

Суседзяцца куцця і верашчака,
Суседзяцца усе дванаццаць страў…
Хай шчодры вечар будзе шчодрым знакам
На Новы год, на год адметных спраў.

— Ідзі, Мароз, куццю у хату есці!
Лагодным будзь, Мароз-чырвоны нос,
Каб мог заўжды бадзёрасць нам прынесці,
І нам не дасылаў сваіх пагроз…

Рупліва ён прыклаў да шыбы вуха,
Каб шчырыя зычэнні не згубіць,
Каб словы гаспадарскія даслухаць,
Высновы адпаведныя зрабіць.

А згорнецца, нібы абрус, сустрэча —
Зноў кола дзён пачне свой кругаход,
І будзем мы прыгадваць гэты вечар
Да будучага свята цэлы год.

*Таіса БОНДАР*

## НАЧНЫ СНЕГАПАД

Свята! — зарапад.
Збыцца ўсім жаданням.
Ноч — не ноч, а сад,
На галінах здані
Непражытых год.
Вось бы разглядзець іх!
Водзяць карагод
Хвілі, быццам дзеці, —
Успамін мільгне,
Смех успыхне. Слухай.
Ноч на самым дне
Акіяна руху.
Зоркі, па адной,
Тонуць у бязмежжы.
Сіняе радно
На падсцілцы снежнай.
Сцежкі — неўпапад.
Збыцца ўсім жаданням?
Свята — снегапад
Замятае далі.
Снег пасля, па дню,
Ззяннем асляпіўшы,
Вылушчыць з агню
Сонечную цішу.

*Алесь ПІСЬМЯНКОЎ*

## КАЛЯДНЫЯ СТРОФЫ

Я зноў на станцыі лясной,
Марозна-звонкай, заінелай,
Стаю ў Бялынкавічах белых,
Прапахлых смольнаю сасной.

Іскрыцца радасцю зіма,
Не спяць аснежаныя хаты.
О свята светлае Калядаў!
Святлей на свеце свят няма.

А як зіхціць калядны снег,
Як зорка горнецца да зоркі!
«І волен лёгкіх санак бег»
Мне ў іхняй чуецца гаворцы.

І ў гэтай чуйнай цішыні,
Якую лёс яшчэ даў зведаць,
Вялікі грэх не быць паэтам,
Вялікі грэх…

Спадзяюся, вышэй працытаваныя радкі настроілі вас на лірычна-святочны лад. У Новы год і Каляды ўсіх нас яднае простая мара: каб наступны год быў лепшым за мінулы, каб спраўдзіліся загаданыя жаданні. Адны вераць у Дзеда Мароза, другія — не; праўда, з гадамі ўсё часцей хочацца прачнуцца першым навагоднім днём і намацаць пад падушкай ці ўбачыць пад прыгажуняй ёлкай падарунак. А ўвогуле, як бы ні адзначалі гэта свята, мэта ва ўсіх адна — пачаць Новы год шчаслівa і весела!

Ірына КЛІМКОВІЧ

# У ЧАКАННІ ДРАКОНА

***Зімовы сонцаварот быў адным з галоўных момантаў у розных культурах неалітычнага перыяду. Не выключэнне і продкі беларусаў. Яны верылі, што менавіта ў гэты час мяжа паміж сусветамі — зямным і тым, куды сыходзяць душы памерлых, дзе жывуць усемагутныя боствы, размываецца. Таму на Каляды і Новы год іх чакалі ў госці і ўшаноўвалі. Пацвярджэнне таму — калядная куцця для Дзядоў, шэсце калядоўнікаў, варожбы і шмат што яшчэ. Напярэдадні Каляд і Новага года стаялі самыя халодныя дні зімы і самыя доўгія ночы, калі панавалі цемра і холад, калі сонца надоўга знікала з небасхілу, а жыццё, здаецца, перапынялася. Як вярнуць яго, што для гэтага трэба было зрабіць? Нашы далёкія продкі гэта ведалі і здзяйснялі адпаведныя рытуалы.***



*Змей Юша, які трымае Маці-Зямлю.*

## «…У ЗАЛАТЫМ КРЭСЛЕ, НА АРЭХАВЫМ КУСЦЕ…»

Дзень зімовага сонцавароту быў адным з самых халодных дзён зімы і лічыўся ў нашых прашчураў днём магутнага падземнага боства, якое цалкам апаноўвала ў гэты час сусветам, спыняла рух Сонца і тым самым перапыняла ўсё жывое. Што гэта за боства? Існуюць розныя меркаванні. Але беларуская калядная гульня, якая захавалася да нашых дзён, прыадчыняе таямніцу. Гульня называецца «Яшчур» і вылучаецца багатым міфалагічным і шлюбна-эратычным зместам: «*Сядзіць, сядзіць Яшчур // У залатым крэсле, // На арэхавым кусце, // Арэшкі лушчыць, // Вочкамі плюшчыць, // Жаніцца хоча. // Вазьмі сабе панну // Якую хочаш, // Якую любіш*».

Выконвалася гульня падчас Каляд моладдзю шлюбнага ўзросту. На ролю Яшчура выбіралі самага прыгожага хлопца, садзілі яго ў сярэдзіну, а дзяўчаты вадзілі вакол карагод і спявалі вышэйпрыведзеную песню. Хлопец называў імёны дзяўчат, пасля чаго яны па чарзе кідалі яму свае вяночкі і садзіліся побач з ім. Так працягвалася, пакуль ён не пералічваў усіх дзяўчат. Затым яны зноў вадзілі карагод, танчылі і спявалі: «*Яшчур, паночак, // Аддай мой вяночак. // Мой вяночак залаты, // Загубіла з галавы. // Я ручкі і ножкі мазаліла // Свайго вяночка не знасіла*». Але хлопец не спяшаўся аддаваць вяночкі, ён усяляк грымаснічаў, смяшыў дзяўчат жартамі. І свае вянкі атрымлівалі тыя, хто не паддаліся на правакацыю, засталіся сур'ёзнымі. Зрэшты, калі вянкі былі раздадзены, гульня заканчвалася.

Як сцвярджаюць навукоўцы, гульня «Яшчур» бытавала амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Дарэчы, у Расіі таксама яшчэ ў пачатку XX ст. існавала падобная дзіцячая гульня пад назвай «Яша». Але беларускія



*Аднагаловыя яшчары з археалагічных знаходак.*

варыянты выглядаюць больш кансерватыўнымі і архаічнымі. Пра што гэта гаворыць? Давайце разбірацца.

## ПЛОЦКАЕ КАХАННЕ І РЫТУАЛЬНЫ СМЕХ

У першую чаргу варта звярнуць увагу на тэксты песень, дзе спяваецца, што Яшчур сядзіць «у залатым крэсле». Гэта знак таго, што перад намі прадстаўнік высокага статусу. Магчыма, князь, магчыма, кароль, а, магчыма і нейкае боства, якое выбірае сабе нявесту. Далей спяваецца пра арэхавы куст і пра тое, што Яшчур там «лушчыць арэшкі». З беларускай міфалогіі мы ведаем, што моцны, гнуткі арэхавы куст дае адразу шмат пладоў, часта спараных, празваных у народзе «спарышамі». Спарышы заўсёды сімвалізавалі плоцкае каханне і пладавітасць, з іх дапамогай беларускія дзяўчаты варажылі на шлюб. Таму згадкі пра арэх і арэшнік у нашым фальклоры заўсёды мелі падкрэслена эратычны характар. Да таго ж, арэхі на Каляды — абавязковая рэч, таксама, як яйка на Вялікдзень. З імі гулялі, імі частавалі, з іх дапамогай варажылі. У той жа час арэхавы куст у славянскім фальклоры азначае месцазнаходжанне міфічнага Змея. Пярун-грымотнік, пераследуючы Змея, ніколі не кідае свае стрэлы на арэшнік.

Са зместу гульні мы даведваемся пра дзявочыя вяночкі, якія патрабуе Яшчур, а потым, атрымаўшы іх, зусім не спяшаецца вяртаць. У народнай традыцыі вянок — увасабленне дзявочай чысціні, а ягоная форма ў выглядзе кола — ахова ад злых духаў. І таму, адабраны ў дзяўчыны вяночак азначаў пазбаўленне яе цноты, яна трапляла пад уладу небяспечных сіл. Што датычыць своеасаблівага іспыту, які наладжваў хлопец-Яшчур дзяўчатам, прымушаючы іх смяяцца, то тут мы назіраем складанае магічнае дзеянне, якое мае назву — рытуальны смех. Ён выкарыстоўваўся ў язычніцкіх абрадах старажытных беларусаў і спрыяў наладжванню кантактаў паміж прадстаўнікамі таго і гэтага свету, жывымі і нежывымі істотамі, жанчынамі і мужчынамі. Як бачна з гульні, міфічны Яшчур хаця і увасабляў незвычайнага мужчыну, але — незямную істоту, таму не ўсе дзяўчыны жадалі мець з ім справу.

Зробім высновы. Атрымліваецца: гульня ў «Яшчура» дае нам зразумець, што для нейкай асобы высокага статусу абіраюць нявесту або жанчыну. Пытанне — каму? Ва ўсялякім разе — не чалавеку. Дый з якой мэтай?

## АРХАІЧНЫ СЭНС ГУЛЬНІ

Па сёння не існуе простых тлумачэнняў як самой гульні, так і разумення, хто такі Яшчур. Ёсць некалькі версій. Некаторыя навукоўцы лічаць, што ён быў падземным боствам старажытных славян, якога ў пэўныя гадавыя цыклы яны імкнуліся ўлітасціўіць прынясеннем у ахвяру выключна цнатлівых дзяўчат. Як сцвярджаюць, такія няшчасныя дзяўчаты выбіраліся задоўга да самога абраду ахвярапрынашэння, звязанага з урадлівасцю глебы і, натуральна, з ураджаем, псіхалагічна падрыхтоўваліся да магічнага дзеяння, і ў сярэдзіне лета іх тапілі ў рацэ, возеры або балоце. У тых месцах, дзе, па вераваннях старадаўніх людзей, і жыло тое боства. Дзейства магло адбывацца на Сёмуху або Купалле, калі жыта толькі пачынала каласіцца, і гаспадарчы вынік сезона быў яшчэ невядомы. У такіх абрадах перапляталіся: мужчынскае — апладненне, жаночае — выношванне і нараджэнне. У старажытных грэкаў таксама ў сярэдзіне лета тапілі ў моры, скідвалі са скалы, дзве ахвяры — мужчыну і жанчыну. Да падобных рытуалаў, звязаных з падводна-падземнымі сіламі, іх ушанаваннем, можна аднесці вядомыя ў беларусаў «пахаванні» Марэны або Купалы, якія пазней ператварыліся проста ў каляндарныя ігрышчы. Падчас такіх

рытуалаў ляльку, апранутую ў адзенне дзяўчыны, тапілі ў вадзе. Ахвяра прыносілася не самім сілам сезоннага дзеяння, а існаму ўладару падземных і падводных сіл, які меў выгляд Змея або Яшчара (па-старажытнаму — Яшчура).

Іншыя даследчыкі мінуўшчыны лічаць, што Яшчар або Змей мог быць татэмным продкам славян і ўдзельнічаў у абрадзе рытуальнага шлюбу дзяўчат або ў дзявочай ініцыяцыі. Пасля гэтага кожная дзяўчына, якая брала ўдзел у абрадзе, рабілася патэнцыйнай нявестай і магла працягваць жыццё роду. Магчыма, так. Але некаторыя з іх рабіліся і нявестамі міфічнага Змея, родапачынальніка таго ці іншага племені славян. Тым больш, што этымалогія слова «Яшчур» дазваляе зрабіць некаторыя высновы. Так, слова «прашчур», якое азначае далёкага продка, складаецца з двух кампанентаў: «пра» — перад і «шчур» — Чур (Цур). Мы ведаем, што Чур-Цур у міфалогіі славян — боства-апякун роду, ахоўнік усемагчымых межаў і дарог. Вада, куды кідалі няшчасных ахвяр, таксама з'яўляецца памежнай зонай паміж тым і гэтым светам. У беларускіх чарадзейных казках і легендах пашыраны матыў «муж-вуж» ці «муж-змей». Вядомы і казачны Цмок (дракон), які ў выглядзе агромністай яшчаркі прыплывае па вадзе за абяцанай яму каралеўнай або проста прыгожай дзяўчынай, лёс якой — быць жонкай гэтай істоты. Старажытныя людзі лічылі, што такім чынам адбываецца сакральны шлюб паміж утопленай дзяўчынай і падземным боствам — Яшчарам. А значыць, жыццё роду, дабрабыт застануцца ў бяспецы.

## «ЗАБАБОНЫ ЛІТОЎСКІЯ»

Увогуле рытуальнае ўшанаванне розных «гадаў» на тэрыторыі сучаснай Літвы і Беларусі было шырока распаўсюджана з глыбінных часоў. Натуральна, гэта мае сувязь з культам продкаў і пайшло з часоў татэмізму, калі Змея ці Яшчара лічылі сваім родапачынальнікам. Потым культ змей змяшаўся з культам дамавіка. Вядома, што ў даўнія часы амаль у кожнай вясковай хаце трымалі вужоў пад печчу, кармілі і ўсяляк аберагалі іх, таму што ў вобразе вужа бачылі дамавіка, які ахоўвае гаспадарку. Таксама засведчана, што разам з вужамі на Беларусі шанавалі і гадзюк. Так, хатняя змяя-заступніца ласкава называлася «гад-гаспадарык». Паводле старадаўніх звычаяў, хатняя змяя ўвасабляла душу як памерлага сваяка, так і цяперашняга гаспадара або іншага чальца сям'і, двайніком якога яна з'ўлялася. Таму смерць хатняй заступніцы магла выклікаць і смерць гаспадара. І наадварот: пасля смерці каго-небудзь з сямейнікаў магла памерці і хатняя змяя.

Вынішчыць вужоў і гадаў, якія меліся ў кожнай хаце, загадаў у 1387 годзе кароль Уладзіслаў Ягайла, чым выклікаў па словах гісторыкаў таго часу страшэннае абурэнне ўсёй Літвы. Так скарочана называлася раней Вялікае Княства Літоўскае. Лічыцца, што ў тыя часы былі знішчаны «забабоны літоўскія» — ўсе гады і капішчы ў іх гонар. Але пасол імператара Святой Рымскай Імперыі Сігізмунд Герберштэйн, які наведаў Літву больш чым праз сто год пасля таго выпадку, засведчыў іх ушанаванне. Ён пісаў на лаціне пра нейкіх givoites (гівойтаў, жывойтаў) — змеяў на чатырох кароткіх лапках з чорным тлустым целам, якіх кармілі ў сваіх дамах і «са страхам ушаноўвалі». Як лічаць, жывойт, хутчэй за ўсё, быў нейкім відам вымерлай сёння балотнай яшчаркі. Ягоныя абрысы, асабліва форма галавы, дзіўным чынам нагадвалі вельмі важны для язычнікаў орган. Таму такія рэальныя земнаводныя ўшаноўваліся і насамрэч маглі быць сімвалам больш значнага боства возера, ракі ці ўсяго падземна-падводнага свету.

У дадзеным кантэксце цікавая палеская легенда пра пачварнага вогненнага змея



*Ахвярапрынашэнне. Сучасны малюнак.*



*Вадасховішча, якое абрысамі нагадвае дракона. Выгляд з космасу. Справа — выява дракона на Вялікім кітайскім муры.*

Агняўца. Ён, як сцвярджаецца, час ад часу лётае ў паветры, але стала жыве на балоце і забівае ўсіх, хто трапляе туды. Агнявец падобны да вялікай яшчаркі з касцянымі пласцінамі на ілбе і па ўсім целе. Дарэчы, падобныя істоты, толькі што не вогненнай пароды і не лятаючыя, зафіксаваны і ў Расіі. Так, у Пскоўскім летапісе 1582 года чытаем: «*В лето 7090-е изыдоша коркодилы лютии звери из реки и путь затвориша, людей много поядоша, и ужасашася людие, и моляша Бога по всеи земле; и паки спряташася, а иних избиша*». Навукоўцы лічаць, што тут гаворыцца не пра свойскіх «гівойтаў», якіх спецыяльна трымалі ў хатах і ўшаноўвалі як бостваў, а пра нашэсце сапраўдных рачных яшчараў. Толькі слова «яшчары» заменена на скажонае «коркодилы» — кракадзілы, па-іншаму. Прыкметы культа яшчара-кракадзіла асабліва заўважны ў Ноўгарадзе, дзе яшчэ да афіцыйнага прыняцця дзяржаўнага язычніцкага культу Перуна ў 980 годзе існавала свяцілішча «бога-Кракадзіла».

## САКРАЛЬНЫЯ ЗАКОНЫ СОНЕЧНАГА КРУГАВАРОТУ

Археалагічны матэрыял, знойдзены як у Расіі, так і ў нас, складаецца з шэрагу дзвярных ручак — клямак, рытуальных жэзлаў, вільчыкаў на франтонах хат, аконных ліштваў, каўшоў для вады, разнастайных жаночых упрыгожванняў, аформленых у выглядзе галавы яшчара. Ва ўсіх нягодных выявах — буйная пыса з агромністай пашчай і дакладна пазначанымі зубамі. На шыі яшчараў у той ці іншай форме прысутнічае ідэаграма вады. Падобныя каўшы вядомы і ў Скандынавіі. Выява яшчара на каўшах не выпадковая, таму што коўш — «чарпала» — неад'емная частка абрадавага разгулу, што згадваецца ў павучаннях супраць язычніцтва.

На прыкладзе гэтых выяў бачна, як магічная язычніцкая сімволіка нашых далёкіх продкаў адлюстроўвае касмалагічную структуру Сусвету. Мы, беларусы, верылі ў тое, што, дзякуючы місіі хтанічнага ўладара ніжняга свету — Змея або Яшчара, сакральны закон сонечнага кругавароту, заснаваны на прыроднай раўнавазе сіл Святла і Цемры, захаваецца назаўсёды, а Жыццё — адродзіцца. Прычым, гэта датычылася як штодзённага кола жыцця, калі падземнае боства кожны вечар праглынае Сонца сваёй заходняй пашчай, так і зімовага, у выпадку якога з-за слабасці сонечнага свяціла «глынаецца», сыходзіць ў нябыт усё жывое. І калі не перашкаджаць боству, не крыўдзіць яго, а ўшаноўваць, штораніцы на Усходзе і штогод на Каляды яно абавязкова выпусціць Сонца памаладзелым і поўным сіл. Пра гэта, зрэшты, і гаворыць гульня «Яшчур», якая і па сённяшні ўтрымлівае ў сабе шмат загадкавага і невытлумачальнага. Але тое, што яна прымеркавана да Каляд, пачатку года, нашага Яшчура можна параўнаць з сусветным драконам, вядомым па шматлікіх міфах іншых культур.

*Вы спытаеце, а як жа няшчасныя дзяўчыны, якія павінны былі заплаціць сваім жыццём дзеля сусветнага парадку і спакойнага жыцця сучаснікаў? Не трэба думаць, што нашы продкі былі крыважэрнымі — толькі і рабілі, што забівалі прыгожых дзяўчат. Па-першае, як сцвярджаюць шматлікія крыніцы, на такія ахвяры людзі ішлі добраахвотна, лічылі гэта гонарам для сябе. Па-другое, чалавечая ахвяра ў тыя часы лічылася самай каштоўнай, а таму і здзяйснялася зрэдчас. Да яе звярталіся толькі ў самыя цяжкія, экстрэмальныя часы, калі паўставала пагроза знікнення грамады: эпідэмія, голад, вайна... Часцей за ўсё імкнуліся прынесці ў ахвяру розных жывёл. Потым, калі вераванні памяняліся, прыйшоў час хрысціянства, у міфах і літаратуры сталі моднымі матывы змагання з драконамі і шматгаловымі змеямі. Узгадайце Святога Юр'ю, які перамог дракона-змея. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...*

Уладзімір ЛІПСКІ

# МАЯ ВЕСЯЛОСЦЬ. МАЁ ВЯСЕЛЛЕ

Майскі аўторак. Хмарна. Зябка.

У аконнай раме адкрылася карціна, якую хочацца запомніць. Па нябеснай высі няспешна плывуць канапельныя аблокі, доўгія і шэрыя. Ім весела. Яны — высока, маюць свой шлях, вядомы толькі ім.

Пад тымі аблокамі крыляюць чайкі. Яны нібыта накачваюць свае мускулы, вывяраюць траекторыю, правяраюць крылы на віражах. Усё гэта спатрэбіцца, калі пагодным днём пачнуць лавіць у Свіслачы рыбак. Чайкі, бачна па палёце, у добрай форме і вясёлым настроі.

Узяў мяне одум: а чаму ж я мушу паддавацца непагадзі?

Усе радуюцца новаму майскаму дню: і аблокі, і птушкі, і зялёныя дрэвы. І мне хочацца ў тую высь. Жадаю далучыцца да радасцяў дня, да яго вясельнага трону. А значыць, да самога Бога.

* * *

Сяджу, выцягваю сянінкі са стога жыцця, вяртаюцца мінулыя дні.

Першы вясёлы ўспамін звязаны з прыходам цяпла. Як толькі сыходзіў снег, шоўкавіцкая пацанва басяком бегала па ўсіх раўчуках. І да глыбокай восені ніхто з нас не насіў абутку. Гэта ўжо калі касіць ці грэбці сена, калі ў грыбы ці па суніцы, тут ужо абувай лапці. Тады не страшна наступіць на пчалу ці чмяля, не боязна прайсці міма вужа ці гадзюкі.

Лета я бязмежна любіў у маленстве. Дзень доўгі. Сонца высока. Калі ўхілішся ад хатняй працы, гуляй, колькі ўлезе тых гуляў.

Не любіў я толькі пчол Трацэўскіх і сабаку Пылінскіх. Гэта два суседы нашага дворышча.

Як не ішоў за хлеў ці ў агарод, пчала тут жа гналася за мной. Калі не адразу пекане ў нос ці ў шчаку, то абавязкова ўчэпіцца ў валасы. Выцягваю яе адтуль, дык за руку лыгане. І тыдзень хаджу апухлым, мардатым пчаляром.

Дык што аднойчы прыдумаў?

Апрануў бацькаву шапку, яго кухвайку, боты — хай думаюць пчолы, што я — Сцяпан. Рушыў бадзёранька за хлеў. Ніводная трацэўская пчала не пагналася за мной, аж сумна зрабілася.

І сабака Шарык псаваў мне лета. Як толькі іду паўз Пылінскіх, выскачыць аднекуль і гоніцца за мной. Якую б хуткасць не «ўключаў», абавязкова дагоніць і парве штаны, а то і аб лыткі зубы пачэша.

Да якой жа пары Шарык будзе здзекавацца з мяне? Аднойчы я ўзброіўся добрым дрынам. Іду гуляць да хлопцаў. Толькі Шарык вынырнуў з падваротні, я кінуўся яму насустрач. І сам не паверыў — сабака падціснуў хвост і пачаў уцякаць. Па сённяшні дзень мяне агортвае весялосць ад той перамогі.

* * *

Малым і смешным калабком я прымаў удзел у вяселлях маіх старэйшых сясцёр і братоў. Іх шлюбы ладзіліся сціпленька, але вельмі ж душэўна, са слязамі на вачах.

Першай аб’явіла пра замужжа Клава. Яна была на фронце, там пазнаёмілася з параненым пермяком Сашкам. А той смяльчак-сібірак, як толькі аб’явілі пра перамогу, праклаў сцяжынку да нашых балотных Шоўкавіч. З Рэчыцы пехам ішоў ажно сорак кіламетраў па нашай непралазнай твані.

Бацька не хацеў аддаваць за незнаёмца сваю дачку, але маладыя ўгаварылі яго. Ён падкруціў вусы, загадаў жонцы Марылі варыць боршч ды крупнік.

На тым вяселлі не было музыкі, і мяне падгаварылі патанцаваць. Памятаю, шлейка са штонікаў спадала, боцікі самаробныя ціснулі, а я ўсё выстукваў імі па вышараванай да жаўцізны падлозе:

Не глядзіце на мяне,
Што я абарваўся.
І мой бацька такім быў —
Я ў яго ўдаўся.

Да Любінага вяселля я крыху падрос. І мяне цётка Анюта пад’юдзіла зарабіць грошай. Пасадзіла на падушкі маладой і наказала: «Сядзі, пакуль Іван не выкупіць у цябе гэта прыданае».

Помню, доўга сядзеў на тым Любіным скарбе. Маё цярпенне было ўзнагароджана першымі грашыма ў жыцці. Іх даў мне ахмялелы ад шчасця Іван. Я ўжо ўмеў лічыць, і вясельных рублёў у маёй кішэні апынулася ажно дванаццаць. У пасляваенныя гады такія грошы — цэлы клад.

Калі Пеця браў Дзіну з-за ракі, я ўжо дзябёлым хлапцом вымахаў. Лётаў у канец вёскі, дзе хлопцы са стрэльбамі зладзілі «засаду» на маладых. Божа, як пад’ехалі павозкі з гасцямі, як пачалі шоўкаўцы бабахаць у неба, ледзь коней утрымалі. Пазней я праціснуўся да самых сенцаў нашай хаты і бачыў, як бацька і мама прывячалі маладых, прымусілі іх пацалаваць іконку і самім пабусяцца!

А вяселле тым часам гудзела, і яму рабілася цесна ў хаце. Пілі, як коні, елі як не ў сябе, гаварылі наперабой. Пасля рынуліся танцаваць, хто з кім і хто як умеў. І я першы раз прылюдна запрасіў на вальс сваю залётку. Божа, праляцела столькі гадоў, а я помню яе лагодны позірк, цёплае дыханне, упершыню адчуў дотык дзявочых грудак. Ашаламляльна!

А ноччу не спалася. Бацька хроп, мама як мышка ляжала каля яго. П’яныя госці — у роскід па хаце.

* * *

Расказваю пра шлюбы сваіх старэйшых сясцёр, брата, як пра вясковыя гульні, забавы, памятнае вяселле душы.

Нават Колька Трацэўскі згадвае, што сваё вяселле гуляў у нашай хаце. Дакладней так: у іх — пілі, у нас — скакалі.

— Так гэпалі, ажно штандары аселі. Давялося дзядзьку Сцяпану падлогу рамантаваць…

Праз шмат гадоў усё той жа Колька, былы калгасны трактарыст, вясковы аднадворац, будзе да слёз смяшыць мяне мясцовымі забабонамі.

— Во, ляжу на канапе. Не п’яны. Мо месяц ужо ў роце не было. Во якая мая доля, з падводнай лодкі не збяжыш, а грошы — у жонкі. У нас некалі Мікалай Пылінскі атрымаў першую пенсію. Узяў бутэльку, і са Сцяпанам Ліпскім дзюбнулі. Ды яго жонка ўльтыматум прад’явіла: «Калі яшчэ хоць аднаго рубля з пенсіі прап’еш, то наша жызня з табой пойдзе ўрознь...» Во якія шоўкавіцкія бабы.

Колька весела рогача і тут жа прыгадвае яшчэ адзін выпадак:

— Неўзабаве Мікалай Пылінскі зноў вярнуўся п’яны. У хату пабаяўся ісці, лёг на калёсы і спіць. Дык дзеці, па просьбе жонкі, закацілі тыя калёсы ў сажалку. Прачнуўся Мікалай ды як зараве на ўсе Шоўкавічы: «Ратуйце!.. Таплюся!..» Ён здаровы быў, як вол. А на калёсах сярод вады — смешны, што заяц…

Я помню таго вясковага волата. Уяўляю яго раз’юджанага і бездапаможнага.

Аднойчы правучылі людзі брыгадзіра. Ехаў Стэфан п’яны на возе, ды конь каля Марынчынай сядзібы затармазіў. Конь стаіць, брыгадзір храпе.

Што ўтварылі хлопцы?

Распраглі каня, прасунулі аглоблі праз плот, а каня завялі ў агарод і з другога боку плота запрэглі яго.

Прачнуўся брыгадзір:

— Но-о!.. Каб цябе…

І ніяк не можа ўцяміць, як конь аказаўся ў агародзе, а воз — на вуліцы. Вёска ўся хадуном хадзіла ад той весялосці…

Аднаго разу я сам насмяшыў усіх шоўкаўцаў. Былі госці ў нашай хаце, пасля — вечарынка. Я ехаў вучыцца ў Мінск. На маіх праводзінах была ці не ўся вёска. Першы раз публічна, пры бацьку, я глынуў пару чарак самагонкі.

Помню, што запрасіў на польку дачку настаўніцы — Джэму. Заліхвацкі круціліся, а пасля выйшлі на вуліцу, селі на лавачку каля хаты. Далей нічоганькі не помню.

Разбудзіў бацька:

— Сын, чаго ты тут спіш? Пайшлі ў хату…

Перад Джэмай сорамна па сёння.

* * *

Вясёлы стан душы тураўцы называюць весялінай. Кажуць: «От бувала спявалі, от весяліна була, а цяпер панямелі людзі».

Зразумець тураўцаў лёгка. Навошта цяпер спяваць, горла драць, пстрыкнуў тэлевізар ды слухай песні, колькі ўлезе іх у вушы.

А мае аўцюкоўцы робяць усё па-свойму. Выключаюць тэлевізары і збіраюцца на фестывалі народнага гумару. І там ужо адводзяць душу ў прыпеўках, анекдотах, жартах. Не глухімі, а вясёлымі становяцца вёскі Малыя і Вялікія Аўцюкі. Пра весялуноў кажуць: «Разгуляліся, як дурні на вяселлі».

От жа мудрыя людзі жывуць у вёсках. Іншы скажа, як звяжа. Сядзіць, помню, наша шоўкавіцкая баба-весялуха Аксіння на лавачцы каля сваёй хаты і баіць нам, маладым хлопцам:

— Запомніце, малойцы, добрая жонка — вяселле, а злосная — горкае зелле. Вясёлы чалавек, хлопцы, лепей чым багаты…

* * *

Шлюбнае свята (вяселле) ці не самая памятная дата ў жыцці кожнага чалавека. Ад яго адлік усяго: мужання, адказнасці, спеласці, цярпення, весялосці.

Беларускі фальклор захаваў дыялог:

— Чаго такі вясёлы?

— Жанюся.

— А чаму галаву павесіў?

— Дык ажаніўся…

Я быў госцем на многіх сучасных вяселлях: лімузіны, рэстараны, салюты, дарагія падарункі і пацалункі пад крыкі: «Горка!»

А вынік?

Развод у кожнай другой пары. Нянавісць. Суды. І «разменная манета» — дзеці.

Чаму так?

Бо сучасныя шлюбы найчасцей склейваюцца прагматызмам, выгодамі, разлікам, а не каханнем ці ў лепшым выпадку — сумленнем.

— Бачылі вочы, што рукі бралі, от і цярпі, любі, беражы, — вердыкт даўнейшых бацькоў.

І паспрабуй не паслухацца тых, хто даў табе жыццё!

Былі і з іх боку прымусы: «Бяры тую, што мы прыгледзелі. Ідзі за таго, хто ўмее поле араць». Але той час, відаць, сплыў навекі.

Наступіла эра грамадзянскіх шлюбаў, крэдытных картак, тэлефанізацыі, камп'ютарызацыі.

А душа плача па вернаму каханню і хоча, каб тое вяселле, якім было напоўнена шлюбнае свята, доўжылася хаця б да залатой даты.

Што рабіць? Як і чым ратавацца?

Рэцэпты ў кожнага свае.

Кожны вучыцца на сваіх памылках.

А вось з вышыні заснежанай галавы, ад выхаванца савецкай эпохі магу выказаць сваё меркаванне-пераканане.

Даўно і глыбока паверыў: чалавек прыходзіць у свет жывых толькі з адной мэтай — прадоўжыць сябе ў нашчадках. Нешта добрае пакінуць ім.

Бацькі і Бацькаўшчына — стань у гэтым ланцугу надзейным звяном. Зрабі ўсё, каб аддзячыць Малой Радзіме. Стань яе надзейным спадчыннікам!

* * *

Кажуць, пасееш характар — пажнеш лёс.

О, дык выбірайма для пасеву не дзікае зелле, а ўмалотнае семя, тады і чалавек выштукуецца харашкаваты, і скажуць пра яго мае Шоўкаўцы: «Такі харашуленькі ўдаўся, хоць у вуха кладзі. От харашун! От удалец!..»

*Грэчаскае слова «характар» мае шмат адценняў, а значыць, і чалавечыя псіхічныя*

*ўласцівасці, якія кіруюць паводзінамі, таксама розныя. Вось і ўжываюцца на адной вуліцы, у адной сям'і людзі з мяккімі, цяжкімі, цвёрдымі і крутымі, добрымі і дзівоснымі характарамі. Усе разам яны — і род, і народ. Усе разам яны — нацыянальны характар. Прыслухаемся да мудрасці нашых непісьменных продкаў: «Хочаш пра сябе пачуць — выйдзі на вуліцу. Хочаш людзей зразумець — у душу сваю зазірні, пакайся перад Богам».*

*Які ж характар маіх беларусаў? Ён, як мне здаецца, фарміруецца не толькі і не столькі генамі, а самой прыродай і мовай нашай.*

*Ад нашых харашэнных бароў, дубраў, пушчаў, гаючых палеткаў, сенажацяў — і мы багатыя ды шчодрыя. Пільна-назіральныя, крыху хітраватыя, дзікаватыя, але ж і вясёлыя. Харашэнныя!*

Помню, зойдзе хто чужы ў хату, мама найперш усадзіць на лаву каля стала:

— А мой ты, чалавек, мо б што з'еў? Во блінцы пякла. Шкварка, слава Богу, водзіцца. Малачко ёсць. Кіслячок. Боршчык стушыўся ў печы…

Гэта ж толькі цяпер дапетрыў я, якая ж мая мама шчадруха, дабруха, весялуха. Сыты чалавек і ўдзячны, і разгаворлівы, і міла-адкрыты. Ведала яна падыход да людзей, разумела, чым і як крануць чужую душу.

Такія вось беларусы — дабрыня нараспашку, сэрца на далоні.

Але ж бачыў шоўкаўцаў і таямніча сумнымі, задуменнымі, з далёка прыхаванай слязой. У такія моманты яны нагадвалі мне балотны алешнік. Счарнелыя, ніцыя дрэвы з зялёнымі ліпкімі лістамі, а вакол іх твань, якая не высыхае нават у самае спякотнае лета. Вучоныя пішуць, што нашы землі даўней былі пад ледавіком. Яго прыкметны след і цяпер вартуюць балоты, нізіны, запаветныя мясціны дзікай прыроды, якія ахоўваюцца дзяржвай.

А яшчэ характар беларусаў выяўляецца ў іх спеўным слове. Ёсць маўчуны, гаваруны, балаболкі. Але ж гучыць старажытная мова! Чуецца голас народа!..

# Кніга года — 2011
## *па версіі часопіса «Маладосць»*

**Снежань — месяц падсумаванняў. Усе падбіваюць рахункі, узгадваюць тое, што зрабілі за год, шкадуюць пра тое, чаго здзейсніць не ўдалося. Абяцаючы, зрэшты, у хуткім часе выправіць становішча. Гэтую псіхалагічную схільнасць чалавека пераймаюць і медыі: традыцыйна ў кожнай галіне з'яўляюцца спісы найяскравейшых падзей ці найбольш заўважных на працягу года асоб. Не пазбаўлены падобнай тэндэнцыі і літаратурныя перыядычныя выданні. Сёння «Маладосць» прапаноўвае свой *top-10* кніжных падзей 2011 года. Мы вырашылі падзяліць іх, у адпаведнасці з даўняй традыцыяй падобных рэйтынгаў, на дзве часткі: *fiction* (літаратурна-мастацкія выданні) і *non-fiction* (літаратура факта, біяграфіка, навуковыя і навукова-папулярныя выданні).**

***Ціхан* ЧАРНЯКЕВІЧ**

### FICTION



❶ ***Чэслаў МІЛАШ.***
**Збор твораў. У 4 т.: «Выратаванне», «Зямля Ульра», «Даліна Ісы», «Родная Еўропа»”.**

Першае месца трэба аддаць сёлета кнізе перакладной. Чатыры густоўна выдадзеныя тамы паэзіі, прозы і эсэістыкі выдатнага польскага пісьменніка Чэслава Мілаша — праект года. Том вершаў збольшага паўтарае ранейшыя выданні, але тры астатнія — цалкам свежы перакладчыцкі плён. Адзін з найлепшых стылістаў і чуйных мысляроў Еўропы, грамадзянін Вялікага Княства наблізіўся ўрэшце да беларускага чытача.




❷ ***Антон ФРАНЦІШАК БРЫЛЬ.***
**«Не ўпаў жолуд».**

Гэтая тонкая кніга з паўтара дзясяткам вершаў і дзвюма невялікімі паэмамі абяцае зрабіць у беларускай паэзіі маленькі выбух. Матэматык Антон Францішак Брыль, знаўца стараанглійскай і познелацінскай паэзіі, пісаў яе ледзь не дзесяць гадоў. Кожнае слова ў творы — дакладнае, трапнае; рыфмы — свежыя, роўны рытм. У беларускай паэзіі, хворай на разбэрсанасць і рэлятывізм, з'явіўся неакласіцыст.




❸ ***Макс ШЧУР.***
**«Ліст, знойдзены на папялішчы».**

Дэбютная празаічная кніга Макса Шчура, якая таксама доўга збіралася аўтарам, усё ж дайшла да чытача. Творы кнігі — абсалютна разнапланавыя — напісаны ў адрозным рытме: ад медытатыўнага да скорапісу плыні свядомасці. Недзе аўтар гуляе ў постмадэрн, недзе ў мадэрн, недзе ў рэалізм, і па прачытанні застаецца няўлоўнае адчуванне таго, што гулялі менавіта з табой. Ні на каго не падобны аўтар, пражскі затворнік, у чарговы раз агаломшыў прыхільнікаў свайго таленту.




❹ ***Алесь РАЗАНАЎ.***
**«І потым нанава пачаць», «З Вяліміра Хлебнікава», «Der Mond Denkt, Die Sonne Sinnt» («Месяц думае, сонца разважае»).**

Мэтр беларускай паэзіі сёлета завершыў выданне своеасаблівага збору твораў. Праўда, пра заканчэнне чаго-кольвек, маючы на ўвазе Разанава, гаварыць складана: ён дагэтуль працягвае здзіўляць. Магчыма, у наступным годзе нас чакае яшчэ некалькі яго новых кніг — хто ведае? У 2011-м жа створаны прэцэдэнт у беларускай кніжнай справе: выдадзены збор вершаў беларускага паэта на нямецкай мове.




❺ ***Эдгар ПО.***
**«Маска Чырвонае Смерці: выбраныя навелы, вершы, эсэ».**

Калектыў з 19 перакладчыкаў даказаў, што, калі моцна захацець, можна і класіку перакласці. Да нядаўняга часу класічных аўтараў у нас перакладалі вельмі неахвотна, а такіх культавых, як Эдгар Алан По — і пагатоў. Мяркуйце самі: дзе Рабле, Сервантэс, Бадлер і Рэмбо? Кніг такіх няма, я ўжо не кажу пра навуковую іх падрыхтоўку. Але першая ластаўка ў выглядзе «безумнага Эдгара» прыляцела. У планах маладых перакладчыкаў (і нельга гэтаму не парадавацца) — зборнік аповедаў Конан Дойла пра Шэрлака Холмса.




❻ ***Андрэй ФЕДАРЭНКА.***
**«Мяжа».**

У новую кнігу празаіка Андрэя Федарэнкі ўвайшоў аднайменны раман і збор апавяданняў апошніх гадоў. Як буйны фармат, так і малы — аднолькава падуладны аўтару. Раман — нестандартны (а ці можа ён у XXI стагоддзі быць стандартным?), падобны да самавыкрывальніцкай прозы позняга Зошчанкі. Апавяданні — класічныя; іх таксама можна параўноўваць з Мапасанам і Чэхавым, але навошта? Хіба Мапасан вудзіў рыбу каля наскрозь пракамарэлай канавы? Не, не вудзіў. І не ведае, што гэта такое. А Федарэнка ведае і нам расказвае так, што пачынаеш пляскаць сабе па спіне, чуючы дзынчэнне.




**❼ *Ігар КУЛІКОЎ.***
**«Паварот на мора».**

Першая кніга Ігара Кулікова адразу прыцягнула ўвагу аматараў беларускай паэзіі. Лінгвіст і пралетар-метрабудавец, Кулікоў зазірае ў самыя архаічныя пласты славянскіх моў, спрабуючы вылучыць з іх схаваныя ці забытыя эйдасы. Эмацыянальны тон кнігі — хутчэй агрэсіўны, чым спакойны. У хаосе моўнай шматзначнасці Кулікоў адчувае сябе як рыба ў вадзе. Назіраць за далейшым ростам маладога паэта будзе надзвычай цікава.




**❽ *Віктар СЛІНКА.***
**«Арахна».**

Трэцяя кніга вядомага паэта-мадэрніста. Другая выйшла ў 2001 годзе, таму новая чакалася даўно. Рэдкія публікацыі Віктара Слінка заўсёды прыцягвалі ўвагу. Яго адметны паэтычны почырк спачатку параўноўвалі з разанаўскім, але пазней прамыя адсылкі зніклі, і цяпер Слінка — цалкам самабытны аўтар. Разгалістыя метафары і метафізічныя празарэнні паэта цяпер даступны ў выглядзе гожага і даволі аб'ёмнага зборніка.




**❾ *Іван ЛАГВІНОВІЧ.***
**«Элегія палескага матыля».**

Іван Лагвіновіч, выбавіўшыся нядаўна ад зямных турбот, застаўся тэкстам, які сёння і належыць прачытаць — бо выйшла яго апошняя, пасмяротная кніга «Элегія палескага матыля». У пасмяротны зборнік, складзены Леанідам Галубовічам і Анатолем Сідарэвічам, увайшлі новыя вершы, а таксама выбраныя творы з папярэдніх кніг Лагвіновіча: «Разлукі выраёвыя», «Ляда юдолі», «Палыновыя кветкі», «Далёкае і блізкае», «Пініпаўка». Падбіралася, зразумела, самае лепшае. У прыватнасці, добра паказана майстэрства: гнуткасць радка, метафара, параўнанне. Сілаба-тоніка Лагвіновіча і праўда выканана ў лепшых традыцыях класічнай, традыцыйнай «ціхай» лірыкі.




**❿ *Герман ГЕСЭ.***
**«Стэпавы воўк».**

Майстэрства Васіля Сёмухі вядома кожнаму знаўцу айчыннага пісьменства. Арэол «Фаўста» па сёння ахутвае вядомага перакладчыка. Мала хто ведае, што спадар Васіль працягвае плённа працаваць. Зусім нядаўна выйшлі яго перастварэнні В. Гамбровіча, М. Марон, Э.-Т. А. Гофмана. Сёлета мэтр парадаваў кнігай Германа Гесэ. Культавы раман культавага аўтара, «Стэпавы воўк» распавядае пра глыбіні чалавечай свядомасці і пошукі сапраўднага «я».

# NON-FICTION




## ❶ *Адам БАБАРЭКА.* Поўны збор твораў. У 2 т.

Гэта, бясспрэчна, кніга года. Фундаментальнае выданне, падрыхтаванае Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, і перш за ўсё Віктарам Жыбулем, упрыгожвае цяпер паліцу кожнага філолага. Адам Бабарэка — філосаф, крытык, удзельнік літаратурнага руху 1920-х, рэпрэсаваны выгнанец, добры сын, муж і бацька паўстае са старонак двухтомнага выдання ва ўсёй шматаблічнасці і ў той жа час цэльнасці сваёй асобы. Рукапісы яго доўга чакалі свайго Шампальёна. Асаблівая рэч і, па сутнасці, асобная кніга ў кнізе — каментарыі ўкладальнікаў. Такога аб'ёму і вычарпальнасці айчынная кнігавыдавецкая дзейнасць, бадай, не ведала ніколі. Тысячы старонак тэксту і сотні старонак каментароў — чытанне для спакушаных таямніцамі сапраўднай гісторыі літаратуры, дзе па-ранейшаму мора загадак і непарушаных міфаў.




## ❷ Энцыклапедыя «Максім Багдановіч».

Трэцяя персанальная энцыклапедыя (пасля выданняў «Янка Купала» і «Францыск Скарына і яго час») — сапраўдны падарунак для ўсіх чытачоў вечна маладога песняра. Тут змешчана практычна ўсё, да чаго меў дачыненне Багдановіч пры жыцці і набыў па смерці — прызнанне ў мастакоў, музыкаў, філосафаў. Ёсць і асобны артыкул «Багдановіч і інтэрнэт» — ці мог пра гэтыя рэчы думаць класік? Пэўна, каб ён сёння жыў, стаў бы актыўным карыстальнікам




## ❸ «Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. Кн. 2. Ч. 1.»; «Інстытут беларускай культуры. 1922—1928: дакументы і матэрыялы».

Гэта, на жаль, апошнія работы, у якіх прымаў актыўны ўдзел светлай памяці Віталь Скалабан. Структура зборнікаў крыху розніцца: «Купала і Колас...» наследуе традыцыі кісялёўскай школы, дзе дакументы размяркоўваліся паводле асобных «сюжэтаў». Матэрыялы Інбелкульта папросту пададзены ў пераліку. Абедзве кнігі — важнейшая распрацоўка нашай дакументалістыкі. У адценнях і недагаворанасцях, якія задаюць архіўныя матэрыялы, хаваецца не менш прасторы для роздуму, чым у якім-кольвек літаратурным творы.




**❹ Ян МАКСІМЮК.**
**«Словы ў голым полі».**

Кніга напаўзабытых тэкстаў вяртае ў 1990-я, дзіўны час паўставання новых сэнсаў і перараскладання культурных сістэм. Крытыка Максімюка пісалася на еўрапейскім узроўні, ягоны пераклад «Уліса», наскрозь міфалагічнага, сам міфалагізаваўся — толькі першая частка джойсаўскага твора была апублікавана. «Словы ў голым полі» — кніга адкрытая для размовы, тут няма адзіна правільных пастулатаў, няма акадэмічнай літаратуразнаўчай сістэмы класіфікацый і перыядызацый. Але тут ёсць сваё. Тое, што так лёгка вычышчаецца ў журналісцкай мітусні, — захавалася.




**❺ Беларуская мемуарная бібліятэка (Вып. 1: Аляксандр Стагановіч «Успаміны пасла». Вып. 2: Яўстафій Янушкевіч «Успаміны (1805—1831)»).**

Даўно неабходная рэч нарэшце з'явілася: выдавецтва «Лімарыус» распачало «Беларускую мемуарную бібліятэку». Мемуарыстыка дагэтуль у Беларусі застаецца ці не найменш вывучанай галіной, пры ўсім тым, што ў савецкі час зборнікі ўспамінаў і асобныя публікацыі мемуарнага кшталту з'яўляліся досыць рэгулярна. Першыя ластаўкі новай кніжнай серыі — кнігі Аляксандра Стагановіча і Яўстафія Янушкевіча, абсалютна розныя паводле зместу і прадмета адлюстравання, аднак падрыхтаваны на прыкладна аднолькавым (вельмі высокім) навуковым узроўні.




**❻ «Міждысцыплінарныя даследаванні актуальных праблем тэорыі літаратуры».**

Чарговы зборнік акадэмічнага аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры дае магчымасць паглыбіцца ў нетры сучаснага літаратурнага працэсу. Тэорыя ў Беларусі — амаль непрыкметная, яе нібыта няма. А тым часам усё новыя і новыя калектыўныя кнігі («Літаратура пераходнага перыяду», «Чалавечае вымярэнне ў сучаснай беларускай літаратуры») і аўтарскія манаграфіі (напрыклад, «Паэтыка беларускай літаратуры» Я. Гарадніцкага), што на працягу апошніх гадоў выходзяць з-пад пяра айчынных тэарэтыкаў, выклікаюць толькі захапленне і павагу.




**❼ *Д. ДЗЯТКО, С. ШАХОЎСКАЯ.***
**«Беларускае мовазнаўства: дысертацыі па беларускай мове, абароненыя ў Рэспубліцы Беларусь (1990—2011 гг.)».**

Шыкоўны падарунак для ўсіх беларусістаў — 319 дысертацый, падрабязна апісаных аўтарамі-моваведамі. Усе мовазнаўчыя даследаванні, што падаваліся да абароны ў Вышэйшую атэстацыйную камісію за апошнія 20 гадоў, былі абагульнены, сістэматызаваны, каталагізаваны і цяпер даступны для чытача. Даведнік, зручны ў карыстанні, але — амаль рарытэтны. Тыраж — усяго 120 асобнікаў. І гэта ў нейкім сэнсе таксама дадае кнізе вартасці.




❽ ***Увэ РАДА.***
**«Галасы Панямоння: гісторыя, культура, лёсы аднаго еўрапейскага абшару».**

Выключная з’ява, калі краязнаўчую кнігу вырашае напісаць замежнік. Немец Увэ Рада сваім прыкладам паказвае, як старую тэму можна паказваць па-новаму. Ён апісвае не горад ці вёску, раён, вобласць. Ён апісвае раку. Нёман паўстае ва ўсёй велічы сваёй тысячагадовай гісторыі. Для ракі не існуе межаў, як і для часу: аўтар вядзе гаворку пра бітвы і прымірэнні, пра латышоў, беларусаў і палякаў — усё гэта злучае ў адно бацька-Нёман. Папулярна напісаная, але нагрушчаная вялікай колькасцю малавядомых фактаў кніга.




❾ ***Сцяпан НЕКРАШЭВІЧ, Мікола БАЙКОЎ.***
**«Расійска-беларускі слоўнік».**

Які аматар беларускага слова, займеўшы нарэшце факсімільнае выданне «Беларуска-расійскага слоўніка» Некрашэвіча-Байкова, не шкадаваў пра адсутнасць адваротнага выдання! Некаторыя нават і ведалі, што такі слоўнік існаваў, але арыгінальны варыянт 1920-х гг. знайсці было амаль немагчыма — настолькі рарытэтная была рэч. І вось сёлета кнігалюбы, фанаты-мовазнаўцы і аксакалы-пурысты мелі радасць: пад рэдакцыяй Сяргея Запрудскага, дбайна вычытаны і папраўлены, «Расійска-беларускі слоўнік» стаў адным з самых папулярных выданняў на беларускай мове. Тыраж яго імкліва разыходзіцца. Магчыма, у 2012-м слоўнік выйдзе ў трэці раз.




❿ ***Алесь ТАРАНОВІЧ.***
**«Берлінская мазаіка».**

Вельмі рэдкія ў нашай літаратуры тэксты на, скажам так, небеларускія тэмы. Кніга беларуса Алеся Тарановіча пра свой улюбёны горад Берлін адразу стала заўважнай. Аўтар, доўгія гады жывучы за мяжой, выдатна вывучыў многія аспекты тамтэйшай рэчаіснасці і з непадробнай шчырасцю распавядае пра плюсы і мінусы эміграцыі. Мінусаў надзвычай шмат, і якраз на іх акцэнтуецца ўвага. Аднак ёсць і бясспрэчныя перавагі: калі незнаёмы горад становіцца тваім, то і ты перастаеш ужо быць чужым для яго — робішся фрагментам вялікай гарадской гісторыі.

# Змест часопіса «Маладосць» за 2011 год

## СТАРОНКА ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА



## У ГОСЦІ ДА «МАЛАДОСЦІ»



## ПАЭЗІЯ

## ПРОЗА

## ПЕРАКЛАДЫ



## КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## КРАЯЗНАЎСТВА



## МАЯ ПРАФЕСІЯ

## ЛЁСЫ БЕЛАРУСАЎ



## ШЛЯХ ДА ПОСПЕХУ



## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ



## ПАРТРЭТЫ МАЙСТРОЎ



## КАМУ ШТО БАЛІЦЬ

## ВЫТОКІ



## «МАЛАДОСЦЬ» — НА ВАРЦЕ!



## ЛІТАРАТУРНАЯ ВУЧОБА



## ХІТ-ПАРАД «МАЛАДОСЦІ»



## ДЫЯЛОГ



## ТВОРЧАЯ ЛАБАРАТОРЫЯ «МАЛАДОСЦІ»



## ДАЛЁКІЯ І БЛІЗКІЯ СУРОДЗІЧЫ

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ — 120!



## ПОГЛЯД З ГЛЯДЗЕЛЬНАЙ ЗАЛЫ



## АРМЕНІЯ



## ПОЗІРК У БУДУЧЫНЮ



## ЭТНАСФЕРА



## ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ





*Падрыхтавала да друку Кацярына ГОЛУБ*